*Васіль Зуёнак*

# ВЕРТЫКАЛЬНЫЯ РЭКІ СВЯТЛА

**Вершы сутоку тысячагоддзяў**

*Вертыкальныя рэкі святла,*
*Ад сузор'яў – сухія Гальфстрымы.*
*І мая крынічка цякла*
*Праз мільярды гадоў нястрымна –*
*Покуль стала душою маёй,*
*Словам, песняй,трывогай,загадкай…*
*…Як не будзе мяне – над зямлёй*
*Ці пабачыце зорку, нашчадкі?..*

РЭЧЫШЧА-1

1993

х х х

Мінулае – як ноч, як небыццё –
Заглядвае ў душу мне запытальна,
І astra tangens* райскі білецёр
Да спраўджання нясе мой знак астральны:

“Нямала жыў і столькі ж награшыў,–
Куды ж ты лезеш да нябесных кушчаў?..”
Я знаю сам: цяжкія барышы
Начамі не даюць вачэй заплюшчыць…

Абрынецца маўклівая сцяна,
Абудзяцца пакрыўджаныя цені –
Жыцця майго нясплатная цана,–
Хто, апроч іх, і дзе мяне сустрэне?..

Цяжэй сабе, чым Страшнаму суду,
Ва ўсіх правінах і грахах прызнацца…
Ад ночы я ўцякаў і ў ноч іду.
Няма куды, няма калі вяртацца…

———————-
*Кранаючыся зор / лац. /

x x x

Якая таемная музыка:
З-пад лёду звонкім струменьчыкам
Крынічка ў спаднічцы вузенькай
Бяжыць па марозных каменьчыках.

Якая шчымліва-гаротная
Былінка трымціць над мелодыяй,–
Якая надзея смяротная,
Што будзе вясна ўзнагародаю.

І, пэўна ж, не размарожу я
Ды і суцешыць не ўмею.
Толькі – сляды мае пожняю,
Толькі – маўкліва нямею…

Схілюся, як перад Айчынаю,
Гляну ў крынічкіны вочы:
Усе гаварыць навучыліся,
Слухаць ніхто не хоча…

x x x

Сусвет, як пясочны гадзіннік:
Галактыка ў прорву цячэ,
Каб смерцю адзначыць радзіны,
Не знаныя Богам яшчэ.

Ён толькі яшчэ прадчувае
Трагічнасць тварэння свайго,
І цепліцца радасць жывая
Ў сусветнай самоце яго.

Гадзіннік у час пераверне –
Хоць нейкая забаўка ўсё ж…
А свет назапашвае зерне –
Як носіць запазухай нож.

І раптам аднойчы пасее,
Адчуўшы, што вечна жывы,
Нахабства і смех фарысея –

І Богу прад’явіць правы!

Што скажаш, Магутны, Адзіны,
Заступнік наш і пабрацім?
З табою – у вечны гадзіннік –
Пясчынкамі – разам – ляцім…

x x x

Такі мне выпаў у жыцці тавар:
Штодня праходжу ля вітрынаў зыркіх,
Выносячы пакуты на базар,
Адлітыя ў калонках без’языкіх.
.
Вось вам радкі і строфы, смутак, жаль,
Мае грахі, і думы, і надзеі…
А перад намі – торжышча мяжа
Вужакай залатою халадзее…

Пажаліцца камусьці, расказаць,–
Я не крычу “купіце” – так вазьміце…
Ды рыфма замярзае, як сляза,
І падае пад ногі,– растапчыце…

Глядзяць вітрыны хітра на мяне
І жмурацца, нібы хаваюць позірк:
Такі тавар!..– Шкада, што не ў цане,–
Ні ў вершыках, ні, выбачай, у прозе…

Ды мы не ў роспачы – ні верш мой і ні я,
І шчасцем нашых сэрцаў не расчуліць:
Бо хто шчаслівы сёння – удвая
Няшчасны самы,– вы пра гэта чулі?!.

x x x

Што ж, каляндар як каляндар,–
Таемных лічбаў строй,–
Вузее вусцішна абшар,
Зацягвае пятлёй.

Нібы дзядоўнік ля канаў,
Старэем пакрысе,
І хто ў каханні не сканаў,
Той ціхенька сапсеў…

x x x

Уздоўж і ўпоперак адолеўшы лісцінку,
Як над абрывам, суцішае крок,
Спыняецца маленькі чарвячок:

“Вялікі свет!.. Спачну хаця б хвілінку…”

І аднадзёнка-матылёк сядае
На мур стары, дзе мох спавіў крыжы,
І думае, што вечнасць ён пражыў,–
Хоць вечнасць тая з днём яго згарае.

І толькі я, ссівелы і знямоглы,
Не маю суцяшэння – не знайшоў:
“Як мала жыў і мала як прайшоў…” –
І болей не прыдумаю нічога…

x x x

Хочаш з полымя ўзняцца жывым,
Праз сцяну пралятаць, як у казках,
Радыяцыі ўдар крыжавы
Сустракаць, як пяшчотную ласку?

Хочаш, нібы на лузе ў мурог,
Жартаўліва падаць з карніза,
Мець Зямлю за дзіцячы парог
І Сусветаў бязмежжа пранізваць,–

Дзе быццё – як само забыццё,
І ні смутку, ні слёз, ні пракляццяў?..–

Толькі ведай: гэта жыццё
Дасць табе не родная маці…

x x x

Ніхто не чуў і не бачыў, калі –
Світанняў росных куміры –
Вяртаюцца з выраю салаўі
І адлятаюць у вырай.

Ні статкаў, ні вэрхалу, ні мітусні,
Ні лопату шумных крылаў,–
І раптам: песня, якой і не сніў,
Насцеж вясну адкрые!

І не пытаешся, хто і адкуль
У песеннай той арцелі,–
Верыш надрэчнаму лазняку:
Салаўі прыляцелі!..

x x x

Раку жыцця абкурве туман –
Пластаюцца і здрада, і падман
І з чэснасцю нав*ы*сілкі бяруцца

З размахам усясветных рэвалюцый.

Усё ў агул, усё ідзе пад прэс,
І ахінае шкурны інтарэс,
І як пячаткай – згода ці нязгода –
Змацоўваецца іменем народа.

А я – ніхто: адзінка, чалавек,
І ў твар смяецца мне абманны век,
Дзе палахлівец вырабіўся храбрым
І не знайсці ні ворага, ні сябра.

## ДЗЯДЗЬКА ХАІМ

*Згадка*

У хаціну на завулку мінскім,
Дзе я рыфмы крэсівам красаў,
Помніцца, наведваўся Мальцінскі
Хаім, батальённы камісар.

Кульба па дашчаным тратуары
Грукала трыножна, і пратэз
Мулка рыпаў, ды заўжды на твары
Нёс паэт вясёлы інтарэс.

Што яго вяло ў хаціну тую,
У той рай, дзе я кватараваў? –
Гаспадыню ўмольваў ён скупую:
“Тут жа во і дожджык, і трава…”

З тлумнай камяніцы на Маскоўскай
У замшэлы местачковы храм
Ён ішоў – зусім не Маякоўскі, –
Проста Хаім, нават не Хаям.

І падскокваў радасна насустрач
Шустрым аднаногім вераб”ём,
Пра якога кнігай Заратустры
Ніцшэ мовіў: “Гэтага заб’ём…”

Ну а ён – жыве! Складае вершы
З мудрым жартам для дзяцей малых, –
Хоць не разумеў, ды чуў я першы,
Як паэт іх прамаўляў услых.

Бачу і цяпер, як школьнай ручкай
Праваруч старонку пачынаў
Дзядзька Хаім і, мабыць, з унучкай
Рагатаў – зусім не па чынах…

Нібы ручайкі, цяклі радочкі, –

Справа і налева… “Правап*і*с”
Наш яўрэйскі. А за ім – упрочкі
Наш сусветны, вечны наш круіз…” –

Так тлумачыў мне паэт Мальцінскі…

Толькі апусцеў наш “творчы дом” :
Я займеў кватэру і прапіску,
А яго – паклікалі ў райком.

Напаткаў я дзядзьку нечакана –
Ён ля той будыніны сядзеў
На бардзюры, быццам плечукамі
Мур халодны адштурхнуць хацеў.

І прамовіў: “Камуніст Мальцінскі
Скончыўся. Аддаў ім партбілет…”
І таропка мне руку пацініснуў:
“Я ж дадому – не на той жа свет…”

Хоць не бачыў нас таварыш Брэжнеў –
Але раптам шпік які зірне? –
Дзядзька Хаім глянуў абярэжна:
“Ты ідзі, не стой тут ля мяне…”

Да зямлі, ахвяраванай Богам,
Ён паехаў – дзе салодкі дым,
Нашага не зганьбіўшы парога,
Нашай не паменьшыўшы бяды…

Правап*і*с – сваё святое права –
Ён павёз, каб захаваць яго:
Правап*і*с – паэтава Дзяржава,
Толькі ў ёй адной – ён Бог з Багоў…

І наўслед я думаў: “Дзядзька Хаім,
Вечна свет на гэтым і стаяў:
Як мая зямля мяне трымае,
Так цябе прыцягвае твая…”

## АПОШНЯЯ МАЛІТВА ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ

Я крывінка твая – крывічанка,
Я пылінка твая – палачанка,
Як над пожняй тужлівая чайка, –
Я лячу да цябе, Радзіма,
Са святога Ерусаліма.

Я лячу, ды не маю сілы
Узляцець, бо аслаблі крылы,
А не хочацца ж так у магілу –

На святой хай сабе – ды чужыне:
Смерць, як рай, у сваёй дамавіне…

Мне б тады – і жыццё не віною,
Што не сплачана цяжкай цаною,
І агні б сплывалі Дзвіною,
Як грахі мае, як правіны,
Прад табой, маім сонцам адзіным.

Я крывінка твая – Ефрасіння,
Нада мной неба сіняе-сіняе, –
Ападаюць крылы знясілена…
Забяры мяне, Маці, Сястрыца,
Ці прышлі хоць жменьку зямліцы…

x x x

Як спявае Ніна Мацяш,
І якое ў яе дыханне!..
Божа, Божа пакутны наш,
Ці ты ў песні знойдзеш адхланне?

Ці сагрэе яна цябе,
Гэта кволая чарацінка, –
Ці ты ў вір падштурхнеш глыбей,
Ці ты ўзнімеш лёгкай хмурынкай?..

Як той голас крынічны нясе
І ўвесь боль наш і ўсе надзеі, –
Ці на тым ты покуце сеў,
І ці ў тыя мы вочы глядзелі?..

Як падмурак, як першы вянец
У мелодыю голас кладзецца,
І ад песні – о Божа-тварэц, –
Як ад праўды – няма куды дзецца…

# 1994

## АДЗІН

Кожны дзень страсае сотні стрэсаў,
Сыпле на сівую галаву,
Кожны дзень гняце пытанне прэсам:
"Ці я мёртвы, ці яшчэ жыву?.."

Круціць вечнасць д'ябальскія жорны, –
Толькі сам: ні жонкі, ні дзяцей,

Ды яшчэ застаўся прывід чорны –
Лёс яго, што за жыццё люцей…

Лёс, што ад жыцця не адпускае,
Хоць усё з жыцця даўно забраў.
Ты адкуль, бязлюдная такая,
Пустка між людскіх сусветных спраў?

Што ты, неба, так глядзіш маўкліва, –
Колькі ж трэба плакаць і маліць?..
Любіць Бог, – любімых асабліва.
Нелюбімых некаму любіць…

x x x

Было два ласунчыкі ў мамы,
Два коцікі – Барсік і я,
І вестку без тэлеграмы
Мы ведалі тую штодня.

Мы весела беглі на выган,
Каб з пашы сустрэць чараду
І першымі крыкнуць – не выгук,
А крык пераможны: “Іду-у-ць!”

Стараліся тут жа, як долю,
Угледзець сваю між кароў…

О, час той, калі сырадоем
Звінела і пахла з двароў!..

О, момант – як свята наступіць,
Хоць мама нязлосна ўпікне:
“Ну, так жа вам, коцікі, рупіць!..” –
І першым уважыць мяне…

І п’еш, і смакуеш да схочу,
І донца не бачна ў збанка,
І вечар заплюшчвае вочы
Ад белага малака…

БАБУЛЯ

Хутар, сцежак і лёсаў клубок,
Прытуліўся ў ракаўцы ночы, –
І ніхто не зірне ў гэты бок,
І ніхто з бальшакоў не збочыць.

У акне агеньчык трымціць,
Адзіноты бяссоннае вока,
На камінку бульба кіпіць,
І да вечнасці так недалёка, –

Дзе ўжо Бог неаднойчы насіў,
Дзе адну чалавечую сілу
На мільёны касмічных сіл
Перамножыць зямная магіла…

x x x

Ударыў гром – на голы лес грамніцы,
І крупы снежныя па-зімняму сякуць.
Ды чуйна зварухнуліся крыніцы,
І ручайкі вясне абнову ткуць.

І сэрца абнаўляецца надзеяй:
Яшчэ не ўсё адолеў зімні гнёт.
Знядужаныя крылы маладзеюць,
І мроіцца – палёт, палёт, палёт…

x x x

Падцягвае за ноч марозік лужыны,
Азяблы сад галінкамі пазвоньвае,
Гракі ўсчалі перасяленне – з войнамі
Мясцовага значэння: хто адужае?..

Нясмела, басанож, ступае раніца,
А сакавік-гарэза чаравікі
Схаваў, – яму і клопат невялікі,
Што раніца ільдзінкамі параніцца…

Я НЕ ЗБУДУЮ ХРАМ…

Я храма не знаю: руіны,
Здаецца, тут вечна ляжаць.
Здаецца, і Бог нас пакінуў,
І маці не хочуць раджаць.

Ні хрэсбінаў, ні вянчанняў,
Дарога ў казліных слядах.
І кожны над лёсам начальнік,
Пакуль не ўдарыць бяда.

Пакуль злое д’яблава мліва
Не ўчыніць чумы ці вайны, –
Тады і бягуць пахапліва
Да храма людскія сыны.

І моляцца боскаму сыну,
І просяць ратунку зямлі,
І ксцяцца на тыя руіны,
Што самі быллю аддалі.

І ажывае ў скляпеннях
Стылых стагоддзяў кроў,
І мроіцца грэшным ценям
Боскае Маці Пакроў.

І, босая, па вуголлю
Цаглянага друзу
    мая
Памяць ідзе.
    І ніколі
Храм не збудую я.

Са мною той, зруйнаваны,
Дзе ксцілі матуся й татусь,
Каб вольны, абрабаваны
Быў я, як ты, Беларусь…

x x x

На першы ліст маёй бярозкі,
На ліст прачысты і святы,
Ляцяць – як снежня адгалоскі –
Сняжынкі майскае слаты.

Галінкі хіляцца азябла,
А ў каранях бушуе сок,
І ў рост ідзе нябёсаў сябра –
З-пад белай смерці – кветка-сон.

Гляджу на колер, сэрцу мілы,
Як з небыцця, адтуль, здалёк:
Як быццам на маю магілу
Прыбег пагрэцца васілёк…

## СЫШЛА ВЯСНА НА СТАНЦЫІ ЗЯЛЁНАЕ…

Восьмага траўня. Зялёнае. Ластаўкі:
Промні двухкрылыя позняй вясны –
Вёрткім “віць-віць” перакрылі ўсе застаўкі
Стылым вятрам і снягам навясным.

Гэтак зіма неадступна трымалася,
А перад кволенькім вострым крылом
Нешта ў душы зледзянелай зламалася,
І захліснулася,
І задыхнулася
Траўным цяплом.

x x x

Ці ты ў песні даўно пагас,
Ці душа на слаце адсырэла,
Ці падбіўся на бруку Пегас, –
Што ж твой верш так глядзіць азвярэла?

Ні праменьчыка цеплыні
Ў гэтых зрэнках – вар'яцкіх рыфмах:
За сцяблінку вазьмі, трасяні, –
Як хрушчы, асыпаюцца рыхла.

Хай патоп, хай абрынецца свет –
Ты не вернешся зноў у людзі:
Ты – "ахвярнік, прарок, паэт", –
І ратунку табе не будзе.

ДЗВЕ СКАРГІ СТАРОГА ХАЛАСЦЯКА

*АХ...*

Ах, якая маладзіца, —
Кожнай рыскаю ірдзіцца,
Кожным крокам ганарыцца,
Ах, якая маладзіца…

Ах, якая маладзіца, –
Паглядзець – як утапіцца,
Як у лесе заблудзіцца, –
Ах, якая маладзіца…

Ах, якая маладзіца, –
Чым і як адгарадзіцца?
Праклінаць альбо маліцца?..
Ах, якая маладзіца…

*МАЛАДЗІЦА-НЕ-ЎДАВІЦА*

Маладзіца-не-ўдавіца, –
Сонца ў позірку ірдзіцца,
Весела дурэе,
Свеціць, ды не грэе.

Малдзіца-не-ўдавіца, –
Смех крыніцаю бруіцца,
Толькі з той усмешкі
Плачуць мае сцежкі.

Маладзіца-не-ўдавіца, –
Ці ўвачча вясна дваіцца,
А ці ты ўсё тая,
Што вясну вяртае?..

Маладзіца-не-ўдавіцца, –
Я ўжо сам не сам як быццам
Ад тваёй няўвагі,
Ад людское звягі.

Маладзіца-не-ўдавіца, –
З-за цябе ні ажаніцца,
Ні знайсці кабету
Мне да скону свету.

Маладзіца-не-ўдавіца, –
Ні ўтапіцца, ні ўдавіцца:
Як цябе пабачыш—
І ў пятлі заскачаш.

БЛАСЛАВЕННЕ

*Васю*

У дзень Багародзіцы, Боскае Маці,
І ты свой прыход абвясціў –
Не ў роднай, а ў зводнай, радзільнай хаце
З маім блаславеннем:
–Расці!.. –

Галінкай нябеснай прапрашчураў-продкаў –
Як вечны іх позірк і слых,
Праменьчыкам светлым праз век мой кароткі –
У вечнасць нашчадкаў зямных.

У дзень Багародзіцы думы сыходзяцца
Над лёсам маім і тваім:
З грэхам агульным кожны народзіцца,
А пойдзе з жыцця са сваім .

Хай сцежак-дарог тваіх д’ябал не топча,
Не зманьвае шляхам чужым .
Няхай цябе Маці Прачыстая, хлопчык,
Ахінае Пакровам сваім .

Нямала раскідана ў свеце спакусаў –
Не бяжы на салодкі дым:
Нарадзіўся, жыві, будзь беларусам –
Як прадзеды і дзяды…

Табой прарастаючы ў родным народзе,
Буду слухаць з-пад каранёў,
Як на дрэве лістота юна ўзыходзіць,
Небыццё абвяргае маё.

х х х

Не даўжынёй, а дабрынёй
Пазначаная Богам,
Мяне сцяжынка з мітуснёй –
Як вечнасці дарога –
Рассватала. І даланёй
Крануўся я зямнога
Вяршэнства шчасця: дзе з сяўнёй
Праходзіў бацька мой раллёй,
Дыхнула хлебнай цеплынёй
Ад коласа жытнога…

х х х

Чалавек чалавека не кліча,
Не чакае і не шукае,
Не гукае: куды ж ён знік?..
Пры сустрэчы па-воўчы клыча
І зацята бярэ на клык.

Чалавек чалавеку лічыць
Свой працэнт, калі ўсмешку пазычыць.
Чалавек нават плакаць адвык –
Толькі гвалт, толькі лямант і крык.

А сумленне – у боце цвік.
Чалавек той цвік вырывае .
Чалавек аблічча купляе –
Рэч купіць сёння ў нас зазвычай…

Чалавек не жыве – выжывае…

І хоць я з мужыкоў мужык,
Ды і я ўжо сябе пытаю:
“Ты Васіль ці ягоны двайнік?..”

х х х

Мне горад лёгка праклінаць:
Я ў горадзе не нарадзіўся.
Мне, быццам, толькі сон прысніўся:
Каменных дыназаўраў раць.

Ад гэтых шэрых скразнякоў
Я Начаю адгарадзўся
І мерцвяком блукаць згадзіўся
Паміж дзябёлых мерцвякоў.

Здарова, хлопцы, – вы адкуль,
Якога веку і пасеву?
Чаго так рана палыселі –

Ад недароду ці ад куль?..

Ад бізнесу? Тады і мне
Пара з чупрынай расквітацца:
Ён і мяне дадолу гне,
Не абяцаючы датацый.

Ён мне не зычыць перамог –
Я ў горадзе не нарадзіўся,
Я ў гэтым горадзе згубіўся –
Не адшукае нават Бог.

У кронах гмахаў вараннём
Тут род гандлярскі распладзіўся…
Я ў горадзе не нарадзіўся –
Я тут не маю каранёў.

Мне тут няма што ўспамінаць –
У гэтым чэраве каменным,
Ды – неадступна і нязменна –
Я помню: мне тут паміраць…

Я вам зайздросціць не магу:
Вандроўнік я з планеты іншай,
Аднак тастаментна запішам:
Я вам яшчэ дапамагу…

x x x

І поле з жытнёвымі плёсамі,
І выспа з грыбной баравінаю,
І грозны Пярун пад нябёсамі,
І вадапоі ласіныя,

І жаўранка песня праменная,
І ўцемкі ажынна-вужыныя,
І ўзмежкаў задуха кменная,
І шлях з ручайкамі-сцяжынамі,

І акуні старарэцкія,
І зоры загадкава-дзіўныя, –
Усё з нараджэннем даецца нам,
І ўсё мы завём Радзімаю.

І ўсё – да драбніцы саменькай –
У сэрцы нясём і ў памяці,
І песня – на Йвана раненька –
Ніякай навалай не спаліцца…

Радзіма… Як маці адзіная…
Ты загадзя не выбіраешся…
А як цябе зваць Айчынаю,

Калі ты сябе цураешся?.

Чаго ж ты такая падатная
Перад прайдзісветам з прыплодамі
І нават сваёю хатаю
Амаль ужо не валодаеш?

І хваляць цябе з ухмылкаю –
Хадзі і трасі сабе трантамі.
Завуць цягавітай кабылкаю,
Але на свой лад – талерантнаю…

З усімі такая ветлая,
А беды твае незлічоныя.
Надзеі такія светлыя,
А неба такое чорнае…

РАНДЭВУ ПА МЕМАРЫЯЛЬНЫМ ВІЦЕБСКУ
Ў ДЗЕНЬ АДКРЫЦЦЯ ПОМНІКА УЛАДЗІМІРУ КАРАТКЕВІЧУ

Сваволіць вецер над Дзвіной,
Шпурляе хвалі шэрыя,
Драбнее Пушкін за спіной
У зорнага Машэрава.

На боскім ці зямным судзе
Парк надвая падзелены? –
І Караткевіч неўспсдзеў
Займеў суседства ў Леніна…

Адзін Шагал знайшоў прагал –
Асобна раскашуецца:
Не быў бы той усё ж кагал –
Мудрэц на ўласнай вуліцы!..

Па-гаспадарску ўсе як ёсць
У Віцебску расселены –
У ім ніхто не лішні госць
І славай не абдзелены.

І мы па Віцебску ідзём,
І я ў той гурт дапушчаны:
І Караткевічу відзён,
І ўжо, здаецца, Пушкіну!..

PERPETUUM MOBILE*

Неўраджай выспявае ў голад,
Выспявае голад у бунт:
Пралетарый, босы і голы,
Вылятае, як з бочкі шпунт.

Крышыць бунт абручы і клёпкі
І ў прысклепку і ў галаве,
Покуль нехта паставіць кропку:
Рэвалюцыяй бунт назаве.

І як скварку ў булён – для аздобы –
Палітычную з*а*таўку дасць.
І над бунтам – свядомасці пробай –
Сцяг лунае крыві пад масць.

І тады расце палітмаса
У партмасу і ў партактыў
І жыруюць – іменем класа –
Партак*а*ты і парткат*ы* .

І курком і лозунгам строгім
Дыбяць вёскі і гарады,
Вызначаюць шляхі і дарогі,
Ды не ведаюць толькі – куды?..

Бо ўжо маса перад партбосам
У дрыгву разгойдвае грунт.
І той самы – голы і босы –
Выспявае на новы бунт.

________________
*Вечны рухавік /лац./

## НІКА

Ах, якая ў Нікі мордачка!
Язычок ляціць з талеркі,
Як цукерчына абгортачка,
Калі Ніка есць цукерку.

Вочы – розуму фужэрыкі:
Ніка п’е таксама ўмеру.
Станік стройны: як абжэрнікі,
Выглядаюць факстэр’еры.

Ах, якія ў Нікі лапкі:
Ходзяць мякка, нібы ў тапках,
А як грымне дзе трывога,
Дык тады ўжо ў Нікі – ногі, –
І адкуль такая сіла:
Носяць Ніку, як на крылах!..

Хоць хваліць сваіх нялоўка,
Ні сяброў і ні сабаку, –
Ніка – шчырая сяброўка.
А ў жыцці іх – кот наплакаў…

І не здраджваюць ніколі –
Ні маленькім, ні вялікім –
Тыя, хто з пароды *колі* .
А з такой пароды – Ніка.

## ТРЫЦЦАЦЬ ПЯЦЬ

*Валі*

Год не мёд: цягні, не збоч…
Ну а тут жа, з гэткім Васем,
Як радоўку – дзень і ноч –
Трыццаць пяць гадоў адпасвіць!..

Ні валютчык, ні гандляр,
Ні герой з усёй павагай…
Хоць бы, зрэшты, камінар –
То была б у печы цяга…

Дык жа рыфмаю шкрабе,
Як іржавы цвік па блясе…

Так і ёсць… І сам сябе
Тут хваліць не стане Вася.

Ты не перац, я не мёд,
Але Бог не марна звёў нас:
Знаў стары: праз сотні год
Мы сустрэнемся ўсёроўна.

Трыццаць пяць. Ні даць, ні ўзяць.
Не пазычыць і не ўкрасці…
Але ж нашы – трыццаць пяць, –
Нам і гора, нам і шчасце!..

## ДЗЯДУЛЕВА КАЛЫХАНКА

Месячык свеціць,
І зоркі спяваюць:
Спаць трэба, дзеці,
Баенькі-баю…

Баенькі-баю, –
І я падпяваю,
А ў Васілёчка
Сон ані ў вочка…

Баенькі-баю, –
А Васілёчак
Не засыпае,
Зорачку сочыць –

Што прылятае
Кропелькай сонца

І пазірае
Ў наша аконца…

Баенькі-баю, –
Пройдуць гадочкі,
Зорка заззяе
І ў Васілёчка .

Баенькі-баю, –
Зорка зямная,
Што зачаруе
І заспявае:

А з Васілёчкам
Кароткія ночкі,
І дня не хапае,
І мама гукае…

Баенькі-баю…

x x x

Гляджу я ў зорны сусвет,
Як у буквар дашкольнік,
І разумею: сакрэт
Тых літар не ўзнаю ніколі.

Не ўчую, як і не ўчуў
Я голас начных праменняў.
Усё стракаціць уваччу –
Ні сэнсу і ні найменняў…

Ды хто мне скажа: чаму
І па якой патрэбе
На зло беспрасвеццю свайму
Блукаю пакутліва ў небе?

Сузор'е, ад сілы два,
Па-дылетанцку адзначу
І чую, як шэпча трава,
Што быць і не можа іначай…

Касмічнае немаўля,
Скаванае ланцугамі, –
Я твой да скону, зямля,
І цёмны грунт пад нагамі.

Гляджу на мора святла
І толькі пытаюся горка:
Якой ты часцінкай была
Якой адгарэлай зоркі?..

## НА ПЕРАДЗІМ'І

Калі падрастала вяргіня,
Не верыў ніхто, што ўцалее,
Казалі, як плюхалі глеем:
–Ударыць мароз – і загіне.

Ды покуль завея прыспела
І ўспырхнулі белыя мухі, –
Апошнім дыханнем і духам –
Вяргіня маўчком расквітнела.

Нібыта гукнула ўрачыста:
У кошыку лета на донцы
Схаваўся кавалачак сонца,
Як жнівеньскі мёд залацісты.

x x x

*Васю – верш навырост*

Знай: калі з'явіўся ты на свеце,
Значыць, хтосьці думаў пра цябе, –
Космасу, Прыроды, Бога дзеці –
Мы заслон Хаосу, што ў гульбе
Дзікага, сляпога беспрасвецця
Без душы і розуму гібеў.

Знай: усё асвечана ў Прыродзе –
Кожны мае свой высокі знак.
Вольны быць пад сонцам на выгодзе
Чалавек і дробненькі чарвяк,
То жыві і ты з усімі ў згодзе,
Злу не патакаючы аднак…

Кожнаму сваё ёсць прызначэнне, –
Помні, што жыццё ёсць дар з дароў.
Не тушы святло ў душы вячэрняй
І ў світальнай распалі наноў.
Ворагу даруй замарачэнне
І бяздумна не губляй сяброў.

Не мінай бяседы гаманкія,
Што дзядзькі за чаркаю вядуць,
Ды ад п'янкі адбівайся кіем.
А спаткаеш гора і бяду,
Знай, што ёсць нагоды і такія, –
Бог не кіне –
Свінні не з'ядуць.

## ЗЭЛЬВА

Быў у Нью-Ёрку, а ў Зэльве не быў…
Зэльва – зліццё і залева,

Лівень шапоткі, з якога грыбы
Нібыта падаюць з неба.

Зэльва – царква і спічасты касцёл
Ногі ў Зальвянцы палошчуць,
Зэльва – з ільва ля трыбуны казёл
І Ленін раённы на плошчы.

Тут побач усё: міліцыя, суд,
Прадмаг, дзе ад бублікаў дзюркі,
Піўная – зальвянцаў палітінстытут –
І школа Голуба Юркі.

Ёсць і раймаг, ёсць і райвыканком –
Усё, як ва ўсіх пры саветах,
І вечнае: кот падступае крадком
Да вераб’ёў ля штыкета…

Зэльва – замоўнае зелле шаптух,
Што моцы набрала пад поўняю.
Тыповае тут – у вачах маладух,
Астатняе ўсё – не тыповае.

Тут між ялін у барах растуць
Ракеты канцырагенныя.
А над пералескамі хмаркі плывуць,
Як вершы Ларысы Геніюш.

Тут паэтэсы апошні прычал:
На ўзвышшы самотны камень,
А Зэльва – ля ўзножжа: наказ крывічам
Зліваццa ў раку ручайкамі.

І паміж гор – у крутой цішыні –
Возера, нібы люстэрка,
На спадарожнікі шле прамяні, –
Кажуць, што бачна Амерыка!..

x x x

Пэўна, гэта не я адзін,
І не першы з усіх, прыкмеціў:
У шпіёнаў і катаў наўздзіў
Дужа сантыментальныя дзеці.

Сантымента вядзе сантымент,
Нават, быццам на допыт, – цягне:
Не нашчадак, а элемент
Захаплення – нязменны і прагны.

То ў калысках – не буркатня,
А па нотах гудуць меламаны,

То на ўцеху суседзям штодня
Музыцыруюць на фартап'яна.

То цалуюць у нос шчанюкоў,
Калі тыя брэхам аглушаць,
То праколваюць матылькоў
І на шпільках жывымі сушаць.

То снуюць захапленне сваё:
У альбом – з паэтаў цытаты,
У калекцыю – маркі з краёў,
Дзе таемны пашастаў тата…

Сантымент – як да раны бінт,
Што бацькоўскія сны трывожыць,
Як медаль за сакрэтны флінт,
Што насіць і ўадкрытую можна.

Тут адзін паратунак для іх, –
І пасля работы праклятай
Будуць вечна на дзецях сваіх
"Расслабляцца" шпіёны і каты…

x x x

Як мяне трывожыць крык гусей…
Нават – не, не той, не паднябесны,
А вось гэты, што гусак нясе
З выгана шаляпінскаю песняй.

Мілыя шаляпіны мае, –
Спевака я не хачу прынізіць –
Хай сабе і forte выдае,
І piano з цішынёю зблізіць…

Але гэты перадзімны кліч…
Як лязо па выгінастай шыі,

Песня, што на спрытны магарыч
Ці на стол бяседны задушылі…

Я вас пасвіў, песні, за сялом –
Гусяняткі, жоўтыя званочкі, –
У залеву сгравваў цяплом
Пад крылом ізрэбнае сарочкі.

Падрастайце, дробныя мае…
Хтосьці стане гусачкаю шэрай –
Той прыпеўкай, што дружбак спяе
На сяброўскай ранішняй вячэры.

Ну а хтосьці – хай вам Бог дае, –

Ёсць жа ў свеце песенныя дзівы:
Лапкі натапырыўшы свае,
Вырасце з паставай лебядзінай…

Не крычыце, гусі… На бяду
Ці на радасць, як раней на пашу,
Сцежкай вераснёваю іду
Я ў дзяцінства адгалоскам вашым…

x x x

Стаю адзін, як бусел, на жніўі –
Раз’ехаліся ўсе і разляцеліся…
Ну вось і ўсё – і лета пражылі,
І павуцінне сцелецца мяцеліцай…

Адзін – на ўсе абшары і вякі:
Ні цёзкі-ўнука, ні суседа-жаўранка…
Клён дагарае, і крычаць гракі,
Счарнелыя ў куродыме пажарнікі.

А ельнік пасінеў, нібы азяб
На Лысагорскай выспе ветрагоністай.
І сонца – летняй талакі прараб –
У лістападнай жальбіцца агоніі.

І хтосьці ўжо займае небакрай
І шэпча, непадступны і вялікасны:
“Ты болей непатрэбен тут, – бывай, –
Ты знаеш сам, што мы цябе не клікалі…”

## РАДУЙСЯ

Радуйся, радуйся,
Мой маленькі хлопчык:
Засмяешся з раніцы –
Дзень не затопча.

Радуйся сонцу,
Радуйся ягадам,
Што з рукі маёй бярэш,
Як птушаняці.
Дзе ўпадзеш,
Саломкі падсцялю загадзя, –
Радуйся ў людзях
І ў сваёй хаце.

Радуйся, радуйся, –
Радасць ад парога
Мячыкам хай скача
Наабгон са смехам.
А калі й заплачаш –

Толькі на пацеху.
Радуйся, радуйся, –
Радасць ад Бога.

x x x

Жывём да “ўсё наадварот”,
Мяняем карту генную,
І хутка круглы ідыёт
Пачне лічыцца геніем…

## НЕБУ

На зорах гайдаючы тайны,
Ты кожную ноч да мяне
Прыходзіш мільёнам пытанняў,
Маўклівых, як вечнае “не”.

Як сцверджанае адмаўленне
Мяне з маім векам зямным.
Прыходзіш маўклівым здзіўленнем,
Але не мёртвым – жывым.

І па-зямному бруіцца
Пытанне з наіўнай мальбой:
І т*ы* – з таямніц таямніца,
А што там дал*е*й – за табой?..

Я ведаю: неба тайны
Не выдасць, – і ўсё ж, і ўсё ж…
Маўчанне – як абяцанне.
Як вечны на горле нож.

## ПРЫЗНАННЕ ВЯСКОВАГА МУДРАЦА

Ёсць мудрацоў кітайскіх абет:
Каб жыцця не зазнаць хворага,
Добра паснедай, выкінь абед,
Вячэру аддай ворагу.

Я гэта ўсё зведаў –
Ды ў іншай манеры:
Снедаў, абедаў
І добра вячэраў.

І злёг ад хваробы?
Наадварот –
Горш не магло быць:
Жыву! Соты год.

## ДЗІЦЯЧАЯ ГУЛЬНЯ НА ПЯСКУ

У Мінску маленькім
Высокія горы,
У горах высокіх
Глыбокія норы,
У норах глыбокіх
Людзі жывуць,
Кватэрамі
Гэтыя норы завуць…

## АМАЛЬ ТРЫЯЛЕТ, ЗАПІСАНЫ ВЕРЛІБРАМ

У Беларусі
Хадзіць з працягнутай рукой
Сорамна.
Сорамна не беларусу,
А Беларусі,
У якой не сорамна
Хадзіць з працягнутай рукой…

## СОН У СНЕ

Мне ўва сне сказаў Барадулін,
Што зрэдчас Караткевіч сніў,
Як на фота, свае старонкі,
А пасля перапісваў іх, –

Вось і я цяпер не бядую:
Пасля дзённае мітусні
Мне, бывае, сніцца, як звонка
Я рыфмую натхнёна ўслых.

А прачнуўшыся, так шкадую, –
Хоць за локаць сябе кусні, –
Ды не кінешся наўздагонку:
Верш у снах застаецца тых…

x x x

У адказ на здзіўленне: чаму,
На аснове якой высновы
Мы па-рабску слову свайму
Знак далі: Таварыства Мовы, –

Быццам мы ўжо ідзём на звод
І народ – безнадзейны выстар.
Ці ўжо мы і зусім не народ,
А ўсяго толькі – таварыства…

Ды на жаль, ды на жаль, ды на жаль…–
Цяжка з гэтым не пагадзіцца…

Хто ідзе? – беларус? ці маскаль?.. –
Памяць вылілася вадзіцай…

А таму я папраўку даю
/ Беларусы на гэта гатовы / –
Так назваць суполку сваю:
Талака Ўратавання Мовы.

x x x

Светлая радасць асенняя:
Праз аблачынак сіта
Сонца лісцё прасейвае,
Шэпча лясную малітву.

Супакаенне з бярозак
Вусцішна ападае:
Што адмаўляе розум,
Ціха душа прымае.

Будзе за раніцай вечар,
Дзень абляціць пазалотай.
Вечная толькі вечнасць.
Іншае ўсё – лістота.

## БАЛОТНІК

Дзе б мяне ні насіў мой лёс:
Ці на моры, ці ў пыльнай пустыні,
Ці на горы нябесныя ўзнёс, –
Гэты водар мяне не пакіне.

Водар траў, імхоў, багуну
Мне дзікунскія ноздры вярэдзіць.
Там ён, там, хто мой свет паглынуў, –
Бог балотны – хаваецца недзе…

У надрэччы альшаным не спіць –
Захлынаецца песняй салоўкі,
Носіць з кнігаўкай волатам піць
З ручая да старой валатоўкі.

Ён са мной, ён з дзяцінствам не знік,
Праразаецца асакою.
Мне і сёння стажар’я сяннік
Лугавінай шуміць пад шчакою.

Дзе багністы зыбун плыве,
Я іду першабытным зверам.
Раздзімае грудзі мае
Дух мячэўніку і аеру.

Прадзіраюся праз чараты,
Не турбуючы гнёздаў качыных.
Я дзікун не людской пекнаты,
Хоць і знаюся з воляй ваўчынай.

Я нашчадак мёртвых азёр,
Што пайшлі пад зямлю свядома,
Каб замовіць свой шлях да зор
Самай простай дарогай – дадому.

Я самотным сінім агнём
Па карчах збуцвелых качуся.
Я не бачны сонечным днём,
Але ноччу затое свячуся…

Нас не будзе, ды будзе час,
І прышэльцы з далёкай планеты
У маіх балотных вачах
Прачытаюць паданні Сусвету.

х х х

Спачатку забудзеш віно,
Пасля да жанчыны астынеш,
А потым сяброў на дно
Бяздоннай памяці кінеш…

І ўсё: не жыві, дагарай
Вячэрняй астылаю знічкай
І падай на саменькі край,
Дзе толькі занудныя звычкі…

х х х

Святло вячэрняе,
Як звон нябесны,
І зоры чэргамі
На Млечны шлях.
Чаму ж тужліва так
І гэтак цесна
Душы на жнівеньскіх
Пустых палях?..

Нібы закінуты
Сюды заложнікам,
Ды не адрынуты:
За мной здаля –
Сваім атожылкам,
Зямным астрожнікам –
Цікуе іншая зямля.

І крэўнасць тую,

Як позірк Бога,
Пад восень чуе
Душа сама.
Стаю. Нікога.
І ўсё лячу я…
Лячу, бо змогі
Ўстаяць няма.

x x x

У нетрах лясныя дарогі,
Нібыта рэкі ў пустыні:
Сцякае-ўцякае пад ногі –
І раптам прывідна гіне…

Там , дзе вірылі буруны,
Мора барханаў ляжа,
І адваротны кірунак
З пяскоў рака не пакажа…

Сыдзе на сцежку дарога,
Сцежка на след саб’ецца,
Згубіцца след – і наогул,
Лесавіком адгукнецца…

Таму па лясах не блукайце
І рэкі ў пясках не шукайце, –
Даверцеся толькі жанчыне:
Гэта і лес і пустыня.

x x x

Бярозы, вечныя сяброўкі
Маіх дзядоў, маіх бацькоў,
Хто вас паставіў ва ўзгалоўку
Іх ціхіх, нескончоных сноў?

Чаму не сосны, не яліны,
Не дуб, сівых стагоддзяў брат,
А вы іх вартаваць павінны:
Спаткаўшы, не пускаць назад?

Вы, кволыя, з душой жаночай,
Чаму ўзялі той крыж адны?
Ці, можа, бачаць вашы вочы,
Што прагнуць паглядзець ЯНЫ?

І, можа, ваш ціхуткі пошум –
То подых памяці жывой,
Які ЯНЫ на суд апошні,
На Страшны суд пашлюць са мной?..

Ці мой прапрашчур быў паэтам
І першы, як з карчмы дамоў,
Ён, не жальбуючы, са свету
У гай бярозавы пайшоў?..

## НОСЬБІТЫ

Узапрэлі носьбіты культуры…
Хто на плечы ім усклаў той груз?
Самі ўспёрлі: ёсць мускулатура! –
Радуйся і дзякуй, беларус…

Радуйся, што носьбіты знайшліся,
Дзякуй, што культураю завуць
Свой арцельны пустазельны высеў,
Жнуць, малоцяць – і нясуць, нясуць…

І таўкуць: – Дацягнем да Еўропы!..
А каб…мацьтваю … было лягчэй,
Мысляць: ля якіх бы чарнатропаў
Скінуць груз з намыленых плячэй?.

x x x

Волі няма нідзе.
Воля – фантом. Нічога.
Волі няма ў людзей,
Волі няма і ў Бога.

Самы нявольнік Ён –
Вечнасць і Дух Прыроды:
Самы пакутны палон –
Рабства свабоды.

x x x

Верасень – кастрычнік – лістапад…
Ты прыходзіш, восень неўпапад.
Калі сама летаваць бы мне –
Раптам золь са снегам сыпане.
Замяце дарогі, занясе –
І ўжо на нейтральнай паласе
Стыну, як паранены салдат,
Дзе ўжо ні наперад, ні назад:
І падняцца вораг не дае,
І не могуць вынесці свае…
І цяпер гукай ці не гукай –
Толькі снежны вецер з краю ў край,
І адказу ад вясны няма –
Што там за табой, мая зіма?..

x x x

Па зямлі да сканання хадзі і слядзі, –
Колькі бруду дажджамі змылася!..
А на неба, стаіўшы дыханне, глядзі, –
Каб не разбілася.

x x x

Колькі на свеце маланак і дрэў,
Велічных скал і пясчынак,
Колькі снягоў і агнёў на сугрэў,
Нетраў глухіх і сцяжынак,
Колькі надзеяў і колькі смугі,
Колькі абдымкаў і здрады, –
Знаюць жанчыны, і знаюць багі ,–
Столькі на свеце загадак…

x x x

Восень, шэры Гамлет, –
Быць альбо не быць?
Шэрымі кругамі
Ў небе галубы.

Шэрая дарога
Ў шэры свет бяжыць…
Не пытайся ў Бога:
Жыць альбо не жыць?..

Кожнаму параіць,
Кожнага любіць…–
Ён і Сам не знае,
Што з Сабой рабіць…

# 1995

x x x

Пад крыжамі ў грудках зямля,
І з бяроз – ціхапад касмічны,–
Колькі вас: да мяне і пасля,–
Лёсы, лёсы, імгненныя знічкі…–

Колькі вас адгарэла, сышло,
Колькі ўспыхне – яшчэ няісных:
Гэта ўсё са мною было,
Гэта будзе – “и днесь и присно”…

Гэта ўсё праз вякі, праз мяне,
Ды са мной у зямлю не ляжа,
А што ў небе маім прамільгне –
Неба знае, але не скажа…

Хто на зорнае тое жніўё
Кінуў шлях: як нуль – па арбіце,
Хто замовіў жыццё маё,
Як білет у вечным транзіце?..

x x x

“О Божа, як мне сумна,
Што не магу пабыць
Ні дрэвам многадумным,
Ні рыбінай, –
каб плыць…

Каб выныраць на хвалях
І глухнуць глыбінёй,
І каб мяне хавалі
Нябёсы вышынёй…

Каб гнутка плаўнікамі
Вяртацца ў той хаос,
З якога над вякамі
Смяротнага ты ўзнёс…”

“Бязмерна – як хімерна”, –
Сказаў – і даў мне знак
Згінацца аднамерна
І поўзаць, як чарвяк.

Каб цень жратвы нязводна
Ўладарыў нада мной:
Галоўны ці галодны
Ты на зямлі сваёй?..

Каб прачытаў аднойчы
Ў газеце: як сынок –
Па-роднаму, па-воўчы –
Матулі ўрок “изрек”:

“Старуха, ты мне мешаешь,–
Я сброшу тебя с балкона!..”

x x x

Нашто ж мы Бога праклялі
І небу вочы закрывалі?
Каб д’ябал гойсаў па зямлі

І дух наш закілзаў трывалей?..

Якія ж міфы нам складаць,
Якія казкі і быліны,
Каб Богу зноў душу аддаць, –
Мы з кім пабыць яшчэ павінны?..

## УРОК ПА ФІЗІЦЫ

Я цяпер нічога не помню,
Толькі ноччу было ўсё гэта:
На стале задрамала поўняй
Галава, як з п'янкі ў паэта, –

Поўняй, поўнай матафар і рыфмаў…

Ды не верш я ў пр*ы*санку бачыў:
Мая поўня над формулай дрыхла,
Мая поўня рашала задачу:
Вызнаць масу зямнога шара,
Падлічыць усё, да пясчынкі,–
У начы падсвядомасці шарыў
Розум светлаю аблачынкай.
Я не помню, знакі якія
Мне таемны ліхтарык высвечваў, –
Я рашыў! – нібыта закінуў
Шар зямны на худзенькія плечы…

## КІРМАШОВАЯ ЗГАДКА

Двойчы ў год
Такое ў нас было:
Пёр народ –
Аж да нябёс гуло!

На фурманках,
Верхам
І пяшком:
Ад світанку, –
І ніхто цішком! –

Ехалі,
Скакалі
І ішлі:
На кірмаш
Склікалі
Паўзямлі!

Двойчы ў год
Былі два бальшакі,
Нібы дзве –
У крыгаход –

Ракі.

А збіралі плёскат
У віры
Вёскі
Хацюхова і Шчаўры.

Сёмуха і Ўшэсце –
Шанец наш:
Трэба ўсё занесці
На кірмаш.

Хто прадаць,
А хто купіць,
Хто прыдбаць,
А хто прапіць!..

А найболей песняў
Неслі ў шлях, –
І ў гармоні цесна
І ў грудзях!..
Бубны палыселі –
Як грамы!..
Хлопцы –
Да вяселля
Шлях прамы.

І дзяўчаты –
З сонейкам у твар:
Што ні хата –
Нападбор тавар!..

…Сёмуха і Ўшэсце…
Цішыня…
Выпіць ды пад'есці…–
Як штодня…

Тэлевізар з віскам
"Лабухоў"…
Ды яшчэ транзістар
Пастухоў…

І калі ж, народзе,
Ты аглух?
У якой свабодзе
Спаланіў
Свой дух?..

Чым ты, родны краю,
Саграшыў,
Што цябе мінаюць
Кірмашы?..

х х х

Я знаю: малітвы такія ёсць –
Ад слёз прагарае каменне,
І ціхія прсьбы таго, хто тут госць, –
Даць вечнае супакаенне.

Харалы я слухаў, асанну чуў
І сам, як умеў, маліўся.
Але аб іншым сказаць хачу –
Як свет мне ў слове адкрыўся:

Ці самы грэшнік, ці самы святы –
З душой, як жаўрук на праталінцы,
Да Бога спрадвеку толькі на “ты” –
Ніхто на “вы” не звяртаецца.

РАТУЙ, ВЕНЕРА…

Ад атлусцення ідзе лячэнне,
Як ад брыдоты злой ачышчэнне.
А хто ад немачы галадання
Нямоглым душам лекі дастане?

Хто іх адверне ад той напасці,
Што сее зерне лютага шчасця,
Што абляпляе заедным гнюсам:
Якім аддацца яшчэ спакусам?..

Ці гэта смерць, ці жыццё такое –
Стаяць з працягнутаю рукою
Сваёй красы і прадажнай цноты, –
Страшнейшай, пэўна, няма работы…

Але рабыні не знаюць стомы
І ў рай грахоўны вядуць паромы,
І робяць працу, – прабач, Венера, –
Што сорам быдлу, птушцы і зверу…

Ні ў чым не вінныя перад табою –
Яны чысцей і вышэй сабою.
Хоць не ў марской купаліся пене –
Ні мнагажэнец вясковы – певень
І ні Барбос – бадзяга сталічны –
Хвароб не ведаюць венерычных.

Твае ж ахвярніцы звар’яцела
Распрадаюцца душой і целам.
Рабыні оптам, рабыні штучна –
Сябе падносяць уласнаручна…

Купляйце, юныя, купляйце, хлопчыкі,
І не зважайце, што душы топчыце.
Дзядзькі – купляйце, дзяды – купляйце
І плоць знямоглую захапляйце…

Ратуй, Венера, ратуй, багіня:
Краса і вера ў жанчыну гіне…

### ЗНАЙСЦІ СКАЛУ…

Знайсці скалу – у моры-акіяне
Людскога гора, смутку, слёз пакутных
І ціхаю малітваю, нячутнай,
Разбіць душу аб камень пакаяння…

### ВЕТЭРАНЫ

Ветэранам ветрана.
Цягнуць скразнякі…
Брыль абвіслы фетравы
Тоіць дум шматкі.

Там яны – тапырацца –
У гняздзе старым.
А калісьці ж – пырхалі,
Ім было няўстрым!

Галаву прыспешвалі
І зямны ўвесь шар,
Як хадзіў за Першага
Думак гаспадар.

З апанентам рэзаўся,
Учыняў разгон,
І маліўся тэзісу,
Калі зверху ён.

Німбы кіраўнічыя
Згаслі без патрэб.
Галава падлічвае
Пенсію на хлеб.

Думкі ж – як забыліся,
З кім яны сябры,
І перасяліліся
Ў аблінялы брыль…

### МУДРЭЙШЫ САМЫ…

Мудрэйшы самы быў па чыне
Мысліўцам. Значыць – мысліць мог,
І мог упаляваць дзічыну,

І стан ад ворага бярог.

Мысляр і думнік: род і племя
Карміў і розуму вучыў,
І сеяў будучыні семя,
І нёс з мінулага ключы.

Яднаў ён сэнс адзіным словам,
З аднога кораня ўзрастаў.
На думных лавах і на ловах
Жыў з галавы, а не з хваста.

То першабытны быў парадак.
А сёння – чыняць слову здзек,
Калі, палюючы на ўладу,
Сябе губляе чалавек.

То ён трыбунны вой, то блазен,
Але часцей за ўсё круцель:
Калі пачне на трон залазіць,
Прадасць загоншчыкаў арцель.

І ў гэтым дзікім паляванні
Свой род пускаючы на звод,
Мыслівец едзе на абмане,
Пакуль размысліцца народ.

Тады й мысліўца закілзае, –
З прымоўем: “Добрая мысля,
Як людзі добрыя казалі,
Заўжды прыходзіць апасля…”

## Я МОГ БЫ…

Я мог бы механіка папрасіць
У адваротным кірунку
Стрэлкі гадзінніка запусціць, –
Ды што мне ў гэтым рахунку?
Хай справа налева закруціцца ўсё –
Хіба гэта час паверне?
Не ўспырхне на крону старое лісцё,
Як рунь не згорнецца ў зерне.

І не пераселіць у маладосць
Бег шасцярэнек “лявацкі”.
І будзе тое з табою, што ёсць
У шэсцьдзесят год, а не ў дваццаць…

## x x x

Прыйшоў бы які бяздумнік,
Прыйшоў бы які бяздушнік…

Бяссонне ўначы гадую –
Ніякі змрок не затушыць…

Няспяй ва ўзгалоўі стаіць –
Сон адганяе – не спіць.
І сам не засне і мне
Шэпча, нібыта ў труне:
Што я ўжо не тут, а між тых,
Каго не помніць мой слых,
Каго не не знае мой зрок.
Што я ўжо зрабіў той крок,
Адкуль не ступіш назад…

Ды раптам – мамін пагляд:
“Бога, сынок, не гняві, –
Я пачакаю – жыві…”

x x x

“О, Захад ёсць Захад, Усход ёсць Усход…” –
Усклікнуў аднойчы Кіплінг.
І толькі мы, мой пакутны народ,
Не знаем, куды прыліпнуць…

З Усходу кліча вялікі брат
Адзінствам сям’ю памножыць,
А з Захаду цягнецца гжэчны сват
З абдымкам “ад можа да можа”…

О, Захад ёсць Захад, Усход ёсць Усход,
А ў цэнтры – стагоддзяў імпрэза,
Дзе сведчыць з удзячнасцю мой народ,
Як напал душу сваю рэзаць…

x x x

Уважыць Бог пасля зямных згрызот:
Нябёсаў дасць бязмежную адсутнасць
І вечнасць – адзіноту з адзінот,
Пакутнейшую самую з пакутных…

x x x

Як гэта горка і страшна, калі
Свае сваіх забіваюць…
А мы ж тут усе свае – на зямлі:
У Бога чужых не бывае…

x x x

Знае неба, ды не скажа хатам,

Прашаптаным зманлівым “люблю”,
Колькі нараджаецца крылатых,
Каб трагічна ўпасці на зямлю…

x x x

То крывічы, то русічы-ліцвіны,
То беларусы – мы жылі вякамі
Тут, на зямлі на гэтай, на адзінай, –
А Бацькаўшчыну ўсё яшчэ шукаем...

x x x

Я д’ябальскі гэты бачыў прыход,
Чуў д’ябальскае пытанне:
Ці выдасць мову сваю народ
На варварскае растаптанне?

І ён згадзіўся – маўчаць, як сканаць.
А мне – нявер’е расплатай:
Ці недастойны народ праклінаць,
Ці быць самому праклятым?..

Кайданіць думы бяссоння турма,
І ўжо надзея не свеціць:
Другога народа ў мяне няма –
Ні тут, на зямлі, ні ў сусвеце…

x x x

Не здолеў сасватаць
Гады для пацех,
Хоць доляй
Не быў пакараны.
Юнацтва не святасць,
А старасць не грэх,
І поле
Да снегу ўзарана.

А вы засявайце,
Як прыйдзе вясна, –
Яна маладых
Не абмане.
Мяне ўспамінайце,
Калі ярына
Адчуе ўскалых
Красавання.

І чарку прыносьце,
Дзе з плугам хадзіў,
Дзе я дзірваны
Разварочваў.

Прыходзьце не ў госці, –
Хай поле глядзіць:
Вось гэта яны,
Хто з маёй баразны
Ніколі не збочыць…

x x x

О Божа, мой Божа, чаго я так плачу,
Як быццам не будзе сустрэчы з табою…
Грахі ўсе мае ты наперад адзначыў,
Але не судзі, – слова маю такое, –
І не апраўдацца – аб чым там размова!..—
Я ж ведаю, грэшны: з табой не схітруеш,
А я табе, Божа, скажу тое слова,
Што сам ты заплачаш і ўсё мне даруеш…

x x x

Не бойся жыцця: гэта выява Бога,
Не бойся і смерці: гэта таксама Бог.
Жыццё і смерць – з нічога няма нічога.
А звыш – гэта ўсё, каб ты богам зрабіцца не змог…

ЖАЛОБНІК

Было: матылька пабачыш
З крылом, як цемра начная, –
Бяжыш за ім, ледзь не плачаш,
А ён ад цябе ўцякае.

Бяжыш – і зусім не знаеш:
Жалобнікам мятлік завецца, –
На чорным полі жывая
Істужка срэбрам віецца.

Як месяца ўпала кропля,
Каб цемру аздобіць гранёна…
Расы лугавое шматкроп’е
З-пад ног вылятала сцюдзёна…

Было… З матылём тым не ў згодзе
Дзяцінства даўно прамільгнула.
А радасць? Хоць зрэдку прыходзіць?
Ды так – з бядою агулам…

А ўбачыш жалобніка ўвесну –
Як ноч ападзе на вочы:
Якую чорную вестку –
Адкуль? і калі? – напрарочыць?..

ЯК ПЛАЧ ПЕРАПЁЛКІ…

*Івану Чыгрынаву*

Я маю сяброў –
І віхурных, і сцішных,
Зайцоў і зуброў, –
І ніхто з іх не лішні.

Маю заносістых,
Маю выносістых,
Маю крылатых, –
І гэтым багаты.

Люблю і пракуду,
Люблю і зануду,
Бо часта здараецца,
Што ролі мяняюцца…

Вітаю задумных,
Разбойных, і тлумных,
І тых, што жывуць,
Як на вакзале,
І гэтых, што п’юць,
І што “завязалі”…

Бо ўся мая брація
З іскраю божай,
І ўсё даравaць ім
Божа паможа.

Сяброў прыбывае –
Шумней гаспадарка.
А лішняй бывае
Толькі лішняя чарка…

Хоць я адзінотнік –
Але не самотнік:

Калі адзінота
Мяне адшукае,
Душа мая ўпотай
Усіх вас гукае.

Гукае шчымліва,
Тужліва гукае, –
Як плач перапёлкі,
Балючы і золкі…

x x x

На здымак гляджу – і не знаю,
І пэўна не скажуць рукі:

Каго на руках трымаю –
Малога сына ці ўнука?

Як усё паўтараецца! –
З вамі, Сярожа і Вася…
Ці гэта час разбураецца,
Ці я раствараюся ў часе?..

x x x

Я з Богам па-свойму хачу размаўляць, –
Ну, значыць, па-беларуску,
А мне пярэчаць: Богу ствараць
Не трэба лішняй нагрузкі…

Ці варта яму назаляць драбязой –
Без гэтага клопату хопіць…
А мне той рэзон – як да горла лязо,
А я – незгаворлівы хлопец.

А я – недаверлівы той Фама
З біблейскай гісторыі слыннай –
Калі ўжо доказаў іншых няма,
Спытацца ў цябе павінны:

Магутны Божа, няўжо і ў вас
Усё на зямной аснове:
Змагацца трэба за першы клас
На беларускай мове?..

x x x

Бушуе ліпеньская брага,
Гуляе ў сонечнай дзяжы.
Ручай з прыпёку перасмягла
Схавацца ў лазнякі бяжыць.

Мядовы звон гайдаюць пчолы,
І нават трутні ўдосталь п’юць.
Цвіркоча конік – скрыпачовы
Спакою лаўры не даюць.

У сто вясёлак лугавіна
Пераліваецца ўваччу.
Вось зараз рукі лёгка ўскіну –
Чмялём па кветках палячу!..

x x x

Асімілятар –
Злучны гуж патуж! –
Абсемяняльнік

Штучны
Штучных душ.

Мовазмяшэнне –
Люб ты ці не люб, –
Моваўдушэнне
Тоіць гэты шлюб.

Глуханямыя –
Дыспуты вядуць,
Духанямыя –
Дзеці ў свет ідуць.

Вянец ахоўны,
Габляваны брус –
Скапец духоўны:
Рускамоўны беларус…

x x x

І мора, і хваляў пракосы –
Прыснілася ўсё ці было? –
Трапеча касынка на косах,
Як чайкі касое крыло.
Гляджу на стары фотаздымак,
Дзе нас узнімаў Кара-Даг:
Ідзём, як тады, маладыя, –
Ды ўніз – па прыступках-гадах…

x x x

Знізу – ціхенька загавары –
Да вяршыні ўзляціць не голас, а глас.
Крыкні ўніз з высокай гары –
Ці пачуюць унізе? Магчыма. Хто-небудзь. І то іншы раз…

Так і з Богам: ён чуе кожнага з нас –
Ці хто шэпча, ці ў роспачы лютай крычыць.
Колькі ў нас перад ім – не злічыць – усяго напаказ,
Толькі ён, каб пачулі, над намі па-боску маўчыць…

x x x

Канешне, развітвацца цяжка:
Якое ні ёсць, а жыццё.
Ды вось жа такая прамашка:
Збірацца пара ў небыццё…

Ды я перад тым не бядую,
Я так уяўляю: памру –
І з Богам, як з добрым дзядулем,
На прызбе пагавару…

## НЯВЫСНЕНАЕ

Колькі білася думак
У гэтай сферы замкнёнай!..
Там і цьмеюць: ладунак
Небыццём заімглёны…

Там і цьмеюць – з праклёнам
А ці з радасцю светлай,
Што не зведаюць скону
На скрыжалях сусвету.

Не народжаным з цемры –
Ім і смерці не вызнаць, –
Без пакутаў і церняў
Ценем самнамбулізму…

Як сферычная поўня,
Лёс пад крыж закаціўся:
Што збылося – не помню,
І што будзе – забыўся…

х х х

Зоркі не паміраюць –
Яны калапсуюцца ў кропку:
Напоўненыя да краю,
Святло паглынаюць таропка.

Ні промніка не выпускаюць –
Ніхто іх ужо не бачыць.
Ды перапоўненасць тая
Смерцю сябе ці пазначыць?

Ці небыццём назавецца?..
Не, тут парадак іншы…
І толькі нам падаецца
Мёртваю гэта ціша…

Гляджу на далёкія зоры,
На вокны, што свецяцца ў хаце,
На поле ў жніўным уборы –
І ціха кажу: –Бывайце…

Бывайце, лясы і рэкі…–
Сябе суцяшаю горка. –
Можа, і смерць чалавека –
Скалапсаваная зорка?..

І ўспыхне наноў між зорак –
Не згасне імгненнаю знічкай.

А смерць – толькі час і прастора,
Якіх мы баімся панічна…

## ДАСТАТАК

На кожнага кніжніка –
Трыццаць аблыжнікаў,
На кожную ліру –
Сто трыццаць куміраў,
На кожнага сейбіта –
Сейм і паўсейміка,
На кожную хату –
Па кандыдату…

Вось так і займелі –
Поўны дастатак…

x x x

Не чую зорак, хоць і не аглух,
Не бачу сноў, хоць і не аслеп як быццам, –
Які агонь у вечнасці патух,
І хто адкажа мне: ці разгарыцца?

x x x

Дуб у тры абхваты,
Крона ў сем ствалоў, –
Вогненна-вусаты
Гром не раз-малоў.

Сыпаліся жорны
Іскрамі з-пад хмар,
І рабіўся чорным –
З белага – млынар…

На мяжы пушчанскай
Зелянее гмах, –
Вечнасці сучаснік,
Мой ахоўны дах.

Моўчкі пагамонім
З існым і былым –
І ляцім пагоняй
Над бясчассем злым.

Мудрыя стагоддзі
Ў снах не адгулі, –
З небам на выгодзе,
З прагай да зямлі…

## ШУМЕЛІ СОСНЫ…

Шумелі сосны на вятры,
Шапталі словы, –
Навук лясных прафесары,
Адкрыйце мову…

Хачу з табой пагаварыць,
Мой бор спрадвечны, –
Як гэта немата баліць
Па-чалавечы…

З такой загадкай, як і ты,
Сказаць бяруся
На мове, што завуць “латынь
Ад беларуса”…

Зайздросціў Грыша Ходжар мне,
Нанайскі класік:
“Тебя ещё в твоей стране
Читают, Вася…
А я, – і Грыша загінаў
Па-руску матам, –
Перевожу оригинал
Родному брату…”

Я разумею – згарача
Зайздросціў Грыша:
Мярцвее мова на вачах,
А мы ўсё пішам…

О бор, мой лёс, як і ў цябе,
І з гэткай воляй,
Дзе разумею сам сябе, –
І ўсё. Не болей…

… Шумелі сосны на вятры –
Прастор гайдаўся.
Аб чымсьці думаў бор стары,
Ды не прызнаўся…

x x x

*За всё, за всё тебя благодарю я…*
*М.Ю.Лермантаў*

За ўсё, за ўсё я дзякую табе!
Ты, як само жыццё, дарыла ўдосталь
І гнеў, ліхі прыспешнік у журбе,
І ласку невымоўную на ростань.

За ўсё, за ўсё я дзякую табе –
За леты незваротныя і зімы,
Дзе ў мітусні завейнай і гульбе

І дар нябёс вясны спазнаць змаглі мы.

За ўсё, за ўсё я дзякую табе –
За радасці цнатлівыя і страты,
За ўсё, за ўсё адпомшчу сам сабе,
Перад табою вечна вінаваты…

ГАЛІНКА З-ПАД ПАЛЬЦАЎ ХЛОПЧЫКА

Бегла ганчарнае кола –
Па крузе – планетаў пайшчыкам,
Гліны кавалак голы
Трымалі тонкія пальчыкі.

Хлопчык, малы гадамі,
Богам сядзеў паважным,
Хоць і ляпіў не Адама,
А толькі гаршчок нехлямяжы.

Шаптала ганчарнае кола,
Што справа тут не цагельная.
І прарастала квола
Праз гліну галінка генія.

Галінка з-пад пальцаў хлопчыка
Шукала пад сонцам выйсце,
Каб прах, па якім мы топчамся,
Стаў духам, як быў калісьці…

x x x

Прапануе мудрэц-гараскоп
Сто пытанняў і сто адказаў:
Што чакае і што было б…
А што ёсць – не сказаў ні разу.

І яшчэ не сказаў: на зямлі
/ Не паверыце, то праверце/
Ці бываў і ці будзе калі
Час, прыдатны для смерці…

x x x

Пакроў быў як не на зіму:
Гуляла сонца летняе,
Важак гусіную гурму
Ганяў, як безбілетную.

Відаць, што і яму няўцям
Было: што з тропу збіла іх,
Чаму нястройна так ляцяць
Сяброўкі шэракрылыя.

Чаму крычаць тужліва так,
Самотна азіраюцца, –
Над полем робіць круг важак,
Нібыта з сонцам раіцца:

Ці зноў на поўнач павярнуць,
Ці сесці дзе пад вывараць
І карту неба разгарнуць –
Маршрут дакладней выверыць?..

ЛАЗНЯ

–Цецярук, цецярук,
Хадзі парыцца!..
–Не пайду, не пайду –
Дзеўкі сварацца…

Покуль пасварыліся,
Покуль памірыліся –
То й вады ні каліўка,
І астыла каменка…

Сталі ў лазні зноў паліць,
Сыраваты корч смыліць…
Певень з нафтабазы
Коціць бочку газы.

Як лінуў,
Як “газануў” –
Печ агонь перавярнуў!

Хто куды! Хто куды! –
Бег апальшчык да вады.

Цецярук цераз пляцень
Плюнуў на блазноту
Ды хутчэй паляцеў
Да свайго балота.

Лазня загарэлася –
Мыцца расхацелася…

х х х

Адкуль прарокі ў нас, калі
Штодня інфаркт-навіны:
Вястуюць згоду на зямлі,
А маці рэжа сына?

З якім мне богам размаўляць?
Што з д’яблавай сарочкі

Вылазіць свет наш бласлаўляць
І пеклам ззяюць вочкі?..

Дзе прыхінуць душу маю,
Збалелую ў пакутах,
Калі народ мой прадаюць
Пад выбухі салютаў?

Якія поскачкі ў гульбе,
Якія, браце, гімны,
Якія знакі на ілбе,
Калі Радзіма гіне?!.

x x x

Неба пад нагамі,
Глеба над галавой, –
І хлебам не памагаюць,
І дух – пустазель-травой…

Жыву ў перавернутым свеце,
Дзе праўда слыве маной,
Дзе ашуканец на вецер
Сыпле засевак свой.

І я ў эпіцэнтры ілжывым
Іду за ўласнай труной,
Сістэмы заложнік рэжымны –
Сам вязень і сам канвой.

Улева крок, як і ўправа,
За ўцёкі лічыць прывык.
Каму і якая справа –
Я сам глытаю свой крык…

Неба пад нагамі,
Глеба над галавой, –
Галодны, але пад сцягамі,
З выпраўкай страявой.

Высмяглы гараджанін,
Нікчэмны здраднік зямлі, –
Калі зажыву з ураджаем
І стану мудрым калі?..

x x x

Бачыў я разгубленае неба
І зямлю ў палоне забыцця,
Бачыў, як у неба просіць хлеба
Чалавецтва – вечнае дзіця.

Вось яно: хлапчук рукой худзенькай
Паміж зор шукае райскі стол.
Вось: маленькі – як зусім сівенькі –
Ападае на смяротны дол…

І ніхто абачліва не крыкне :
Можа й лепей там, за той мяжой?..
Крыкнуў я. І выжыў. Стаў вялікі.
Толькі памяць зябкая – вужом…

І дзіўлюся сам: навошта вынес –
Гэту бежанку з вайны далёкай я?..
Не злічыў усіх дзівосаў Гінес, –
Можа памяць што дадасць мая?

З тым дзяцінствам што зраўняць маглі б вы?
Вочы і сумленне чым закрыць
Небу, што бездапаможным німбам
Над зямлёй пакутнаю гарыць?..

## АНАРХІЧНЫЯ СТРОФЫ

“Анархія – маці парадку…” –
Як лаянку, я паўтараў.
І толькі на сёмым дзесятку
Ідэйны прыўзняў футарал.

З-пад велічна-ўладных праграмаў,
Што чадна кадзілі мой хрост,
Мне даў князь Крапоткін напрамак, –
Да вольнае волі наўпрост.

Мы з ім – не паны і не слугі –
Тым казачным шляхам пайшлі,
Дзе ўсе – без дзяржаўнае пугі –
Па-людску жывуць на зямлі.

Дзе вам ні начальства, ні ўлады,
Ні зада, што ўспёрся на трон, –
А бачце: і лад, і парадак,
І кожны сабе Цыцэрон!..

Хвала бездзяржаўнаму князю –
Анархіі салаўю!..
Ды трэба вылазіць з фантазій –
Вяртацца ў дзяржаву сваю…

Гісторыі конь наравісты
Мяне па выбоінах нёс…
Не-не, я не стаў анархістам –
Я вольнасцю толькі прарос…

x x x

Рабіна –
Восені рыбіна
Чырвонапёрая –
Трапеча ў імглістай стыні.
Рабыня
Вятроў –
Ты сталася мне апораю
Ў мітуслівай людской пустыні…
Густыя –
Луской
Шапатлівай –
Лісты а-
па-
да-
юць,
Як дні залатыя,
Мае незваротныя.
З табою
Абое шукаем сустрэч нешчаслівых,
Абое – сыходзімся, як маладыя, –
Абое – смяротныя…

З табой мы
Горкай часінаю,
Блуднай, знявечанай,
Ратуемся разам ад ліха:
Ты боль мой
Спагадай рабінавай,
Я твой – чалавечаю
Ціха вылечваю…

# 1996

ЧАЛАВЕК

Сын адрынуты нябёсаў,
Сон, да шэрых дзён прыкуты,
Раб – іду душою босай
Па шыпах зямных пакутаў.

Што мне смех ваш і вяселле,
Птушкі, дрэвы, сонца, воды,
Калі поле горкім зеллем
Я засеяў назаўсёды.

І са смерцю пагадзіўся,

Бо жыццё не знае раю:
У пакутах нарадзіўся
І ў пакутах паміраю…

x x x

Як і помню я, не пугай,
А трубою берасцянай
Наш пастух на ўсю акругу –
І далей яшчэ! – быў знаны.

І ў рыштунку пастуховым
Струмант росна-зухаваты
Быў прадвесцем і асновай
Паслухмянасці рагатай.

Маладзіц будзіў, і статак
Не пяньковым цешыў свістам:
Вырабляў у будзень свята
Маладзік той галасісты!

І глядзець і слухаць люба!..
Ды аглухлі ў вёсках высі:
Пастухі згубілі трубы –
Толькі пугі засталіся…

І на золаку за хмарку
Ад бязладдзя і разброддзя
Маладзік, як берасцянка
Анямелая, заходзіць…

НАДЗЕЯ

Там ні вясны, ні лета,
Зімы і той няма.
Маўклівыя сусветы
І небыцця турма.

Там вечнасць халадзее
І кволіцца ў журбе…
Адна, адна надзея,
Надзея на цябе.

Там не бывае цудаў,
У царстве нематы.
Я, пэўна, ўсё забуду.
А ты? Ці ўспомніш ты?..

x x x

Калі шукаў твае сляды,
Шаптаў прызнання словы,

За пацалунак твой тады
Памерці быў гатовы.

А як спаткаў, пацалаваў, –
О ўсе багі і чэрці! –
Было, як я наканаваў,
Адно забыў – памерці!..

x x x

Не зварухне асноў
Расстання медзь –
Хай свет адзін
І ў свеце ты адзіны:
Каб ад'язджаць,
Дарогу трэба мець,
А каб вяртацца,
Трэба мець радзіму.

x x x

Я жыву, – хоць і замеццю высвеціў верасень –
Развінаецца сцежка мая:
Заўтра з вамі – юны – сустрэнуся,
З вамі – юнымі – удвая!

А памру, – вы за гэта мяне не асудзіце?–
Абарвецца не толькі мая каляя:
Без мяне – хто адкажа – кім заўтра вы будзеце? –
Без мяне – вы не вы, як без вас – я не я…

x x x

З кратэраў –
Як з картатэк,
Дзе стагоддзі планеты
Зафіксаваны,
Аднойчы выбухне
І наш, дваццаты, век,
Д'яблам
Яшчэ пры жыцці
Кананізаваны.

Калі гэта будзе? –
Праз тысячу год
Ці мільён –
Не сказаў Настрадамус,
Не вылічыў Глоба…
Адно толькі пэўна:
Між полымя і грымот,
Як праклён,
Прамаўчыць землятрусна Чарнобыль.

Гарбачоўскага кратэра
Мёртвы пагляд
Не раскратае
Д’ябальскіх знакаў сакрэтных, –
Толькі атамны вецер,
Прасторы і часу распад,
Як было да стварэння свету,
І дзеці –
Заплачуць – з дваццатага веку –
Над Прыпяццю дзеці…

x x x

Азірніся ў магілу стагоддзяў,
Глянь у космас наступных вякоў,
Дзе не быў ты, куды не заходзіў, –
Вязень боскі зямных акоў, –

І пабачыш у чорным канверце
Ліст, напісаны небыццём:
“Хочаш жыць – рыхтуйся да смерці:
Смерць даецца разам з жыццём…”

ТАПОЛЯ Ў СВЯТЛЕ КАМЯНІЦ

Што было пад гэтаю таполяй,
Чый прытулак і чыя страха, –
Як не знаў, не ўзнаю я ніколі:
Хто тут жыў і хто каго кахаў…

Ні слядоў на падкарэнні чорным,
Ні засечак на жывой кары,
Толькі часам з вуліцы Падгорнай
Прыляцяць, як з цемры, снегіры.

Прыляцяць, каб высветліць з нябыту
Вуліцу былую і мяне,
Што жыве тут, хоць не жыў, – нібыта
Цень мой тут адбіўся на сцяне…

Не – няма, напэўна і не будзе,
Подыху майго на міражах,
Што ўзвялі чужма-чужыя людзі
На Падгорнай – на чужых крыжах.

Прашчуры каменных падвуголляў –
Валуны валяюцца наўзбоч,
Як святыня хат, што з-пад таполяў
З дня на дзень глядзяць у нашу ноч…

Нараджалі тут і адпявалі –

І таполя ўсё нясе ў вякі.
Тут нас, на Падгорнай, не чакалі,
Тут прышэльцы мы і чужакі…

x x x

Нас у нязбытнасць – часу невады –
За годам год – адносяць незваротна.
Мы больш ужо не вернемся туды,
Дзе ўчора сонца ззяла несмяротна.
І перад гэтай змрочнаю сцяной,
Што непазбежнасцю найменавала доля,
Ні д’ябальскай, ні боскаю цаной
Тварыць абман нам сэрца не дазволіць…

НА СТУДЗЕНЬСКАЙ ШЫБЕ…

На студзеньскай шыбе аконнай
Мне кветкі шапталі: “Мы тут
Навечна з табою. Да скону
Ты будзеш разгадваць наш цуд…”
Ды ўсмешка насустрач марозу
Ад сонца праменна прыйшла –
І ціхія кроплі, як слёзы,
Змахнуў я рукою са шкла…

x x x

Не сказана ў Кнігах прарочых нідзе,
І вечнасць заслону не ўздыме:
Якімі паўстанем на Страшным судзе –
Знямоглымі ці маладымі?..

Напэўна, ад Бога такі запавет:
Закрэсліць той знак на скрыжалях, –
Каб мы не спяшылі ісці на той свет,
Да старасці дажывалі…

x x x

Цела, – свет, завершаны, цэлы.
Пацалунак – яднання мяжа
Ў адно цэлае, як хацела –
З дзвюх зрабіцца адною – душа…

А ў сярэдзіне цэлага – сэрца,
І душа без яго – удава…
Сэрцы, сэрцы, – адкуль вы, прышэльцы?—
Вас, на жаль, аказалася два…

x x x

Тамы – слоў прыручоных рацъ, –
Як з вуснаў экстрасенса.
А сэнс у кожнага – схаваць
Глыбей карэнні сэнсу…

Перабіраю слоўны тлум –
Стаўляю агароджу.
А для таемных, ціхіх дум
Імёнаў не знаходжу…

x x x

Няўжо і мне наўшчэнт прыстаць,
Да рысы той дажыць калісьці,
Каб радасць смерці прывітаць –
Як паратунак і як выйсце?

Калі ўжо будзе зрок і слых
Блукаць у паднябесных сферах,
Не азірнуцца б мне ў той міг
І зноў вясне зямной паверыць!..

БАЕЧКА

Ёсць сведчанні пра штатнага казла,
Што служыць "правакатарам" на бойні:
Пад нож – хоць у мазгах ані вузла –
Быдлячы статак водзіць за сабою.

Капыцікамі цокае ў памост,
Нібыта на абцасіках какотка
А бугаі цугуюць – нос у хвост –
І не равуць, і дыхаюць салодка…

Аж покуль там, дзе дрэмле пастка-люк,
Дзе "правакатар" скача лёгкай птушкай,
Бугай уніз не шусне, – і каюк:
Выходзіць на круку чырвонай тушай…

Напэўна б, гэты факт не ўспомніў я,
Каб на парозе прыклад не стаяў:
Такі казёл / магчыма, і баран /
Штодня вылазіць на тэлеэкран
І заклікае быдла за сабой, –
Пра рай блякоча, а вядзе на ўбой…

x x x

Грызуць палітыкі
Ўлады арэх:
Ім – харч,
А людзям – патрава…

Ідэйны брэх на ідэйны грэх…–
Сабачая, браце, справа…

x x x

Хто мог і не мог –
У стагоддзях –
То “бут”, то “сапог”
Таптаалі і топчуць на жмых.
А корань на выдмах эпох
Не засмяг, не засох –
Застаўся ў жывых.

І каб перамогу не правіў
Бязродны Бурбон
У імперскай гульбе,
Мы мову сваю
Беражом, як апошні патрон, –
Для сябе.

ПЕЙЗАЖ

Як патырчакі, з панелі
Ўзняліся тугой аб лістоце, –
Таполі аслупянелі
Не па сваёй ахвоце.

Таполям абсеклі голле,
Таполям абрэзалі крылы,
Каб тапаліная воля
З небам не гаварыла…

Абараняючы поле
Электра-камунікацый,
Забараняюць таполям
З птушкамі сустракацца.

Піла бензінным напоем
Дыхне і ўразаецца крута…
Ніколі, ніколі таполі
Не зналі такой пакуты…

Крывяняцца сокам засечкі,
Няма катаванню адхлання, –
Прыйшлі, як патухлыя свечкі,
На ўласнае пахаванне…

АДРУНЕЛА БАБА…

Не сказаць, што рана аўдавела,
Што самота плішчыцца з нудой, –
Адрунела баба – і здурнела:

Зноўку быць жадае маладой.

Прапусціць, крый божа, вечарынку!
Ці нараду, ці які актыў!.. –
Грызці будзе муж тры дні скарынку,
Сухама шкадуючы аб тым.

Пойдзе ў скокі – божа літасцівы! –
Тут і выкрутас, і выхіляс! –
А прыпеўкі – быццам год пасціла, –
Прагне разгавецца наўзапас:

Я не знаю, як за светам,
Але ў нас у Мядзелі
Год па сорак пяць кабеты
Хлопцаў папрынадзілі!..

У запечку муж стары,
Дзеці ў інкубатары.
За мной гужам даяры
І механізатары!..

Нанач твар смятанаю шпаклюе,
Абмывае цёплым малаком,
За маршчынкай кожнаю палюе,
Як ліса зімой за шараком…

Пры гаршках і пры хлявах прарабам
Знелюдзелы муж сапе штодзень:
Што рабіць з абмаладзелай бабай:
Збегчы? ці самому маладзець?!.

x x x

Я не люблю зацыкленых газет,
Мне без патрэбы іх стандартны ляскат, –
Скажы ім перайначыць белы свет
У чорны – і пачуеш: "Калі ласка!"

Змяшаць з гразёю, утаптаць у бруд
Ці на вяршыню палымяна ўзнесці, –
Узмах пяра – і праўда ўся, і суд,
Абы далі што выпіць і паесці.

Літраб крамзоліць, а дыктуе бос:
Калонкамі – атака мазгавая.
Газетнаю каростай люд аброс,
І языкі на сверб спажыву маюць:

Сенсацыяў газетны галалёд,
Дзе коўзаецца век непадкаваны,
Ды ў рай зямны чарговы паварот,

Зязюлямі пяра пракукаваны…

x x x

Штодня на сябе глядзіш –
Як з вечнасці –
На маладога.
І кожны дзень твой
Паміж
Табою і вечным Богам.

Штодзень да смерці бліжэй –
Не збочвае каляіна.
І з кожным днём даражэй
За вечнасць
Жыцця хвіліна.

## МОЙ КРЫЖ

Каму Парыж,
Круты барыш,
А мне – Мачулішча,
Мой крыж.
Мяне расчуліцца
Не змог
Прымусіць
Босаў бог –
Нью-Ёрк.
І, мусіць,
Шлях бы мой прагорк
Без гэтай грэблі,
Дзе масток
І ціхай Талінкі выток.
І што патрэбней,
Каб мой лёс
Пластаў і ўзносіў да нябёс?
Вось гэты крыж,
Які мяне
І пасля смерці
Не міне…

## ЖЫЦЦЁ Ў ШАСЦІ СКЛОНАХ

Навошта дадзена *жыццё* ? –
Каб траціць дні манетай звонкай,
З сабою бегчы ўперагонкі, –
Касмічнае ілжэдзіцё?..

Каго мне выкінуць з *жыцця* ? –
Гадзюку, што застыла ў скруце,
Атруце молячыся ў скрусе,
За мной цікуючы з трысця?..

За што мне дзякаваць *жыццю* ? –
За гэты вечар адзіноты,
За ветах, хворы на сухоты, –
Як знак на ўласную куццю?..

За што мне бласлаўляць *жыццё* ? –
За вечнае бяссонне маці,
Адну, самотную ў той хаце,
Што ўкрыла мёртвае лісцё?..

Што мне вымольваць за *жыццём* ? –
Дарогу без шыпоў і церняў,
Дзе споўдаюць бяздумна цені,
Пранізаныя небыццём?..

Каму даверыцца ў *жыцці* ? –
Жанчыне, што мяне кахала
І тым каханнем праклінала, –
Дарогай пекла ў рай ісці?..

x x x

Паэту, кажуць, свой адзначан час:
Як салаўю па веснавой паводцы.
Ёсць час? – Але ж і вечнасці запас,
І з музай – пажыццёва ў адзіночцы.

І ў сорак – паэтычная пара.
Адно б не страціць юнай непакоры:
Калі пачне маліцца за цара –
Паэт знікае, будзе царадворац.

І голас будзе звонкі, як медаль,
І песня будзе з лентаю на шыі,
І апраўданне ля труны: на жаль,
На жаль, цары паэта задушылі…

І прэзідэнты, і прэм'еры спрэс,
І кожны за паэта – галавою…
Няма цароў, паэтаў у абрэз,
А царадворцы – рыфмай кальцавою…

ПРАДЧУВАННЕ

Яшчэ за сівым небасхілам
Маланкі змаўляюцца ўпотай,
І хмары не дамясілі
Цеста – пячы грымоты;
Яшчэ ў зеніце спякотным
Маўчыць землятрусная сіла, –
А ўжо трапеча лістота

На дубе, як на асіне…

ПЛОШЧА

Плошча Незалежнаці,
Плошча Не-жалезнасці.
Плошча нашай існасці,
Плошча непахіснасці –
На здзіўленне людскасці
Стала плошчай гнуткасці.
Стала плошчай хісткасці,
Плошчай тэлерантнасці,
У якой ад існасці
Свіснулі гарантыю…
Плошча Незалежнасці,
Плошча Не-жалезнасці.
А была б жалезнаю,
Стала б – незалежнаю.

х х х

Вякамі турэмны нагляд
Заседчыў няволі барыш:
Рукі склаўшы назад,
Шпарка не пабяжыш.

Той "зэкаўскай" мудрасці плён
Палітыкі ўшыркі бяруць
І ўсім дакляруюць закон:
Галовы назад павярнуць.

І вучаць людзей чмуты,
Як у труне маладзець,
Як скручаным позіркам тым
У будучыню глядзець.

Не важна, дойдзеш ці не…
Калі ж у вачах туман,
Дубінкаю на спіне
Дакладны накрэсляць план.

Азорваюць далягляд
Д'ябальскія прамяні:
Наперад – значыць, назад, –
Будучыню не праміні!..

х х х

Лецішчы лысагорскія
І пералескі грыбныя
Рэхам дзіцячым не гойкаюць,
Ад безгалосся ныюць.

І цішынёй нагадалася:
Ля піянерскага лагера
Сцежка мая гайдалася
Ад барабанных шлягераў.

Я нерваваўся, праходзячы,
Бэсціў фізкультінструктараў,
Што на слыху ўсіх родзічаў
Глушаць дзяцей рэпрадуктарам.

А сёння сцежка сумелася,
Сцежкай глухой ішоў я:
Ад піянерскага "меласу"
Вызваліла безграшоўе.

Ні сумятні апраметнае,
Ні маршыровак парадных, –
Цені блукаюць бяздзетныя
Па карпусах атрадных…

Хоць лета ў самым фарватары,
Ды лагер не дорыць натхнення
Аўтаасенізатарам
Пладамі аздараўлення…

І я лысагорскія ўзлобкі,
Здзічэлы, абследую ў леце, –
Голасам радыёкропкі
Гукаю, шукаю вас, дзеці!..

## АНТЫКАНФЕСІЙНАЕ

Ці над пракосамі
Ў лузе малюся
/ Небу, ці космасу,
Ці Беларусі /,
Ці каля Сожа,
Ці пад Пекінам, –
Божачка-божа,
Ты ў нас адзіны…

Белым, і жоўтым,
Ці чорным,
Як вугаль,
Накрэслены чортам
Не круг твой,
А вугал.

Ці то ж па-боску,
Ці па-чалавечы,
Каб мы цябе

Ўроссып,
Вякі за вякамі,
Кожны свайго –
У цемень рукамі –
Між берагоў
Варажнечы
Шукалі?..

x x x

Прадзім’е на парозе –
Дае сігнал зіма:
Буслы даўно ў дарозе,
І ластавак няма.

Барвовыя хусцінкі
Ў лясах не стракацяць:
Куды і як? – лісцінкі
Апошнія трымцяць.

Цішком касы-гарбулі
Звон у стагах асеў.
Дзяцей драчы абулі –
І збеглі па расе.

Яшчэ шпакі жыруюць,
Ды ўжо трывожна спяць:
Вось-вось гусей пачуюць –
І следам паляцяць…

Граку – і то збірацца
Ўжо трэба пакрысе:
Каб і хацеў застацца,
Дык ветрам панясе…

І лета бесхацінцам
Тут не захоча жыць –
Па восеньскіх гасцінцах
У вырай пабяжыць…

x x x

У свеце прыватных думак
Жыве мой прыватны радок:
Такі не-калгасны ладунак –
Эгацэнтрызму вíток.

І я / гэта значыць “эга”/,
Прыватнасцю горды сваёй,
Схіляюся вешчым Алегам
Над чэрапам з мудрай змяёй…

## ПЕРАДБАРАВІКОВАЕ…

Усё знямела: грыбнікоў
Ні гоману, ні г*а*ласу:
Схапілі каласавікоў –
І сцежкі пагубляліся;

І салавей асалавеў;
І сойка стала сонькаю;
І дзік – хоць заганяй у хлеў:
Рахманіцца пад сонейкам;

Рыхтуе ўпотай пчолам збор
Палянка верасовая;
Чырвоны лыч свой мухамор
На людзі не высоўвае;

Мурашнік, нібы вар, кіпіць
І талакуе стоена;
І кнігаўка не просіць піць –
Маўчыць сухмень застольная;

Крумкач, хоць пры кар-цах радня,
Глякі не ад-кар-коўвае… –

Такая ў лесе цішыня
Перадбаравіковая…

## ЧЫРВОНАЯ…

Гэта бокс: каляровы экран
Мне трагічную бойку высвечвае,
Дзе без выбухаў, стрэлаў і ран
Ціха падае негр пакалечаны.

Мне здавалася – гэта пот
Па абліччы сцякае глянцавым
І крапліста ў чырвоны рот
Абрываецца пратуберанцамі.

Аж пакуль секундант на рынг
Белы сцяг ручніка не выкінуў,
І накаўтаў кароль – чорны кінг –
Быў з памоста няславай пакліканы.

Вось тады і пабачыў я,
Што хаваў ад вачэй чорны глянец той, –
Не, не потам ручнік набрыняў:
Чорны твар чырвона крывяніцца…

Гэта бокс… А калі – яна? –
Перад тронамі і амвонамі

Сведчу: знаем – я і вайна:
Кроў і ў белых, і ў чорных – чырвоная…

У ТРАЕЦКІМ ПРАДМЕСЦІ…

У Траецкім прадмесці, дзе спяць
Над вякамі вякі, спластаваныя,
Сёння ў зборы пратэзы рыпяць,
Цяжкай памяццю звеставаныя.

У Траецкім прадмесці не гром
Пераможных салютаў глушыць,
У прадмесці – афганскі сіндром,
Што дратуе і сёння душы.

У Траецкім прадмесці – звон:
Асвячаецца ў Мінску каплічка –
Як афганскай вайне праклён,
Як палеглых сыноў пераклічка.

У Траецкім прадмесці – шоў:
Купка люду, не надта густая,
Ля крамлёўскіх стаіць барышоў,
Што збіраліся ў Афганістане.

У Траецкім сплачваюць доўг
Растаптаным імперскай прастораю.
І глядзіць са стагоддзяў Міндоўг:
Што ж, і гэта – таксама гісторыя…

У Траецкім – пытанняў гужы, –
Каб і мне памаліцца таксама:
А ці ўсе тут з палеглых на тым рубяжы,
А ці тут яны – дзеці іслама?..

У Траецкім прадмесці – народ,
І рашыць хрышчоным няпроста:
Хто закручвае зноў калаўрот –
Востраў ганьбы ці памяці востраў?..

x x x

Вы прабачце, гарадскія хаты,
Ці як вас – дам*а*мі – тут завуць:
Шматваконны ваш пагляд зіркаты
Цэдзіць не святло, а каламуць.

Ён удушна сцелецца са смогам,
Топчацца нагамі ў шэры брук, –
Як у душах, што зракліся Бога,
Д’ябальскае месіва і бруд.

Горад мой, ты не віноўны ў гэтым,
І маёй віны тут не відаць:
Людзі, раз'яднаныя планеты,
Дзе нам сонца крэўнае шукаць?..

Горад мой, не палічы за здраду,
Што не звёў я на шляхах сваіх
Сонечныя вочы палісадаў
І харомы поцемкаў шкляных…

ПАРАСЯ

Мне даводзяць: які народ,
Гэткі будзе і цар: леў ці шаўка.
Гэткі хрэн, які агарод,
Ці інакш – па Сеньку і шапка…

Мне трактуюць: які народ…
А які ён – хто знае мерку?
Можа ўсё яно наадварот,
Калі ў іншую глянуць паперку?..

Можа ў Сеньку і загваздка ўся:
Пагадзіцеся – кажуць жа людзі,
Што паршывае парася
Цэлы статак – адно! – запаскудзіць…

х х х

Мне здраджвалі
І музы і сябры
/ Не ўпэўнены,
Ці здраджвалі жанчыны:
Хто сваё шчасце ставіў на абрыў, –
Тут іншы сказ і іншыя прычыны /.

Я не пра гэта.
І не мой сумнеў
Тут расхістаў
Апірышча зямлі:
Да ўдачнікаў я зайздрасці не меў,
І ворагі ў апале не былі.
Жывіце ўсе! Я ўсім падам руку, –
Падумайце, вы нават не прасіце,
Пасмейцеся: панадна ж дзіваку
Быць між людзей, як перапёлка ў жыце…

Жывіце ўсе!
Не я стварыў парог
У гэты свет,
А тым важней – адгэтуль, –
Малюся, каб душою не засох

І не сышоў ваш маладзік на ветах…

За ўсіх малюся.
А хто мне памог –
Пра гэта знаем
Толькі я і Бог.

x x x

*Генадзю Бураўкіну*

Няўжо, Генадзь,
Гацілі гаць,
Радком масцілі
Грэблю,
Каб вылез шлях той зруйнаваць
Якісьці непатрэбнік?..

Няўжо, бяздумны
Наш народ,
Каб зноў таптацца ў багне,
Куды вядзе
Бяздомны
Зброд,
Што толькі ўлады прагне?..

Не –
Не да дэмбеля ж дурыць
Люд
Красамоўству ротнаму:
Ілжэпрарокі – да пары,
А праўда – несмяротная!..

x x x

Зрываюць дрэвы жоўты каляндар,
Ляціць лістоў крылатая завея,
І толькі дуб, абшараў валадар,
Па-летняму вячыста зелянее.

Шуміць сабе, – і памяць жалудоў
Дае засеў на будучыя вёсны.
…Прашу яго над капішчам гадоў:
“Будзь дню майму і слову бацькам хросным…”

x x x

Хто сказаў, што камп’ютар вар’ят,
Што ён дурань, калі адключаны, –
Не, ён сам сабе кум і сват:
Ён ужо і ўключацца навучаны!..

Хто сказаў, што камп’ютар не воўк
І не кінецца ў лес, знелюдзелы, –
Ён не з тых ужо, каб замоўк
На абшарах зямных перадзелаў.

Хто сказаў, што камп’ютар знямог, –
Сам сябе ён стварае і лечыць.
Значыць, боскі адолеў парог –
Не сусветны, дык чалавечы.

Хто сказаў, што камп’ютар памрэ, –
Не, ужо на парозе пытанне:
Знак які ён сабе абярэ –
Ці ён богам, ці д’яблам стане?..

Хто сказаў, што камп’ютар стварыў
Чалавек без абману злога, –
Ну а хто ж сам сабе падарыў
І канец свайго свету зямнога?..

x x x

Калі схілялася зямля
Над памяццю ўсіх мёртвых,
Анёл-ахоўнік спакваля
Маё дасье разгортваў.

І ўсё над нечым уздыхаў,
Задумліва ўзіраўся,
А я зняверана чакаў:
“Хоць раз бы засмяяўся…”

І вось аднойчы, нараспеў,
Зарагатаў ён звонка.
Ды я заўважыць не паспеў
Ні словы, ні старонку…

x x x

Планета наша – брацкая магіла:
Мы з праху ў прах, усе з зямлі ў зямлю.
Мы дружна ўсе ідзём пад крыж пахілы:
Каго ганьбую і каго люблю.

Ад нараджэння з намі вырак лёсу:
Быць толькі тлом у вечным ланцугу…
Ну што ж, ну што ж – і тым задуме боскай
І творчаму здзяйсненню памагу…

x x x

Будзе рай, і песня будзе

Па-анёльску закалыхваць,
І задыханыя грудзі
Супакой агорне ціхі…

Будзе мудрасць без пазнання,
І каханне без пакутаў,
І грахоўнае жаданне –
Зноў глынуць зямной атруты…

x x x

О Божа, злітуйся над тымі,
Хто прадае душу маю,
А я перад людзьмі святымі
Бяздушным ідалам стаю.

І вы мяне не дакарайце,
Каго я ў зман бяздушна звёў, –
У гандляроў у тых спытайце:
Нашто душу ірвуць звяр'ём?

Але па-боску іх судзіце,
Не захлынайцеся ў кляцьбе:
Вы паглядзіце… паглядзіце –
І ў іх пазнаеце сябе…

x x x

Яшчэ ўсё дыхае зямля,
Хоць грудзі смог сцінае,
Яшчэ зялёнаю здаля
Яна здаецца ў маі.

Але прыгледзься – і ў журбе
Апірышча лясное
Раскажа праўду пра сябе
Атрутнай жаўцізною…

Такі паэт, натхнення брат:
Вясна бушуе ў словах,
А ўжо на сэрцы лістапад
Зашэптвае замовы…

x x x

Аж да аскомы пахрумствае
Яблычны дух на гарышчы.
Гусі чародкамі тлустымі
Нясуць валлякі з іржышча.

А над палямі пустыннымі
Ў небе злінялым, нияркім

Туліцца сонца астылае
За непрытульную хмарку…

x x x

Як ні разлічвай, ні загадвай:
Святая ноч, і змрочны дзень,
І знічка блізасці, і здрада,
І дум былых атрутны цень,
І поспех, і насмешак раны,
І славы дым, і забыццё,
І нават смерці міг нязнаны, –
Усё купляецца жыццём…

x x x

Як зоркі ў сусвеце – далёкія,
На безліч гадоў светлавых –
Ствараюць сузор'і, і зрокава
Ў адзінства злучаем мы іх, –

Так людзі пад небам сыходзяцца,
Маленькія зоркі зямлі…
Якое сузор'е народзіцца?
Што вызначыць лёс і калі?..–

Ніхто і нічога не ведае,
І толькі кахання святло
Яднае – ці шчасцем, ці бедамі –
Што будзе, і ёсць, і было…

x x x

Я думаў: хто ж гэта такі
Ліхтарыкам на ўзлеску свеціцца,
Калі яшчэ беразнякі
Па-жнівеньску наўкола лецяцца?

А падышоў: ды гэта ж клён! –
Знаёмец мой – барвянай выспачкай,–
Нібы з глыбінь зялёных ён
На сонейку пагрэцца выскачыў.

"Ты што – здалёку не пазнаў?—
Клён прашаптаў лісцём усмешліва:–
Барвовасць – тая ж сівізна,
Як і ў цябе, яшчэ й з прыплешынай…"

Я пахваліў чупрыны медзь:
Няхай крыху сябрук пасвеціцца,–
Яму вясною зелянець,
Мне ж – веснаваць пад зімнім месяцам…

Мы развіталіся… Паклон
Жніўю з вятрамі пералётнымі…
Свяці, ліхтарык, наўздагон
Майму вяртанню незваротнаму…

ПЫТАННЕ ДА ЗОРАК

Ці вы – пакутныя вандроўніцы,
Бязмэтна кінутыя ў шлях,
Якому Бог адзіны роўніца,
Дзе ні пачатку, ні канца,
Ці я – надзеі вашай крах,
Смяротны водгалас тварца,
Што мной ад вечнасці бароніцца, –
Хто з нас важнейшы ў тых вянцах,
З якіх паўстаў сусвету гмах?
За кім так час шалёна гоніцца:
За вамі, зоркі, ці за мной
З маёй імгненнасцю зямной?
Не знаю я, а з вас хто скажа:
Ці міг, ці вечнасць пераважыць?..

х х х

Узвіжанне – вужакі і вужы
Віюцца зябка ў парудзелых травах,
Віжуюць, каб без ордэраў лаўжы
Ўзяць пад зімплошчу – са змяіным правам…

Ніхто тым днём – ані нагою ў лес:
Крый божа ў той паток паўзучы трапіць!..
Што чалавек!—ніколі звер не лез
На ўзвіжны шлях ні капытом, ні лапай…

Узвіжанне… Ніводзін варажэй
Той ход спыніць ці адвярнуць не можа.
Ды ёсць сакрэт: чым будзе лес бліжэй
І чым радней, тым лепш табе паможа.

Я знаю кут, што вечна дрыгвянеў
У чадных буяках і журавінах,
І ведаю, што тут супроць мяне
Не выдаваў дэкрэтаў цар змяіны.

Я там хадзіў, нібыта пропуск меў.
Глухія нетры сцераглі вужакі.
І ўзвіжанне, каб мой суняць сумнеў,
Лес ахінаў таемнаю імжакай…

ТОЛЬКІ…

Тыя ж зорныя над галавой
Пяць Касцоў – Касіяпея…
Толькі што ж яны – і зімой
Дакасіць сенажаць не паспеюць?..

Тая ж рэчка і ў тых берагах,
Тыя ж пояць яе крыніцы,–
Толькі ў жаб зябкі жах у вачах,
І не ходзіць шчупак бліскавіцай…

Бор такі ж, як і вечна быў, –
Толькі ў небе ягоным зялёным
Узышлі аблачынкі журбы –
Купкі жоўтых бяроз і клёнаў…

Я таксама, здаецца, той:
Яшчэ летнія думы ў зеніце.
Толькі вырай – на думы слатой:
Гусі, гусі, лета вярніце…

## ЗЕРНЕ

Яно нікуды не спяшаецца:
З ім смерць – як вечнасці запас.
Яно ніколі не спазняецца:
Зерне заўсёды прыходзіць у час.

Яно злятае імгненнаю крэскай,
Кладзецца ў глебу з цёплай рукі –
І памірае, каб уваскрэснуць
У зерні будучым. Праз вякі.

## ЗАЎВАГА ДА “ФІНАНСАВАЙ СПРЭЧКІ ВЫДАЎЦА З ПАЭТАМ”

Не бывае паэзія стратнай.
Гэта выдумка таўстасумаў.
Паэт – аратай з нябеснаю ратай,
А ў раце – бясплатныя думы.

Неаплатныя думы… Бярыце –
І паэту любоўю плаціце.
Ці хаця б – нікчэмнай увагай:
От жа ёсць ад нябёс бадзяга…

Можна й так: “летуценны вандроўнік”,
Ці прасцей: “не адгэтага свету”…
Толькі знайце: ён душаахоўнік, –
Гэта й будзе плата паэту.

Ды яшчэ пры рахунку, зазвычай,
Застанецца ён вам вінаваты.

А ці сплаціць? – хто знае, хто злічыць…
Гэта й будзе вашая страта…

x x x

На ланах тамоў і прытомкаў
Каментарыі – як крэматорыі:
Дапальваюць косці патомкаў, –
І гэта завуць гісторыяй.

Як пальцы да царскай пальчаткі,
Прымерваюцца палітыкі
Да тэзісаў, што нашчадкам
Трактуюць з вякоў аналітыкі.

У цьмяны крышталь аналогіі
Глядзяцца, нібыта ў люстэрка,
Прарокі, душой убогія,
Нахабныя да істэрыкі.

Парткормнік са скуры дзярэцца:
Здымае і дзесяць, і сто грахоў.
І сцяг святыні ірвецца –
На сувеніры з аўтографам.

Частуецца пойлам атрутным
Народ з катлоў тэлерадыё.
Блазнуе слязой пакутнай
Сіямскі блізнец з уладаю.

Насмерць самаробны геній
Стаіць у даспехах паношаных.
І д'ябальскі вынік, як венік,
Змятае надзеі апошнія…

x x x

Адкуль любоў?
З нянавісці. Спаўна.
Любоў адна –
Як поўная адсутнасць.
Вужакаю з нянавісці яна
Вылузваецца:
Сутнасцю –
У сутнасць.

І нездарма
Пра той, адзіны, крок
Гавораць закаханыя
З адчаем:
Той крок
Не адваротны –

Ён знарок
Дзве бездані
Над безданню злучае.

Той крок –
Нібы абачлівы прарок:
Ён знае ўсё
І вучыць, каб не зналі,
Якія сілы –
На зарок і ўрок:
Як вусце і выток,
Святло і змрок, –
Любоў з нянавісцю
Смяротна павязалі…

x x x

Кудысьці з жыцця адлятаюць
/ Пра гэта ад сведак я чуў –
Каго з той дарогі вяртаюць /…
Што ж, пэўна, і я палячу…

Святлом да святла далучуся.
А потым – ты станеш чыя, –
Часцінка святла Беларусі,
Душа трапяткая мая?..

Ці пылам касмічным вецер –
Няздзейсненыя ў Хрысце –
Мой след і мой цень у сусвеце
На зорных шляхах замяце?..

І ўсё. І ніякай разгадкі.
Як простая мудрасць Тварца:
Дарога не мае пачатку,
Дарога не знае канца…

x x x

Жыццё – і развітанне і абман:
Імгла ў былым і ў прышласці туман.

Жыццё – пытанне на крыжах дарог:
Накрэсліў лёс, ды разгадаць не змог.

Жыццё – малітва небу і зямлі,
Што міг бяссмерця і табе далі…

x x x

І радасці, і самоце
Не так сабе ўсутнены круг:

Плакаць – на адзіноце,
Смяяцца – гуртам ці ўдвух…

x x x

Не ў тым сакрэт: “было” ці “не было”? –
Ці ты паэт, ці з кірмашу патлумак.
Не ў тым сюжэт: “зламалася крыло”,
А ў тым – якія абудзіла думы…

x x x

Маўчаннем, як нямое небыццё,
Ці выдыхам, нібы надзея, даўкім, –
Урэшце рэшт канчаецца жыццё
Кароценькай адмоўнаю прыстаўкай:

“Неда-…”

“Неда-…” – бывае ў кожнага сваё:
Недачакана і недаспаткана,
Недаспявана і недакахана, –
І ўсё яно – маё, маё, маё…

“Неда-…”

ПАХАВАННЕ ПАЭТА

Зямля не цеснай і не вузкай
Была. Ды ён з усіх дарог
Абраў апошнюю без музыкі
І ціха між вяскоўцаў лёг
Ля матчыных стамлёных ног,
Каб вечна гаманіць па-людску.
Пакінуў гарадскі парог,
Дзе мова ўсім была нагрузкай,
Дзе ўжо і сын сказаць не мог
Яму двух слоў па-беларуску…

x x x

Каго пытаеце, сыны:

Хто вінаваты без віны?
Чый шлях прамы кудысьці збочыў?
Каму – усё наадварот:
Калючы дрот – гаючы дрот?
Хто сам грабецца да труны,
Кладзецца, закрывае вочы?..
Краіна рабская, народ,
Які народам быць не хоча…

Над кім галосіце, сыны?..

## 1997

x x x

Мароз і сівер – на лісцё,
На карані – пясок-жаўцяк, –
А як жывём, а як расцём?..–
Калі жыццё не ёсць жыццё,
А ўратаванне ад жыцця…

x x x

Я ведаю, што дрэвам паміраць,
Згараючы ў агні, наканавана,
Ім сонца – кожнай клетачкай збіраць,
Каб выбухнуць аднойчы палымяна…

Я гэту “веду” выдумкай заву:
Не наш агонь тут і не нашы дрэвы, –
Я толькі моўчкі падаю ў траву –
І космасу ляснога чую спевы…

x x x

Я за цябе маліў багоў, –
І ўсе гадзіннікі спыніліся,
І сонцы на драбкі разбіліся
Ад змроку грэшнага майго…

Я з кожным словам нелюбеў,
Зусім таго не разумеючы,
Што я ўжо не да боскай велічы –
Што я малюся на цябе...

Была малітва як зарок.
І ў кожным слове быў той змрок…

ЗНОЎ БЫ ТАК…

Зноў бы так: апынуцца ў травах,
Нібы жаўранак – з галавою,
І да песні ўзлятаць – не да славы,
Захлынуўшыся сінявою…

Зноў бы так: тую сцежку да раю
Адшукаць, як было напачатку,–

І не знаць: што жыццё адкрывае,
І не мець: што за ім – здагадку…

## НАД ЖОЎТЫМ ГРУДКОМ…

Бяроз перашэпты патайныя
Над жоўтым грудком самоты…
Здаецца, і ўсе пытанні.
А ўсе адказы – на потым…

x x x

Ходзіць, ходзіць клён па хаце –
Бесцялесны цень:
З кута ў кут, як нешта страціў, –
Кожны божы дзень.

Ад застолля да парога –
Вершамі Басё, –
Не гаворыць мне нічога,
Бо я знаю ўсё.

Мігатлівы іерогліф
На зыходзе дня…–
Гэта вас, душой знямоглых,
Страшыць цішыня.

Мне ж яна – як дар нябесны,
Боскі напамін,
Што і я – як Уваскрэслы:
На зямлі адзін.

А другі – з табою, маці,
Кожны божы дзень…

…Ходзіць, ходзіць клён па хаце –
Мой касмічны цень.

x x x

Я помню: “Ведаць будзеш многа,
Уміг састарышся”,– казалі,
Калі цікаўнасці малога
З усмешкай крылы падразалі.

Я адчуваў, як з кожнай лічбай
І з кожнай літарай мудрэю, –
І запытанне на абліччы
Нёс да люстэрка: ці старэю?..

Вышукваў тайныя маршчынкі
І сівізну шчыпаў на скронях.

Плыло дзяцінства аблачынкай
У край развеяных ironій…

І быў у мудрым тым старэнні
Дзень заўтрашні, як учарашні,
І мне, як Богу ў дзень тварэння,
Было і радасна – і страшна…

x x x

А слова – Бог. І тут няма паловы.
І з кожным днём – маўчанне даражэй.
І з кожным днём – мялее мнагаслоўе,
І з кожным днём – да ісціны бліжэй.

x x x

Як маўчання час абрынецца,
Як шляхі ўсе замяце –
Над бязмоўем, над бяскрыліцай
Хай твой голас прарасце.

Ты ад згубы, ад пагібелі,
Ці на шчасце, –ўсёадно:
На зялёным лузе выбелі
Белы кужаль-палатно…

Дзе па лузе ногі босыя
Беглі ўранку па расе,
Хай душа мая без просыпу
Чорны грэх над ім нясе…

x x x

Да таго, што даўно адшумела, –
Нібы ў змрок, абрываўся крок.
Да таго, што даўно адбалела, –
Год за годам – як горкі зарок:

Не вяртайце, што досвітак знішчыў,
Не гартайце назад каляндар.
Не хадзіце на папялішча:
Гэта страшней, чым пажар.

x x x

Калі “бацькі літаратуры”
Пляваліся на “Бум-бам-літ”,
Хвалілі рай наменклатурны
І снілі творчы маналіт;

Калі змагаліся Саюзам

За выжыванне, і калі
Ахвярнікаў калгаснай музы
Пад “вертыкаль” раўняць вялі;

Калі з натхнення выбіў “рынак”
Апошні дух, апошні клёк,
І век дваццаты з літпярыны
На мулкі скочваўся палок;

Калі ў “папсы” і ў самых знаных
Быў роўны велічы глыток:
Ці бухні ў тры тамы раманам,
Ці дзьмухні вершам у свісток;

Калі байцы парасстралялі
Сваю лірычную шрапнель
І па спажыву вылязалі
На прэзідэнцкую панель, –

Тады ахоўны Спас з’явіўся,
І навучыў, і засцярог, –
Я Слову ціха памаліўся:
Бог Слова даў – і возьме Бог.

х х х

Сорак год біблейскі Майсей
Па пустыні вадзіў сваё племя,
Каб навек адрынулі ўсе –
Нават з памяці – рабскае семя.

Сорак год з Егіпта ішлі
Да зямлі, абяцанай Богам.
І па-рабску Прарока клялі.
Толькі ён не з’іначыў дарогу, –

Той, хто ведаў: дойдуць тады,
І сапраўдная воля ўваскрэсне,
Як апошні раб назаўжды
У душы сваёй рабства закрэсліць…

Сорак год – я таксама хаджу,
І пустэльна маўчыць дарога.
Сорак год сваё слова ваджу, –
Азірнуся: нікога, нікога…

Я хацеў паклікаць народ,
Каб са мной збіраўся ў пустыню,
Ды знямеў: аж на сорак год –
Сам зямлю сваю хто ці пакіне?..

х х х

Вы ў небе што-небудзь бачылі?
Не? То яшчэ паглядзіце,
Калі пад выццё сабачае
Спіць ветах старэнькім дзіцем;

Калі абрываюцца сувязі
Жывых і мёртвых пачаткаў,
І ўсходу і захаду сумессю
Віхурацъ Аляска з Камчаткай;

Калі аднамоўе чорнае
Сябе за Ўсявышняга лічыць,
І зор галасы незлічоныя
Трымцяць у няволі касмічнай, –

Бачыце: хусткай матулінай
Слёзы ўціраючы ў скрусе,
Ляціць душа беспрытульная
Апошняга беларуса…

x x x

Паэту насцеж адкрыты свет –
На выдмах самотнай памяці
Блукае ён па абломках планет
І знае ўсё там да каліўца:

Якая раса ападала на дол,
Хто спаў у рачных завоінах,
І песні якія збіраў за стол
Цень пераможцы-воіна.

То вольнаю птушкай з вякоў ён ляціць,
То цяжка брыдзе чанатропам,
То ў тысячу год зробіць круг – пасвяціць
Каметаю Хейла-Бопа…

У прышласць паэт, як дзіця, глядзіць,
Хоць вочы агонь апякае.
Не трэба яго за давер судзіць –
Ён знае: цалуе Каін…

І сёння ён кожнай кузюрцы кузен
І кожнай травінцы роўня,
З малітвай да музы стаіць у чарзе
І п’е – без чаргі – за здароўе…

І толькі нічога не ведае ён
Сам пра сябе. І засведчана:

Гэта прароцтва, а не праклён

З ім ходзіць загадкаю вечнаю…

x x x

Я апошні, хто жніўныя песні
Слухаў тут, над мачулінскім полем, –
Вы куды іх, дзяўчаты, занеслі,
Дзе схавалі? – не ўзнаю ніколі…

Толькі помню: у гуках вячэрніх
Быў і лёс, і каханне, і смутак,
Быў анёл мой жытнёвым свячэннем
На пажарышчы дня ахінуты…

Дагарэў небасхіл на заходзе,
І чарнеюць сутулена стрэхі.
Дзе ты, песня? Маўчыць, не прыходзіць…
Я – той песні апошняе рэха…

x x x

Свет калапсуецца ў вечнасць,
Смерць разрывае прастору.
У вечнасці – з Богам сустрэча,
Прастора – расстання апора.

Ад вечнасці не адгародзішся:
Спрачайся ці не спрачайся –
Калі ў прасторы народзішся,
То паміраеш у часе.

Калапс: і ўсё, і нічога.
Як вечнасць: да Бога дарога.

x x x

Зноў уладнае віжаванне
Ападае на душы смогам.
Злоўжыванне ці зловыжыванне –
Не пытае ніхто ні ў кога…

А спытаеш – ніхто не скажа,
Прамаўчыць ці ўсміхнецца хітра:
Прападай, калі ты нехлямяжы,
І дужэй – пад нягодніцкай мітрай.

Стой у божым храме са свечкай,
Нібы з ленінскаю цытатай,
Стой з абліччам святой авечкі
І з нутром кампартыйна-вусатым.

Ценем сталінскім ахінуты,

Люд затузаны ў светлае заўтра
Зноў гукай – саладжава-люты
Ілюзійнай утопіі аўтар.

Ну а мы? Як мурашкі тыя,
Валачэм смяцінкі ў кубельца,
А над намі тупыя крутыя
Пахаджаюць, як лорды-ангельцы…

Ну а мы? Свае душы і мову
То ратуем, то зноў дратуем,
І пакорна ўзнімаем галовы,
Калі лозунг забыты пачуем.

І бяжым у чаргу па шчасце –
З твараў пот асыпаецца градам.
Ну а шчасце – таматны часцік
З "Русской водкой" – рубель за градус…

x x x

У землятрусах свету,
На торжышчах рэвалюцый
Паэты не прадаюцца.

Паэты, як эстафеты:
Ад лідэра да клеўрэта,
Ад штудара да сатрапа –
На эстафетных этапах –
Паэты,
Як палачкі,
Перадаюцца
І ў трыумфатары пхнуцца…
А рэштка –
Не перададзеных,
Без эстафетных дадзеных, –
Так, нібы ляпу-чапу:
Паэтамі і застаюцца…

БЫЎ ПЕСЕННЫ ЗАЦІШАК…

З бярозавай пяшчотай –
З майскаю лістотай –
Мяне віншуе шпак.
А я ўжо думаў: што там –
Няўжо сарока ўпотай
Паласвалася ўсмак?

Хоць саракоў не сорак –
Адна: з блакітных зорак,
З яечак трапяткіх,
Шпакам і мне на гора

Павысмактала ў горла
Няспетай песні міг?..

Аж не – то быў зацішак,
Калі і шпак не дыша
Над стоеным гняздом…
А сёння ў людзі выйшаў:
Бяроза ўжо калыша
Нашчадкаў поўны дом!..

## РАМАНТЫЧНАЯ ЗГАДКА Ў МЕРКАНТЫЛЬНЫ ВЕК

А было ж, было такое:
Хлопец ноч блукаў,
Да світання над ракою
Любую чакаў.

Да світання пераслухаў
Салаўёў усіх.
І насіў у сэрцы скруху,–
Як мальбу, насіў…

Не гуляйце, ветры, ў полі –
Хай паспіць бяда…
За такую за няволю
Волі не шкада!..

## А НАПЯРЭЙМЫ…

Амаль класічны сюжэт

З памяці задрыгвянелай –
Эх, растуды б… разгарнуцца б!.. –
Выцягваюць, як да расстрэлу,
Ночы і дні рэвалюцый.

Крычаць? – не па горлу, бо мокрыя:
Слата, – то й маўчаць зацята
Ды з правадырскіх апокрыфаў
Мычаць баявыя цытаты.

І плішчыцца плашч габардзінавы –
Шынель пры партыйным загнеце –
Да паратунку адзінага:
У чырвань сцягоў адагрэцца…

А напярэймы – валам
Голеныя патыліцы –
Крымінальнікі капіталу:
– З дарогі, партыйныя мыліцы!..

Як на дарожцы вузенькай –
Іменем рэвалюцый –
Сыходзяцца два саюзнікі,
Каб назаўжды размінуцца.

Абодва – у кропельку кропля:
Не ўтоіш бацькоўства ў сыноўнасці.
Абодвух свянціць, каб не ўтоплі,
“Коррупция* невиновности”…

___________-
*Не блытаць з устарэлым: “прэзумпцыя”…

НАД РЭЧКАЙ ПАРЭЧКА…

Над рэчкай парэчка
Заўжды саладзей,
Чым тая, густая,
Ў садах у людзей.

Ці сонца там болей:
На дзень, як на год,
Ці доля на волі
І ў ягад – як мёд?

Ці меней сурокаў
У казцы лясной –
Ад вока далёка,
Ад зайздрасці злой?..

Ці спрэчка-пярэчка
Сплыла па вадзе?.. –

Над рэчкай парэчка
Заўжды саладзей.

РАДАВОД

Пчол няма, а ўсё чмялі
Весняй халадзінаю.
Пэўна, й пчолы пачалі
З пра-чмялёў радзінную.

Не баяцца азалець
Дзікія старальнікі,
Галасы гудуць, як медзь
На званіцы раненька.

Не зважаюць, што і цвет
Не бушуе – вохкае, –
Паглядзяць: ляціць сусед –
І наўслед упохапкі.

Покуль выкіне ячмень
Каласы вусатыя,
Трэба ў сотах – знае чмель –
Мець пітво багатае.

Выглядае ўзятак ён
Носікам і лапкамі,
Каб сабраць мядовы плён
На зімоўку зябкую…

Вось ад гэткага чмяля
Пчолы й разраіліся.
Гэта ўжо ў сям'і пасля
Трутні распладзіліся…

х х х

Каб зразумець: ты крэўная часцінка
Таго, што чалавецтвам называюць,
І каб адчуць: ты ў небе аблачынка,
А неба – тайна вечнасці нямая, –

Не век пражыць патрэбна і не вечнасць,
Нібыта ліст, згубіўшыся ў лістоце,
А між людзей застацца ў адзіноце –
Як сцверджанне і супярэчнасць.

## НАШ ЛЕМАНТАР

*Беларускі малюнак*

А мама мая
З моваю, хрупкаю, як агурочнік,
З гэткім жа кволым цветам:
Як для пчол –
І то не хадзіць, а толькі даткнуцца,
Са словам і пр*ы*слаўкам,
Як са смакам і пр*ы*смакам:
Крамяным,
Што хрумстае, як агурок,
Ці горка-дзябёлым, –
Нібыта асот, калючым…
Дык вось:
Мама
І не ведала нават,
Што гаворыць па-беларуску…
Зрэшты, яе гэта і не займала,
Калі яна размаўляла
З тымі ж гурочнымі косамі,
Каб завязь з грады не выносілі,
Ці без лексікі юрыдычнай

За плот
Інтэрніравала асот, –
Абы яе разумелі…
Як і гэта:
“Святы Божа,
Святы моцны,
Святы несмяротны,
Злітуйся над намі…” –
Так малілася мама –
І мяне навучыла таксама.
І не здагадвалася,
Што гэта беларуская мова
Пракралася ў малітву
Міма царквы –
Русской православной, –
Рэхам ад уніятаў
Пераскочыла праз стагоддзе,
Схаваўшыся ў нашу хату
І ў маю – праз маміну – памяць…

А тата,
Хоць школ не канчаў,
Ужо так-сяк вызначаў
Адметнасць сваю. Ды з гэтым
Толькі і клопату знаў,
Калі чытаць пачынаў.
Бо прынёс ён сваё грамацейства
З царскае службы гвардзейскай,
А там, па статуту, відаць,
Вучылі па-руску чытаць…
Каб розум я сённяшні меў,
Пра ўсё распытаць бы паспеў,
Бо тата прыгадваць любіў:
Як трапнай стральбой па мішэні
Гадзіннік здабыў –
Кішэнны:
На ланцужку бліскучым вісеў;
І як чарку царскую піў,
Калі нарадзіўся наследнік –
Наступнік на трон – Аляксей…
А сёння ў каго спытаць?..
А *там* – калі і спытаю –
Ці будзе каму расказаць?..

Але і па сёння здзіўляе:
Лейб-гвардыі радавы,
Царскай сям'і вартавы
Толькі па-руску й чытаў –
Іншых “азоў” не спазнаў…
А нашы словы вясковыя
Ледзь-ледзь па складах выштукоўваў.
І сам нямала дзівіўся:

Нібыта чытаць забыўся…

Але было найдзіўней:
Што не дзівіла людзей –
Ні бацьку, ні маці,
Ні дзядзькоў, ні суседзяў, –
Чаму гэта ў нас, не ў Расіі недзе,
А ў Беларусі, у саменькім цэнтры, лічы,
І ў самым цэнтры балот
Гэтага цэнтра,
Нейкі савецка-раённы чын
Знайшоў перавагу ў працэнтах
Расейскага элемента…

Спрадвеку беглыя маскалі
/ У Літву ўцякалі ад ніканіянцаў / –
Стараверы ў вёсачцы нашай жылі.
І на школу рускую займелі шанцы…

Хоць – яшчэ на адно здзіўленне –
Найбеларускае нашых слоў
Было ў маскалёў
Вымаўленне:
“Яна”, “сцяна”… – як напаказ! –
Дзе “йына” ды “сціна” выходзіла ў нас…
І тым не меней – на рускі лад
Пачатковая школа
Малола
“Рабят”…

Праўда, гэтак было да вайны,
Вялікай Айчыннай.
Нас ужо – тыя ж чатыры сцяны –
Па-беларуску вучылі.
Бо калі ў акупацыю
Новыя спісы складаліся,
То вяскоўцы “нетутэйшае нацыі”
Беларусамі запісаліся:
Хтосьці сказаў з тагачасных паноў
З валасной ці з раённай управы,
Што пасля яўрэяў ды цыганоў
І на рускіх пачнуцца аблавы…

Такая пад час акупацыі
Была ў нас беларусізацыя…
Хоць, аднак, у беларусы ўсе падаліся,
А старaверамі засталіся…

Мне ж, хто “яна” ў пачатковай школе
Ад старавераў вучыўся адольваць,
Зноў неўзабаве знайшлася нагрузка:
Ужо “она” прамаўляць па-руску.

Бо хлапчуку, што вымочваў лён
У мачулінскім мачылішчы,
Выпала здабываць навукі плён
У “ Борисовском русском педагогическом училище”…
Так-так: у нашым, айчынным, –
У слаўным Барысаве на Беразіне,
Дзе калісьці французы свой форс падмачылі, –
Там праходзіць русіфікацыю давялося і мне…
На настаўнікаў нас рыхтавалі,
Відаць, для такіх жа школ пачатковых,
Што калісьці Мачулішчу дакляравалі:
У беларускай хаце з рускай мовай…
І пэўна, наш выпуск невыпадкова
Ў Заходнюю Беларусь “размеркавалі”:
Хутаранцаў-аднаасобнікаў былі павінны
Мы вызваліць з беларускае шкарлупіны…
Суцяшэнне малое,
Што я
Не “вызваляў”,–
З клічам спляжыць былое
“Заходнікам” неназаляў.
Былі іншыя –
Тысячы тысячаў:
Рупліўцы –
Дрэва нацыянальнае
Высекчы.
Пад корань, пад нуль –
Такая народу шана
І цана:
Усіх –
Авечаю чарадою –
Пастрыгчы пад інтэрнацыянал,
Але з Марксавай барадою…

Так і стрыглі, і карчавалі,
Каб
Беларусы ў Беларусі
І не начавалі.
І пан, і раб –
У гадоў завірусе –
Баяліся,
Каб
Не апынуцца ў “нацдэмах”,
І не пыталіся:
Хто мы і дзе мы…
Крый божа, прызнацца,
Што мова –
Наш лемантар
Беларускі,
Які зберагаў
Духоўнасці дар
Нам на палосках вузкіх –

Пры самых шырокіх сістэмах.

Ды гэта ўжо іншая тэма…

А я толькі ўсяго і хацеў
Расказаць пра маму,
Якая не ведала,
Што гаворыць па-беларуску…

А пачаў –
Зачапіў ледзь не ўсё сяло.
І нават далей,
За сяло,
Павяло…
Ат, было-ні-было –
Што сказалася,
Як адцвіло
І на добры плён завязалася, –

Кропка.

РЭХА СТАНЦЫІ “НЯМІГА”

Хвала прагрэсу! Мінскае метро –
Таксама і вітаем, і ўслаўляем,
Хаця б за тое, што зямлі нутро
Па-беларуску з намі размаўляе.

Нібыта прыклад нам усім дае,
Нібыта ўсё пытаецца з дакорам:
– Я да сваіх – па-свойму… А свае?..
Карціць адно спытаць: “ А вам не сорам?..”

Дык вось: мінчук ты ці заезджы госць,
А каб па-беларуску падвучыцца,
Ідзі ў метро: тут курсы мовы ёсць,
Якіх нідзе не знойдзеш у сталіцы.

Бяры любы кірунак – і гайда:
З прыпынку першага на мове нашай мігам
Засвоіш пару слоў… Адно шкада:
Метро не скажаш дзякуй за Нямігу…

Хоць коштамі ніхто не растлусцеў, –
На першы міг ашчаднымі, нібыта, –
Дабраліся да першародных сцен,
Растурбавалі горад старажытны…

Пашкуматалі, – не, каб зберагчы,
Каб абмінуць, – дык учынілі вэрхал,
І звалак індустрыйныя харчы –
Цагляны друз – натрамбавалі зверху.

І ў нетрах – не з пародаю пустой –
З пластамі памяці, што нечысці адсеклі, –
Праз падзямелле пад царквой святой
Свідруемся ў метро, як чэрці ў пекле…

## “РАЗВЕДЧЫКІ”

Гісторыя паўтараецца: як дзесяцігоддзі назад генеральскія чыны выступілі супраць акопнай праўды, што адкрываў у сваіх творах Васіль Быкаў, так і сёння знайшліся “аднапалчане”– ненавіснікі высокай грамадзянскай і творчай пазіцыі пісьменніка, якія заяўляюць: маўляў, з ім бы мы не пайшлі ў разведку…

Бывалыя франтавікі
Даўно між сабой прыкмячалі:
–А што гэта ў нас, мужыкі,
Навеюць аднапалчане?..

Штогод ад вайны далей,
А корпус штабны прыбывае:
На кожны, лічы, юбілей –
Такая сям’я баявая!..

І сёння штабныя харчы,
Што вывелі да перамогі,
Ім права даюць вучыць
І зноў вызначаць дарогі:

Таму, хто гразюку мясіў –
Не ў штабе сядзеў пры зводцы,
Таму, хто, як Быкаў Васіль,
Стаяў на прамой наводцы,

Хто там, дзе танкі ў крыжах
Ішлі – ні жыцця, ні аглядкі, –
На тых, агнявых, рубяжах
Наводзіў “саракапятку”…

Штабныя франтавікі, –
Пачуўшы праўдзівага сведку,
Крычаць: “А я бы с таким
Сейчас не пошел в разведку…”

Чаму? І скажыце, адкуль
Такая развед-брыгада:
Хто ў бліндажах ад куль
Згінаўся, як ад снарадаў…

Парадных прамоў салаўі,

А вам не карцела, хоць зрэдку:
А вы – пра якія баі?
А вы – пра якую разведку?..

Бо ёсць жа штрышок адзін –
Маўчыць, як набой у патроне:
Ён з вамі ў ВАЙНУ не хадзіў,
А вы не ходзіце СЁННЯ…

## ДВА БЕРАГІ

*Ля карціны Марка Шагала*

Два берагі – два недругі ў выгнанні,
І карані – пытанне з роду ў род:
Адкуль было біблейскае пасланне –
З Парыжа ў Віцебск ці наадварот?

Два берагі. На тым – хлапчук і маці,
І ты з улонняў над зямлёй ляціш
З каханай у абдымку. І не страціў
Яшчэ нічога. А здабыў Парыж.

Ды толькі там, ля Эйфелевай вежы,
Крывыя хаткі з віцебскай глушы –
З парослых муравой курыных сцежак –
Спаць не дадуць замроенай душы.

Два берагі. На гэтым – кветкі славы:
Падносіць нейкі animal букет…
Два берагі – ні сну, ні пераправы:
Тут – вобразы, а там – застаўся свет…

## ВЯРТАННЕ Ў НАРОД…

Сказаў вярхоўны інтэлектуал –
Між “вертыкальных” самы “вертыкал”:
“Інтэлігенцыя такая трэба мне,
Каб гнулася і ў думках, і ў спіне.
Што, кажаце, не створым прэцэдэнт:
Інтэлігент не гнуткі элемент?
Ёсць спосабы – навука ёсць з навук:
Захочуць есці, дык сагнуцца ў крук –
І рыфмаплёт, і клоун, і дацэнт…”

І на культуру “ўрэзалі працэнт”.

А каб заробак надтачыць кароткі,
“Нарэзалі” інтэлігентам “соткі”.
Цяпер галодны не ўпікне шахцёр,
Што мэтр пяра яго кавалак зжор.
Інтэлігенцыя вярнулася ў народ:

Інтэлігенцыя капае агарод.
На пустках узнімае цаліну
І трэніруе ў гнуткасці спіну:
У неба задам, носам у зямлю…

"Такіх інтэлігентаў я люблю!.."

## КАЛІ ЗАШЭПЧУЦЦА ПАЛЕТКІ…

Калі зашэпчуцца палеткі,
Кашы рыхтуйце, грыбнікі:
Удачай рэдкай на разведку
Выходзяць каласавікі.

Сам генерал грыбнога войска
Яшчэ сядзіць у бліндажы,
А ім: выходзь – і па-геройску
Сваё геройства дакажы.

Вылазь на сонечныя ўзлескі,
Што праглядаюцца наскрозь,
І ў штаб грыбны грыбныя звесткі
Штодня разведай і данось:

Якія ў грыбнікоў намеры?
Ці летнія дажджы ідуць?
І баявы загад: яшчэ раз –
Уласнай галавой праверыць:
Якія там грыбы ядуць…

x x x

Як сена косяць сенатары,
Як поле аруць аратары,
Як валяць валёнкі валютчыкі,
Як сала гадуюць салютчыкі,
Як кормяць курэй куратары,
І як умэнт завадатары
Заводы ўсе запускаюць, –

Настолькі мы і багатыя
Казною і дэмакратыяй,
І сутнасць у нас такая.

## ПУШЧАНСКАЕ СЛОВА

Каля зубрыных сцежак
Паціхеньку жыло –
І раптам з Белавежы
Сусветна загуло.

З пушчанскім імем вёска

Ўчыніла землятрус:
Пушчанскім адгалоскам
Развалены Саюз…

Палітыкаў галовы
Надоўга заняло…
А слова – проста слова:
Жыве, як і жыло…

Пушчанскіх нетраў шаты
Дзікам страхой былі:
Вішчалі парасяты, –
Таму і – Віскулі…
На мёд і воск багаты
І пчолы і чмялі
Збіралі тут узятак, –
То, можа: Васкулі?..

Шукае свет аснову…
А ўсё ж ямчэй, калі
Не стаўся сэнс вясковы
Вайсковым:
Вайскулі…

x x x

Я не магу – мне цяжка растлумачыць
І вам усім, але сабе найперш:
Які там лёс – лакейскі ці сабачы,
Ці боскі – абяцае мне мой верш.

Але – ён мой. І ён дае надзею:
Ён вам непадуладны. Ні на міг.
Хоць горкі час ад слоў не саладзее, –
Апроч паэзіі – я вольны ад усіх.

x x x

Божа мой, які ты літасцівы:
Грэшнаму такую даў красу, –
Сцежку гэту ля жытнёвай нівы
На той свет, як можна, панясу.

Ты дазволіш? Не крыўдуйся, Божа,
І мяне не дакарай дарма:
Сцежак шмат і там – не менш прыгожых,
Але гэткай – анідзе няма.

Гэты васілёк і гэты колас,
Што схіліўся ў перашэпце з ім, –
Дай узяць мне іх таемны голас,
Быць і там хоць трошачкі жывым:

Не душой касмічнаю, бясконцай,
Што з табой блукае праз вякі, –
Божа мой, смяротных абаронца,
Мне сцяжынку жытнюю пакінь…

## ГЭТЫМ ЛЕТАМ…

Гэтым летам Іван-ды-Мар'я*
Панавалі на ўсіх узлессях,
І лугі стараліся марна
Разнатраўем суняць тое шэсце.

Цвет ліпнёвы, збор кірмашовы –
Гэта вечная доля такая:
У тумане жоўта-ліловым
Закаханыя цені блукаюць.

Шэпчуць людзям таемныя словы –
Быль аб вернасці чалавечай.
І схіляюць людзі галовы,
Быццам дужа віноўныя ў нечым…

Я таксама ў сонечным леце
З пратаптанай сцяжыны збочыў
І – укленчыў, і слухаю квецень:
Што вяшчуе і што прарочыць?..

Кажуць, свет прыгажосць уратуе,
А Іван-ды-Мар'я ў паданні
Шэпчуць – грэшныя – праўду святую:
Свет ад згубы ратуе каханне…

Гэта квецень не дзеля паказу –
Гэта ісціны паўтарэнне:
Як Іван-ды-Мар'я – ды разам –
Стане й злосны свет на калені.

___________

*Адна са шматлікіх назваў фіялкавых / як і: бр*а*ткі, брат з сястрыцай…/

x x x

То юбілейныя, то пахавальныя –
Чыноўным клопатам – шумяць аўралы.
Як безнадзейныя, нібы на допытах,
Стаім у чэргах па рытуалы.

Усіх палоніла, усіх заблытала
І прага тытулаў і прага званняў.
Як прад люстэркамі, перад карытамі
Таўчэмся ў свінскім сваім дызайне.

І столькі спрытнасці тут выяўляецца,
Такія ў гонцы той б'юць рэкорды:
А што як раптам не атрымаецца
І ў пантэон не захопіш ордэр?!.

І як нагледзішся, і як надзівішся,
Тады й спахопішся шукаць заруку:
Дзяды крывіцкія, дзяды-радзімічы,
Ці пазнаеце вы сваіх унукаў?!.

Тады й вясковыя згадаеш могілкі:
Дзяды паклікаюць, прывітаюць, –
Чаго ж ты носішся, нібы ад вогніку:
Зямля вялікая – пахаваюць…

x x x

Будзе новы дзень – і далёкія
Не паклічуць нас небасхілы.
Нашы крылы растануць аблокамі,
Мы гарбатыя, як магілы.
Будзе зноў кумір новаспечаны
Нас прымерваць да ўласнага кроку.
А бяда наша – звышчалавечая:
Беларусь не чакае прарока…

ЗЯМЛЯ МАЯ…

Зямля мая, святая і адзіная:
З табой пайду, як і прыйшоў сюды.
Ты для мяне – як песня лебядзіная:
Апошняя і першая заўжды.

x x x

Гэты космас без берагоў,
Гэту чужую зямлю, –
Ты знаеш, Божа, тайну сэрца майго.
Адкрый мне яе, малю…
А каму раскажу, а каму аддам
Гэта пекла і гэты рай?!.
О не – хай усё застаецца там, –
О Божа, не адкрывай!..

x x x

Маўчанне ў высокіх нябёсах –
Замоўкла музыка сфер,
Па зорах не бегаю босы,
Патухлі зямныя росы, –

Адно засталося цяпер:
Каб вызнаўся дум уваскрослых,
Па цернях грахоўнага лёсу
Мяне – на сучасны манер –
Вядзе мой ахоўнік боскі –
Анёл-міліцыянер…

## НОВАМУ БЛАКНОТУ
## Ў ДЗЕНЬ РАЗВІТАННЯ СА СТАРЫМ

На песні невясёлай
Заканчваю блакнот.
Дай шчасця навасёлам,
“Блакнот на новы год”…

Прытулак дай і ўдачу
Сумоўю, што збярог,
І ўсім, каго пабачыў
На ростанях дарог.

Дзе Жыцькава і Столін,
Дзе Крупкі, Азярод, –
Дай хлебаробу долю
На рунь і на ўмалот…

Сялява ёсць і Шчучын,
А невад суха спіць, –
Дай рыбаку рашучасць
Надзею не ўтапіць…

Бярозаўка, Прыклёнкі,
Дуброўніца, Барок, –
Дай дрэву стрыжань звонкі
І крону да аблок…

Крылова, Чапляняты,
Цяцерына, Дразды, –
Дай птушкам песню ў хату
І ў год – па два гнязды…

Лісічына і Тураў,
Бабёр і Барсукі, –
Звярыную натуру
Не дай на лёс людскі…

Малінаўка, Суніцы,
Калінкавічы ёсць, –
Хай сон салодкі сніцца
Малым – як з лета госць…

А мне – не трэба многа, –
Сказаць – дык смех адзін:

Па каліўцу з дарогі –
Па слоўцу – на ўспамін…

х х х

Хто пад сасной,
Хто пад сцяною каменнай
Заляжа, –
Усе там апынемся,
Уразнабой, па адным.
Перахаваемся –
Сведкі ад сведкаў,
І хто мне раскажа:
А што будзе там,
За часам, –
Не вечным –
Маім?..

х х х

Пажыткі збіраем –
Сустрэцца:
Хто з пеклам, хто з раем.
І хай сабе ў кожнага
Будзе дарога свая,
Ды роўна –
На смутак і на суцяшэнне жывым
Паміраем:
“Мяне абышло,
Дзякуй богу, –
Пакуль што не я…”

ТРАВІНКА

Як ты далёка ад мяне,
Хоць кратаю цябе рукою.
Мой век імклівы прамільгне,
Як знічка, над тваім спакоем.

Мільёны светлавых гадоў
Пасуць адлегласць паміж намі.
І ў гэтай пустцы ні слядоў,
Ні гукаў – як паміж агнямі…

Мой век згарыць – і я ў труне.
А ты – загадка. Ты ўсё тая:
Пакуль цябе не разгадаю –
Як ты далёка ад мяне…

х х х

Адкінуць, што было: за-быць.

Забіць усё ў імя выгоды…
А як з Хрыстом?
А як жа быць
З братэрствам, роўнасцю, свабодай?..

x x x

Сёння ляцелі першыя гусі –
Адрывалі душу ад лета…
А дзе ж я ім столькі душ набяруся,
Калі адляціць і гэта?..

Як утрымаць яе, чым суцешыць?
Крылаты вырай знікае.

А я – па зямлі і па водах, – пешшу:
Бягу – і душу гукаю…

*24.09.97.*

І Ў СЕНЕ ТЫМ…

Пракосы да ракі паўзуць,
Смуткуе к*а*ня,
І звон мянташкі па лязу –
Як гук пытання:

Якія кветкі адцвілі,
Якія травы,
І хто такі я на зямлі,
Што маю права

Наўзмах касою вырашаць
Іх лёс зялёны, –
І ў сене тым прашамацяць
Чые заклёны?..

x x x

Ледзь сонца выгляне з-за хмар
І разбягуцца цені,
Выносіць пушча свой тавар –
Шуміць кірмаш асенні.

Не-не, яна не прадае
Нікому і нічога, –
А хто з гандлярствам да яе –
Прагоніць прэч з парога.

Я не прадажнай долі сын,
Таму й пушчанскі дар быў:
Буянства – волі і красы, –

І колераў, і фарбаў…

Вось крочыць дуб – упарты чуб –
У княжацкім кажусе.
А перад ім клён-сонцалюб
На дол святло цярусіць.

Бярозе мроіцца палёт
У залатым тумане.
Пад вязам лісце, быццам мёд:
Духмяніць і дурманіць.

Рабіна грэе лазнякі
Рубінавай каронай.
Як знак расстання трапяткі –
Асіны ліст натхнёны…

Вясёлкай пушча стракаціць,
А фарбаў – сем па столькі, –
Не пахваліцца ёй карціць –
Парадавацца толькі.

Ёй толькі разгарнуць сувой,
Як ткаллі-чараўніцы.
Каб я, згадаўшы ўсё, зімой
Мог ціха пажурыцца…

x x x

Час настаў: перачытваць Біблію,
Кнігу Кнігаў, Кнігу Быцця, –
Чорны шлях твой ніхто не выбеліць,
Ды пакайся – сівое дзіця…

Час настаў: не будзеш адрынуты
Між асенняй людской слаты, –
Толькі вырві з душы ўсё звярынае.
Бог даруе. Даруй і ты…

КАЛЯДНЫ МАТЫЎ

Добра было кабану,
Слаўна жылося:
Яшчэ падсвінкам цягнуў
Пудоў на восем.

А як пажыў ды паеў,
То недзе ўжо на Пакровы
Стаў цеснаватым хлеў –
Хоць сцены рассоўвай!..

На дайку адну – чыгун

Бульбы з мучною гушчай, –
І парсючок-шмыгун
Ад тлушчу вочкі заплюшчыў.

Не завугольны папас –
Цёпла, уежна і ўлежна.
І пад каляды якраз
Кіўнулі на кормніка:
– Рэжам?..

Смачна было парсюку –
Ды швайка сядзіць у баку…
Хацеў да лета дажыць,
А ўжо на снезе ляжыць…

х х х

Не знаю – гэтага замала
Ці ўдосталь на адно жыццё:
Ты сны мае не пакідала,
А ці пакінеш небыццё?..

х х х

Далей, далей – нібыта збег цішком –
Ад сцежкі, што на траўцы паяском…
Бліжэй, бліжэй – да гурбачкі з пяском,
Дзе шлях ірвецца тонкай павуцінкай…
А ўслед, а ўслед – вачыма васількоў,
Пакінутае мной паміж вякоў,
З душою хлебнай першых каласкоў, –
Глядзіць асірацелае дзяцінства…

х х х

Я не дзяліў на праведных і грэшных
Людзей. Усё ад Бога – думаў я.
А можа, гэта д'ябал мне падсмешна
Свае наканаванні падстаўляў?..

Лёс праляцеў містычнаю планетай –
Душы маёй у небе не сустрэў.
Шкада агню, што адгарэў бязмэтна…–
І можа, анікога не сагрэў?..

## СВЯТЫЯ І ГРЭШНЫЯ

Памру, не пабачыўшы Рыма
І не прывітаўшы Парыж, –
Няхай сабе! – грукну дзвярыма
Я *гэтага* свету! –
Глядзіш –

І *той* здрыганецца маўкліва,
Спалохаўшы райскіх дзеў.
А я – усміхнуся журліва:
Я ў гэткія вочы глядзеў!..

КАЛІ?..

Цябе шукаем днём з агнём –
І ў будні дзень і ў свята.
Цябе гукаем і клянём –
А ты маўчыш зацята.

І ўжо стамлёным прыгукаць
Цябе з маўчання тога
Карціць па д’ябальску спытаць:
А ты ці ёсць наогул?

Гісторыі іспыт круты:
Забыўся – дзе і хто ты?
Знядужаны ці п’яны – ты
Спіш пад стагоддзяў плотам?

Сыноў гадуеш ці бадзяг,
Крыклівых і бязродных?
Ці песню носіш у грудзях
Ці стогн душы нязводны?

Ці лёс такі твой: на крыжы
Быць і не знаць аб гэтым?
Калі ж абудзішся, скажы,
Перад сабой і светам?

Шляхоў не высніш залатых:
Праз бруд і кроў дарога…
Калі ж народам станеш ты –
Мне абяцаны Богам?..

МАЛЮНАК З ВЫСТАЎКІ

Гаварыў канструктар Калашнікаў,
“Бацька” славутай мадэлі “АК”
/ Я думаў, гэта “дзядок” сто разоў “учарашненькі”,
А ў яго – калачом ірдзіцца шчака!/

Ён выст*а*ву зброі нахвальваў узахліпкі –
Аўтаматы “бацьку” былі пад густ:
І сабе навар, і тавар для Афрыкі, –
Аж у пальцы ўказальным – ад спуску хруст.

“Я прайшоў, паглядзеў – і пабачыў я,–
Гаварыў дзелавіта выст*а*вы госць, –
Не адно толькі якасцю зброя пазначана –

Ёсць і пэўная ў ёй прыгажосць!..” –

І пайшоў далей тварэц кулямётны,
І не знаю: ці бачыў ён,
Як над ім свяціўся німбам смяротным
Прыгажосці пачварнай плён…

СУЦЯШЭННЕ

Крыві нічыёй не піў,
Нікога не пакараў,
Не збэсціў, не абакраў,
Нікога не затапіў,
Не чвартаваў, не забіў…–

А добрае што зрабіў?..

x x x

Гартае восень каляндар
Назад – як час адкручвае,
Зямлі ў праднавагодні твар
Сячэ дажджом дакучлівым.

Граку залезла пад крысо
З вясновымі згрызотамі…
Загнала ўсіх пад парасон
Экзотыка мярзотная.

Грыпозна ў мікрафонны рот
Сіпіць артыст заслужаны,
І скача Дзед Мароз уброд,
Як п’яніца, па лужынах.

Не па сезоне на двары
У восені амбіцыі:
У сем руччоў бяжыць з гары
Сняжніцаю,
як быццам бы

Зіму ўзвяла на эшафот
І горла перарэзала…

Ідзе аблезлы Новы год,
Як і жыццё, – аблезлае…

1998

x x x

Век вучоны, пячорны век, –
Адлучоны ад дум чалавек:
Толькі шум, толькі тлум і паглум, –
Сее вечнасць будняў імглу…

І расце пустазельны прысуд:
Цёмны люд, п’яны чмут
Там і тут –
І наверсе, і з каранёў:
Ні пракокаў, ні іх агнёў…

Як над прорваю чорнай стаім:
З кім змагацца? – з народам сваім?!.

x x x

Кахалі мы і нас кахалі…–
І дзе той май? – о божа мой! –
Забыты, бо не эпахальны,
І сцёрты з памяці людской.

І толькі даўкімі начамі
Душы адной у хворым сне
Зрэдзьчас прашэпча без адчаю,
Што двойчы не бывацъ вясне…

СЛОВЫ, СЛОВЫ…

Ноччу людзям належыць спаць,
Толькі сон мой штоноч ірвецца, –
Дум зярняты перасыпаць
Ноч бяссонню ў наймы здаецца.

Сон даецца для добрых сноў,
А ў маіх – то пачвары, то жахі.
Прачынаюся – зноў і зноў, –
І кладу галаву на плаху.

Вось – штоночныя к*а*ты мае,
Вось – на сценах цені застылі:
Словы, словы, – як тло на крыле,
Як бяскроўная зябкасць рэптылій.

Словы, словы – за іх аддаю,
За абманныя і пустыя,
Першабытную волю маю,
Што ваўком кліча ў нетры густыя.

Словы, словы – я іх не праспаў,
Ды якая з таго мне рахуба?..

Толькі й сэнсу, што сон прапаў.
Словы, словы – спакуса і згуба…

Словы, словы – у думках маіх
Сам сябе праклінае Каін:
Уцячы б, збегчы, з’ехаць ад іх… –

І жыццё – нібы зала чакання…

x x x

На кожным дасвецці, на кожненькім золаку
Надзея асуджана прачынаецца:
Вось выйду на людзі – і ранішнім золатам
Слоў родных засыпяць мяне адцуранцы.

Надзея мая, – за цябе я мудрэйшы,
Але выбягаю з табою: “О людцы!..” –
А словы чужыя стаяць, нібы гейшы,
І за чынавенскі фавор прадаюцца.

І людзі, што мовы сваёй адцураліся,
Душой чужаземнаю высакародзяцца.
І гэтак штораніцы, гэтак штораніцы…–
О людцы, а з кім жа мне словам абродніцца?..

x x x

Сеецца, сеецца
Д’яблава насенне:
Самаўзвышэнне,
Самаўхваленне,
Самалізанне,
Самастаянне –
Перад сабою самім на каленях…
Дзе ж самавартасці
Той самаўпартасці?
Як па размаху:
Самаспаленне,
А як па паху:
Смаленне сумлення…

x x x

Яшчэ не зарасла быллём зямля,
Яшчэ і я не стаў пакуль што блазнам,
Але жыццё дзічэе спакваля,
І сэнс пайшоў – адно дзвярыма бразнуў.

Не вернецца? Ну што ж – замест яго
Бязглуздзіца павыстаўляла варту, –

Няма мазгоў, няма ў душы багоў,
А з д’яблам выштукоўваць сэнс ці варта?..

## УСЁ З ДЗЯЦІНСТВА…

Усё з дзяцінства: слёзы і ўсмешкі,
Неба палёт і зямная цвердзь,
Космас нашчадкаў і прашчураў рэшткі,
Велічы лад і душы крутаверць…
У хаце дзяцінства – вокны на сцежкі,
А на руінах дзяцінства – смерць.

х х х

Ёсць сведчанні, што ў к*а*сы супермаркетаў
Пад гукі несмяротнай “Марсельезы”,
За віны і каньяк французскай маркі
Купюры з партманетаў самі лезуць!

Такі эфект музычнага гіпнозу:
Гармонія мелодыі з напоем…
У нас жа – у музыкаў клёк цвярозы:
Расчуліць сэрца самае скупое.

Іграюць у падземных пераходах
Каля базарнай тлумнай Камароўкі, –
З працягнутай рукою да народа
Стаяць, як жабракі, аранжыроўкі.

І шапкаванне голасна спраўляюць
То скрыпка, то гармонік, то гітара.
У футарал ці ў капялюш шпурляюць
Музыкаманы рэшту ад базара.

Паслухаеш – і моўчкі сціснеш зубы.
А падзямелле гукамі блазнуе,
І гарадскіх камунікацый трубы
Акустыку арганна рэзануюць…

Жыццё – і праклянеш, пашкадуеш, –
І, можа быць, найперш сябе самога:
Няўжо тым словам, што ў душы гадуеш,
Наканавана гэткая ж дарога?..

Цячэ натоўп – са сходаў і на сходы,
І трэба ж, трэба мужнасці набрацца
Той музыцы ў падземных пераходах –
Мастацтву, акрылёнаму жабрацтвам…

х х х

Чалавек – гэта літара космасу,

Іерогліф, таемны знак.
Ёсць прыкметы – прамыя і ўскосныя:
Хтосьці прагне адказу.
            Аднак –

Мы стаім перад небам, няўцямныя,
І схіляемся да зямлі
Перад тою, апошняю, ямаю –
І бадзягі, і каралі…

І ў яе, як у бога, пытаемся:
Што за ёй? Што чакае нас?
Ці за гэтым парогам і тайна ўся:
Як пясочны, з рыдлёўкі, час?..

І ніхто знакаў тых не адолее,
Скласці з літар не можа адказ, –
Чалавецтва праграма школьная
Нас вядзе яшчэ ў першы клас…

## ДВА ШЧАСЦІ

Шугаў агонь у печы,
І ўся сям’я з цягла
Гаспадара пад вечар
Чакала да цяпла.

І мама ля загнета,
Увішная, цвіла
І поўняй – не на ветах –
Бліны ў стажок пякла.

А тата дровы з воза,
Рыпучыя, скідаў
І ў кажушок марозны
Мяне на рукі браў.

За пазухай аўчыннай,
Як быццам у гняздзе,
З душою салаўінай
Я ціхенька сядзеў.

І грэўся, покуль з печы
Не йшла на чапяле
Смажонка на сустрэчу
З блінамі на стале.

Мы поўню ў тук макалі –
Пшанічную радню,
Хвалілі, смакавалі
Напоўніцу, – з агню.

І зараз на пытанне,
Як жыў я на зямлі,
Скажу на развітанне:
Дні розныя былі.

Але між светлых самых –
Два шчасці на вяку:
З блінцом гарачым мама
І тата ў кажушку…

ЛЯ ПАКІНУТАЙ СЯДЗІБЫ

Беразняк абжывае гоні,
Спіць над котлішчам дуб стары…
І не кліча ніхто, і не гоніць, –
Хоць кладзіся і сам памры…

Маладзік па іржышчы колкім –
Па нябесным, зорным – ідзе.
Перапёлка вяшчуе золка:
Быць бядзе! Быць бядзе! Быць бядзе!..

НА ПОЖНІ ГРАК…

На пожні грак сутуліцца ў маркоце:
Іду – дзеля знаёмства – нацяནькі.
Прамень апошні, як вярбовы коцік,
Пяшчотаю кранаецца шчакі.

Праводзіць грак паглядам шнур гусіны:
“Ляцець ці не?..” – пытаецца ў мяне.
А мне ў каго спытаць? Хіба ў асіны?
Ці ў дуба, што на ўзлеску распанеў?

Тут летуюць яны і тут зімуюць.
І мне ля іх і ўтульней, і цяплей.
Наўслед высокай ноце нізавую
Адолеў грак: “Сядзі тут і залей…”

А хмара над астылым даляглядам
Напяла сырамятныя гужы,
І жоўтая завея лістападу –
Як лотаці вясновай міражы…

ПАДЦЭЛІЎ СТРАЛЕЦ…

Падцэліў стралец крумкача.
А я б гэту птушку не шкодзіў:
Няхай і крумкач – ды стагоддзі
Аселі ў ягоных вачах…

Што крумкае ён – вам няўзнак,
А можа, прамовіць ён хоча,
Што прашчур нашчадкам прарочыў,
Ды слова не ўспомніць ніяк…

А можа й застаўся ён жыць,
Пакутаваць і пеклавацца,
Каб нам праз стагоддзі дазнацца:
Куды гэта час наш бяжыць…

## ХАМУРАПІ

Конь канае. У пеністай храпе
Цуглі золатам зіхацяць.
Дзе ты, хто ты, цар Хамурапі, –
Я не знаў – і не буду знаць.

Пакацілася калясніца –
За гарамі вякоў Вавілон.
Толькі мне неадступна сніцца
Хамурапі акрутны закон.

І зусім не “да нашай эры”:
Я – у нашай, і наш сатрап
Мне такія стандарты адмерыў,
Каб я ведаў: хто цар, а хто раб.

Каб я помніў: адмерлі шумеры,
Клінапісныя знакі маўчаць…
Каб і я, нарэшце, паверыў,
Што ўжо час і мне адміраць…

Як на ўбой, каб і я пакачаўся
Ля карыта: паеў ды ў хлеў.
Каб я знаў: гаспадар зачакаўся:
Хоць свінячы – пачуць хваласпеў…

Каб і мне гісторыі мліва
Ад цароў ухапіць на замес,
Каб мой верш мітусіўся лісліва
Перад тым, хто на трон залез…

Каб адчуў: з удзячнасцю рабскай,
Запрадаўшы волю сваю,
У кампаніі хамурапскай
Са смяротнікам-словам стаю…

Каб і я сказаць не патрапіў,
Што аднойчы мне Бог адкрыў:
Не было і няма Хамурапі,
Покуль сам ты яго не стварыў…

ВАМ ХОЧАЦЦА ПЕСЕНЬ?..

Вам хочацца песень вясёлых?
Карціць? А з якое прычыны? –
О хіжыя навасёлы
Трыбун і тронаў айчынных! –

Якую ж вам песню ў народа,
Якую мелодыю ўкрасці,
Каб стала яна ўзнагародай
За наша вялікае шчасце
Вас бачыць у вашым паглядзе:
І гальштук, і вус для спакусы…–

Ну як пры такім парадзе
Не заспяваць беларусу!

Якія ж тут сумныя гукі,
Калі на абліччах росквіт
У вас заплывае тукам
І ўсмешка па вушы – уроскід…

Я быў на той шумнай гаворцы,
Дзе ўсмешнік, ачолены чынам,
І творцаў вучыў і прытворцаў
Спяваць на руінах краіны…

x x x

Адзінота, самота, згрызота…–
А планета бушуе навокал…
І бяжым статкавацца, каб потым
Уцякаць – далёка-далёка…

Каб забыцца на шумны гармідар,
Засланіўшыся цішынёю…
Я не з тых, каб з такой піраміды
Зноў ляцець у натоўп галавою.

Што бяседы, што вечарынкі –
Я даўно за сабою прыкмеціў:
Мне хапае адной травінкі,
Каб не быць адзінокім у свеце…

МАЙСКАЯ ЗГАДКА

Снегу хруст і крохкі крок
На сняданак мае ранак, –
Нібы з градкі агурок,
У пупырачку, крамяны.

Звер сумётны пад сцяной
Вецярку спіну падставіў,
Поўсць шавеліцца на ёй –
Беласнежная, густая…

Здагадаўся толькі май:
Я такое знаю слова –
І шапчу: “Не замятай
Згадку квеценню вішнёвай…”

x x x

То рэкламныя дзеўкі, то “мыльныя”,
Як іх там называюць, “оперы”,
То прыводзяць у дрыжыкі операў –
Ці банкіры, ці банда ўсясільная?..

Тут і спічаў слова пахвальнае
Учарашнім багам і адступнікам,
І праклён “адраджэнцам прыстукнутым”,
І народу псальмы пахавальныя…

Дабіваюць? ці ўжо дабілі нас? –
Пасядзіш іншы раз перад “скрынкаю” –
І адчуеш: тэледубінкаю
Аддубасілі, аддэбілілі…

## З ЛЮДЗЬМІ ПА-ЛЮДСКУ

З людзьмі па-людску – ні святы, ні грэшны –
Стараўся жыць, за лёс не выбадзяў.
З павагай слухаў мудрацоў, ды, зрэшты,
Быў сам сабе падсудны і суддзя.

Даносаў не пісаў, як і прашэнняў,
І не шукаў адкупнага казла.
Суседу не заглядваў у кішэню
І здрадніку не помніў доўга зла.

Ніколі не зайздросціў жартаўлівым
І шкадаваў жанчын у паранджы.
А не любіў – абманшчыкаў ліслівых
І майскія халодныя дажджы…

## БУДЗЕ ЛЕТА…

А канікулы не за гарамі:
Клічуць нас ужо з Лысай гары.
Едзем! Едзем!.. І Ніка з намі –
Хопіць з Васем урокі зубрыць!..

Будзе полем і па лугавіне

Ў лес дарога – адна на траіх:
Нам з унукам – па каляіне,
Ну а Ніка – паперадзе ўсіх!..

На ражончык сала наніжам:
Кропля з лустачкі – і з языка! –
Будзем з Нікай – сяброўкаю рыжай –
Той скрылёчак з агню чакаць.

На траіх, без абману, падзелім,
На закуску абліжам далонь.
Потым скончыцца раптам нядзеля,
Дагарыць і патухне агонь…

Ды не скончыцца лета на гэтым, –
Гэтак мы яго толькі пачнём…
Потым Ніка кавалачак лета
Прывязе без білета ў наш дом.

Будзе торгацца носік звярыны,
Дух кастрышча лавіць па начах,
І дарога ў дзве каляіны
Будзе бегчы ў сабачых вачах…

x x x

Яшчэ надзеі птах не злоўлены,
І сніцца конь не зацугляны.
А Слова-Бог даўно прамоўлена,
І Песня Песняў праспявана…

x x x

Над крынічкай з заімшэлым зрубам
Вечар ахінаецца зарой.
Сумна – як перад вялікай згубай…
Ці то час такі, ці то настрой?..

Больш пра смерць – і думак, і гаворкі:
Колькі дзён тых засталося мне?..
Прамаўчаць заманлівыя зоркі,
Ціха жытні колас уздыхне…

Абяцанняў не было ад Бога,
А тым больш – іх людзі не далі.
Не пытаўся і ў сябе самога:
Чым усцешу дзень свой на зямлі?..

Ды суцехі не было й не будзе, –
Штосьці мог, здаецца, а ці змог?..
Кажа Бог: “Натое ж вы і людзі…”,
Кажуць людзі: “Ты ж яшчэ не бог!..”

x x x

Калі гляджу, як мітусяцца душы,
І не магу нічым дапамагчы,
Калі вось-вось вятры агонь затушаць,
Што нёс і я, ды змогся, несучы…

Калі хаос людскога азвярэння
Адкрыць гатовы пекла на зямлі –
Хоць пачынаць нанова дзень тварэння
Ўсявышняга і ўпрошвай і малі…

Прашу, малю… Але не я абраны
Пакутамі правіны адпусціць:
Ці нарадзіўся я задужа рана,
Ці я спазніўся ў гэты свет прыйсці?..

x x x

Дарога ў тых заўжды прамая,
Хто жыў з найменнем “НІ-ПРЫ-ЧЫМ”, –
Той і састарыцца не мае
Ні аргументаў, ні прычын.

Ні шкадаванняў, ні ўспамінаў
І ні раскаянняў няма, –
Хоць зноўку замаўляй радзіны
Жыццю, пражытаму дарма…
Як фільм паўторны на экране
Пракручвай зноў… – ды ўтоіць схоў,
Што старасць – слодыч пакарання
За свята юнае грахоў…

x x x

Такая вось сустрэча на зямлі:
Не знаю – з кім, навошта і калі…

Няхай сабе – з самім сабой, аднак:
Хто выбіў на шляхах расстайны знак?

Такая сіла ў страшнай той вайне
Памкненняў: ад мяне і ад мяне…

І хоць сустрэча з кожным днём мілей,
А мы – усё далей, усё далей…

МАГІЛА

Бязмэтнасць чыгуннага плота
Ахоўвае мёртвы спакой.

Схіляецца долу маркота
І бронзавай плача слязой.

Між ценяў казённа-бяздушных
Пясняр разняволены спіць,
А спеў, як ад зоркі патухшай,
У космас ляціць і ляціць…

ЧЫСЦІНЯ

Караткевіч Валодзя, як жрэц,
У кашулі белай садзіўся
За пісьмовы стол, – знаў мудрэц:
Светлы вобраз – у светлым радзіўся.

Боль збалелай душы і крык
Ахіналіся чысцінёю…

…Дбаў аб той чысціні і мужык,
Як у поле выходзіў з сяўнёю…

x x x

Як мне хочацца зноў узабрацца
На сумёт, што вышэй за плот.
Ды нямашака ў студзеня працы –
Час такі: на снягі не ўмалот.
І не скоцяцца санкі з-пад неба
У бязмежжа завейнай смугі…
Час такі: не дапросішся хлеба
І з дзяцінства не вернеш снягі…

x x x

Люцікі і смолкі лугавыя
Напіліся ўсмак траецкіх рос.
А ў мяне, як гляну, – сэрца ные:
Гэта ж, людцы, самы сенакос.

А ў мяне – гуляць аргумант важкі,
Быццам усё доўжыцца зіма:
Ні касы ў мяне, і ні мянташкі,
Нават сенажаці ўжо няма…

Адцвіло даўно і адшумела
Лета на зялёных паплавах,
Толькі ўсё яшчэ не адбалела –
Чую звон перадсвітальны ў снах.

Ды ў пісьме сусед прыслаў усмешку,
Згадак расцяроб расцерабіў:
“Войстраць косы павукі ў застрэшку,

З касавільна – кульбу дзед зрабіў…”

x x x

Бабка Хіма і дзед Кастусь,
Дзед Захар і бабуля Наста, –
Дзе апошнюю мне вярсту
Свет адзначыць на сцежцы віхлястай?

Ці не скажаце?.. Ды і каму:
Не сустрэліся вы са мною,
Як і я вас не знаў – і таму,
Нібы камень, маўчанне зямное.

Заімшэлі даўно валуны,
Што над вашымі леглі грудкамі:
Адплылі ў невядомасць чаўны,
І забыўся імёны камень.

І сказаць, хто ляжыць пад якім,
Са старых ніхто не бярэцца.
Кажуць, знаў яшчэ дзядзька Якім,
Ды і з ім ужо мне не сустрэцца.

Побач з вамі і ён замоўк
У суседстве крэўным, патайным:
Над мінулым крыж – як замок,
І над прышласцю – як пытанне…

Толькі з ценем дзядоў пастаім, –
Бачу я , хоць ужо й не пытаю,
Як, абранены імем маім,
Камень знак апошні сцірае…

## ТАСТАМЕНТ

Улада – як абутак той, –
І цесны, і не танны:
Ідзі, сядзі, бяжы ці стой, –
А помніш пастаянна.

І ў галаве ўжо буралом,
І вочы ўжо – кругамі,
Бо горка плачаш мазалём,
А думаеш нагамі…

Не лезь жа, браце, у хаўрус
З уладай безнароднай:
Спявай жыццё, ахвярнік муз, –
Галодны, ды свабодны!..

x x x

Паэт – прыроды вечнае дзіця,
Паэт – народа вешчае маўленне…
А можа, гэта хлопчык для біцця?
За ўсе правіны вашыя – маленне?..

І слухаюць – хаціна і палац –
Яго: хто з утрапеннем, хто з насмешкай.
Адным – загадка, а другім – паяц,
А сам сабе – як у дзяцінства сцежка…

І можа, ён шчаслівы самы быў,
Калі не знаў, што людзі пішуць вершы,
І плёну не чакаў, як ад сяўбы,
І па-дзіцячы быў за ўсіх мудрэйшы…

x x x

Настане год, настане дзень такі,
Калі, нарэшце, у нябыт адыдуць
Бяздарныя бяздарных двайнікі,
Рэжыму пустазвонныя флюіды.

Ачысціцца ад пошасці зямля,
Ад сейбітаў, што сеюць языкамі,
Ад множання: круцель на круцяля,
І замест хлеба – у здабытку – камень.

Расплодзяцца разумнікі адны –
Элітныя, у першым экземпляры:
Ні жалю, ні камп'ютарнай віны,
Ва ўсім – халодны досвед капіляраў.

І не ў даўгу ніхто ні перад кім,
Пароўніцы эмоцый і нейронаў.
Ва ўсім – і сваякі і чужакі:
Сам нападзенне, сам і абарона.

А Бог? А Бог на геніяльных рацы
Падзівіцца: "Калі ж яны без бога
Зноў двайнікоў пачнуць сабе ствараць,
Каб хтосьці збочыў з правільнай дарогі?.."

x x x

"Любіце ісціну і мір", –
Быў запавет ад Саваофа…
Ці словы падалі на жвір,
Ці Бог рамантыкам быў трохі, –

Але і сёння, праз вякі,
Ды што вякі – тысячагоддзі! –

Мір з ісцінай як двайнікі
Непрымірыма поплеч ходзяць.

Памкнешся ісціну адкрыць,
Наіўна праўду ў вочы скажаш, –
Якому ўжо тут міру быць:
“Вайну сяброўскую” развяжаш…

А ўсталяваць захочаш мір,
То вочы ісціне завязвай:
Цвярдзі, што кожны кум – кумір, –
І не памылішся ні разу…

Прамудра мовіў Саваоф, –
Ды мудрасць сталася прыдатнай
Не для людзей, а для эпох…
І для вучонасці цытатнай…

x x x

Калі на зорным небе цішыня,
І вечнасць яшчэ цэлая да дня,
Іападае ветах у нябыт –
Пакінутай планеты суіцыд, –

Тады пытаецца маўклівая зямля:
Навошта ў свеце і яна, і я?..

І хоць да сэнсу ўсё жыццё іду –
Трагічна разумею: не знайду…
Ці ўжо тады – у шосты дзень тварэння –
Як Бога прыхамаць было маё з’яўленне?..

Маўчаць нябёсы, і зямля маўчыць,
І зорак у сусвеце – не злічыць.
І з космасу чужыя галасы
Трывожна слухаюць апошнія лясы…

А людзі захлынаюцца ў бязлюддзі.
І ўжо ні Бог, ні д’ябал – ім не суддзі…

x x x

О, як страшна маўчыць цішыня,
Як пранізліва цемра глядзіць,
Як выносіць наверх глыбіня,
І як хоча мель утапіць…

Глухнуць чуйныя ў цішыні,
Слепяць зоркіх цемры гады,
Жыць ратуюцца з мелкай вады,
Але тонуць – у глыбіні…

x x x

Зямнымі вершамі замольваў я грахі, –
Ды і яны, сказаць, былі зямныя:
Не для сябе, каб выбіцца ў святыя, –
Прасіў для вас – хто ўзорны, хто ліхі:
Каб вам таланіла і каб шляхі крутыя
Лёс не мяняў на сцежкі залатыя…
Чаму ж усё тады – на лес сухі:
Страшней грахоў былі малітвы тыя,
Ці бог не той быў – мудры і глухі?..

## Д'ЯБАЛЬСКАЕ

Божа мой, парадуйся жыццю –
Кінь турботы пра людскія душы:
Сам жа знаеш – як няма агню,
То ніхто яго і не патушыць.
Кінь тамленне духа: небыццю
Зноў не аддасі сваё тварэнне…
Голас быў: –Я час назад ганю:
Гэта не тварэнне – паўтарэнне…

## САМААБСЛУГА

Прыходзіць расчараванне,
І хочацца адзіноты, –
Як быццам на свеце ты самы
Найлепшы і найапошні,
І сэрца – рана на ране,
А нехта ўсё топча ботам,
А нехта яго крамсае:
Па кветках – з касою на пожні…

І так ты сябе шкадуеш,
І так захлынаешся жалем
У самазалеўным патопе:
Наўкола – то звады, то здрады, –
І вось ужо крыўды гадуеш,
І з кветак атрутнае джала
Ашчадзіць да кропелькі кроплю,
І мёд нават робіцца ядам!..

У ворагі выставіш сябра,
З сяброўствам плішчыцца вораг,
Крыўдлівая адзінота
Душу спапяляе ў нірване,
І чорных амбіцый набрыдзь
Вядзе па астылых зорах,
І сушыць самазгрызота,
І самаатручаны – вянеш…

## ПРАДЧУВАННЕ

То ўноч прымроіцца Гарэцкі,
То ўдзень – Купалаўскі пралёт…

І голас просіцца пагрэцца,
А ўсцяж і ўглыб – калымскі лёд.

Лёд – і на сэрцы, і ў краіне,
Дзе бог – вусаты вартавы…
І голас… – быццам ва ўспаміне,
Але як сённяшні, жывы…

Што ў гэтым голасе? І чый ён?
Ці гэта прадчуванне зор –
І лёс чырвонай Кампучыі
Занёс над геніем тапор?..

х х х

Адвучылі беларусаў гаварыць па-беларуску,
А цяпер смяюцца самі з нашай немачы:
Мы – нямыя, мы – нямоглыя, мы – новыя этрускі:
Адыходзім, ні сябе, ні ворага не гневячы…

Забываемся паціху, летаргічна засынаем –
Талерантныя, пакутныя, рахманыя.
Датлявае і канчаецца гісторыя зямная:
Ходзім – зажыва і ўласнаручна пахаваныя…

Загаворым – але тут жа выбачаемся звычайна:
“Беларус, ды з роднай мовай тугавата…”
А мінчане – тут наогул: то маўчанне, то мычанне.
Аж самому родным словам гаварыць з такім ніякавата…

Азірацца пачынаеш, быццам вінен штосьці,
Ці бяседу сапсаваў нялоўкім выбрыкам,
Быццам ты не дома, а ў чужыя трапіў госці
І глядзіш, як бы хутчэй адгэтуль выбрацца…

Сарамліва захінаешся, хаваеш тое слова,
Быццам бабка рукі, спрацаваныя, сялянскія.
А натоўп цікаўна паварочвае галовы:
Падзівіцца на прышэльца марсіянскага…

х х х

Не малі вясну, што адшугала
Квеценню на сонечных лугах,
Зноў вярнуцца…
Зноў вярнуцца – мала:

Вернешся – у іншых берагах.

Не пазнаеш ні сябе, ні свету,
У якім ты радаваў вясну,
І вясна старалася пры гэтым,
Каб твой лёс бяздарна не заснуў.

Пры сустрэчы – будзеце чужыя,
І варожасць раптам разарве
Нітачкі танюсенькія тыя,
У якіх надзеі цень жыве…

І ніхто не будзе вінаваты:
Ні вясна, ні ты, – пазначыў Бог
Для вясны і для цябе – як страту –
Незваротнасць часу і дарог…

## ЯК У ЛЮСТЭРКУ ЦЕНЬ…

Ёсць і няма – як у люстэрку цень:
Сэнс без разгадкі ці таемны знак? –
Маё з'яўленне ў пэўны час і дзень,
Маё знікненне, – назусім ці як?..

Я – есьм, я – ёсць, я сёння: дзе жыццё.
А быў? а буду? – фатум крыжавы?
Ці небыццё – таксама ёсць быццё,
Ды толькі недаступнае жывым?..

х х х

Адбітак пальмы пад музейным шклом –
На кафлі, у агні загартаванай, –
Падстаў шчаку – і з памяці глінянай
Дыхне галінка страчаным цяплом:

Драбочкам сонца – тым, ерусалімскім,
Што райскай ахінаўся пекнатой,
І ад якога разгарэўся той,
Што ў блізкасці камінны плытка бліскаў,

Што профіль панны з цемры вырываў,
Гайдаючы спалоханыя цені,
Дзе ўсё: прызнанні, грэх і летуценні, –
Палац, як у труну, замураваў…

Ні слоўца і ні голасу няма,
Маўчыць у гурбах снежная дарога.
А дзеля шчасця трэба так не многа:
Хутчэй, хутчэй бы адышла зіма…

Гадзіннік б'е, і поўнач у вуголлі

Апошнім успамінам дагарае…
“Дабранач, панна…” – голас той, як з раю, –
Не вернецца, не вернецца ніколі…

Расстайна ходзіць вецер за сцяной,
Зняверанае сэрца халадзее,
І кафелькаю – крохкая надзея,
І пальчыкі азяблыя на ёй…

Галінка пальмы, ты не стала тлом:
Ты згадкай, ты загадкаю вякуеш.
А кафля – толькі форма, у якую
Вясна адліта студзеньскім цяплом…

## НАДПІС НА КАЛЕНДАРЫ

Што ты мне адрываеш “Учора…” ? –
Пасля гэтага вечнасць прайшла:
Я адолеў і долы і горы,
А душа, што шукаў, не знайшла.

А што страціў, таго і не злічыш,
Ды і сэнс які ёсць – лічыць?..
Момант шчасця – імгненная знічка,
А астатняе ўсё – прамаўчыць…

А астатняе ўсё – як магіла, –
Тут і вусце, тут і выток:
Што смяялася, што галасіла, –
Засыпае часу пясок…

І сама – перад вечнасцю – вечнасць
Знаць не знае, – і знаць ёй адкуль? –
Ці яна – абсалют неаспрэчны,
Ці яна – абсалютны нуль?..

## ВАРЫЯЦЫЯ НА БІБЛЕЙСКУЮ ТЭМУ

Спачатку мы – беларусы,
А потым яшчэ – славяне,
А потым ужо – зямляне,
А потым – усе перад Богам,
Схіліўшы галовы, стаім…

А Бог запытальна гляне:
–Знаю, што ёсць зямляне,
Здаецца, ёсць і славяне,
А гэта хто? – беларусы?! –
Хіба я ўчыняў землятрусы,
Хіба насылаў я патопы,
Каб недзе ў цэнтры Еўропы
Такое ўчынілася племя,

Што сее чужое семя
І плён збірае чужы?
Вось ты мне, Міхайла, скажы:
Калі ў трубу залатую
Паклічаш паству зямную
На самы апошні суд, –
Няхай ён завецца Страшным,
Але ж застаецца нашым, –
Ён боскі, ён праведны суд…–
Каго мы тут прывітаем,
Каго ад грахоў апраўдаем?
А пэўна, найперш таго,
Хто мову, што дадзена Богам,
Бярог ля прычасця святога,
Майна не цураўся свайго,
Хто дух мой адметнасцю множыў,
Каб мовіць “І гэта прыгожа…” –
Як мовіў “І гэта цудоўна”
У дні тварэння – я мог…

Дык з чым вы на райскі парог?..

Апостал Пётра, глядзі
І ўлік панародна вядзі:
Са скрбам сваім хто прыйшоў –
Той правільны шлях знайшоў,
Хто ж пнецца са скарбам чужым –
Таго прытрымай на мяжы…

x x x

Нішто ў гэтым свеце не новае:
Усё – паўтарэнне асноў.
А мы толькі ўток з асноваю
Злучаем праменнямі сноў.

Тчом сцежку жыцця знядужана,
Выбельваем на вятрах.
А вынік? – сатканага кужалю
Ці будзе прыкрыць хоць прах?..

КРЫЛЫ

Разбягуся –
І ўзлячу, як гусі.

Круг зраблю,
Адвагі набяруся:
–Добры дзень вам, я люблю вас, гусі,
А мяне вы хочаце пакінуць…–
Рукі ўстрэч раскіну:
–Вы куды?

Ад якой злятаеце бяды?

Загагоча здзіўлена важак:
–Мы ляцім, бо крылы ёсць, а як
Ты ўзляцеў?

–І сапраўды…
–Ага!..

Тут ужо здзівіцца мне чарга:
–Гоняць вас у вырай халады,
Ну а я ўзляцеў з якой прынукі, –
Вось пры мне – на месцы – ногі, рукі…

На душы асенняя смуга…
Пакружуся,
Гусі,
З вамі ў скрусе…
Спахаплюся:
–Я саджуся… гусі!..

ГРОМ ВЕРАСНЁЎСКІ…

Тры адгалоскі
Аб страчаным свеце:
Гром вераснёўскі
Ў бабіным леце.
Тройчы ў Зялёным
Грымнуў нясмела –
Буркнуў здзіўлёна:
–А так зелянела!..

–“Так зелянела” –
І спрэс пажоўкла, –
Гуў загрыбелы
“Экспрэс–Крыжоўка”.

–“Так зелянела”… –
Ды я не плакаў:
З вядзерцам белых
У такт падтакваў
Мой бор благаслаўлёны,
Баравіковы,
Мой бор – зялёнай
Звінеў падковай.

І што нам восень
За гаспадыня?!
Хоць і не просім,
У зеляніне,
Як павялося,
Навек пакіне!

Бор вечназялёны –
Ці гром, ці замець…

Кашы ў вагонах –
Грыбы вазамі.

Ці то ў Зялёным,
Ці то ў Крыжоўцы
Ты сеў стамлёны, –
Раскажаш жонцы.
Каго ж пабачыў
На тым паўстанку –
Няхай адзначыць
Душа-баравянка:
Якая лісічка,
А ці сыраежка
Да электрычкі
Паблытала сцежкі…

А гром вераснёўскі
Ў бабіным леце –
Як тры адгалоскі
Аб страчаным свеце…

х х х

Калі затчэцца павуцінай
Жніўё за стомленым сялом
І з вышыні важак гусіны
Над ім адзначыць шлях крылом,
Калі мароз і дождж аберуч
Кладуць на зябліва раллю
І жабы песенны свой бераг
Уважаць зімняму жыллю,
Калі мне бор апошні неруш
Падносіць шчодраю рукой, –
Я зноў жыццю пяшчотна веру,
У думах – воля і спакой.
Хоць не трымаю я ў кішэні –
У сховах – вечнасці сакрэт, –
Ёсць у запасе дзень асенні:
З табою развітацца, свет…

## НА ТЫМ СВЕЦЕ

Кажуць, Дарвін еў сябе поедам:
“Вось бы мне матэр’яльчык далі!” –
Калі ўбачыў, як чэрці вялі
“Беларусаў новых” у пекла:
“Ці мне розум, старому, адсекла? –
Так з “тэорыяй відаў” уліп!.. –

І свой том шыбануў астэроідам. –
Знай цяпер, што сказаць і калі!
Гэта ж першыя во гуманоіды
Толькі зараз растуць на зямлі…”

x x x

Калі думы немач грызе
І на сэрца апала скруха,
Кош, што вырас калісьці ў лазе,
Я ў руку – і да лесу трухам.

У бярэзніку сцішу крок,
Азірнуся: ці даганяюць? –
Тыя скруха з грызнёй, – і замок
На вароты лясныя чапляю.

Буду доўга – і вольна – блукаць, –
Хай сабе не патраплю на неруш –
Буду добрае слова шукаць,
Што ўзляціць, нібы дрозд-аперыш.

Як жар-птушка ўваччу мільгане
Той падлётак, яшчэ й прашчабеча
І на дзень абнадзеіць мяне –
Нібы горб які скінуць плечы!..

Адмыкаю лясны заслон:
Гэй, зламыснікі, не іржыце!..
Лесу дзякуй, грыбам паклон! –
Я жывы, я жыву – і жыцьму!..

Заімглёны туманам сум
Пераходжу ўброд па пакошы
І, стамлёны, з лесу нясу
Не грыбоў, а бадзёрасці кошык.

x x x

Вечнасць: зямная няўдача
Ці выбар з мільёнаў дарог?
Жыццём ці смерцю пазначыў
З’яўленне нашае Бог?

Ніхто не адкрые сакрэта:
Якую загадку нясём?..
А зрэшты, мы дзеці Сусвету, –
І гэтым сказана ўсё.

x x x

Вось цяпер і канчаецца…

Сапраўды… Назаўжды…
Лета… Лета звычайнае –
І такое бяды…
Але ж – не… Але ж падае
Першы снег на зямлю,
А сябе – хоць і радую –
Ды на думцы лаўлю:
Хай зусім не пра гэта я, –
Што з таго, што з таго…–
А ўжо лета адлетаваў –
Больш не будзе яго…

x x x

“Бог зляпіў чалавека з гліны…” –
Мы паверылі ў зорку Адамаву.
Што ж ты, браце, нам казку падкінуў,
Каб жылі мы з вечнаю драмаю?..

Дух Сусвету, скажы, Адзіны:
Можа, гэта – выдумка д’ябла ва
І спяліць чалавецтва галіна
Не твой дух, а спакусы яблыка?..

Каб мы плоццю сваёй нікчэмнаю
Ў тым гліняным злепку застылі,
Занядбалі існасць свяшчэнную
І блукалі ў духоўнай пустыні?..

Неабдымны, бязмежны і вечны, –
Кажуць раз толькі Бог акрэсліўся
Ў беднай сутнасці чалавечай,
Ды і то, каб на неба ўзнесціся…

І жыве род людскі працай чорнай,
І рэактар узняў над адрынаю, –
Ды ці ў атамны век, ці ў пячорны –
Ад сакрэтаў сусвету адрынуты…

Па-жабрацку мы маем так многа,
Што з лятучага ў небе воблака
Мы – як Бог – самі лепім бога:
Па свайму падабенству і вобліку...

x x x

Калі ноч абрушыць ураганная
На зямлю грымотных вод патоп,
Што зліццё па сто Еўфратаў з Гангамі
З ім зраўняцца, пэўна, не змагло б;

Калі нібы ўвесь сусвет абрынецца

На тваю планету акурат,
Што ў цялеснай кволасці дабрыніцца,
Космасу не чуючы набат;

Калі неба ўспыхне смерчам гнеўным
І ў дапершародны кіне змрок, –

Вось тады ты і цвярдзіш, напэўна,
Свой урок смяротны назубок.

І хаос душу бунтуе гуламі,
І суладдзе за ліхой вярстой, –
Ценямі запоўнена мінулае,
Будучае – зеўрыць пустатой…

х х х

А як растлумачыш іначай:
Відаць, пачынаю старэць…–
З чаго ж, без прычыны маркотны,
Чакаеш з дарог незваротных:
Забытае – зноў пабачыць,
Пакінутае – сустрэць…

ОТ ЖА ЯК…

*Подъезжая под Ижоры,*
*Я взглянул на небеса*
*И воспомнил ваши взоры,*
*Ваши синие глаза…*
*А.С.Пушкін*

Кажуць, Пушкін – наш сучаснік.
Што ж спрачацца – так і ёсць.
Я таксама маю шчасце:
Ён штодня , лічы, мой госць.

Гаманілі мы і ўчора –
Пра свабоду, пра цара,
А ў кватэру – гул матораў
Біўся ў вокны са двара.

І тады я спахапіўся
І ў здзіўленні анямеў:
– Пушкін, ты загаварыўся –
На двары ўжо іншы спеў.

– Гэтак, браце, ты не першы
Заўважаеш, – і паэт
Выбачаўся: –Вольным вершам –
Вольны час і вольны свет…

Пад абед са мной паснедаў

/ Свецкі звычай! / – і наўскач
На сваёй кабылцы гнедай
Паімчаўся, як ліхач!..

Быццам таксабе прышпорыў –
А прычына ёсць аднак…
«Подъезжая под Ижоры…» –
Песняй цешыцца няўзнак.

Усміхаецца шафёрам –
І равеснік, і сваяк, –
Ні “фіята”, ні матора –
А сучаснік! От жа як!..

## ПАНЯДЗЕЛАК

Панядзелак… Дзень неўрастычны:
Па кватэры таўкуся, як звер, –
Аб’яўляю жонцы імпічмент
І сямейству ўсяму недавер.

У кішэнях гуляе вецер,
На душы кігіча сава…
Вінаватыя ўсе на свеце,
Што гулянкай трашчыць галава.

Клінам – свет, а жыццё – капейка.
Чэрап – свет гатовы ўзарваць…
Як тлумачыў паэт Астрэйка,
“Трэба дзюрку прасвідраваць”…

## х х х

“І што мне да вас, іудзеяў,
Сыноў далёкага племені…” –
Здавалася б, мог я падумаць…
Але – з вамі Бог гаварыў.
І вашы продкі глядзелі,
Як вогненны слуп выпраменьваў
Дарогу з рабства – і ў тлуме
Бязвер’я – веру тварыў.
Выводзіў: ад Іеговы –
Праз гнеў і пакуты блуканняў,
Праз голад, і смагу, і скруху, –
Выводзіў: сабе працяг –
Да запаветаў новых,
Да новых дарог і шуканняў –
Сына: Айцу і Духу, –
А ў гэтым – сутнасць Быцця.

## х х х

Ратаванне Ізраілем…
Цяга вечная продкаў:
Шлях да Бога –
Без равінаў
І самы кароткі.

Паляцеў ці паехаў
Да святой Палестыны –
І грахі свае спехам
З чамаданамі скінуў.

Ці маклёр, ці спявак –
Абжывайся патроху,
Забываючы ўсмак
Нашай маркі Галгофу.

З райскім генам сады
Цень дадуць пілігрыму,
Захінуць ад бяды
Сцены Ерусаліма.

І сінайскі дэкор,
І спакойная старасць…
Каб адно – не тэрор
Ды арабская ярасць…

Толькі з ветрам шляхоў
Адляціць шалупінне –
Крэўны покліч вякоў
Аніўто не супыніць…

Як Майсей – праз гады
Нёс народ непакору, –
Едзьце, людцы, туды,
Дзе ваш лёс і ваш корань.
Я наўслед не пашлю
Вам сабачага брэху…
На святую зямлю
Я б таксама паехаў…

Можа б там, у цішы,
Адслужыў, адмаліўся, –
Каб не тут награшыў
І не тут нарадзіўся…

x x x

Аб адным, Божа мой,
Малю –
Дай апору ў сусветнай гонцы:
Беларускаму плугу –
Зямлю

І Купалавай хаце –
Сонца!..

х х х

Не знаеш, дзе ўпадзеш і дзе згарыш,
Засыпяць так ці адпяюць у храме…
Па змучанай дарозе цягнеш крыж,
Аброслы, нібы цінаю, грахамі…

Гайдаецца ўваччу стамлёны свет –
Ці памялом каметы шчэць густая
З сям'і планет жарынкай на загнет
Зямлю на дагаранне вымятае?..

Упасці і сканаць – усё што мог
Ты здзейсніць без прынукі ў свеце гэтым.
Не па табе касмічны той парог –
Таемны знак касмічных запаветаў…

Махне камета вогненным хвастом,
Нябеснае абрыне сутарэнне, –
І хто раскажа, растлумачыць хто:
Ці маладзее час ці ён старэе?..

ГАРЭЦКІЯ

*Радзіму Гаўрылавічу Гарэцкаму – акадэміку-геолагу*

Гайдаліся нетраў арэлі,
Ад полымя неба гуло:
Дзялянкі пад высеў гарэлі,
Каб жыта кусціста расло.

Не ворагам пушчы шумлівай,
А быў хлебадайцам агонь:
І ляда рабілася нівай,
І грэлі зярняты далонь…

І крочыў гарэллем Гарэцкі –
Гараты – радзіміч Радзім:
Сахою гараў старасвецкай,
Яловым "смыком" скарадзіў…

З тае даўніны й павялося –
Трывушчае племя ўзрасло:
Трубою калоссе вілося,
І слова, як зерне, было.

Ішоў баразною Ярыла,
Пятрок сенажаці касіў, –
І слухаў зямельку Гаўрыла,

І песню акрыльваў Максім.

А следам – Радзім, як радзімка
На матчынай цёплай шчацэ…
Гарэцкія – лёсу слязінка
Радзімы. І – меч у руцэ!..
Той самы, што ўзняў над Пагоняй
Крылаты заступнік-ваяр…

Гарэцкія, – мройнасць у кроне
І ў корані – мудрасці дар.

Гарэцкія, – рытмы глыбіняў
І роднай зямлі галасы.
Гарэцкія, – весняцца ў сыне
Нашчадкаў нязломных часы…

## УСПАМІН ПРА ТЭАТР ЦЕНЯЎ

Начное цемрыва ваеннае.
Газнічка высмягла даўно…

І штосьці злое і страшэннае
Глядзіць у мёрзлае акно…

Дарога – як пятля блакадная…
А тата – просьба ці загад? –
Праваднікам пайшоў з брыгадаю.
І не вяртаецца назад…

А я – чаканнем тым прыгнечаны –
Лучыны смольнай нашчапаў:
Палю, каб тата па агеньчыку
Дамоў дарогу адшукаў…

Трасе лучына зыркай грываю,
Дым круціць на верацяне,
І ад святла блукаюць прывіды
Тэатрам ценяў на сцяне.

Нос доўгі, як асвер, гайдаецца,
Як граблі – з пальцамі далонь…
Ды ўсе пужліва разбягаюцца,
Калі знядужыцца агонь…

Бяру нагар рукою голаю –
Сам і акцёр, і сам глядач.
І як працяг лучыны – полымя,
І зноў – ідуць пачвары ўскач.

Нібыта смерць малюе ценямі
Непераможную сваю

Таблічку над жыццём: “Уцэнена”…
А я? А я – не прадаю!..

ЖЫЛА-БЫЛА ЭПОХА…

Жыла-была эпоха –
Юрлівіца і прайдоха.
Жылі-былі і сынкі –
Эпохіны байструкі.
І дужа карцела ”крохам”
Пакіраваць эпохай…

Ну што ж: эпахальны верад, –
Ды селі задам наперад…
Бо вельмі ўлюбёныя ў “рэтра”
Сыны, надзьмутыя ветрам…

Едуць, – ды акурат
У будучыню – назад…
І не выходзіць “алюр”,
Хоць лупяць з эпохі сем скур…

Ды што ўжо з беднай лупіць?..—
Голенькая стаіць…

Напладзіла сыноў-скамарохаў, –
Так і трэба табе, эпоха!..

x x x

Не нарадзіцца – гэта: не памерці…
Што ж – радуйся бяссмерцю!.. Ды, аднак, –
Калі разважыць сэнс па гэтай мерцы:
Калі цябе зусім няма самога –
Якая ж тут над смерцю перамога?
Ёсць радасць – а парадавацца як?!.

МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Колькі прайшло, і колькі праехала –
Басанож і на калясніцах…
Як у гульні – пракацілася звонкаю рэхваю,
Як у нядолі – губляючы з вобада спіцы…

Гэта ўсё мы – з міражамі сваімі адвечнымі –
З грэшнай зямлі адыходзілі ў райскае неба:
Зоры ў пясок перацёрлі – і сыплецца з Млечнага
Шляху сяйво – нібы вечнасць: без пільнай патрэбы…

1999

x x x

Вялікі сусвет, неабсяжны…
Як два незнаёмцы, стаім:
І ён да цябе безуважны,
І ты – што ты знаеш аб ім?..

Адсутнасць у вочы не гляне,
І жыць быццам будзеш – але ж
Усё, не ўзышоўшы, завяне,
Што словам не назавеш…

ПАХ БАГУННІКУ…

Зноўку памяць ідзе імшарай,
Дзе з маленства, як з даўніх вякоў,
Гаспадыні куп'істых выжарын –
Змеі – сыкаюць з буякоў.

А на кожнай галінцы – навісь
І такі салодкі дурман,
Што па ўзятак паўзеш, хоць наяве
Будзе выць сам Балотны Пан!..
І да сёння блукаеш сп'янелы,
Нібы чмель на гульбе верасоў, –
Хоць даўно галава пасівела,
Адчыняецца казачны схоў:

Пах багунніку неўтаймаваны, –
Быццам чмур ахвяру спаліў
І дурніцы сінім туманам –
Кожную ягадку –
пе-ра-спя-ліў…

x x x

Штодня збіраю барышы –
Гаротных дум гаркотны ўзятак.
Жабрацтва з рыфмай – спарышы,
І раз'яднаць іх – злы занятак…

Штодня са мною лічыць медзь
Анёл-ахоўнік за плячыма…
Не даў мне Бог разбагацець –
Паэтам мець хацеў, магчыма…

МЯДОВАЯ ФАНТАЗІЯ

Спеласць жніўная. Пчэльнік-п*а*сека…

Хмаркай шызай гаркавіць дымар…
Спас Мядовы. Касмічная класіка:
У скафандры між вулляў пчаляр…

Ціхі звон над салодкай арбітаю:
Пчолы знаюць сваю руку, –
Варта, быццам, і не сярдзітая,
Але мёд заўжды на замку!..

Рамкі – як перфакарта васковая:
Перапоўнены сонцам код,
І праграма – зусім не вайсковая:
Без сакрэту – просіцца ў рот!..

А па жэрдачцы, нібы ластаўкі, –
Дзетвара на плоце шнурком:
Мёдна вабіцца спасаўка-ласаўка
І прыцмоквае языком…

## ВЫРАКСЯ МОВЫ РОДНАЙ…

*…гэта – самагубства…*
*Сяргей Законнікаў*

Выракся мовы роднай –
Як сам палез у пятлю.
Адно – жывою не згодны
Лічыць я гэткую тлю…

Ці рай здабываюць у чэргах,
Ці ловяць ваўкамі чыны, –
А нейкім магільным свячэннем
Душу працінаюць яны.

Хоць і засеяны густа –
Жывуць, як у трунах цвікі…
Якое ж тут самагубства? –
Яны даўно мерцвякі…

## СТРАЧАНАЕ

Белыя лілеі –
Сонейка ў вачах.
Страказа смялее –
Вісне ля пляча…

Шнырацъ верхаводкі –
Вабяць машкару.
Тоўсты і кароткі
Лінь у твань нырнуў…

Лодка-пласкадонка,
Лазнякі, аер…
У якіх прадоннях,

Дзе вы ўсе цяпер?

Ні ракі, ні плёсаў –
Глей сляды занёс…
І перапялёса –
Торф ды жаўтапёс…

Човен стаў карытам,
Спалена стырно,
І перазабыта
Ўсё даўным-даўно…

І з якой крыніцы,
Дзе набраць вады,
Каб вярнуць з цямніцы
Светлыя гады?..

СНЕЖНАЯ ІМПРЭСІЯ

***Над прозай Янкі Брыля***

*“На цэлым свеце – белы снег,*
*На ўсіх палях і дахах…”*
Ступіць – і то, здаецца, грэх:
Бялынь – як фуга Баха…

Ні даляглядаў, ні лясоў,
Ні ў рай шляхоў нядрэмных,
І колькі ў свеце галасоў –
Адну трактуюць тэму.

Усё – між небам і зямлёй –
З’ядналася ў сусвеце,
Злілося з вечнай глыбінёй:
Ні межаў, ні адмецін…

Снягоў неразгаданы лёс
На сэрца так нахлыне,
Што плакаць хочацца – да слёз –
Прад гэтаю бялынню…

І Янка Брыль: не ў вершы збег –
Ляціць над прозай птахам:
*“На цэлым свеце – белы снег,*
*На ўсіх палях і дахах…”*

*24.02.99*

КАЛІ ПЕРАДЗІМ’Е…

Калі перадзім’е амаль на парозе
І хвошчуць дажджы з начы і да вечара,

Чарнее шпакоўня на зябкай бярозе –
З душой адзінокай, душой чалавечаю.

Глядзіць наўздагонку апошняму выраю
Са смуткам хаціны, што песня пакінула…
А што засталося? Вароны карклівыя
З іх вечнымі з песні гарластымі кпінамі…

Калі ад ветру бяроза хістаецца,
Як душа – і грэшная, і святая,
Хачу быць песняй. Бо песні вяртаюцца.
Альбо, наогул, не адлятаюць…

## У ЧАДНЫМ ЭКСТАЗЕ…

У чадным экстазе натоўп трасецца,
Нібы д’яблы статкуюцца ў зале:
Ці ўкралі ў дзяцей бацькоўскія сэрцы,
Ці дзеці самі іх пагублялі?..

Не знали крылаў калыскі ліповай,
Не чулі матчынай калыханкі:
Як засыналі пад віск хіповы,
Так і прачнуліся – з дыска-п’янкай…

Раслі – і выраслі. І таўкуцца –
З душой вусатае радыёнянькі:
Рэптыліі стрэсавых рэвалюцый
І вертыкальныя “ванькі-ўстанькі”…

x x x

Душа мая, калі цябе пазбавіць
Дух Усясветны памяці зямной,
Вось гэты васілёк мацней, чым памяць,
Над забыццём звястуецца са мной.

Аднойчы прыляціць з жытнёвай нівы,
Абвеяны дыханнем чыстых рос, –
Няхай я на зямлі не быў шчаслівы,
А гэтым – апраўдаецца мой лёс…

## НЯМЫЯ

Нямая Айчына,
Як маці,
Глядзіць на нямога сына.
Над лёсам – маўчання грамы́, –
Як вырак.
І нават пракляцце
Не мае іншага чыну:
На вуснах крык,

Ды – нямы…

x x x

Хай лёс мой на зямлі гібеў –
Схілі пагляд, не грэбуй:
Я не палоннік у цябе –
Я твой паломнік, неба…

Штоноч на зорны твой абшар
Выходжу падзівіцца
І за жыцця нялёгкі дар
Удзячна памаліцца.

Ні крыўды, ні жальбы няма,
Не ўкленчваю ахвярна, –
І ты са мною не дарма,
І я з табой – не марна…

Яднае доля нас адна,
Адна святыня лучыць.
Але не ў вечнасці яна,
А ў смерці немінучай.

Таму імкнуся да цябе:
Дай вышыні крылатай,
Каб не маркоціўся ў журбе,
Як вечна вінаваты.

Хай сэрца – з лёту ў небыццё –
Галінкай хрусне крохкай…
Ляці ў сусвет, маё жыццё,
Драбок надзеі лёгкай…

Х*А*КЕРЫ

Сейфы адкрывалі, скарбы х*а*палі
З-пад замкоў сакрэтных медзвяжатнікі.
Сёння спрыт прымаюць той за жарцікі
Ўзломшчыкі камп'ютарныя – х*а*керы.

Хакеры – не пры кабетах хахалі, –
Гэта не мурлыканне салоннае,
І мурло ракетна-палігоннае
Не на макіяж фліртовы змахвае.

Хакеры, сусвету рукатворнага
Злыя духі, цемрай акрылёныя,
Мудрасцю атрутнай паланёныя, –
Хто ўратуе вас ад кроку чорнага?

Хто не дасць вам расцугляць камп'ютары,

Д'ябальскім напоўненыя розумам,
І трымаць планету пад пагрозаю
Ядзернай зімы з вятрамі лютымі?..

А яшчэ страшней: хто спыніць, хакеры,
Зомберы, узломшчыкі дзяржаўныя,
Ваш намер хлуснёй папераджальнаю
Выбіць клёк з галоў чарговай хартыяй?..

## МАЛІТВА АДЗІНСТВА

Адзін Сусвет,
І адзін у ім Бог:
Болей сусветаў
Стварыць ён не мог.

Бо калі дапусціць,
Што ёсць іншы сусвет,
Значыць, ёсць недзе ў нашага бога
Сусед?..

А што ў сусвеце галоўнае?
Што ўсе мы ў сусвеце роўныя.

Бог Айцец і божыя дзеці –
Адзіныя духам у божым сусвеце.

Крышталік мікраскапічны
І акіян Атлантычны,
Травінка і бор векавы, –
Роўныя маюць правы.

Бог адзін і Сусвет адзін –
Без нашых высноў,
Без нашых прычын.

Дакуль жа,
Дакуль мы,
Людзі,
У перакуленым
Свеце
Дзяліць
Адзінага Бога
Будзем?..

## АДСУТНАСЦЬ

Бяздымны порах,
Бязгучны стрэл,
Бяздумны вораг –
Тупы прыцэл.
Бяздушны козыр,

Круты заказ…
Адсутны розум –
Атрутны час…

x x x

Навошта ж смяротную частку
Я дзён сваіх сквапна бярог?.. –
А вечнасць не знае пачаткаў,
І часу не ведае Бог…

Той свет называў я маною,
Блукаючы ў зорных палях,
І крута гарбеў нада мною
Бяспамяцця Млечны Шлях…

А тайная крэўнасць Сусвету
Шаптала мне: колькі гадоў
Я маю ў запасе… – і дзе той
Пачатак: ні дат, ні слядоў…

x x x

Бомба ядзерная,
Начынка ядроная,
Як герой аповесці Быкава
Сказаў бы: “Ядрона вош!..”
У Бога ўкрадзеная,
Безабаронная
І коштам для вечнасці звыклая:
За штуку – вечна адсутны грош…

Ядро раздораў,
Ядро землятрусаў,
Ядро геніяльных збліжэнняў:
“Жыццё і смерць”.
Было і ўчора,
І заўтра быць мусіць –
Без абвяржэнняў:
Зямля для жывых – не спакуса
І для мёртвых неба – не цвердзь…

x x x

У вечнасці
Няма часу –
Яна не рухаецца
Ні назад, ні наперад,
Яна з сабою
Вечна сам-насам:
Сама для сябе
І ўлоў і нерат.

І шляху не мае –
Шлях у нас:
Прамы,
Дзе нараджэнне і смерць –
Дзве супярэчнасці.
Вечнасць вечная.
А час –
Гэта мы:
Нявечныя
Ў гэтай вечнасці…

## РАЗВІТАННЕ

Цішыня: як размова нямых,
Дзе і спрэчка – нямое маўчанне.
Толькі вуснаў – адзін на дваіх –
Крык, што стаў пацалункам адчаю…

## х х х

Дзень за днём збіраюся туды,
А між тлумных спраў не выпадае
Ціхі край праведаць, дзе сляды
Ў снежных перамётах прападаюць;
Дзе вясна над лотаццю нізін
Кнігаўкай стамлёнаю кігіча;
Дзе асенні россып жуpавін
Наўздагонку выраю курлыча;
Дзе ад смагі сенакосны звон
Скача ў вір наперагонкі з летам;
Дзе з пагорка на той свет відзён
Шлях, калі нажыўся ты на гэтым;
Дзе дзяды і прадзеды маўчаць,
Пад бярозай райскай спачываюць…
Толькі сніцца мама: па начах
Быццам і шкадуе, а ўшчувае…

## З ЦІШЫНЁЙ СУСВЕТНАЙ ВА ЎНІСОН…

Абыдзі галактыку ці ўдалеч
Хоць далей за Бога зазірні –
А ніхто табе не разгадае
Таямніцу летняй цішыні.

Вось яна – бялявай аблачынкай
Праплыла няведама куды.
І душа – касмічнаю пясчынкай
Ад цябе злятае назаўжды…

Будзеш доўга потым – аж да скону –
Ты яе пакутліва чакаць…
Незваротны міг – і ўжо такому

Больш табе ніколі не бываць…

Будзеш вёсны абмінаць і зімы,
Не аб’едзеш толькі пэўны дзень –
З цішынёю іншай: нелюдзімай,
Незямной, дзе твой пагасне цень…

А пакуль – стаіш ля жытняй нівы,
Загайданы морам каласоў:
Мроіва трапечыцца маўкліва
З цішынёй сусветнай ва ўнісон.

Сніцца стогу водар першацветаў,
Косаў звон і гамана касцоў,
Даспяваюць на арбіце лета
Пухкія планеты дзьмухаўцоў…

## ЁСЦЬ І НЯМА…

Ёсць урад, ды рады няма,
Ёсць турма, ды няма памераў,
Ёсць пастух, ды дурны дурма,
Ёсць ключы, ды няма кватэры…

Ёсць рака, ды няма берагоў,
Ёсць правы, ды няма машыны,
Ёсць кацёл, ды няма мазгоў,
Ёсць зямля, ды няма краіны…

х х х

Было, ёсць, будзе – тры часы
Зліваюцца ў бязмежнасць.
Эпохі, эры, “паясы” –
Падзел, што нам належыць.

Час і прастора, – нездарма
Іх чалавек прыдумаў.
Бо хто ж тады, як іх няма,
Ён сам у гэтым тлуме?..

Час і прастора, – рамкі ёсць,
А значыць, і парадак,
І ўсё пранізана наскрозь
Яго зямным раскладам.

Развеяў чалавек туман,
Вучоным ззяе глянцам
І ў нехлямяжы свой абман
Схаваўся, як у панцыр…

Але – ці палыхай, ці тлей –

Бяруць пытанні зморам:
А што далей? а што далей –
За часам і прасторай?..

Ці іх зусім няма? А ўе
Нам дух зямны хімеры,
Дзе ні касмічных не стае,
Ні чалавечых мерак?..

І не спяшае Бог сказаць,
Што не было ўгавору,
Каб, нарадзіўшыся, не знаць
Ні часу, ні прасторы…

x x x

А гэта ўсё было, яшчэ калі
Мы безнадзейна грэшнымі не сталі,
Калі хадзіў сын божы па зямлі
І да людзей анёлы прылятаці.

Калі сам Бог знаёмы з кожным быў
І знаў у твар пакутніка любога,
Калі, апроч насення для сяўбы,
У Бога не прасілі мы нічога…

А гэта ўсё было, каб з намі Бог
Да новага прышэсця развітаўся.
І тут жа д’ябал сеў на наш парог,
А потым і на покуць перабраўся.

І абяцаў нам неба на зямлі,
І абяцаў, што пекла зробіць раем, –
Так і жывём: што ў працы здабылі,
Па-д’ябальску ў разбоях адбіраем…

А гэта ўсё было яшчэ тады:
Прадбачыў Бог, бо душы нашы ведаў…
Тады мы ўжо ірваліся сюды –
З прадвесцем будучых, яшчэ страшнейшых бедаў…

x x x

А восень мая ўжо ў халодную плынь
Па грудзі ўвайшла.
Якая ўжо тут, як Гілевіч казаў,
Святлынь…
Ні лодкі няма,
Ні вясла…
Ніхто не суцешыць,
А можа, і не пракляне.
Ёсць тысяча сцежак,

Але – мая
Для мяне.
Няма для распяцця крыжоў.
А ёсць – дык і сам іх знайду…
А восень ужо
Над галавою
Аберуч разводзіць ваду…

## З ПОЎНЯЮ САМОТЫ…

Сябры найлепшыя былі ў мяне.
Сяброў няма – жывуць, а не гукаюць.
Цяпер сяброўства, пэўна, не ў цане…
Ці зараз не сябруюць з дзівакамі?..

І сапраўды: якія барышы
Ў маім сяброўстве, ціхім, нехлямяжым?..
І камень крыўды, як ні варушы,
А ён табе ж на сэрца зноўку ляжа…

Гняце гадоў халодная слата,
І за гарамі – юныя турботы.
Сябры сышлі. Жыву, як сірата,
Я пры дарозе з поўняю самоты.
І вёсны не гукаюць узлятаць,
І вечнасці грукочуць тупа боты…

x x x

Грудк*і* жарсцвяных наваселляў
Усё далей ад тых кладоў,
Што здзірванелі і аселі –
Ні сумных знакаў, ні слядоў.

Скупую памяць вёска мае:
Дзе бабка з дзедам, а далей –
Дзе хто ляжыць – ніхто не знае, –
Як не было магіл раней…

Усё зраўнялася з зямлёю.
Маўкліва абарваўся час.
Не знаем мы – дык і былое,
Напэўна, знаць не хоча нас…

Нібыта ў космасе, з дакорам,
Гукаю з цемры дзён адлік,
Ды ў беспаветранай прасторы
Ніхто не чуе гэты крык…

Даўно зваліўся крыж пахілы –
Ён памяць, колькі мог, бярог.
Адзін – над прадзедаў магілай –

Маўчыць пра-камень, як пра-бог…

ТАДЫ…

Такога свет не знаў яшчэ ніколі,
Калі народ не прагне ўласнай волі.

Інакш ён, хоць і людны, але статак –
Ахвяра для прыблудных супастатаў.

Любы свінюк, што чужахлеўна рохне, –
І ўладны “крук”, і з голаду не дохне.

І самі, нібы свінні ля карыта:
Не важна што – абы было наліта…

Паеў ды ў хлеў – адна тады дарога,
І лепшай долі не канюч у Бога.

Бо тройчы праўда: Бог таму памог,
Хто хоць аднойчы рабства перамог.

Тады народ становіцца народам,
Калі ўдыхне хоць кропельку свабоды.

x x x

Ціха ў асеннім лесе.
Сонца лістоту жне.
З вечнасцю перагукнешся:
Пачуе хто, а ці не?..

Дармо, калі й не пачуе –
Ты вольны, як вольны сусвет.
І вырай адлётны вяшчуе
Ў нябёсах загадкавы след…

Турботы ўсе ў клопатным леце,
Не пнецца ніхто назаляць.
Грыбы, як дуронікі-дзеці,
У хованкі збеглі гуляць.

Улеглася росная квецень,
Дзе косы хадзілі ўразлёт,
І ў купіне чмель засакрэціў
З духмянымі сотамі мёд.

Мудрасцю суцяшае
Лес, нібы добры дух:
Дыбяцца лёсаў шалі,
Ды ўраўнаважыцца круг…

І ўжо душа на прыкмеце
Ў анёла з песняй зімы.
Якраз, можа, так на тым свеце, –
Чаго ж гэта страшымся мы?..

x x x

Шкадобныя знічкі,
Аб літасці боскай крычым,
Дні грэшныя лічым,
Ды Бог не паможа нічым.

Сабе непакорцу
Не з гліны зляпіў, а з агню, –
Насуперак творцу
Тварэнне дыктуе гульню.

І гэта – цудоўна, –
Паціхеньку думае Бог.
І вечнасці роўны
Для ўсіх – неадольна – парог.

Жыццё не старэе –
Жыццё застаецца жыццём.
Жыццё – латарэя,
А выйгрыш адзін – небыццё.

x x x

Быццам бязгрыб’е ў лесе
Па вераснёўскай сушы,
Без вечарынак і песень
Вёска маўклівасцю глушыць.

Ні гаманы, ні смеху
Пад вербалозавым дахам
І ні сабачага брэху –
Не ўсмак, дык хоць бы са страху…

Старэчае ажыўленне
На тыдзень успыхне аднойчы:
Да аўталаўкі – са жменяй
Пенсійнай – на кульбах крочыць…

І да грудзей немаўляткам
Ацеслівы горне бохан…
А потым – усё спачатку:
Сем дзён – і ноч, як эпоха…

Дзед ля сівога экрана
Ўшаноўвае прэзідэнта,
Ды зрэдку галёкне п’яны –

Апазіцыі элементам…

х х х

Пэўна, і адтуль пачую я,
Пэўна і з магілы я вярнуся:
Памагчы, адолець, адстаяць, –
Як заплача Беларусь па Беларусі…

х х х

Паволі апускаецца ў труне
Рыдлёўкай лёс акрэслены і ямай…
А крокі ж гэткія адмерацца і мне:
Адзін – ушыркі, два – на рост наяўны…

Не першы ён і не апошні я…
Час праміне – і знаць ніхто не будзе,
Як і цяпер: хто тут спачын прыняў –
Якія жарсці і якія людзі?..

Маўчаць бярозы, і зямля маўчыць,
І вусцішна пытанне не трывожыць:
О, колькі вас на могілках?.. – злічыць
Ніхто не мог ды і ніхто не зможа…

х х х

Ніколі нявольным не быў паэт,
Пакуль сам сябе не зняволіў, –
Тады і без кратаў – за кратамі свет,
І доля – як міннае поле…

Тады і сабе, і людзям – ты чужы
І злыдзень на Беларусі…
Не дай жа мне бог да гэтай мяжы
Дайсці, – аб гэтым малюся…

Падносіць санеты і одай служыць
Прад*а*ўцам, дзялкам, абармотам?.. –
Тады і навошта на свеце жыць? –
Халуй – не мая работа!..

І не хачу маўчанне хаваць
За рабскім маўчаннем народа.
Бо слова праўды аднойчы сказаць –
Гэта ўжо й ёсць свабода.

ТОСТ

Мы, дзеці сейбітаў і касцоў,
Закінутыя ў горад вясковыя мальцы,

Так і памром, як сказаў Стральцоў,
Сенам на асфальце…

Ды я не пра смерць – хоць трошкі пражыць
Нам тут, на зямлі, яшчэ трэба,
Каб той не змог яе лёс парашыць,
Хто ўзрос пустазеллем на глебе.

Хто смокча сокі з роднай зямлі
І тут жа яе праклінае, –
Як быццам дзе, ад каго і калі
Ён нарадзіўся, не знае…

Такі ўжо разумнік, мудрэц такі,
Такія ўжо думкі мае,
Што, як бы пакінуць іх на вякі,
На мове нашай – не знае…

І сала наша, здаецца, жарэ,
Яшчэ і лысіну мажа,
А вось жа глотку, як варвар, дзярэ:
Па-свойму ні слова не скажа…

Пакуль такія жывуць між нас –
Давайце глынём па стопцы,
А больш – ні кроплі. І будзе якраз:
Нам трэба пажыць яшчэ, хлопцы!..

x x x

Азірнуўшыся, не скамянею:
Сам пажаў, што – сам жа – пасеяў.
І ні ўдачы сваёй, ні віны
Не ўступлю і за тры цаны.
І ніхто: ні Бог і ні людзі –
Так, як сам, мяне не асудзіць…

x x x

Сказана ж не намі:
Ад Адама з Евай
З райскімі дарамі
Выбіты пасевы…

У святой гасподзе
Рай застаўся раем.
Людзі ж свой узводзяць,
На зямлі ствараюць…

З гэтым і цугляе
Дужы брат слабога
І цвярдзіць, што мае

Ён мандат ад Бога.

І куе спрытнюга
Райскі лёс уласны
На гарбе, што плугам
Выгарбіў няшчасны –
Той, што ў горкім поце
Хлеб свой здабывае
І праз дзюрку ў плоце
Ў рай той зазірае…

З веку ў век – намеры
Тояцца на шчасце:
Як да нашай эры,
Так і ў нашым часе…

Сказана ж
/не гіне
Чалавецтва драма /:
“Кавалі другія,
А ланцуг – той самы…”

ГЭТА БОГ ЗБЫВАЕЦЦА…

Не спазнаў, а веру
Тым, хто паміраў
І аднойчы дзверы
Ў вечнасць адчыняў.

Кажуць, з даўкім болем
Патухае зрок,
І пакутнік моліць
Злы развеяць змрок.

А пасля сусветна
Ўсё зазіхаціць –
І з зямлі бязмэтнай
Ён ляціць, ляціць…

І святлом палонены,
Вольны дух імкне…
І, здаецца, стоена
Хтосьці скажа мне:

Гэта Бог збываецца –
З цемры небыцця
Раптам высвятляецца
Ўся святлынь жыцця…

х х х

Пракляты ён ці пакараны –

Яго не страшыць суд цяжкі, –
Ёсць філасрфія ў тырана:
“Мой час наступіць праз вякі…”

Перад сучаснасцю нікчэмнай
Ён не схіляе галавы
І на галоваадсячэнне
Бярэ ў гісторыі правы.

Кумірам прарасце ў народзе –
Сляды злачынства змые час.
Тырана ўславяць праз стагоддзі –
Нашчадкі не пачуюць нас…

ВЕТРАНА…

У палях, за чорнай шашой,
Грывы ўскідваюць белыя коні…
На бярозе з астылай душой
Адзінока сумуе шпакоўня…

Жоўты ліст – круты аптыміст –
Датрымаўся! – на снег ападае…
Ветра голага д’ябальскі свіст
Развітальную песню гайдае…

х х х

Перчучай – мной прыснёнае слова,
Запаветнае рэчкі імя,
Нашай крэўнасці балцкай аснова,
Наш пракорань, стрыжань, сям’я…

Балты: белыя – вольныя значыць,
Духам войстрыя, як мячы.
Коні белай пагоняй скачуць –
Нашай волі апора і шчыт.

Перчучай – гэту рэчку на карце
Мне Някляеў у сне паказаў.
Лёгкай рыфмай, нібыта ў жарце,
Перчучай – вузялком завязаў…

Я не знаю, што гэта такое,
І няма таго слова, лічу.
А прачнуўся – яно мне спакою
Не дае: і шапчу, і крычу…

“Перчучай”… – як заклён, як надзея,
Як прапрашчураў-балтаў адчай,
Што растрацілі нас, праглядзелі…
Перчучай... Выручай, Перчучай…

СНЕЖАНЬ: З ПЕРШАГА НА ДРУГОЕ…

Ноччу снежань ударыў громам.
Снежань: з першага на другое –
Не заснежыў, а чорна-сырому
Дубняку абвуголіў голле…

Снежань быў хлюпатлівы, азызлы,
І якое мне з ім братанне? –
Як з пікетам, што да камунізму
Заклікае асіплай гартанню…

x x x

Паміж галактык і сусветаў
Узнікнеш раптам, каб знікнуць зноў, –
І ні загадак, і ні сакрэтаў,
І ні прадбачанняў, ні высноў…

І не паспееш з той страшнай метай
Уцяміць праз смяротнае тло,
Што ў гэтай цемрачы несусветнай
Сусветна тоіцца дзесьці святло…

Чаму прыйшоў сюды і навошта –
Якія мэты ёсць і ў каго?
Якім – зямным ці нябесным коштам
Запалены твой імгненны агонь?..

Так і пагаснеш без шкадавання,
Што й здагадацца нават не змог:
Ты вязень космасу жыццядайны,
А сэнс усяго – ён і ёсць Сам Бог…

x x x

Сёння з енкам сабакі грызуцца, –
Пэўна, дзень сатанінскі зноў,
І параграфы ўсіх рэзалюцый
Сход вядзьмарскі на “ўра” правёў.

І ніхто сёння ўдачы не мае –
Ні ў дарозе, ні ў ложку крутым.
І любая прамая – крывая,
А бязбожнік слыве святым…

З самай раніцы чэрці таўкуцца
І складаюць вясёлы расклад
Кпінаў, блазенскіх экзекуцый,
І пацех, і згрызотных звад.

Ім адно: ці паблытаць дарогі
І цвярэзніка звесці ў шынок,
Мужу хітра наставіць рогі,
А цнатліўца зманіць да жанок…

Ці жытнёвае збэрсаць поле,
Ці ў лугах здратаваць траву,
Ці камусьці падкінуць болю
На збалелую галаву…

А сцямнее – ветах шчарбаты –
Два клыкі і правалам рот,–
Нібы шыбенік, звісне над хатай,
Будзе клікаць мяне да варот.

Каб на д’ябальскі шабаш завесці,
Дзе ад нечысці ўсё загуло,
Слоў абманных у кайстру натрэсці
І вянец пачапіць на чало…

І ніякія землятрусы
Супыніць не знойдуць падстаў…
Божа, божа, ратуй ад спакусы
І на вусны пячатку пастаў…

x x x

Сказаў аднойчы чалавек:
– Плач ці не плач – а ты смяротны…–
І крылы сам сабе адсек –
Даверліва і незваротна…

Сказала смерць:
– Аж смех бярэ:
Чаму мяне баяцца людзі?
Хто жыў – ніколі не памрэ,
Хто быў – той назаўсёды будзе…

Скажу і я:
– Жыццё – лата:
Гуляе Бог – каму з’явіцца…
Хто жыў – не вернецца. Ніхто…
А ўсё ж…
А ўсё ж – ну як змірыцца?...

x x x

І нікуды ад шчасця свайго не ўцячэш,
Як не ўцячэш ад бяды.
Толькі шчасцем задужа сябе не цеш:
Гэта – бег вясновай вады.

Ручайком з-пад снегу праскача яно –
І няма, і знікне ў патоку людскім.
А бяда – мёртвай хваткай трымае стырно:
У моры жыцця – на вякі.

Дык не думай ад іх уцякаць:
Дужа доўга – абое – будуць шукаць…

## РАТЫФІКАЦЫЯ

Настрой узнёслы
Дыхаў у зале:
Адзіна-галосна
Радзіму хавалі.

Галасавалі,
Як адпявалі…

У дзве рукі
Двесце рук
Плескаталі:
Нібы цвікі
Ў труну забівалі.

Пасля –
Віншаваліся
І цалаваліся,
І без замінкі
Згулялі памінкі…

## ГІМН

Штукуем рыфмы і акорды вяжам –
Збіраем песні, быццам на кірмаш.
А ён ужо гучыць у сэрцы нашым:
“Магутны Божа…” – быццам: “Ойча наш…”

І вечнасць адгукаецца і прышласць,
І крылы праразаюцца ў жывых…
А мы ўсё гімны конкурсныя пішам
І прагнем абудзіць народны слых…

А мы яшчэ вагаемся,
Нібыта
Не ведаем: на ростанях нягод
Наш гімн
Не песня –
Вечная малітва
За Беларусь
І за яе народ.

x x x

Тры стагоддзі
Заходні брат ратаваў,
Браў у абдымкі уніяў.
Тры стагоддзі
Усходні брат вызваляў,
На лад праваслаўны выструньваў, –

Каб яшчэ два стагоддзі даводзіць
Царскі міф аб адзіным народзе…

І, заўважце, ніхто не пытаўся,
Як тутэйшы люд пачуваўся, –
Быццам нас не было пры тым,
Дзе з-за нас горла дралі браты…

Пяць стагоддзяў ціснулі жмых…

З часам брат адзін папрыціх.
А другі дык без лішніх ironій
Вызваляе яшчэ і сёння.

Ад каго?
Ды ад нас саміх!..

## УКАЗАЛЬНЫ

Шлях заўсёды ўказальным пальцам
Вызначаўся рашуча і крута.
Ён, як стрэлка прамая на карце,
Прабіваў у прастору маршруты.

Ён паказваў, падказваў, указваў –
І франтальна, і вертыкальна.
Ён сумненняў не меў ані разу,
А інакш – як жа быць указальным?

Ставіць звык ён усіх на калені:
Указальны – як генеральны.
Праўда, ёсць іншы раз адхіленні,
Дзе ён траціць сэнс візуальны.

Як бракуе ва ўказчыка клёку,
Кажуць: пальцам у неба трапіў.
А бывае: як пальцам у вока, –
Калі нехта лезе нахрапам…
Гэта ён, як хлапчук-падшывалец,
З чалавекам падчас сваволіць:
“А табе пакажы толькі палец,
І ты будзеш смяяцца да колік…”

Непахісна, беспамылкова

Ён тырчком на руцэ ў начальства
І бярог і пільна ахоўваў
Указальнае пастаянства.

І заўсёды ён толькі мяняўся
Ў звычках цвёрдых для іншых амбіцый:
На кручку спускавым згінаўся,
Каб яго двайнікам зрабіцца…

x x x

Так было і так будзе: плямёны
Адыходзяць, каб не ўваскрэснуць…
Можа й ты, мой народзе, кляймёны
Знакам тым, што этрускаў закрэсліў?

Бо інакш бы з чаго так бязмэтна
Ты свой лёс пускаў на раструску?

Каб я стаў безнародным паэтам?
І каб вершы пісаў па-эт-руску?..

# 2000

x x x

Міленіум, мяжа тысячагоддзяў, –
Свет верыць цудам і наіўным снам…
А нам яно ні кропелькі не шкодзіць –
Усё, што мелі, застаецца нам:

І праваслаўе, з’едзенае моллю,
І нацзачыстак хіжае нутро,
І мовы іншамоўнае бязмоўе –
Як антыбеларускае таўро…

НЕХТА…

Калі ўзнімаецe навагоднюю ноч,
Як бакал перапоўнены, над зямлёю,
Не забывайцеся: недзе побач, а дакладней – наўзбоч,
Нехта схіляецца над жабрацкім сваім аналоем –

Адбівае хапком за паклонам паклон,
Надзею моліць над скрыняю смеццевай…
А нехта ловіць прывідны сон
На гарышчы з мінусавай адмецінай…

Нехта звіваецца па сумётах вужом,
Захінаючы ў плашчык азалелае змесціва.
А нехта раскашуецца падчарніленым “бамжом”,
Загарнуўшыся ў Праспект газеты “Известия”
Ды яшчэ прыладзіўшы пад галаву
Падшыўку Праспекта газеты “Правда” –
Органа, што камунізму хвалу, як халву,
Раздае і сёння са старонак парадных…

І тады я не плюнуць яго прашу,
О не – хай абыдзе помыслы грэх той, –
Я прашу: у вясёлую вашу душу
Хай хоць раз зазірне гэты самы НЕХТА…

СНЕГІРЫ

Сонца ў чорным выраі,
Радасць – у адлёце,
Снег з дажджом пароўніцы
Сыплюць хмар слаі,
А пабачу ў чырвані
Снегіроў на плоце,
І мне светла мроіцца:
Гэта – салаўі…

Хоць сябе астуджваю
Лёгкаю іроніяй:
Песенька не тая
І спявак не той, –
Падпяваць асуджаны:
Пэўна ж, не староннія,
Пэўна ж прылятаюць
З вераю святой,

Што ў сусвеце снежным
І вясна здараецца…
І няхай не тропікі –
Студзень на двары, –
Гэта непазбежна,
Гэта паўтараецца…
Весняй песні кропельку
Дораць снегіры…

х х х

Снежных вятроў галасы
Знёс красавік за лясы –
На самую стылую поўнач.
Птаства – на ўсе лады,
Квецень – на ўсе сады,
І неба – поўніцца поўняй.

І званары-бары,
І маўчуны-віры
Скідаюць зімы здранцвеласць…
Адкуль жа ў позірку стынь,
І поступ, як здань, пусты,
І дух крыжуецца целам?..

x x x

Адкуль мне знаць: во зараз
Я паўзу, іду ці лячу?..
За слова спагаднае, як на базары, –
Бачу: абманьваюць – а плачу…

Адкуль жа мне знаць пра тыя разлікі –
Не я перад светам суджу:
Які я мізэрны, які я вялікі, –
У вочы жанчыны гляджу…

x x x

У гісторыі – для тропу –
Даць галоўнае зачын:
Як прасеч акно ў Еўропу,
Пётра Першы навучыў.

А прасеклі – дык і дзверы
Асадзілі, каб хадзіць,
А не лазіць. Каб манеры
Еўрапейскія набыць…

А пасля й для калідора
Быў пазначаны маршрут.
Лязгат клямак і затвораў
Блытаць стаў тутэйшы люд…

Бо франтальна і ахопам
Цераз край наш з той пары
Маршыруюць то ў Еўропу,
То з Еўропы ваяры…

Тут і буфер, і заслона, –
Кіпцюрамі ў цела ўлез
Пад імперскаю каронай
Стратэгічны інтарэс…

А каб край сыноў вырошчваў –
Старажоў суседскіх нор, –
Беларусам пад жылплошчу
Ахвяруюць калідор…

x x x

Выжыванне –
Парабак
Жавання.
Каб без харчу
Не аддаць канцы,
Грошы даганяй:
На скрыжаванні,
На дыстанцыі
І на кальцы.

А дагоніш,
Сунімі іржанне –
Радасць тут
Заўчасная зусім:
У чарзе
Асвойвай
Гужаванне:
Гуж паўзе –
І ты круціся з ім.

А пакуль дакоцішся да кухні,
Бамжаванне
Выдасца за рай,
Будзеш пенны ўвесь, як з півам кухаль, –
Свежаванне
Ў ванне
Прынімай.
Помні: ты зусім не парыжанін
І не варшавяк, –
Вучыся жыць!..
Выжыванне –
Парабак
Жавання.
А табе пры ім
Рабом
Служыць…

## ВЯЧЭРНЯЕ

У ноч, як у пекла, задымлены горад
Ад свету бязгрэшным хаваецца грэшнікам.
Жахаюцца цені, бягуць, як і ўчора,
Як вечна, – зайздроснікі раю падстрэшнага…

Каго даганяюць? І хто за кім гоніцца?
Вячэрняя змена штурмуе аўтобусы.
А дзень адыходзіць бадзягам няголеным,
А людзі на ўдачу растрацілі спробы ўсе…

А людзі ў салонах, як семкі гарбузныя:
Такія падобныя, такія ўсе розныя…

А людзі, здараецца ў свеце затузаным,
Бываюць цвярозыя, таму і сцярвозныя.

## УСПАМІН ПРА ПЕРШЫ СНЕГ

Зямля, як прачыстае свята,
Нябёсам узносіць хвалу.
Бяроза над белаю хатай
У белую тоне імглу.

Душы незагойныя раны
Бінтуюцца снегам надзей.
Вакно чорна-белым экранам
У райскае поле вядзе…

x x x

Сцвярджае нам за векам век:
Ланцуг няволі незагойнай
Ужо не раз мячом рассек
Ваяр Літоўскае Пагоні.

Ды зноў і зноў сусед і брат
Браў у смяротныя абдымкі,
І неба светлы далягляд
Здаваўся шэраю аўчынкай.

Тады гісторыя шляхі
Нам з небыцця, як дар, вяртала:
Крышыла памяць лемяхі,
Ды зерне з цемры прарастала.

І ўспаміналі крэўны час
Мы, каб зняверанасць спатоліць…
Дык блаславі ж і сёння нас,
Літва, на мужнасць і на волю.

Узор красы і хараства,
Урок нязломнай непакоры, –
Ратуй нас, родная Літва,
Пра-маці наша і пра-корань.

## ВЕЧНЫЯ ВЫГНАННІКІ

Будзе Нача вясёлкай свяціць
І хмурынкай ляцець узбалотак,
Дзе бяздомнай кнігаўцы піць
Мёднай бражкі не вынесе лотаць…

Не вярнуцца мне ў рай зямны:
Рай згарэў на патэльні асушкі.
Будзе толькі рэха вясны

Мне ўспаміны балючыя гушкаць…

Будзе толькі песня драздоў
У нябесных гайдацца кушчах,
І між зор завіваць гняздо
Будзе клікаць лёс невідушчы…

## ПЯРЭБАРЫ Ў ЗІМУ

Крылаты, аснежаны ранак
Марознай рыпіць палазнёй.
Дым з коміна – грывай буланай:
Згараюць самота з грызнёй.

Душа навіною прачыстай
У звоне сняжынак трымціць,
Як лёсу наказ: каланістам
У зоне душою не жыць.

Прысады цвітуць снегірамі,
Сінеюць сініц васількі,
І чорнымі ліхтарамі
Гараць на бярозе гракі…

x x x

Сціхлі птушак галасы:
Гнездаванне.
Вус тапыраць каласы:
Красаванне.

Сонцу мроіцца зеніт
Царскім тронам.
Патужэлі карані:
Пояць крону.

Хто на дзень, хто на вякі
Песціць ніву.
Шмат надзей. Але якім
Будзе жніва?..

## ВЕРЦЕ ЯБЛЫНІ…

Сёння вялікдзень – пад самы цвет:
Слівы, чарэшні і вішні –
Вясна-красна на ўвесь белы свет! –
У белай цнатлівасці выйшлі.

А яблыні – квецені наперакос –
Цямнеюць, як змрочныя мары…
Не хочацца верыць, ды сведчыць прагноз,
Што вечарам холад ударыць…

х х х

Белае надрэчча:
Чаромха расцвіла.
Легла Шляхам Млечным
Нача ўсцяж сяла.

А панізе – зоркі:
Селі на зямлі,
Зноў са мной гаворку
З лотаці сплялі…

Чую, быццам з неба,
Тую далячынь…
І аддзячыць трэба,
І не маю чым…

Што зямля закрэсліць,
Небу ўсё ідаць…
Песню толькі песняй
Можна апраўдаць…

УСЕ…

Калі адгрымелі салюты,
Калі налівалі па поўнай,
Кожны піў за свае пакуты,
Кожны сваё штосьці ўспомніў:

Хто паміраў,
Хто на смерць пасылаў,
Каго каралі,
І хто караў,
Каго забівалі,
І хто ратаваў,
А хто ратаваўся
І сам забіваў, –

Усім налівалі…
І ўсе выпівалі.

х х х

Як было раней у нашай хаце?
Сонца ў вокны днём – з усіх шляхоў,
Сонца ў зацем: гэта ў хаце маці,
Наша абаронца ад грахоў.

Ахінала і аберагала,
Каб ніхто пакутаў не цярпеў
У цямрэчы… Ды святло прапала, –

Вокнамі на поўнач мы цяпер…

## ЧАКАННЕ

Салавейка-ручаёк –
Слязінка па каменьчыках:
Скок ды скок, а сэрца – ёк
Да ёкавых карэньчыкаў.

Ёк ды ёк… – а будзе клёк
Ці збяжыць, пярэсценькі,
Як вясновы той дзянёк
З той надрэчнай песенькі?..

## ЗНІКНЕННЕ

Учора знікла расінка
На белым пялёстку вясны,
А сёння сцякла сцяжынка
Ў куток запаветны лясны.

Учора не ўчуў, як іней
Гайдаў на галінцы званкі.
А сёння ў глухой дамавіне
Зязюля лічыла цвікі…

Учора пагаслі зачыны
Любові , дабра і зла.
А сёння знікла жанчына:
Як здань, незаўважна прайшла…

Гадоў датканыя кросны:
Сплывае сувой, як вада…
Па кроплі высмоктвае космас
Усё, што калісьці даў…

Жыцця непазбежнасць такая:
Хоць Бога аб тым не прасіў,
А сам ад сябе знікаю,
Не знаючы, што – назусім…

## СОНЕЙКА

І надрэчныя кусты,
І лугі прылеглыя,
І палёў настой густы
Сонейка пялегуе.

І красуй, і выспявай,
Налівайся сокамі,
І што ёсць на свеце май, –
Шэпча ўсім з пяшчотаю.

Матыльку, і мурашу,
Зерню, і карэньчыку
Аддае сваю душу,
Дзеліць па праменьчыку.

Каб завейную зіму
Не сустрэлі ў паніцы,
Каб хапіла, –як каму:
Не цяпла, дык памяці.

x x x

Мізарнее запас
Дзён, на прышласць адведзены,
А мінулыя – час
Выклікаць на агледзіны.
Час падзякаваць тым,
Што мяне не няволілі:
Хоць не меўся святым,
Ды й грахі не адолелі.

Ну а тым, дзе ўпадаў
Я ў спакусы, што выказаць?
Іх – каму я аддам, –
Ці за так, ці пазыкаю?..

І яны ж мне з радні,
І яны – мае крэўныя.
Вы прабачце мне, дні,
Што быў з вамі не крэмневы...

Як без тых – я не я,
Так без гэтых, – як ліпавы.
І якая, чыя
Доля дні мае выправіць?..

Хоць не сам змалачу,
Сею жыта азімае.
І стамлёна кручу
Сноў кіно эксклюзіўнае…

x x x

Вокны, дзверы, жалюзі, карнізы… –
Аж трашчыць газетны разварот.
Пэўна, гэта й ёсць капіталізм:
Зачыняйся – і жыві, народ!..

Поўную бяспеку ад зладзеяў,
Як рэклама сведчыць, будзеш мець…
А народ на рэдкі грош мадзее,

Грош той з коштам зводзячы ледзь-ледзь…

А спакусы – ды яшчэ і “еўра…”:
“Еўра-матэр’ял” і “еўра-стыль” –
Дакляруе спраў рэкламных хеўра
На жывот падцяты і пусты…

Ну амаль як на вярбе ігрушы, –
Знайце, што і мы не драбяза!
Хай хоць Клінтан едзе, разам з Бушам, –
Сорамна не будзе паказаць.

За людзей пяклуецца рэклама:
Кожнаму – па “еўра-калачу”…
Ну а кожны той бяжыць да крамы,
А сказаць, што ўзяць? – маўчу, маўчу…
Што народу да высокіх місій!
Госць у хату – то й велічыня.
А як поўна і не посна ў місе,
Дык навошта й дзверы зачыняць?!.

x x x

Хто небяспечней: злодзей ці прарок? –
Дала адказ гісторыя. І ўрок:
Натоўп Вараву для жыцця абраў,
Хрыста – каб уваскрос – раскрыжаваў.
Адзін свой век пражыў, пакуль засох.
Другі – жыве: смерць смерцю перамог.

ЮБІЛЕЙ

Ідзе генеральная рэпетыцыя:
Хто з паперамі, а хто без папер –
Ля мікрафона лозамі ніцымі
Прамоўцы сцелюцца напавер…

Пра юбіляра, як пра нябожчыка:
Гавары толькі добрае альбо маўчы.
І языкі хваласпеўна палошчуцца:
Для пахавання вясёлы зачын…

Такія эпітэты, такія метафары –
І трапнасць, і зграбнасць, і лаканізм, –
Стаўляй – што ні скажуць – у эпітафію:
Праз вякі пазайздросціць любы блюдаліз!..

Як ёсць – п’едэстал юбіляру грунтуюць,
Каб зараз узняць і паставіць жыўцом, –
І ў бубны грукочуць, і лемантуюць,
А там – да стала, і справа з канцом!..

Успомняць і жонку, і маму з татам:
Якія пачосткі ў гасцінах былі,
Яшчэ й падмацуюць дастойнай цытатай,
Што ў юбіляра з выпадку знайшлі…

Нібыта ўжо мёртвы ён напалову:
Столькі вянкоў і лаўровых акрас.
Розніца толькі, што ў дзеясловах
Замест мінулага – цяперашні час…

x x x

Лес мой мудры,
як Цютчаў
З вершам філасафічным:
Грані дум і пачуццяў –
З несмяротным аблiччам.

І таму – не разгадвай,
Толькі вер, толькі слухай:
Лес бацькоўскім паглядам
Сее добрыя духі.

Лес агорне суцехай –
І лагодны, і строгі.
Тут нячысцікі – нехаць,
Але ўступяць дарогу.

x x x

І слава людская, і ганьба людская
Трымаюць аднолькава, не адпускаюць.
І слава, і ганьба, як сёстры, мяжуюць,
Бязлітасна дух чалавечы крыжуюць.
Адзіны ў іх плён, бо адзіны і корань,
Змыкаюцца ў круг і нішчымнасць, і скорам.
Калі цябе ў небе ўрачыста люляюць,
Зважай на зямлі: ці не ў бездань куляюць…

“ГАЛАСЛІВАЯ ПРЫПЯЦЬ…”

– Галаслівая Прыпяць!.. –
Вася-ўнук захапляўся: –
Воды – мору не выпіць,
Я ж – у песнях купаўся…

Гаварыў без ілюзій,
Пабываўшы ў “турыстах”
Там, дзе ў “Тураўскім лузе”
Птушак рай галасісты…

Аж да Чорнага мора

Разам з прыпяцкай песняй
Ён сваім наватворам
Плыў пад ветразем веснім…

Называў галаслівай
Галасістую Прыпяць, –
Мне ж на сэрца шчымліва
Попел ядзерны сыпаў…

Слова з гэтакім лёсам,
Пэўна, й знаць ён не знае:
Галаслівы – галосіць,
Галасісты – спявае.
Ды, шануючы радасць,
Юны мой арнітолаг,
Перад светлым паглядам
Не ўзніму чорны полаг…

Прыпяць хай толькі й знае:
Галасістай аздобаю
Рай птушыны спявае,
А галосіць – Чарнобылем…

x x x

Вітаю Ізраіль,
які ганарыцца сваёй неўміручасцю,
Шаную яўрэяў,
якія не тояць сваёй першароднасці, –
Няхай для кагосьці
пазіцыя гэта не зручная,
А мне –
як зарука маёй чалавечае годнасці.

Ад Бога
ў любога народа душа не скаромніца:
Жыццё бласлаўляе
на радасць сусветную людскасці.
Мне толькі няўцям:
а чаму гэта іншы саромецца
Яўрэйства свайго,
як, бывае, і мы – беларускасці…

Хоць, кажуць, з паважным узростам
і дурань мудрэе,
А сэнсу дапяць,
далібог, аніяк не бяруся:
Ці той беларус
навучыўся ў такога яўрэя,
Ці гэткі яўрэй
клёк узяў у таго беларуса?..

x x x

“Самотны Бог
чалавека стварыў
Па свайму падабенству і вобліку”… –
Трактуюць тварца святары з той пары:
Сядзіць, як дзядок, на воблаку…

І розум людскі на скрыжалях дзён –
У Бібліі і ў Каране –
Запэўніў, што ў Духа сусветнага ён
Адзіны ў сусвеце абраннік.

А Бог пасміхаецца: бач іх, тварцы! –
Таксама ламаюць камедыю:
Не сніў, што партрэтна ўпякуць у айцы,
А дух як стварыць – не ведаюць…

x x x

Прыходзіць ноч, сказаў Ісус Хрыстос,
Калі ніхто нічога не здзяйсняе…
Бо толькі дзейны дух да неба ўзрос:
Гарыць святлом і цемру разганяе.
“Я ёсць святло”, – хай за Хрыстом усе
Паўтораць і сваім наканаваннем
Хай па праменьчыку нясуць, хай пакрысе –
І згіне ноч перад сусветным ззяннем.

ШАРМ

Шарм – гэта амаль што шрам:
На шчацэ, над брывом ці на ўсмешцы, –
Не царква, а тым больш не храм –
Толькі звон, што трывожыцца ў спешцы.

Выратоўны шрам, не бунтоўны шарм –
Але ў коле не лішняя спіца:
Згасне шарм – і душа, нібы круглы шар, –
Ні зачапіцца, ні падступіцца…

x x x

Дзяўчынка на веласіпедзе
Імчала лясною дарогаю, –
Ну, едзе, дык хай сабе едзе –
Я збочыў, але – з асцярогаю…

Бо рукі былі, быццам крылы –
На розмах, за руль не трымаліся, –
Абдымкі свету раскрыла,
І лета ў вачах гайдалася…

Дзяўчынка гукнула мне: “Здрасьце!” –
Дзяўчынка, зусім не знаёмая, –
І “здрасьце” было як шчасце,
Як вырай на неба сёмае.

Няхай сабе мовай не наскаю
Вітанне тое гукнулася,
А ў сэрцы забытаю краскаю
Вясна на імгненне прачнулася.

Вярнулася юным “здрасьце”
Майму адцвітанню старэчаму…
Ляці – як на сконе прычасце,
Ляці, дзяўчынка сустрэчная!..

ДУША

Нібы Марс пустэльнасці сігналам
У душу зямную зазірне:
То каналы, то лесапавалы
Ў нашай узбалотнай старане.

Чую, як з магільнага пагорка
Жытнім полем шэпчуць галасы, –
А пра што ў дзядоў ідзе гаворка,
Я не знаю, і не знае сын.

А што ўнук, дык той і не пачуе,
Не пабачыць з гарадскіх муроў,
Як над Начай лесавік карчуе
Пень смалісты для распалу дроў.

Бо ніхто не клікне абагрэцца,
Як на ляда хлынуць халады, –
То ў каляды выладзіць цяпельца
І з падвеем узвіхураць дым…

Будзе праўнук зорныя сюжэты
На касмічных выдмішчах шукаць
І не здагадаецца пры гэтым,
Хто яго наважыўся гукаць.

Падкажу – няхай сабе адзначыць:
Гэта голас-абярог імкне
Той хлапчук з душой багоў надначных,
Што падобны крышку на мяне…

ПЧАЛА

Пчала пачала: пчала загула –
Гэта ў пчалы песня такая, –

Пчала нікому не тоіць зла,
Гудзе – значыць, мёд шукае.

Па кропельцы з кветак збірае нектар
І свой узятак бароніць.
Не лезь у вулей, калі не пчаляр:
Пчала не любіць староннiх.

Не любіць пчала, калі, як вятрак,
Ты злосна махаеш рукамі,
Твой страх – для пчалы небяспекі знак,
Нібыта запазухай камень…

Баяцца пчалы і мёд любіць –
Яшчэ паўбяды, не болей…
Пчалу ж не любіць – пчаляром не быць:
Пчала не дарue ніколі.

Не крыўдзі пчалу, не збівай з крыла,
Помні: пчала не сказала –
Плача пчала, пчала загула,
Пчала навайстрыла джала!..

## КАМАР

Па законах сям'і лясной
Харч і бізнес у кожнага свой.
Заяц зайцаву есць капусту –
І нішто сабе, хоць і не тлуста.
Лось траву ды кару жуе,
А як волат – трывушча – жыве.
У ваўка гэткі харч не ў пашане:
Воўк спрадвеку жыве з палявання.
З палявання жыве і камар,
Ды ў яго тут асобы дар.
Ён ахвяру не б'е і не рэжа –
Ён крывёю мацуецца свежай.
У меню – камарыная мара:
Мець заўсёды жывую ахвяру.
Дужа добра знае камар:
Дужа смачны з крыві адвар.
І таму ля крыжоў межавых
Ён ахоўвае ўсіх жывых,
То і дзякуйце: і камару,
І што кроў яму па нутру…

## х х х

На кожную травінку, на кожную расінку
Гляджу, як у апошні раз:
Нібыта ў вечнасці выпрошваю хвілінку,
Што і яднае і разлучыць нас.

А час
грызе, грызе гадоў скарынку –
І мізарнее з кожным днём запас, –
Які няўмольны і бяздушны час:
Ні здрады, ні спагады, ні супынку…

ВЯСНОВЫЯ АДЦЕННІ

Вырай пралесак асеў
На баравым высокім угрэве.
На такавішча касу нясе
Цецярук, каб суперніку зрэзаць грэбень.

А ў нізінным закутку цень
Яшчэ зябкасцю студзеня патыхае.
І заімшэлы не знае пень,
Што вырашана сонечнымі вярхамі.

Шматок зімы пад сасной
Схаваўся ў яры гарбылём зляжалым,
І снег апошні пахне смалой,
І пахне смала снегам падталым…

ПА БАРТАРУ…

Мы жывём , беспрадажныя,
Без рахункаў і цэннікаў –
З нашай праўдай сярмяжнаю,
З нашай сутнасцю цынікаў.

Наша справа чыноўная:
Гнём прасіцеляў дугамі,
Каб было ўсім па-роўнаму:
За паслугу – паслугаю.

Калі ўлагада вартая,
Дык і мы “саатвецьсцвенна”:
Па ўзаемнаму бартару –
І ніякай адмецiны.

Невідушчасці й н*е*чуццю
Аддаём перавагу мы:
Тут – хто ўбачыў, хай лечыцца,
Хто пачуў – хай не звягае.

Без рэкламы абменнае
Ўсё ў жыцці, – як тавары:
І пачуцці абманныя,
І бяздумныя твары.

Так і гнём, і выпростваем,

Хто з душою гарбатаю,
Хто пакрыўся каростаю, –
Па-братэрску, па бартару…

## ХТО ЗНАЕ…

Не ўяўляю і ўявіць не магу:
Як гэта я… не: як гэта мяне
Пакладуць аднойчы галавою на покуць…
А трэба ўявіць. І прыдумаць,
Як тую
Старую
Каргу
Прымусіць, калі зазірне,
Хоць не збегчы самохаць,
Дык перапалохаць…

Серп тупы дажынае гады, –
І чаму гэта я пра яе ўсё,
Калі
Па іржышчы пенсійным думкі блукаюць?
А чаму не тады,
Калі быў малады,
Калі вёсны гулі,
Як у кветках чмялі?..

А была б, скажам, зараз яна маладая?
Што падумаў бы я – хто знае!..

## СОН

Бывае ў жыцці той адзіны міг,
За якім ні пакутаў, ні болю.
Загадкай вечнай для ўсіх жывых
Заснеш, каб не прачнуцца ніколі…

## х х х

Калі чужакі мы ля родных дзвярэй,
Не л*ю*дзі мы – нелюдзімы.
І душы шырэй, і сэрцы шчырэй,
Калі ёсць у нас Радзіма.

Калі стаіш на роднай зямлі –
Крылата ўзлятаеш у неба.
І мёд саладзей у сваім вуллі, –

Ды й мёду таго не трэба!..

## СВЯТА

Усе ўсенькія ў свеце прыкмецілі,

Колькі на яблыні квецені.
І якая яна прыгожая –
І па-свойму для кожнага.

Для садоўніка тым прывабная,
Што чаканню не здраджвае яблыня.
Між пялёсткаў дзівуюцца мошкі,
Што салодкія сёння ў іх ножкі.
Пчолы роем, самотна чмялі
Свой мядовы аблёт пачалі.

І ніхто не мог здагадацца,
Колькі яблыні выпала працы,
Колькі клопату – спраўдзіць існасць –
На галінках вясёлых навісла…
Пустацветам не адквітнець,
У чаромхавы холад сагрэць…
Каб пароўну было, па-парадачку –
Па карэньчыку кожнаму яблычку…
Напаіць, залюляць, даспяліць,
З беражкамі сонцам наліць…

І тады ўжо, на яблычны Спас,
Будзе ў яблыні свята. Для нас…

x x x

Свет задуманы Богам
Дзеля радасці быў,
Ды з нічога ў нічога
Ключ прапрашчур згубіў.

З той прамашкі Адама
І пяклуецца люд.
Цяжка нам, і таксама
Богу з намі не цуд…

Разбягаецца статак –
Гурт за гуртам у зброд.
Дзе канец, дзе пачатак?
Ці ўсё наадварот?..

І ўжо наканаванне
Над зямлёю вісіць:
Чалавек – не абраннік, –
Час і шлях уступіць.

А каму? Бог не выдаў
Тых намераў – і зноў:
Лабірынты планідаў
Нам праз бойні і кроў…

Свет нязменна-цудоўны,
Ды ў разгуле чумы,
Шматаблічнай, шматмоўнай,
Не мяняемся мы…

## ПРАДЧУВАННЕ

Хмары знядужана неба варушаць,
Тужліва хаваюцца ў нетры звяры,
Птушкі палётам бяскрылым тушаць
Размытыя фарбы кволай зары.

Свет ахінуўся грэшным пакровам,
Хтосьці агідны сядзіць на плячы.
Быццам чакаеш страшнае слова,
А той, хто мовіць павінен, маўчыць…

х х х

У час імглісты, у час бунтоўны
Атрутных слоў
Няма мне блізкіх, няма мне роўных, –
Няма асноў.
У сэрцы згубны хаос бушуе,
Сусвет дрыжыць,
І хто той трубны разлом пачуе:
Жыць ці не жыць?..

х х х

Ахопіць сон – але душа жыве.
Палоніць сон – але не абяскрыліць:
Душа ў нябёсах зоркаю плыве
Між зорак тых, што нам жыццё адкрылі.
Што на зямлі закончылі свой шлях,
Адзначаны пясчанымі грудкамі,
Што толькі ў сне – снам невядомы страх –
Мы на спатканне радасна гукаем.
Дзядоў і прадзедаў, нязнаных, пазнаём,
Як з роўнымі, гамонім і смяёмся.
І вечнасцю, як і яны, жывём,
Пакуль ізноў – смяротнымі – прачнёмся…

## КАЛІСЬЦІ…

Калісьці ўсё было: была вясна –
Глыток жывой крыніцы,
І ў моры зорным светлы ўзмах вясла –
Чароўнасць таямніцы…

Чаромхава кіпелі халады –
А сонца ззяла.

Была вясна. І вечнасць невады
Не расстаўляла.

Было надрэчча з песняй салаўя, –
Аб чым? Не знаю…

Дзе песня тая, у якіх краях, –
Каго спытаю?..

Будзённа дні апошнія рыпяць –
Сышлі з арбіты.
Загадкі неразгаданыя спяць
Вясной забытай…

Калісьці
Ўсё было…

Калі ж ты
Ўсё было?..

x x x

Няма ў сусвеце зваротнага руху:
Кругамі, кругамі – але наперад.
І толькі аднойчы я тайну падслухаў:
Як Бог і сам сабе не паверыў
І сам здзівіўся: “Няўжо ніколі
Не павярнуць мне палёт імклівы,
Няўжо й сусвет не пазнае болей,
Што значыць і юным быць, і шчаслівым?..”

## ФАНТАЗІЯ ГАДАВОГА ЧЫНУ

Звычцы той не чыню перашкод:
Каму і калі пачынаць новы год, –
І няхай каляндар выбачае,
Што каноны ягоныя парушаю…

1

Усё пачынаецца з восені,
Калі й верабей багаты,
Калі то агледзіны, то запросіны,
То водведы ў кожную хату.

Восень рупнай ідзе сялянкаю,
Па жніўі басанож ступае,
Восень цешыцца пагулянкамі
І на сватоў не скупая.

А таму на дажджы з імжакаю
Не зважайце, каб шчасце вялося:

Восень, хлопцы, бывае дваякая –
І вясна здараецца ўвосень.

2

А яшчэ – а яшчэ перад гэтым
Было – не забудзьцеся – лета.
І восень такая багатая,
Што лета з працаю сватала.
Хто ў прыпар не зломак быў,
Той шчодрую восень здабыў.
І я таксама багаты
Кавалачкам летняга свята.
Са мною – зямельцы паклон,
Са мной – сенакосны звон,
Са мною даспелы жнівень
І жніўная песня над нівай…
Я ў роднага поля ў цане, –
Дык што яшчэ трэба мне?!.

3

Адкуль бярэцца зіма?
З той краіны, дзе нас няма.
Вось былі б мы ў краіне той,
Знаць не зналіся б там з зімой.

Але трапіць туды памкненне
Гасне ў бездаражы асенняй.
А калі са спазненнем прыходзім,
То зіму ўжо мы там знаходзім…

І палонімся снежнай бялынню,
І дзівуемся: кроў не стыне
І на шчоках заранкамі ззяе,
І зіма не такая ўжо злая,
З ёй і век векавалі, здаецца, –

І згаджаемся: хай застаецца!..

4

Збеглі ў лагчыны снягі
З выдмішчаў цецеручыных,
Нача ўвайшла ў берагі
Селішчам сем’яў качыных.

Ля старыц, усцяж ракі,
Сонцам рассыпаным – лотаць,
У сонечных кронах гракі
Чорнае пер’е залоцяць.
Зябка бяроз карані

Адхукваюць дол на сугрэвах.
І людзі – куды ні зірні –
Толькі Адамы і Евы.

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

О Беларусь, за якія грахі –
Нябесныя ці зямныя –
Сляпы выбірае шляхі,
І глухі
Слухае ў будучы век пазыўныя?..

ВЯРТАННЕ

*Адышлі ў нябыт панегірыкі…*
*Г.Бураўкін*
*1962*

Адышлі ў нябыт панегірыкі,
Выпраўляе прыцэлы літфронт, –
І каханне трызніцца лірыкам,
Ну і штосьці… сэксу наконт…

А да сэксу й наробак сэнсу.
Ды загад: зноў ствалы расчахляць
І натхнёна – душою і сэрцам –
Услаўляць чарговую знаць…

І прытронна ўжо ззяюць мундзірыкі.
І патрону сведчыць бамонд,
Што вяртаюцца панегірыкі
І другі адкрываецца фронт…

x x x

Мая свабода не ў люстэрка
Глядзіць, любуючыся мной,
Яе не клічу на прымерку
І не змаўляюся цаной.

Яе не адабраў ні ў кога
І не пазычыў да пары,
Яе, як і сябе самога,
Не пасылаю ў званары.

Мая свабода не на плошчы
Куміру “Ойча наш” пяе,
Дзе косць казліную за мошчы
Натоўпу д’ябал выдае.

Яе не цешыць перамога
І ўдача не бунтуе кроў,
Яна – мая перасцярога
Ад хваласпеўнасці сяброў.

Яна апірышча святое,
Не перад Богам мітусня.
Яна і я – адно і тое:
Яна са мной, бо з ёю – я.

x x x

Па-дзіцячы наіўна разгадку
Я шукаў на шляху крыжавым.
Пражыву – пайду без аглядкі:
Застаецца загадка жывым.

І яе вам разгадваць не раю:
Я надзеяй страшнай плаціў,
Бо разгадка – ні пеклам, ні раем –
Будзе праўдай аб марным жыцці…

АСЕННЯЯ ГРУБКА

Весела вуркоча грубка:
Цяга ў неба – быццам змей.
Па імшарах ходзіць з лубкай
Дождж асенні – грыбасей.

Будзе ноч, і грубцы будзе
Сніцца летні санцапёк.
Гэты сон яна і людзям
Пакладзе пад цёплы бок.

Спіце, людцы… Ну а тыя –
Залачаць пачне ледзь-ледзь –
Паўцякаюць, залатыя
Сны пакінуўшы калець…

Пабягуць – хто да імшары,
Хто да ўзлеску нацянькі.
І гамоніць грубка з хмарай:
“Ці ж то людзі? – грыбнікі…”

x x x

Расказвала мама: калі быў я малы
/А як для мамы – то расказвала заўсёды малому/:
Нават у самых блізкіх гасцях горш смалы
Прыставаў, каб хутчэй вяртацца дадому.

–А што ж табе так ужо кепска ў нас? –
Дзівілася цётка Ева,
Хоць загадзя ведала мой адказ,
Што не даспадобы мне ў іх птушыныя спевы.

“У вас, – гавару, – няма той красы:
Нават кнігаўкі кігікаюць, як ад гора…” –
І тут жа старанна перадаваў галасы:
“Кі-гі” панылае з вяснова-бадзёрым.

І гэта ў адным сяле – на другім канцы:
Іншыя і кігіканне, і шчабятанне, і клёкат…
Цяпер разумею сябе на апошнім жыццёвым вянцы,
Калі бываю ад Беларусі далёка…

## ЧАКАННЕ ДАЖДЖУ

Які ўжо тыдзень дрэмле Балтыка,
А ў нас – гняздо звіла сухмень.
У полі – вусцішы абвал такі,
Што вусы апусціў ячмень…

Дажджу б – хоць каліва, хоць кропельку,
А ў небе – здані бліскавіц,
І міражамі ходзяць тропікі
Па сцежках высмяглых суніц.

З дня ў ноч тарфянішча дымілася
Крылом асушанай маны.
Ва ўсіх лясах зямля малілася,
І стрыжні плакалі ў званы.

На выдмах сонечных зрудзелая –
Якім спагадцам уваччу
Зямля паўстала безнадзейная?.. –
І хтосьці ўсё ж яе пачуў…

Вятры – хоць позна, хоць не ў тэрміны –
Скарынку засухі грызуць
І хмар заморскія кантэйнеры –
На беднасць – з захаду вязуць…

## НАРАДЖЭННЕ

Плакаў хлопчык, дзіця, немаўля:
Ён знаў – ён толькі з-за той мяжы,
Дзе яшчэ не наша зямля…
Я прасіў: “Што ты знаеш, скажы?..

Якую вестку ты нам прынёс,
Які нарадзіўся з табой запавет:
Ці лёсам сваім абвергнуць наш лёс,
Ці нам адкрыць невядомы свет?..”
А хлопчык плакаў і плачам сваім
Вялікую тайну бярог, –
Бо верыў, што з намі ўжо ён назусім,
І сказаць нічога не мог…

x x x

Ці гэтак збяднела фантазія,
Ці зоры спыніліся ўвысях?.. –
Адно бачу ў снах раз за разам я –
Дашчэнту сюжэты звяліся:

Кудысьці спазняюся вечна,
Згубіўшы дарогу – шукаю,
Збіраю паспешліва рэчы,
Забыўшыся, дзе якая…

Прачнуся і ўспомню з палёгкаю:
Я тут яшчэ, вось – сам з сабою…
Засну – і ў дарогу далёкую
Зноў гоніць трызненне тое…

Няўжо, гэта хтосьці даводзіць:
Збірайся – і дні падшкрэбвай…
Няўжо, гэта час надыходзіць:
Не хочацца ехаць, а трэба…

x x x

Будзем вечна блукаць у журбе,
Як пакінем гэту зямлю.
А таму заклінаю цябе
І праз вечнасць Бога малю:

Каб надзея сустрэцца была,
Як і ў той, запаветны, час,
І пакровам свайго крыла
Ахінала, зняверaных, нас…

І калі ў сусвеце зямля
Астыне – душы зліём, –
Хай будзе воля твая
І ў святынях – імя тваё…

ДАЗНАННЕ

Вочная стаўка, – у твары, як п’яўка,
Следчае вока ўпіваецца.
Першы: “Не знаю…” – выхрыпвае даўка,
Другі на нагах не трымаецца.
“А шкада: вы ж былі не-разлі-вада…” –
Пазнаёміць іх – пастка следчая.
І хоць нюх вядзе па слядах –
Пратаколамі след не засведчаны.

Вочная стаўка, допыту клямка, –

Следчаму не адкрываецца:
На смерць ці жыццё – за дзвярыма стаўка, –
Двое крывава трымаюцца…

Вочная стаўка,
Воўчая ўдаўка…

СНЯГІ ПРАЧЫСТЫЯ

“Выйшаў – а снегу па пояс…” –
Дзе і калі пачуў,
Не помню. Ды вечная повязь
Са снегам стаіць уваччу.

Было і са мной гэтаксама:
Сумёты – вышэй страхі.
Завейнай начы галасамі
Дзень трызніць – марозна-сухі.

Прыціх, знясілены стомай,
Вясёлы падвей-скавыш.
Ад хаты да рэчкі са стромы
На лыжах, як з неба, ляціш.

А ў лыжаў з-пад носа – будзь ласкаў! –
Два вухі і ногі ўразлёт:
Прыходзяць зайцы на папаску
Паповерх плятня ў агарод.

І саду няма абароны:
Па стрэхах вартоўняў бягуць,
Садзяцца касыя на кроны
І голле марозна стрыгуць…

І мы, зайчаняты людскія,
Па снезе пятляем лыжню
І снежнаму аркушу кіем
Даводзім пісьменнасць сваю.

Няхай сабе нашы імёны
Завея ў палях замяце –
Мароз панясе паштальёнам,
Што сказана ў снежным лісце.

І сёння чытаю: не хлусіць
Той ліст, што прыходзіць у снах,
І светлаю згадкай малюся
Маленству ў прачыстых снягах…

ПАМЯЦЬ

Без асноў не бывае высноў.

Занядбаны людзьмі і богам,
Стань, мой край, краінаю зноў, –
Край, успомні сябе самога!..

x x x

Сонечны дзень расхінае пакровы,
Каб я пабачыў пад небам зямлю.
І паўстае ўсё ў абліччы новым –
Як нанава ўсё і ўсіх пазнаю.

І я – невядомы для кожнай кузюркі,
Для кожнай травінкі – загадка і бог.
І хто з нас гуляе тым часам у жмуркі,
Не можа адолець таемны парог?..

А ноччу – далёка засвецяцца зоры,
А я – быццам побач, ля самых асноў.
І ўсё тады мовай знаёмай гаворыць –
Усё разумею, не знаючы слоў…

І ўжо ні Еўропы няма, ні Амерыкі –
Ёсць толькі кропля ў сусвеце – зямля.
І ў неба начное, нібы ў люстэрка,
Глядзіцца душа мая…

x x x

Кастрычнік. Іржэўем зрыжэлым
Бяздумна гуляюць вятры.
У рэчцы вада пацяжэла,
Свінцовыя стынуць віры.

Кастрычнік, злыселы травень,
Занудным дажджом укурыў.
Асеннія ўлазіны правіць
Ліса ў барсуковай нары.

Апошняя ў садзе вяргіня
Зіме давярае свой лёс…
Кастрычнік, ільноў настальгія
Па крэўным блакіце нябёс…

УДОВЫ

*Сюжэт для сучаснага рамана*

Плача горка баба Маня,
Хоць далёка пахаванне.
Не дайсці, хоць кліча гора,
У чужы, халодны горад.
У халодны і чужы,

Хоць там сын служыў і жыў…
А такі ён, а не іншы,
Што бяда з яго і выйшла…
Неспагадны і не блізкі,
Запалярны, засібірскі…

Плача горка баба Маня…
Сын загінуў у Афгане.
А цяпер во тэлеграма:
“Прыязджай да ўнука, мама, –
Не спаткацца – развітацца…” –
З горкім горам, з чорнай весткай
Тэлеграма ад нявесткі…
Як бяды ранейшай мала:
Куля ўнука напаткала –
У гарах таго Каўказа,
Пра які штодня паказваў
Тэлевізар
Чорна-шызы…

Быў бы побач Янак з ёю…
Дык, засыпаны зямлёю,
Што параіць ён з Нямеччыны?..

“Столькі бед адной на плечы мне…” –
Плача горка баба Маня:
Як жа ёй на пахаванне,
І куды яна паедзе:
Горад той за светам недзе…

Побач дзве яе сяброўкі,
Пасівелыя галоўкі.
І таксама ціха плачуць.
Плачуць,
          хоць і не галосяць, –
Аб сваім, няйначай,
                    лёсе.
Бо сыноў яны не мелі,
Без замужжа аўдавелі.
Іх каханне – не сыны –
Не вярнулася з вайны…

ПАРТРЭТ АЛЯКСАНДРА БЛОКА

*/Паводле выяў мастакоў-сучаснікаў/*

Зношаны, юны стары:
Бездань – люстэрка Блока.
Холадам страсці гарыць
Лоб, як нябёсы, высокі.

Сам у сябе пагляд,

Атрутная здань пазнання,
Самаспалення чад
І вечнасці прадчуванне.

х х х

Бог старасці, нядрэмны і пануры,
Адкуль бярэш ты досведы цяпер,
Калі ў душы адвеснавалі буры
І дні жыцця даюцца напавер?..

Юнацтва бог, грахоўны і гуллівы,
Нашто ж ты здрадай сэрца паласнуў
І выбар горкі даў: быць нешчаслівым
Ці шчасце мець – успамінаць вясну?..

х х х

Жыццё пражыта – як і не было:
Ні горкіх слёз, ні радасці, ні песень.
Куды ж яно, куды ж усё пайшло, –
Чым ганьбаваў, што шанаваў і песціў?

Няўжо, усё абернецца ў нішто –
І першы крык мой і расстання слова?
Тады навошта ўсё, калі ніхто
Мінулым не затчэ асновы новай?

Няўжо, ні разу голас мой і зрок
Не пакідаў адмеціны ў сусвеце,
І помстай будзе мой апошні крок:
"Бывай, жыццё, – цябе я не прыкмеціў…"?..

х х х

Як, Беларусь, скажы, усё ж лацвей:
На покуце – ці ля дзвярэй таптацца?
Ці ў роднай хаце ў маразы цяплей –
Ці пад сцяной суседскага палаца?

Ці на сваёй бяседзе гаманіць –
Ці на чужой чужыя слухаць звягі?
Ці лёс у глебе крэўнай караніць –
Ці мець планіду вечнага бадзягі?

Ці хлеб па-гаспадарску здабываць
Народнай талакою –
Ці на сусветнай паперці стаяць
З працягнутай рукою?..

х х х

Ці на полі неўраджай,
Ці паморак у хлявах, –
Тут стыхія ўсё, нажаль,
Творыць чорны свой замах.

Ну а тут як? – з года ў год –
Бунт якіх зламысных сіл? –
І народа – недарод:
Менш калысак, чым магіл…

Мізарнеем пакрысе,
Выміраем спакваля… –
Чый пакутны крыж нясе
Наша бедная зямля?

Адкажы, – чаму ж маўчыш?
Ці ў бязмоўі дух згубіў?.. –

Гэта твой, народзе, крыж,
Што з паходні ты зрабіў…

## ГІСТОРЫЯ

*…Подчинение Казани…*
*…Завоевание Перми…*
*…Покорение Астрахани…*
*…Борьба с инородцами в Северо-*
*Восточной Сибири…*
*…Взятие Полоцка…*
*…Осада и взятие Бендер…*
*…Странности на Кавказе…*

*Загалоўкі-анонсы ў “Истории России с*
*древнейших времен” С.М.Салаўёва*

З пакалення ішло ў пакаленне –
Метастазамі: пакарэнне.

Пакарэнне каго заўгодна:
І зямель, і дзяржаў, і народаў.

Страў інакшых і не варылі,
Як з імперскім душком: “Пакарылі…”

Пакаралі Сібір, пакаралі Каўказ…

Праўда, шыльду мянялі зрэдчас,
І крывавае пакарэнне
Трактавалася вызваленнем.

Ёсць і гэткія ў справе найменні:
Уз’яднанне і далучэнне…

Вызвалялі братоў, вызвалялі суседзяў, –
Ад каго? – А ніхто з “вызвалёных” не ўгледзіў…

І ярмолавы, і ермакі –
Волядаўцы адной рукі:

Пакарэнне ці вызваленне –
Сэнс адзін: стаяць на каленях.

І манарх, і манах, і мужык –
Хто б ні быў, а лічыць прывык,
Што адзіная мэта ў яго:
Як бы дзе ашчасліваць каго…

А таму – праз вякі – і гісторыя:
Не жыццё, а вайна з непакораю.

Бо вякамі суседзі-народы
Вызваляюцца ад свабоды…

x x x

Над вячэрняй гарадской смугой
Вусцішна ўставаў барвовы шар:
Поўня круглы выдзьмула агонь,
Нібы ў свеце выбухнуў пажар.

Нібы Марс спусціўся да зямлі:
Бог вайны – злавесна вестку шле,
Бог вайну вяшчуе, і смыліць
Галавешка зла ў людской імгле…

Ды ўзнімаўся месяц да нябёс –
І аблічам з вышыні яснеў.
І душу зямлі крывавы лёс
Абмінаў у летаргічным сне…

x x x

Калі ўбачыш жаўталісце
Над грудком зямлі –
Не праходзь, не адвярніся…
Хоць і слёз не лі.

Можа, я адно і варты
Пекла ў сто кругоў…
Што ж, такая, пэўна, карта
Выпала ў багоў…

Нахіліся над магілай
І здымі праклён.
Разгарні паціху крылы,

Ахіні мой сон…

ВЕРШ ФЕТА

“Шепот, робкое дыханье…”
За радком радок –
Дзей і рухаў называнне:
Па аснове ўток.

Без падмогі дзеясловаў,
Як душа, жывеш
Ты, натхнёны, адмысловы,
Фета лёгкі верш.

З небам крэўна паяднаны
Звонкі лад вянкоў:
Нібы храм, адштукаваны
З дрэва – без цвікоў…

х х х

Слова ў спадчыну дадзена мне
Божай ласкай і роднай зямлёю,
Слова маці з душой маёю –
Ад калыскі да шляху ў труне:

Каб жывому не скамянець,
Слова – мой абярог нядрэмны,
Каб надзеі не быць пад’ярэмнай,
Смела ў вочы нашчадкам глядзець,

Каб загадкавае пазнаць,
А бязмоўнае ўсё агучыць,
Каб няпэўнаму даць немінучасць,
Безыменнае ўсё назваць.

РОДНАЕ

Роднае слова – народа аснова:
З ім і малы – магутны.
Слова душу ахінае пакровам
На скрыжаваннях пакутных.

Роднае –
Богу ўгоднае
Слова,
Што прамаўляюць прарокі.
Роднае слова – вырак суровы,
Хто ад яго адрокся.

Роднае слова – страла Перунова
Ў чорныя сэрцы выроддзя.

Роднае слова, родная мова –
Голас Радзімы ў стагоддзях.

## ІМЁНЫ

Аднойчы падумалася:
Імёны –
Гэта проста імёны.
Імі называюць людзей –
Каб паклікаць,
Павесці,
Прагнаць,
Каб не зблытаць з кім-небудзь іншым…

Але ж пры гэтым
Трэба назваць
І ўсё існае –
Жывое і мёртвае,
Што людзей акаляе:
Землі,
Рэкі,
Вуліцы, вёскі,
Смех, слёзы,
Калыску, і лыжку, і міску,
І труну… –
О Божа,
Дык тут жа й канцоў не відно!.. –
Калі б толькі назваць вядомае…

А яшчэ ж назву мае і ўяўнае,
Тое, што хочам пазнаць,
Бо інакш – як яго без наймення
Ўявіць?..

І тады я пашырыў рамкі,
Дапусціўшы, што кожнае слова –
Гэта, зрэшты, чыёсьці імя.
Але ж кожнае слова – сусвет.
І, напэўна, у кожнага слова
Ёсць словы свае,
Што вядуць і вядуць у бясконцасць,
І адказаў не маюць гатовых,
А я ўсё наіўна пытаю:

Што ж такое –
Імёны?..

x x x

Якая звонкая дуброва,
Калі зязюля па вясне
Вяшчуе паўтарэння словы, –

Ды веры больш няма ў мяне…

Пра што кувала – абвявала
Мяне, як ветрык у палях…
Што абяцала – абмінала
Мой, лёсам вызначаны, шлях…

Даўно ўжо годы, што лічыла,
Мінулі – скончыўся запас.
І калі гэткае магчыма –
Давай наноў адлічваць час.

А калі не – скажы, зязюля,
Тым дням, што ў нас былі вясной:
Яны мяне не падманулі,
Яны, пакуль жыву, са мной.

x x x

Мы зоры, бязмежнасці хоры, –
Нам ліку няма.
Няма ў нас ні заўтра, ні ўчора –
Мы вечнасць сама.

Гартаеш ты зорнае зерне,
І шэпча твой зрок,
Што бачыць у небе мізэрны
Сусвету краёк.

Ты зроку не вер – ён абманны,
І край – толькі здань.
Блуканням наканаваны,
Бязмежнасцю апанаваны –
Сябе ў ёй згадай…

x x x

О Божа, неабдымнасцю сваёй
Ты недаступны розуму зямному.
Да неба шлю малітву, але ў ёй
Няўцямны ты, як хлапчуку малому.

І да сваіх імкнуся прыраўняць
Я помыслы твае прад аналоем.
І гэтым вечна грэшны я, відаць,–
Даруй і злітуйся, мой Божа, нада мною…

Глядзяць у храме вочы на мяне
Твае, о Божа, так па-чалавечы.
А хто мой свет бязмежны расхіне –
Нядзейсненасць малітвы на сустрэчу?..

Ці ты наўмысна чалавеку даў
Такія межы ў неадольных сферах,
Каб ведаў ён да Страшнага Суда:
Цябе спасцігнуць можна толькі верай…

x x x

Як мёртвае ўсё і жывое
Бог з духу святога стварыў –
Пытанне стаіць крыжавое:
Што робіць тварэц з той пары?

Няўжо, ён усё спачывае
На лаўрах і хваліць свой цуд
І вечнасці не адчувае,
Дзе час, нібы Страшны Прысуд?

І ты – ці вянец тварэння,
Ці часу імгненны адлік:
Успыхнуў, як боскі геній,
І тут жа бясследна знік?..

Дарма не вымольвай сакрэтаў –
Табе не адкажа ён:
Ці вечнасць – гармонія светаў,
Ці гэта сусветны сон?..

x x x

Лячу ў невымернасці часу,
А ў памяці досвед маю,
Як з часам былі сам-насам
Індзейцы з племені майя.

Жылі, як трава: толькі *зараз*, –
Ні з будучым, ні з мінулым
Пакутна сябе не звязалі:
Іх вечнасць *цяпер* агарнула.

Цяперашні час толькі зналі:
І малалецтва, і старасць
Як быццам іх абміналі,
Падвалін быцця не хісталі.

Зеніт яднаў небасхілы:
У росквіце дух свой трымалі.
Шчасліва ішлі ў магілу, –
Шчаслівае племя майя…

КЛОПАТ…

Зблажэў? Ці часу ўлішкі,

Што так яго гублю?..
А сэнс? –
На лёсе кніжкі
Зацягваюць пятлю.

Да чытача не выйдзе:
Заказ ад гандляроў
Не паступіў…
Як злыдзень
Бягу шукаць сяброў.

Крычу аб дапамозе.
А крык мой, як нямы,
Бо і ў сяброў – у бозе
Спачыўшыя тамы…

А потым спахапіўся:
Задыханы рыфмач,
За кніжачку ўчапіўся,
А чуеш – гнеўны плач?

“…Хто там ідзе?..” – з Купалам
Пытаецца Дашук.
Народ? Ці прыжывала? –
Бо дужа гнецца ў крук…

Якія ўжо там кніжкі!..
Адно і ўздыме твар,
Як д’яблаў – без кілішка –
З бутэлькі п’е адвар…

Хай без тваіх накладаў
Спіць мірна выдавец, –
Не прагні кнігападу,
Пакрыўджаны тварэц…

Шукай мастоў – не броду,
Як жыць далей, скажы:
Дашук – пра смерць народа,
А ты… пра тыражы…

x x x

Душою юнай абдымаю
Вас, зорак юная гурма,
Вам песню веснюю спяваю,
Хоць знаю: вас даўно няма.

Праменні, што яшчэ жывыя
Вы пасылалі, бачу я.
І ў тым – абманы векавыя,
Планіда горкая мая…

Мільёны год з глыбінь сусветаў
Яшчэ вы будзеце свяціць, –
І верш мой, мёртвага паэта,
Да вас, пагаслых, даляціць…

x x x

Калі ў паднябеснай цішы
Слязінка абрушыцца громам, –
Я знаю, хто награшыў,
Мне гэта смяротна вядома:

Над светам, як над труной,
Чый цень будзе каяцца ўпарта –
І з непазбыўнай віной,
І даравання не варты…

x x x

Вісяць асірацелыя галіны,
І я ўжо прывыкаю пакрысе:
Ні голасу гусей, ні клікаў жураўліных
Мне сёлетняя восень не нясе…

Куды яны звярнулі шлях у вырай,
Што навяваў мне светлую тугу?
Настылы дзень высмоктвае вампірам
Душу – і адмахнуцца не магу.

Ці сёлета ляцелі так высока,
Ці ад вачэй маіх схаваў іх змрок?
Ці можа, край мой абмінаюць бокам,
Адчуўшы радыяцыі паток?..

Зямля знямела, і маўчаць нябёсы, –
Зіма без выраю? – ды то ж турма, бадай…
Ляці, мой вырай, – буду бегчы босы
Па снезе – толькі голас мне падай!..

Няўжо такое ёсць наканаванне, –
Аднак за што? Прысуд – ці помста мне:
Няма ні развітання – ні чакання, –
А значыць, і сустрэча абміне…

x x x

Я шукаю чалавека, –
Ён заўсёды быў са мной:
Нада мной трымаў апеку,
Не праходзіў стараной.

З ім і плакалі, і пелі,
З ім і елі, і пілі.
І ад першае купелі
З ім душа ў душу жылі.

Дзе стаміўся, дзе адстаў ён,
На якой такой вярсце?
Без яго – вятры хістаюць,
І трывога ўсё расце.

Без яго асірацеў я,
І душа – як не мая.
Дні былыя – нібы цені,
Заўтра – сцемрацца ўдвая…

Чалавека я шукаю.
А было ж бяды – згубіць…

Што з ім – знаю.То й гукаю,
То й пытаю: што рабіць?..

## НЕЗВАРОТНАЕ

Лета зялёнаю хмаркай плыве,
Сцеле мурог пад калядны настольнік.
З Богам у згодзе дзяцінства жыве,
І не памрэ яшчэ тата ніколі.

Ціхая свечка на покуць ідзе,
Свецяцца вочы святога Міколы.

Богу – малітва, а стол – калядзе:
Шчодры на стравы, таму і вясёлы.

Тата схіліўся за стоўпік бліноў,
Хітра пытае, ці бачым яго мы, –
“То і праз год каб не ўбачылі зноў…” –
Страшны той сэнс яшчэ нам невядомы…

Мама не стала ўдавою яшчэ…
Мама-заступніца, мама жывая…
…Тысячагоддзяў сустрэчу сячэ
Сёння дарога мая крыжавая.

Зноў каляда на парозе стаіць.
Зоры красаюць нябесныя коні.
Сувязь часоў абарвана звініць –
І не вярнуць светлы рай той ніколі…

## ТОЛЬКІ ДЗЯЦІНСТВА…

Волка ў тумане пафыркваюць коні,

Нача з крыніцаў збірае дары.
Косы мянташаць драчы за ракою –
Прадсенакоснай пары званары.

Зырка шугае агеньчык начлежны,
Цені спалохана ў цемень бягуць.
Слухай нябёсы: што з тайнаў належыць
Заўтра адкрыць, – зоркі ўсё зберагуць.

Будуць узлёты, будуць падзенні,
Будзе азмрочваць ілжывасці дым, –
Толькі згубіцца не дасць безнадзейна
Светлы праменьчык у лузе начным.

Будуць адрынутыя запаветы, –
Толькі агеньчык гарыць-не-згарыць:
Вечную, крэўную сувязь з сусветам
Толькі дзяцінства можа дарыць.

## РЭЧЫШЧА-2

## 2001

### ПАХАВАННЕ

Мінімальная: мінус пяць,
Максімальная: нуль па Цэльсію…
Палазы марозна рыпяць –
Пахавальная едзе працэсія.

Што да праўды – едзе адна,
А астатнія – зябка тупаюць.
Раскашуюцца ў санках: труна
І бабуля – як смерць – непрыступная.

За вяроўчыну цягнуць дзяды,
Папіхаюць пад горку бабулі:
Каб панесці труну, маладых
Тут не бачылі і не чулі…

Састарэла вёска даўно,
На пенсійную выйшла абслугу.
Ды і вёскі амаль не відно:
Дзесяць хатак на ўсю акругу…

Добра, што не прамерзла зямля,
Добра, што і сняжку падсыпала:
Лёгка яму капаць, а пасля –
Во як лёгка санкі парыпваюць…

Во і ўзгорак, нарэшце, відзён,
І падбелены, і прыхарошаны, –
Сустракае маўкліва ён –
Ні апошніх слоў, ні галошанняў…

А з-пад снегу цвітуць васількі –
Як далёкай вясны ўваскрошанне…
Пераселяцца ўсе вазакі –
Хто ж тады пахавае апошняга?..

x x x

"Вол бушуе – вясну чуе…" –
Зберaглі прыкмету людзі…
Расцяроб гадоў карчую:
Хто ж нам, хто вясну абудзіць?..

Ці то Бог, ці то планіда,
Ці сама зямля ўваскрэсне,
Каб праз немач і нукліды
Шлях бязмоўя перакрэсліць?..

Хто ж спагадна азірнецца
На шчаслівы рабскі голас?
Дзе ж зярнятку абагрэцца,
Каб усходы выйшлі ў колас?..

Сам народ свой лёс вяшчуе,
Каб пачулі свет і людзі…
Вол бушуе – вясну чуе…
Спіць народ – вясны не будзе…

x x x

*Паўстань з народа нашага, прарок…*
*Янка Купала*

Сыне божы, Хрыстос Ісусе,
Ці ты нас не пабачыў здалёк,
Што да грэшнай маёй Беларусі
Не дайшоў ні адзін твой прарок?..

З тых, святых, што з табою побач
Боскі вызналі запавет,
Анікога шляхам асобым
Не паслаў ты ў няблізкі наш свет…

Так, былі мудрацы – і не болей,
Што адным і трывалі, відаць,
Каб твайго крыжавання болем
Блаславіць нас і ратаваць.

Самі ж мецілі, боскія сведкі:
Не гарэць – і каб светла гуло…
А з прарокаў – трапляліся рэдка.
Ды й магчыма, іх і не было…

Божа светлы, Божа адзіны,
Дай хоць сёння нам ласку сваю:
У імя пакутнай Радзімы,
Дай нам, Божа, прарока, –
малю…

## ЧАСТАВАННЕ

З’язджае дзень кароткі
Ў рыпучым снежным возе.
Стракатыя чачоткі –
Як лісце, на бярозе.

Трапечуцца вясёла,
Гайдаючы галіны,
Раяцца ў кроне голай
Аздобаю птушынай.

Ноч доўгая, а трэба
Цяпла набраць і сілы, –
Бярозавага хлеба
Бяроза наспяліла.

Няхай і ўсухамятку,
Ды дзюбкі не гуляюць –
І з каташкоў зярняткі
Чачоткі выбіраюць.

Як сеецца праз сіта –
Хмурынкаю жывою –
Чародка: хто намітусь,
Хто долу галавою.

На белы снег самотна
Лушпінкі ападаюць,
Гасцей сваіх залётных
Бяроза суцяшае:

–Гаркавіць? Не зважайце –
Частуйцеся, чачоткі,
І ўвесну прылятайце –
Як пойдзе сок салодкі…

x x x

Адраджэнцы і адрачэнцы –
Вечны боль радзімы маёй,
Матчын боль, – разрывае сэрца:
Тыя й гэтыя дзеці ёй.

І карміла іх, і паіла,
Гадавала з надзеяй на лёс.
І якая нячыстая сіла
Іх варожа панесла ўразнос?..

Ці такое ўжо наканаванне
Ў гэтым свеце, на сцежцы зямной:
Дзе святла прамяністае ззянне –
Там і цемры змрочны сувой?..

Сын адзін ад згубы ратуе,
Знае: маці мае адну.
Сын другі – хавае жывую,
Нават з песняй, кладзе ў труну…

Адраджэнцы: душой і целам –
Свету крэўнаму запавет.
Адрачэнцы: душа зляцела,
Разам з целам, ад маці ў свет…

Як жа іх павярнуць, аблудных,
Як прывеціць ласкай сваёй:
Кожны дзень у маці – як судны, –
Абліваецца сэрца крывёй…

x x x

*“Не віноўны!” – выносячы апраўдальны вырак,*
*перад Богам і перад уласным сумленнем,*
*гаварылі прысяжныя…*

Колькі выслухаў слоў,
Крыўдных, грозных, гняўлівых,
Ад прарокаў-сыноў –
Як нябесных паслоў, –
Слоў, напэўна, праўдзівых…

Я таксама ў той хор
/Хоць не пнуся ў прарокі/
Дадаваў свой дакор,
Клікаў смела да зор,
Да палётаў высокіх.

Павучаў і будзіў,
Адкрываў табе вочы.

Ды мой покліч, наўздзіў,
Ты маўчаннем судзіў –
Слухаць быў не ахвочы…

Гналі ў чыстку цябе
Плямы рабства выводзіць…
Што дайшло: сам сабе
Ты амаль знелюбеў,
Мой пакутны народзе…

Толькі не дакараў –
Шанаваў сваю ніву:
Дбайна поле араў,
Засяваў і збіраў, –
Тым і меў быць шчаслівым.

Не хвалы ты чакаў,
А спагады сыноўняй, –
І прысяжна рука
Мая сведчыць вякам:
"Не віноўны!"

ПЕСНІ І КАЗКІ

Нашы песні ўсе былі галошанні
І гуканне долі – як вясны,
Смех, як плач, і слёзы па гарошыне –
Казкам пазнаваць прынцэс лясных…

Не знайшоўся толькі добры Андэрсен,
Казачнік, каб расказаць пра іх, –
Ці зблудзіўся, ці не ведаў адраса? –
Не дайшоў, застаўся ў снах сваіх:

Пазнаваў прынцэсу па апрошчванні
І анкету высвятляў спаўна:
Будзе мулка спаць ёй на гарошыне –
Значыць, роду знатнага яна.

Нам жа казку выдалі крывавую –
Кніжачку з найменнем Маніфест,
Каб жыццё з рэвалюцыйнай стравою
І пітвом наладзіла нам фэст.

З будучыняй дружна мы віталіся –
Прадзедаў ірвалі карані…
Адгулялі і адбаляваліся
На хаўтурах нашых нашы дні.

Толькі і яны не перайначылі
Душ людскіх: на самым горкім дне
Засталіся нашы песні спадчынай,

А ўжо як спяваць – сынам відней…

## А ЎСЁ ТАМУ…

Прарокі з атэістаў праваслаўных
Ля носа круцяць пальцамі трыма.
А ўсё таму, што прагнуць руль дзяржаўны
З царкоўным блаславеннем утрымаць.

З папом галоўным лезуць цалавацца –
Аж на амбон – са свечкамі ў руках.
А ўсё таму, што хочуць спадабацца
Народу – днесь і прысна – у вяках…

І толькі без маны гучаць літанні:
“Судзі нас, бог, па кодэксу свайму…”
А ўсё таму, што знаюць пакаранне:
Бог судзіць, ды не садзіць у турму.

## ТЭАЦІЎАКАНЕ

“Дзе багі краналіся зямлі” –
Тэаціўакане – з назвай гэтай
Шлях ацтэкі праз вякі прайшлі,
Як з пасланнем мудрага сусвету.

Вось яно: загадкай пірамід –
Двайнікоў ці крэўных тым, з Егіпта, –
Велічна ўглядаецца ў зеніт –
Эпасу касмічнага postscriptum.

Што зашыфравана там было –
У прапорцыях і арыентыроўцы?
І якой галактыкі крыло
Заляцела аж пад наша сонца?

Тэаціўакане – касмадром,
Горад, што пакінулі нябёсы, –
Не ўзвядзеш каменным тапаром
Вечнасці маўклівыя калосы!..

Піраміды з двух бакоў зямлі, –
Разварот двухполюснай антэны…
Шлюць багі сігналы, а калі
Людзі з разуменнем іх сустрэнуць?

Недаступны космасу сакрэт:
Ці ў высокіх Андах ключ згубілі
Ад пісьмён, што тояць запавет,
Ці ў глыбокім Ніле затапілі?

Дзе і як яго цяпер шукаць?

Ці ён чалавецтву й непатрэбен?..
Піраміды на зямлі маўчаць.
І чакаюць голас наш у небе…

ДОЎГАЖЫХАРКА

“Час і манаткі збіраць, –
Казала бабка-прарочыца, –
Ды кепска зімой паміраць,
А летам не хочацца.

То – далакопы ў мароз
Як жа магілку мне вырыюць?..
То – слухаю песню з бяроз:
Шпакі вяртаюцца з выраю…

Нібы на вакзале якім –
Паміж зімою і летам я:
Гляджу, як ідуць цягнікі,
Сяджу, безбілетная…”

ПЕРАД ВЕЧНЫМ СПАКОЕМ

*Светлай памяці сястры*
*Кацярыны Васілеўны*

***

Кожнай рыскай – ясная, жывая, –
Толькі нерухомая чаму?
Так нязвычна: днём – адпачывае, –
Як сама не верыць сну свайму…

Клопатаў хоць адбаўляй… І людзі
Ўсё ідуць… І слёзы на вачах…
Памагчы? – ніхто ж во не пабудзіць…
А тады й не спіцца па начах…

Гэта ж трэба, толечкі прыляжаш –
Дзень праскочыць – вокам не міргнуць… –
Быццам зараз – з выбачэннем – скажа, –
Толькі мы ці здолеем пачуць?..

***

Сонечнага дня і ночы зорнай –
Гэткіх, пэўна, не было ў жыцці.
Ды нішто не вернецца паўторна:
Сонцу гаснуць, зорам не свяціць…

Ручнікі гайдаюць свет дашчаны, –
І ў тым свеце – толькі ты. Адна…
Бераг абрываецца пясчаны,
Глуха адгукаецца труна.

А жыццё маўчыць, і растлумачыць

Смерць не можа: гэта скон ці шлях?
І чаму не можа Бог іначай?
І няўжо ўсё гэтак: з праху ў прах?..

Над грудком зямлі з касмічным гулам
Будуць зоры вечна дагараць.
І цябе не будзе. І ў мінулым
Будзе прышласць – жыць ці паміраць?...

***

Бацькоўская наша сяліба
Апірышча Каці дала, –
І для ўсіх нас родавым німбам
І ахоўніцай Каця была.

Ды род наш апірышча страціў:
Хоць свет свой палёт не стрымаў,
А Каці няма ў нашай хаце,
І хаты без Каці няма…

## АЗІРАЕМСЯ…

Былі: то машэравы, то малафеевы,
Былі і іншыя “ў Марксе браты” –
Камуністычнай эры арфеямі
Спявалі на фоне людской нематы.

Плялі для душаў лапці нязносныя –
Вечны гарант пралетарскай хады.
Вялі зацята вайну з перакосамі
І выяўлялі “нацдэмаў” сляды…

На вецер колькі размаху патрачана –
Колькі б вякоў гуў бы рух ветракоў!..
А засталася жабрацкая спадчына –
Кліч усясветны з’яднаць жабракоў…

От і стаім і назад азіраемся.
Людзі-суседзі кпяць з дзівакоў.
А мы ўсё раімся, а мы да раю ўсё
Сцежкі пытаемся ў тых спевакоў…

## …І ПАЭТ…

Прарочы дар ці сірочы
З нябёс яму лёс прынёс?
Захоча – да слёз рагоча,
Не просяць – галосіць без слёз.

Пакрыўдзяць – ён дзякуй скажа,
Сагрэюць – бяжыць да пакут.

Уважыць за ўдачу прапажу,
А ўдачу нясе, як хамут.

Бывае, і шчасце спаймае.
Якое? – з сакрэтаў сакрэт.
І хоць утрымаць не ўтрымае –
Спявае: дзівак – і паэт…

### СУЦЯШЭННЕ

Здагадку маю: бяжыць дзяўчынка –
Чырвоны тварык, нібы ліхтарык, –
Напэўна, тая якраз хвілінка,
Што ўсё рашае,
недзе ўцякае…

Цок-цок! – абцасікі – войстра і звонка,
І рэха ў сэрцы маім не цішэе, –
І што сказаць мне ёй наўздагонку,
Апроч старэчага суцяшэння:
Было з дзядамі – было вякамі,
Было і з намі, як ёсць сягоння:
Калі кахае – то пачакае,
Калі не любіць – то не дагоніш…

### ЭМІГРАНТ

Пераадолеў стагоддзяў парог –
Нібы ў эміграцыю з дваццатага з’ехаў.
На начлезе скубу ўспамінаў мурог
І лаўлю з-за мяжы настальгічнае рэха.

Душою – там, а нагамі – тут.
Хоць, зрэшты, якая розніца?
Умоўны я, умоўны прысуд:
Час ідзе – не спяшыць і не позніцца.

І наканавана застацца навек
Мне ў дваццаць першым стагоддзі,
Бо ў мінулае – шлях каляндар адсек,
А ў дваццаць другое – узрост не праходзіць…

### ПРАБЛЕМА ЗУЁНКА

Без кансерваторыі і філармоніі –
З Янкам Купалам, а то й самапасам, –
Рашаю праблему вечнай гармоніі
Ў сусвеце і ў сэрцы ўласным.

Без інтэгралаў і радыкалаў –
Толькі на слова разлічваю, –
Дабра і зла летуценна шукаю

Формулу матэматычную.

Хачу хоць раз людзей ашчасліваць,
Каб не блукалі бязмэтна,
Каб не бадзяліся мітусліва,
А крочылі шляхам светлым.

Б'юся, як рыба аб лёд у задуху, –
Начамі не сплю і днямі гарбею,
А праблема маўчыць зацята і глуха,
За сямю замкамі гібее.

На плошчах людское не весніцца свята,
Што займелі, нарэшце, ключы ад раю.
І шчаслівых няма, і няма вінаватых, –
І – каго ж яшчэ? – сам сябе дакараю…

І застаецца тэмай някратанай
Для дысертацый і тытулаў звонкіх –
Вам, песняры, і вам, матэматыкі,
Праблема Зуёнка…

СКОКІ…

Калі пачую, як хаўрусам
З далярам спараны выжляк
Вучыць пражэцца беларуса,
Да хрыпу тужачы гарляк;

Калі аздоблена штукуюць
Свае духоўныя дары,
Што тут жа самі і смакуюць –
Крутых тамоў гаспадары;

Калі эротыкі і сексу
Паток за песню выдаюць,
Без кантрыбуцый і анексій
Спакусна слова прадаюць

І ўсё святое адмятаюць,
Што сказана да іх было,
Старонкі грэбліва гаратюць,
Дзе рэха дзён не адгуло;

Калі, прыцэньваючы вечнасць,
Шалёна звонячы ў тазы,
З літаратурнага падпечча
На покуць цягнуць абразы… –

Я цень купалаўскі не ў стане
Паклікаць… – але ж ёсць урок!..
Калі ж паўстане ў гэткім стане

“З народа нашага Прарок”?..

Заманна “таньчыць” на магілах –
Ды ўсё вяртаецца ў свой час,
І скокі праўнукаў бяскрылых
Над вамі ўчыняцца – для вас…

х х х

Уваходжу ў восень, нібы ў агонь –
Лясное полымя сонечна б’ецца.
Агонь без межаў і берагоў –
Трапеча лісце кляновых трапецый.

А незгаральных елак кліны
Расколваюць свет барвовы трохкутна –
Як рэха маёй далёкай вясны:
Чым незгаральней гарыць – тым пакутней…

ЗМЕНА ЧАСУ

Як Сцікс, калі пачнуць перапраўляць,
Апошняй хваляй Нача ўскалыхне.
І ўжо ў мінулым часе пра мяне
Ўсе дзеясловы будуць размаўляць.

І назаўсёды ўжо наступіць ноч,
І сон – бязмоўны, без дыхання сон:
Узыдуць сонцаў тысячы, а ён
Душу жывую пранясе наўзбоч…

МЫ ЖЫВЁМ У ТРАВЕ…

–Мы жывём у траве,
Мы – зялёныя конікі.
Хто над намі раве,
Глушыць голас наш тоненькі?..

–Ах, якая трава –
Сакавітая, ежкая!.. –
З языком галава
Ногі смачна прыспешвае…

–Ну й прастор, ну й краса!
Ззяе роснае сонейка… –
Уздыхнула каса… –
Ні травы і ні конікаў…

х х х

Была ці не было вярсты
Між жнівам і сяўбой? –

Як быццам размінуўся ты
Тым часам сам з сабой.

Хацеў па-смерцце разгадаць
І праўду да-жыцця,
А сам не здолеў распазнаць
Сябе ў свой міг быцця…

ДЫЯЛЕКТЫЧНАЕ КОЛА

Знаць загадзя не будзеш
Аб тым, з кім павядзешся…
Ад дурня – не прыбудзе,
А спраў – не абярэшся…

З разумным жа – усё-ткі
Разумным трэба мецца…
Ось так: дзе што каротка,
Дык там яно і рвецца…

Якім збылося ўчора,
Тым заўтрае ўваскрэсне.
Якое дойме гора,
Такая выйдзе й песня.

НЕ ПЛАЧ…

Калі ляціць асенняя трывога
Наўслед за сумным крыкам журавоў,
Не абяцаю я сабе нічога,
Апроч нябесных плыткіх астравоў.

Плывуць яны – бялюткія аблокі,
І, пэўна, як малююць абразы,
На нейкім з іх – Адзіны і Высокі,
І на вачах – дзве светлыя слязы.

Пабачыў: у людской зямной юдолі
Так гора шмат – і галавой панік…
А тут яшчэ, над гэтым голым полем,
Сіроцкі жураўліны гэты крык…

Стаю на ветравеі і чакаю,–
І сам сабе не веру ўжо, а ўсё ж
Пытаюся: “Якая ж з іх, якая?..”
І думы па іржышчы – басанож…

Мне б толькі ўгледзець аблачынку тую, –
Ні райскай долі, ні зямных удач –
Адзінае, аб чым і папрашу я
І памалюся: “Божачка, не плач…”

## ЗАМЯРЗАЕ…

Было, было, – буяла жоўта лотаць,
Бы сонечны абрус упаў на дол:
Зялёны ліст і квецень – з мёдам соты –
Скакухам жабкам на вясельны стол…

Было, было… Стракозы з матылькамі
Не мітусяцца… Выцвіла трава.
І восень верасовымі смыкамі
Адлётную сыграла журавам…

Даніна сонца на цяпло скупая:
Усё прыбраць да рук зіма спяшыць,
Але найперш на воды наступае, –
Той панцыр паспрабуй тады скрышыць!..

Цераз рачулку вывараць – як рэха
Пагрому навальнічнага – ляжыць.
Вада гусцее і, здаецца, нехаць
Між берагоў паўзе, а не бяжыць.

Струмок, што булькатаў цераз палена,
Вясёлкай пырскаў перастаў пыліць.
І замярзае, ледзянее пена,
І ўзор карункавы на скразняку звініць.

## ЗЯМЛЯ І НЕБА

Як наседка наіўна адводзіць
Ад гнязда – бяжыць, не ўзлятае,
Як стары, што ўвоснях знаходзіць
Кветку-сон на асенняй атаве,
Як індус абнадзеіцца хоча,
Што нірвана ўратуе нервы,
Як дзіця, заплюшчыўшы вочы,
Уяўляе, што спіць ці памерла… –
Так, бывае, карціць захінуцца
Ад згрызот летуценным спакоем,
Каб ні стрэсаў, ні рэвалюцый –
На зямлі: нідзе і ніколі…

Толькі неба глядзіць іначай
На зямныя людскія патрэбы:
“Прыпячэ – што з іх будзе, пабачым, –
Ці паверацць, нарэшце, у неба?..”

## ТЭОРЫЯ АДЛЮСТРАВАННЯ…

Люстэрка ў люстэрка глядзіцца:
Бясконцае адлюстраванне, –
Як лёгка душою згубіцца

Ў тумане на гэтым экране.

Глядзіш у пустое бязмежжа –
Няма ні канцоў, ні пачаткаў.
І сэнсу сэнс не належыць –
Загадка сплывае ў загадку.

І нібы змей шматгаловы
З бяздонных шэпча глыбіняў:
Няма ў сусвеце асновы –
Аснова ў бясконцасці гіне.

Пазнанне – спакусы яблык
І за жыццё пакаранне, –
Ствараецца хітрым д’яблам
Тэорыя адлюстравання…

ПРЫТЧА

Карцела: не адстаць ад моды.
Ды не здзівіў – ні свет, ні муз.
Шукаў суперніцтва з прыродай,
Цяпер – прыняць малю ў саюз.

Я знаю моц і славу слова,
Ды ўжо не бог яно, відаць, –
Нам Госпад даў яго асновы,
А мы іх мусім разгадаць.

Вось і стараемся, як можам,
Гукаем, а сусвет маўчыць…
Прашу: “Дапамажы мне, Божа…”
Ды прытчай ён пачаў вучыць:

“Адвеюць зерне ад паловы
Над полем веснім жаўрукі –
І, не ўвасобленая ў слова,
Бруіцца песня праз вякі…”

ПЫРНІК

Як ні топчуць яго, ні ірвуць,
Як яго ні карчуюць зацята, –
Дай карэньчыку толькі дыхнуць –
Пырнік тут жа расце, з-пад лапаты.

Зелянее пружыніста шчэць,
А сцяблінка любая натурай
Жыццястойкая, як мячэць
З мінарэтам у мініятуры.

І на зайздрасць – якіх там багоў

Ці чарцей? – ён штыкуе глебу.
Павучыся і ты ў яго –
Горкім вопытам не пагрэбуй.

Не павер на момант суду:
Як жа так – бараніць пустазелле?!.
А зялёнае ўсё, што ядуць, –
Як назвалі б яго, каб не елі?..

Што ж – у поце дабром засявай
І трымай у парадку поле.
Ды штодзённа на ўвазе май
Пырнік з прагай жыцця неадольнай.

НАСТАЛЬГІЧНЫЯ СТРОФЫ –
ВЕЧАРАМ – ЛЯ ДОМА ЛІТАРАТАРА

Гэта быццам пра нас:
Дзе “веселия глас”?!.
Ад сябрыны ляцяць аскепкі…
Ці Парнас, ці “калгас” –
Гэта вызначыць час, –
А жылі мы, аднак, не кепска.

Быў Саюз як Сезам
Для пісьменніцкіх дам.
Для мужчын – на Алімп падмосткі,
Паэтэсы венерылі там
Фіміям
Раманістам з паставай боскай.
Толькі б келіх узяць –
Дружбакоў не разняць.
Працвярэзяцца – зноў, як дома:
Дзе сям’я – там грызня
І ў пачуццях скразняк, –
Гэта ўсім спрадвеку вядома.

Як засведчыў мудрэц,
То не свету канец:
Чубіць той, звычайна, хто любіць.
І тварэц ёсць тварэц,
Каб цярновы вянец
Прымяраць дзеля творчага шлюбу.

І калі ўсё дабром,
Дык натхнёным пяром
Рыфмавалася свету аздоба.
Літаратара дом
Ахінаў нас крылом
І ў вясёлыя дні, і ў жалобу.

Стаў казённым, чужым –

Дом рэжым аблажыў,
Каб не высіўся дух супраціву.
Дзе віхурыў уздым,
Над пажарышчам – дым:
Дагараюць рыфмы ляніва…

Трыумфуе гайня:
Цішыня, цішыня…
Ды цяжкія прыглядчыкаў крокі…
Зоркі, музаў радня,
Нас гукаюць да дня:
–Выбірайцеся з нораў глыбокіх!..

x x x

Тут ні абвестак, ні раскладаў,
Але зацверджаны ў вяках
Статут жалезны і парадак –
Без перабояў: шлях ёсць шлях.

Ніхто не паганяе коней,
Машыны не пампуюць газ, –
Смерць не спазняецца ніколі,
Заўсёды прыбывае ў час.

## РАЗВІТАННЕ З ВАЛЬСАМ

Было гэта яшчэ да той вайны –
Вялікай і Айчыннай.
І дзве сястры было ў мяне. Яны
Мяне спяваць і танцаваць вучылі.

Такая школа танцаў: на руках
Мяне насілі ў скоках.
Я ж – моманту, каб вырвацца, шукаў –
Нібы збягаў з урокаў.

Карцела мне самому паскакаць,
А тата з дзядзькам,
З Якімам,
Замаўлялі “Казачка”:
–Падсып, укінь нам!.. –
І па-хвацку

Я “рукі ў бокі” браў
І калясіў
Кругі па хаце –
На зайздрасць, скажам,
Не зусім усім,
А Зіне з Кацяй…

І тата, “сола” ўважыўшы маё

/Ці чарачку, з якой паспеў сагрэцца?/,
Пускаўся ў скокі:
Цераз пугаўё
Выкідваў “Юрачкі” – таксама ўрок –
Каленцы…

…Было ўсё да вайны…
З танцораў тых
Нас двое засталося – я ды Зіна…
Бярозаў надмагільных ускалых
Гайдае мае светлыя ўспаміны…

Я танцаваць любіў…

Вальс узвышаў,
Душу рабіў няпомслівай і лёгкай…
Я дзякую табе, мая душа,
За тое рэха музыкі далёкай…

Я танцаваць любіў…
І зараз вальс
Без крыл лятункі ўзносіць да аблокаў.
Ды шчасця гэтага не маю я амаль:
Не тыя танцы і не тыя скокі…

І я не той…
Зрэдчас – гады ў рады –
Пратопчаш круг-другі дзеля прыліку, –
Як замяцеш грахоў былых гады,
Як уздыхнеш: “Бывай, мой Вальс Вялікі!..”

x x x

Можна быць галодным і босым,
Занядбаным няўдачнікам быць,
Быць асуджаным воляю лёсу
І не знойдзенае згубіць,
Быць пустэльнікам нелюдзімым,
Вязнем быць, дзе хатай – турма, –
Толькі нельга жыць без радзімы,
Знаць: радзімы ў цябе няма…

x x x

Не адолець смерці тугу,
Не развеяць райскімі гімнамі, –
Аніяк уявіць не магу
Я сваё жыццё замагільнае,
Дзе душа адзіноты пласты
Плугам вечнасці перагортвае, –

А час без прасторы – пусты,

Як прастора без часу – мёртвая…

НА РАГУ ЛЯ ГАТЭЛЯ “ПЛАНЕТА”

Плашчык з халасцяцкаю паслугай
Ахінае плечыкі твае, –
Вецер выгінаецца аб вугал
І ў зацішку зябка дастае.

Што чакаеш? Што цябе чакае?
Снежны пыл у твар сячэ жарствой.
Тонкія абцасікі цвікамі
Да асфальту лёс прыбілі твой.

Хто ён будзе? Ці важак зладзеяў?
Ці з плюгавай лысінай гандляр?..
У вачах туманіцца надзея,
У нагах рэкламіцца тавар.

Але я не пажадаю ўдачы –
Хай праходзіць міма!..
                                        Толькі не –
Бачу: спачуванні марна трачу
Я тваёй цане, тваёй віне…

ГАІЧКА-СІНІЧКА

Гаічка-сінічка,
Ты з якіх гаёў
Выпырхнула знічкай?
Хто цябе прывёў –

Да маёй ажыны,
Пад маё акно? –
Быццам падружылі
Мы даўным-даўно…

Гаічка-сінічка –
З крылцамі сакрэт:
Шэрая спаднічка,
Чорненькі берэт.

Не ўзяла ні разу
Ў аздобу галавы –
Хоць бы дзеля назвы –
Пярынку сінявы.

Можа, маеш клічку
Зусім не па цане?..

Гаічка-сінічка
Адказала мне:

–Я за сінім лесам
Весела жыла, –
Сіняву за песню
Небу аддала.

x x x

Адкуль вынікае адроддзе такое:
Анёлы зямныя, нябесныя чэрці?..
А проста: да неба ўзнясуць пахвалою –
І ты ўжо амаль анёл на тры чвэрці.

А там паглядзяць і па-боску аблаяць
Ды вырак аб'вяць па-боску балесны, –
І тут жа назад, на зямлю, адсылаюць,
Але ўжо не так сабе – чортам нябесным!..

## ГОРА

“Гора не мёртваму, гора жывым…” –
Гаману памінкі закусваюць…
Адкуль вам вядома? Ці, можа, вы
*ТАМ* пабылі на экскурсіі?

А можа, якраз-такі наадварот:
Адтуль душа не памерлая
Глядзіць, як пяклуецца *ТУТ* народ, –
І гора яе не вымернае…

## ГРОШЫ

Пяклуецца век чалавек,
ды задачу не рошыць, –
Не тое, што клёку бракуе,
а проста таму,
Што ўмову такую
дыктуюць шалёныя грошы:
Як станеш рашаць –
прыплюсуеш да сумы турму.

Адзінкі з нулямі,
як дзюбкі з паглядам савіным,
Стаяць уваччу,
каб забыць не маглі:
Бедны – каму ён
і колькі павінен,
Багаты – хто заўтра
сасмаліць той доўг на вуглі.

Шмат зла на зямлі,
але самае горшае – грошы,

Бо кепска, як ёсць ты,
а іх ці няма, ці ўабрэз,
Ды больш яшчэ кепска,
калі захлынае раскоша,
А трэба ўміраць
ці сачыць, каб сусед у кішэнь не залез…

## СУ-…

Грамадзяне свету ці су-свету,
Су-перажывальнікі ў вуллі,
Су-перы мядовых запаветаў,
Што буяняць брагай у валлі, –

Трутнямі – ад рою і да рою –
Племя неспатольнае ляціць, –
І карціць: зямлю, хаця б у мроях,
Вакол рыльца ўласнага круціць.

Ну а нам што? Нам – святая доля
Пры сваіх сялібах векаваць
І су-глінкі з су-песямі ў полі
З жаўранкам су-польна засяваць.

Су-цяшацца, што су-цягі цягу
Ад зямелькі нашай задаюць,
Су-мнявацца су-днаму працягу:
Што яны там – плачуць ці пяюць?

І ўсміхацца: хто ж цяпер далучыць
Да музычных сфер су-свету нас, –
Як без вас губляецца су-гучча
І як не су-часна збіўся час!..

Як жа сірацее наша людства
І як вас су-светна нестае,
Покуль вы патрэбу лізаблюдства
На су-седскім пасвіце стале…

## КАЧАР

Вецер-свяжак
Адагрэўся,
Прыціх над ракой,
Крыгі апошнія
Хмаркамі
Ў неба сплылі…
Што ж гэта ён,
Адзінюткі на цэлай зямлі,
Качар-крыжак:
Як самотнік
Падпёрся рукой?..

Між гарадскіх камяніц,
Дзе з качынай сям'ёй
Зімаваў,
Перабіваўся ў марозы
Кавалкам прыносным, –
На карчаку пачарнелым
Знерухомеў і засумаваў,
Успамінаючы
Тыя, мінулыя, вёсны…

Гэтай жа ў качара
Быццам зусім і няма.
Парамі паразлятаўся
Па сховішчах
Статак качыны.
А для яго –
Быццам ходзіць завейна зіма:
Лапку падкурчыў адну –
Як сагрэцца, –
Пад рогат грачыны.

Дзюбку на сонцы вясеннім
Схаваў пад крыло…
Што з табой?
Зябка?
Ці шал маладосці ачах?
Здрадзіла шэрая краля?
Ці сэрца ад смутку звяло
Па гарадскіх, па зімовых,
Дармовых,
Харчах?..

x x x

Таемце малітвы між сабой і Богам
/Тут нават "сабо*ю*" – для велічы – нельга сказаць/, –
Няхай, апроч вас, паміж вамі не будзе нікога –
Хай з сусвету ў сусвет знічкай падае ваша сляза.

Каханыя словы – як сонечны подых – каханым шапчыце,
Не лезьце ў абдымкі, каб вочы адводзіў народ,
Уласную ўдачу на ўласныя грошы лічыце
І славу чужую на ўцехі свае не бярыце ў расход.

x x x

На паўночных адхілах спацела чарнеецца снег,
А на ўгрэвах нябесна аселі пралескі,
І нішто ўжо не спыніць ручаёў пералівісты бег, –
Як, мароз, ні бадзёрся, як лядком пад нагамі ні трэскай.

Гусі гоні паўдзённыя перайшлі наўскасяк
І вястуюць вясну, а не подых адлігі,
І на воблачку – жаўранка песенны знак,
Як на белай старонцы ненапісанай кнігі…

x x x

Беларусы, памолімся Богу –
Таму, пра якога казаў Караткевіч:
“На Беларусі Бог жыве…” –
Значыць ёсць ён у нас –
Як са шчасцем паўнюткі келіх?
І такога
Болей няма ні ў кога:

У нашых спевах
І ў нашых дрэвах,
На нашай ніве
І ў нашым жніве,
У нашай траве
І ў нябёс сіняве,
У галашэннях
І ў суцяшэннях… –
На Беларусі Бог жыве…

Толькі Бог наш нейкі адметны:
Нібы скарбнік бедаў сусветных,
Што для нас адных прыбярог.
Бог трагічны і Бог самотны,
Як і мы, з гэткім лёсам гаротным:
Мы гаруем і з намі Бог…

Як гарох
Пры вялікай дарозе:
Хто ні йдзе – кожны раз ушчыкне
Ды яшчэ й папікне.
А як не –
Мы і ўсцешымся той перамозе…
Быццам Бог наш заўсёды ў абозе.
Не на покуці, а ў парозе…

Памолімся Богу,
Беларусы: ён з намі, ён наш –
Беларус на зямлі беларускай,
Не прымолены з-за мяжы,
Не міраж
З балбатнёй у прыкуску.
Ён чакае,
Калі ж пажадае
Беларус – сам сабе не чужы –
Ў хаце з Богам шчаслівым
Жыць.

## А РАНЕЙ…

А раней у шчоках
Салавейка шчоўкаў,
І ўсміхалася сонейка
Салавейку спрасонейку.

А раней у вочках
Сну не знала ночка.
А ўдзень? Ой, начавалася,
Што аж сонца хавалася!..

x x x

*…І некаму “мама” сказаць…*
*З эпітафіі*

Што гэта будзе – шлях ці небыццё?
Ніхто не скажа, покуль сам не ўзнаеш, –
Ні роспачы, што белы свет губляеш,
Ні шкадаванняў марных: “Каб знаццё…”

Жыццё натое й дадзена табе,
Натое й забіраецца, напэўна,
Без ведама твайго і неспадзеўна,
Каб ты не марнаваў яго ў журбе.

Не спакушайся ж радасцю зямной,
Але й нябеснай не чакай маркотна…
Лісцё з бярозы падае шапотна, –
Схіліся над жыццём, як над труной…

Маўчыць душа, агораўшы спакой,
І цені дзён няздзейсненых блукаюць:
Ці дакараюць моўчкі, ці гукаюць? –
І хто ты ёсць на споведзі такой?..

## ПЛАЧ ПА ДЗВЮХ АПОШНІХ АЛЕШЫНАХ

Хто мне верне крыніцу
З альшанаю песняй драздовай?
Чорны дрозд майго смутку
Сёння ў сэрцы звівае гняздо,
Плач гайдаюць свой кнігаўкі,
Як бяздзетныя ўдовы,
Сонца ў пыле тарфянішча
Чорным здаецца груздом…

Вуж, як гуж сырамятны,
Абмяк разагрэта,
Смалякамі тырчаць

Дапатопнай сасны карані,
І на варце пацеюць,
У чырвоных берэтах,
Як з аховы “спецназаўцы” –
Альховыя свежыя пні…

### ДОМА

Амерыка адкрыта
Даўным-даўным-даўно.
А свет, як да карыта:
То ў дзверы, то ў акно –
Усё туды пражэцца –
На дармавы пірог, –
З пытаннем: хто нажэрся,
А хто яшчэ не змог?..

І мы туды ж Калумбаў
Сплаўлялі спакваля,
І ў нас такі затлум быў:
Там – райская зямля…

А рай – ён тут, вось гэты
Нам дараваны край
Валадаром сусвету:
Жыві – не памірай!..

Калі ж на гэтым свеце
Супыніш лік гадам –
Той свет цябе прывеціць:
Ты будзеш дома й там.

### х х х

Ты, Божа, адзіны,
А нас – цьмы і цьмы.
Няма ў нас радзімы,
Бяздомныя мы.

Няма – і не знаем,
Ці будзе калі,
Бо шмат дужа з намі
Багоў на зямлі.

Стагоддзі з гарою
Зламысных эпох
Асвечвае зброю
Свой кожнаму бог.

І моліцца кожны
І верыць свайму –
І гімн пераможны

Ўчыняе яму.

А побач – стрыножыў
Дух чорны людзей:
Па выдмах бязбожных
Нячысцік вядзе…

Радзіма зямная
Між зорных шляхоў
Маўчыць, як не знае,
Дзе праведны схоў.

Чаму ж не адкрыў ёй
Ты свой запавет:
Разбродам нястрымным
Руйнуецца свет.

Ці ты не сказаў нам,
Ці мы ў забыцці:
Без межаў дзяржаўных
Малітва ляціць.

О Божа адзіны,
Радзіму нам дай
І свет нелюдзімы
Па-боску з'яднай…

x x x

Я разумею: Сусвет –
Боская воля і мэта.
Божа, адкрый мне сакрэт:
А што далей – за Сусветам?

Быць жа не можа, што там
Болей няма нічога:
Хай сабе – Пустата,
Але ж і яна ад Бога.

Значыць, ёсць сэнс і ў ёй:
Боскае ўсё – святое…
…Божа, душы маёй
Не дай прарасці пустатою…

x x x

Калі на парозе свайго
Небыцця, ці наступнага веку,
Да нязнаных збяру берагоў
Думы ўсе смяротна-зямныя
Пад дашчанае неба – века, –
Раптам сэрца расстайна заные:

Не пабачу між іх адну –
Толькі рэхам яна адгукнецца:
З ёю жыць – у тую вясну –
Сэрца сэрца майго памкнецца.

x x x

Адвакаты – адводзяць к*а*та
Ад спакуснай катаўскай місіі:
“То хіба ж і Сакрата за краты,
Што з такой геніяльнаю лысінай?”

Адвакаты – сшываюць дратвай
Правасуддзя
ветразі волі.
А два каты: паклёп вусаты
І прысуд – не знаюць патолі…

Адвакаты – адвадзіць ката
Ад вышэйшай стараюцца меры.
Ды – для ката ты ўжо вінаваты
Тым, што ёсць у ката сякера.

ЛІПЕНЬ

Дарога – нябесная лесвіца –
Гайдаецца ў зыбкай смузе.
Зямля – Перунова равесніца –
Наўслед мне глядзіць у тузе.

Дарозе аддаць не спяшаецца
Мяне, – не гукай, Вадалей…
А мроіва смяглаю чаіцай
Вядзе ўсё вышэй і далей…

Спякотнай глядзіць афрыканкаю
Еўропа ў высокі зеніт.
Жаўрук аблачынай-фіранкаю
Зашторвае зранку блакіт.

А ліпень духмяную накрыўку
Ўзрывае над брагай густой,
І лета па самую макаўку
Нырнула ў мядовы настой.

ЭВАЛЮЦЫЯ 21 СТАГОДДЗЯ

Імёны,
Адлітыя
Надмагільным цынкам, –
Літара за літарай –
На паўлітра

Зубілам адбітыя…
Вырваныя па-жывому
П’янчугам-цынікам,
Як залатыя зубы са сківіц
Тых, што пад плітамі
Скарыліся лёсу свайму крыжавому,
Калісьці ірвалі забойцы-“дантысты”,
Блаславёныя фашысцкай элітаю…
Гэтак і ён…
Ды страшней за фашыста:
Той – рэйха руплівец,
А гэты – самаробным дэбілам –
На пляшку “чарніла” –
Зубілам, зубілам…
Дзяўбе і дзяўбе:
Узмах –
Па метале,
Узмах –
Па мазгах
Сам сабе…
Адзнакі робіць, каб знали:
Якая эпоха стварыла
З чалавека
Гарылу…

x x x

Дыхнуў узбалоткам алешнік,
А я – дзяцінствам дыхнуў:
З гнязда крыжанкі – яешня,
І вуду акунь сагнуў.

У пер’і духмяным аеру –
Завоіны ды віры.
Ніхто не знаў браканьераў,
Дзе несла прырода дары.

Усім і ўсяго ставала,
Адно не круці гультая, –
І качка не баставала:
Нясучасцю брала ўдвая.

Як голас далёкіх продкаў –
Збіральнікаў і лаўцоў, –
Дзялілася мёдам салодкім
З чмялямі арцель хлапцоў.

Над Начай высачыць качак
Ці ўзяць акуня на кручок –
Нароўні лічылася ўдачай.
Ды сёння пра гэта – маўчок…

Не хочацца слыць браканьерам
Бязвінна на старасці год
Таму, хто ва ўдачу верыў,
Як быў на таку неўмалот…

Тады я не мог іначай,
Бо голад сядзеў на гарбе…
Я выжыў… Прабач мне, Нача, –
Я плачу па мёртвай табе…

## ЧАРЫ

Васількі, васількі,
Зоркі неба жытнёвага,
Кожны дзень жаўрукі
Песняй вас зачароўваюць.

Клічуць вас узлятаць,
Пра вышыні нагадваюць…
А як кончаць спяваць –
Што ж да вас яны падаюць?..

## КАБ ВЕРЫЛІ…

*О, Вільня, крывіцкая Мекка!..*
*Ул. Жылка*

Кажуць, род беларускі зводзіцца,
Кажуць, злічаны час ягоны…
А народзіцца ж!.. – пэўна ж, народзіцца
Той прарок, што выводзіць з палону.

Хай сабе не будзе Майсеем ён,
Хай не будзе і Магаметам,
Але будзе ён наш – пасеяны
Ў нашы душы Святым запаветам, –

Што святая зямля ў нас, каб верылі…
Ды йдучы да стольнага Менску –
Дух узняць для змагання з хімерамі, –
Як паломнікі ходзяць у Мекку, –

Каб спыталі: дзе ж тыя святыні? –
Кубатуры урадная маска?
Правадыр, “вопиющий в пустыни”?
Ці “утёс” на вуліцы Маркса?

Ці вось гэты “таемны” будынак?..
Ды не скажа ён, гмах “у цывільным”:

Менск – выгнанне Прарока, – Медына,
А крывіцкая Мекка – у Вільні!..

x x x

Калі Усявышнім ценем
Схіляюцца зоры на плечы мне,
Калі перапёлак вячэрніх
Успыхвае поле свечкамі, –
Хто ў свеце такі дасведчаны,
Які мне адкажа геній:
Колькі хвілін у вечнасці
І колькі ў мяне імгненняў?..

x x x

Рыфмары, скамарохі эпохі,
Гандляры на базарышчы дзён, –
“Заплачу – памаўчыце хоць трохі…” –
Як малітву шапчу, як заклён.

Памаўчыце, – душа народа,
Як у жыце зернейка, спіць.
І якія праклюнуцца ўсходы –
На мякіне не зваражыць…

Супыніце палёт мітуслівы
Слоў куслівых, пустых машкару…

…Бог не змог, – а вы? – ці змаглі вы
Знаць, што я пра сябе гавару?..

## МЫ З НЯМІГІ

*Генадзю Бураўкіну*

Даўжнікі спраўляюць дажынкі,
Пустазельны пякуць каравай.
А мы – “збяжымся” і “ разбяжымся”,
Быццам толькі сказаць: “Здароў” і “Бывай”…

Быццам часу такія запасы,
Што засекі трашчаць ад гадоў.
А яго ж – усё менш. Самапасам
Дні ляцяць – ні адзнак, ні слядоў…

Мімаходзь усё ў нас сустрэчы.
Кажуць, гэта сталасці дар, –
І гады, як вякі, на плечы
Свой узвальваюць моўчкі цяжар.

Што ж, суровы ў жыцця парадак:
Не супыніш стрэлак хаду, –
Дзякуй богу, не выбіта градам
Поле нашых юнацкіх дум.

Тую памяць, адлітую ў слова,
Час няўмольны не астудзіў.
Зерне веялі мы ад паловы
На Нямізе, 21.
Інтэрнат быў настаўнік строгі –
Індульгенцый не выдаваў,
Скараспела рэдакцый парогі
Разам з намі не абіваў.

І вучыў, і даваў заруку,
І салодкі ялей не ліў.
І што выблісне раптам у друку –
Ахалоджваў больш, чым хваліў.

Не згінацца і не схіляцца,
Не выпрошваць лёгкіх дарог, –
На Нямізе крылы юнацтва
Разгарнуць інтэрнат нам памог.

І па сёння авансаў не просім:
Мы з Нямігі, – такі пакрой.
І ў чупрыны майская просінь
Заблукала – спытаць пра настрой.

## ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ…

Надзею расцілі, надзеяй жылі,
Што змена вякоў нясе прасвятленне,
На кволыя парасткі слёзы лілі,
Як ліў у мінулым стагоддзі Ленін…

Жнём і па сёння іх ураджай.
Сытыя ўсе па горла.
А нас усё клічуць, вядуць: “Зважай! –
Ідэя яшчэ не памёрла!..”

Дзесяць гадоў, як дзесяць удоў,
Над дваццатым плачуць стагоддзем.
І плач той – як вырак абманных судоў –
У дваццаць першы век пераходзіць…

x x x

Асірацела Лысая гара:
Шпакоў няма, і сітаўкі зляцелі, –
А гэта значыць, што і мне пара
Ў не-вырай райскай гарадской пасцелі…

Вятры гудуць, што некага чакаць,
Што толькі з імі можна пабратацца… –
Прабачце, – хто вы? Як вас велічаць?
Адкуль вы? – скандынавы ці брытанцы?..

Я паважаю ваш паўночны ранг
І ваш туманны подых альбіёна…
Але я помню: там, дзе Інд і Ганг, –
Быў мой пачатак, Богам блаславёны.

Мой там пракорань, як, напэўна, й ваш:
Адам адтуль пусціўся ў свет грахоўны,
І ззянне поўначы, халодны ваш міраж,
Маю душу цяплынню не напоўніць…

Дзе ж вы, мае крылатыя сябры?
Няўжо, не помніце, як я вясной вітаў вас?..
А заўтра будуць – мінскія муры,
І скруха, і на сэрцы ледаставы…

Таму й гадаю: прыляцяць ці не?
Таму й сяджу маўклівa і чакаю:
Калі і хто з нябёс крылом махне,
Калі з сабой у вырай пагукае?..

### ПАЭТ

У сто вятроў падбіта паліто,
Іголкамі прашыта ледзянымі,
І сам – ужо не сам, амаль ніхто:
Настылы цень… Але душа – на ўздыме!..

Душа ляціць над горадам начным,
Над вашым сном у мякаці пярыннай.
І страшна вам задуманае ім:
На свет не гнеў, а весні спеў абрынуць.

### ПАРТРЭТ

Іх, такіх, нямала ў нас –
І за год не злічыш.
Вось: і ў профіль, і анфас
Накіды аблічча.

Галава, як булава,
Пуза – нібы ночвы.
Вухі два, і вокі два –
Кампрамат высочваць.

Глюга ў сто наздрын – не ў дзве! –
Рупіцца паслугай –
Знаць, куды начальства дзьме:
Круціцца, як флюгер.

З носам і ў мазгах “кандзей” –
Так зашпакляваны, –

Будзе падлаю смярдзець –
Скажа: “Пахне панам…”

Мае рот – “ура” трубіць,
Горлам драць ваколіцу,
Дзве рукі – у ладкі біць,
Ногі – жыць уколенцы…

x x x

Цар малы, а тракціры вялікія.
Цар вялікім жадае быць.
І народ у тракціры пакліканы:
Будзе поўзаць – будзе любіць.

Болей жлуктаў – разумных меней, –
Шлях стары араваць над людзьмі:
Гасіць г*а*ра ў сэрцах пламенне…
Божа, грэх з нас смяротны здымі!..

x x x

Прыгожая, таму што маладая,
Прыгожая сваёю маладосцю, –
А як тады, калі захаладае,
Калі зіма пагрукаецца ў госці?
Як зберагчы квітненне веснавое –
З якой напіцца вечнае крыніцы?
Як аплаціць гады – якой красою?
Якой красой ад часу адкупіцца?..

x x x

Здагадку маю, хоць не бачыў,
Як жаўранак ляціць у вырай:
Напэўна, сам сабе паплача,
Згубіўшы веснія клавіры…

І моўкне неба, і на сховы
Ключы ад лета шле за мора,
І мокне песня жаўрукова
На ветры золкім у разоры…

ТАКАЯ БЫЛА ЦІШЫНЯ…

Такая была цішыня:
У канюшыне ад мёду
Прыцмокнула зайчаня,
А лунь пачуў з асалодай;

Надрэчныя лазнякі,
Як ад ветрыку, хвалю гайдалі,

Калі ў цянёк матылькі
Шасцікрыла з лугоў залятталі;

Ратоўны паветра глыток
Закіпаў у бусловай дзюбе;
Сойка цямнейшы куток
Шукала ў разгалістым дубе;

Нават сонца само астудзіцца
Ў вір загнала гарачыня… –
А таму і не трэба дзівіцца,
Што такая была цішыня…

x x x

Куды паехала свята –
Вясёлае і маладое,
Якою замовай закляты
Той шлях у часу прадонне?..

Расстайны шлях перадснежны,
На стылых вятрах здранцвелы…
Няўжо гэта тое бязмежжа,
Дзе душы злятаюць ад цела?..

Самотны шлях, дзе вяртанняў
Хіба ўжо так і не бывае?.. –

Наіўныя ўсё ж пытанні
Штогод лістапад навявае…

x x x

На асеннім узвалку
Вецер жоўта кіпіць –
Кожны ліст, як запалка,
Непагасна ляціць.

Палымнее асіна
І агонь раздае –
Застаецца драўніна,
Грэшны смутак яе.

Ды крыло тэхналогій –
Уяўляецца мне –
Раптам з вывучкай строгай
Над асінай махне.

Быццам так і павінна
Шлях закончыць яна:
Кажуць, лепшай драўніны
Для запалак няма.

Не ламаюцца крохка
Ў цвёрдых пальцах начэй,
Узгараюцца лёгка,
А ўзлятаюць – лягчэй.

Ціха свецяцца й ясна,
Не смыляць, не чадзяць, –
Хоць не дужа сучасна –
Цемры ў вочы глядзяць.

Так асіна скрыжалі
Асвятляе свае,
Што калісьці назвалі
Грэшным дрэвам яе…

Захінайце ж, далоні, –
Нібы з лёгкай рукі,
Хай ляцяць з абалоні
Над зямлёй матылькі.

Дрэва светла асіліць
Векавечны праклён, –
У асенняй асіне
Спіць запалак мільён.

## ШТЭМПЕЛЬ

Яраслаў Васіліч Смелякоў
У застоллі пасля пятай чаркі
Плішчыўся запэўніць землякоў,
Што і ён ад беларускай скваркі,

Што і ён не дурань закусіць
Салам “Белавежскую” й “Зуброўку”,
І – “у рыфму” – пачынаў “касіць”,
Па-зямляцку тосты “будзьздароўкаў”…

І з кішэні “тот, бесценный, груз” –
Каб /пад Маякоўскага/ засведчыць,
Што і ён, нарэшце, беларус, –
Даставаў з паставаю важнечай…

А было для пахвальбы адно:
Быў ад беларуса толькі штэмпель…
І было няўзнакі, што даўно
Зжэрлі корань “камунізму тэмпы”…

І застолле ўдзячнае гуло,
Што аддаў ён пашпарту на сховы
Цэлае жыццё, што адцвіло
Лёсам палахлівых смеляковых…

x x x

*Алесю Пісьмянкову*

А было такое:
Лета ў звон гуло,
Бесяддзю-ракою
Да Сажа плыло.

Спрыту не хавалі –
Пад узмах рукі
“На сажонкі” хвалю
Бралі хлапчукі.

Сох пракос сажнёвы, –
Водар мурагоў
Аж да Магілёва
Далятаў з лугоў.

Зверху ж, у нябёсаў,
Клопаты свае:
Дождж перапялёсы
Сыпануць ці не?

Колераў сем столак
Гром у пас звязаў –
Беседна вясёлак
Арэлі разгайдаў…

Сожна і мурожна,
Мёдна, як з вулля,
І травінкай кожнай
Цешыла зямля…

Заблукаў у леце
Пісьмянкова спеў
Ды і не прыкмеціў,
Як зіму сустрэў.

Бесядзь не ў бяседзе,
І, нібы ў бярлог,
Гром старым мядзведзем
У сумёт залёг.

Ды малюнак строгі –
Не сваяк нудзе.
І марозік ногі
Лёгка ў лес вядзе.

Ранкам заінелым
Аж звініць лядок!..
Рытмы чорна-бела

Просяцца ў радок…
Не ляцяць арэлі,
Чуйна спяць грамы… –
Лета акварэлі…
Графіка зімы…

x x x

Бярозы. Магілы.
Як здань у вачах:
Чорныя крылы.
І крык крумкача.

Дзе слёзы ліліся,
Пясочак жаўцеў… –
Калі пасяліўся,
Адкуль прыляцеў?..

У змрочным чаканні
Глядзіць на крыжы –
І вусцішна стане
На кожнай душы.

Ствалы стрыжнявыя
Паспелі для трун.
І моўкнуць жывыя
Пад грознае: “Крум…”

Як лёс – непадступны:
Пытайся ці плач –
Аб тым, хто наступны,
Не скажа крумкач…

x x x

Religo – “зноў звязаць”, “злучыць”, –
Адказы ўсе на ўсе пытанні
Сказаць, калі душа маўчыць
Перад нябёс наканаваннем.

Рэлігія – звініць латынь
І кліча музыкай арганнай –
Паверыць зноў, як верыў ты
Яшчэ за тымі берагамі, –
Калі яшчэ зямной мяжой
Не быў узяты на запоры,
Калі зліваўся ты душой
З бясконцым часам і пràсторай…

Зноў разарванае звязаць,
Зноў па складах нябёсаў кнігу,
Табой забытую, чытаць

З прачыстай вераю – religo…

У ЛЮСТЭРКУ СВІЦЯЗІ…

Дубоў града і ў градабой і ў замець
Харугвы непакорныя калыша.
Замкі вякоў на замкавым узвышшы
Вартуюць ад няверцаў нашу памяць.

Нішто блакіт высокі не запляміць –
У згодзе ён са свіцязанскай цішай,
І зорныя санеты неба піша
Рукой Міцкевіча, каб дух ліцвінскі ўславіць.

Сівыя курганы паданні сняць:
Каб сцвердзіць край, Міндоўг шыхтуе раць
І стольны горад праз вякі бароніць…
Наваградак… Званы зямлі звіняць
І сэрцы акрыляюць нашы сёння,
Як рэха несмяротнае Пагоні…

ПЕРАВАГА

Драч горла дзярэ на тры паплавы,
Бо ў лазняку салавей зацёхкаў…

“О, як крушына крышыцца крохка…” –
Зайздроціць травінка з ніцай травы…

А ўнізе паўзе чарвяк дажджавы:
Туды – сюды… – не заносіць, не дрогка…
Дзе зад, дзе перад?.. – Якія правы?!. –

Дальбог, чарвяку жывецца лёгка,
Бо ў чарвяка няма галавы…

х х х

Пытаюся – і мне гучыць адказ,
Але не той, не самы, не галоўны,
І перапытваць – зразумеў – не час,
Ці проста: для смяротных нетактоўна…

Натое і памежжа паласа
Адзначана: спазнаць усё – замнога…
А з кім я гавару – не знаю сам:
Ці з космасам, ці з вечнасцю, ці з Богам?..

ВЕЧНА…

Вечна: муза для ўлады,
Як у воку бяльмо.

Вечна: служба ці здрада, –
Як натхненне само…

І на ўзбочынах вершаў,
І ў кюветах навел
Вока пільнае “смерша”
Глядзіць у прыцэл.

“Смерць шпіёнам” – як лозунг,
Як творчасці ўздым, –
Каб паэзія з прозай
Не збівалі хады.

Спрэс – аблавы, заставы,
Вартавыя сычы:
Крок улева ці ўправа –
За ўцёкі лічыць.

Вечна: гэткі парадак –
Са штыком і пяром…
І пакуль будзе ўлада –
Творцу быць змагаром.

ІНШЫ РАЗ…

Закарціць іншы раз
Хоць трохі
Свет пацешыць –
І скамарохам
На трыбуну, як на Парнас,
Узграбешся на радасць мас.

І паліць пачынаеш “глаголом”,
Як паўлін, распускаеш пер’е,
Покуль хлопчык – з назолаў назола –
Раптам крыкне: “А дзядзька ж голы!..” –
І назад на зямлю цябе верне…

КУРАПАТЫ
*Праект помніка*

Каго бараніць
Беларускі люд
Ідзе ў гарадскі прылесак?
Каго бараніць? – няма іх тут… –
Прасуе мазгі
Беларусам прэса.

А следам – бульдозер
Прасуе зямлю,
Цякуць з-пад каткоў
Гудронныя плёсы…

“Няма…” –
І вярнуцца іх не ўмалю –
Пакутныя душы
Пакутнікаў лёсу…
Тут толькі ірвы –
Працягам турмы.
А душы –
Яны адляцелі на волю…
І глушаць памяць
Матораў грамы,
І душыць дарога
Пятлёй кальцавою…

І я зразумеў –
Хоць і грэх на душу,
Можа, бяру, –
Хай, нібыта праз сэрца,
Праз Курапаты
Кладуць шашу, –
А ўсцяж –
Хай лес крыжоў узнясецца!..

Сцяна крыжоў, –
Каб хто ні ішоў
І хто ні ехаў па гэтай дарозе,
Супакаення пасля не знайшоў –
Ні ва ўласнай душы,
Ні ў Бозе…

x x x

Я сам сказаў, скажы і ты сама,
Каб не было абмана на абмане:
У вечнасці сярэдзіны няма,
Як не бывае вечнасці ў каханні…

Я сам сказаў… Але не веру я.
Не вер і ты – скажы адно: “Кахаю…”
Скажы – і вечнасць споўніцца мая,
Звязаўшы ў міг адзіны пекла з раем…

## ВІТАННЕ ВЯСНЫ

Статак рагаты – арганы з латынню –
Выйшаў на поплаў траве памаліцца,
Форум збаноў паліваных на тыне
З выпасам першым вітае дайніца, –
Salve, amici!*

Холад чаромхавы, – хай зберагае
Памяць зімы – ды вяртанню не збыцца!.. –
Лотаць вясновай паводкай шугае

Там, дзе да рэчкі збягала сняжніца, –
Salve, amici!

Неба – з пралескамі па баравінах,
Сонца ў ярах з першацветам радніцца,
Вербы ахутаны роем пчаліным –
Мёдна звіняць каташкоў завушніцы, –
Salve, amici!

Ходзяць кругамі на такавішчы
Цецерукі – аж дыміцца ігліца,
Сто салаўёў заліваюцца-свішчуць
Адной салаўісе ў альхоўніку ніцым, –
Salve, amici!

Чый гэта след па мураўцы зялёнай? –
Кліча за вёску сцежка-хітрыца,
Сэрца вось-вось заспявае натхнёна,
Нібы жаўрук з паднябеснай званіцы, –
Salve, amici!

—————-
*Вітанне, сябры! /лац./

x x x

Супыніся ля нівы жытнёвае, –
Гэта здань, гэта цуд ці прысуд? –
Хтосьці кліча ў далі ружовыя,
Хтосьці шэпча: “Застанься тут…”

І згаджаешся з гэтым пошаптам:
Недзе райскія ёсць сады –
Толькі часу не траць на пошукі,
Бо шляхі прывядуць сюды.

Паглядзі, як ніва хвалюецца,
Колас коласу б’е паклон, –
Дзе ж тады і душа прытуліцца,
Як не вернешся, – хоць на скон…

За палямі, за пералескамі
Вестку слухае небакрай:
Аблачынкі – ягняты біблейскія –
На зямлі абяцаюць рай.

x x x

Буяе трава
На дражджах дажджу –
На лысагорскім лецішчы.
Як раіў мудрэц,

На траву гляджу,
Каб адхрысціцца ад нечысці.

Шапоча трава.
Як замес у дзяжы –
Пеніцца, падыходзіць…
Ты ёй пра напасці свае раскажы, –
Кажуць, адводзіць.

Ты ёй адгукніся.
Але не прасі –
І не вымольвай замнога.
Яна сама
Знае ўсё аб усім, –
Трава, угодная Богу…

х х х

Я не гандляр, а вершы не тавар, –
Ды і калі хто-небудзь іх купляе?..
І гонар гэткі, як і ганарар:
Пустэльны вецер там і тут гуляе…

А слова з невядомасці імкне, –
Пасля і сам падзівішся: дагэтуль
Нічыйнае было, а зараз мне
Належыць – аднаму з усіх сусветаў.

Яно маё. Ніхто не адбярэ
І не палоніць… Толькі сам няволіць
Яго не стану – што са мной старэць!.. –
Жыві: як гэты лес, як гэта поле…

х х х

Калі снегавая жняя
На полі мяцеліцай сцелецца,
Здаецца, і я ўжо не я
На ветрам працятай аселіцы.

Які ён? Такі, як і ўсе?
Зусім на мяне не падобны?.. –
Няхай яму лёс прынясе
На ўдачу знак непадробны.

І верыць няхай, што і Бог
Гэткі ж, як ён, вярнуўшыся
З цягла ці з іншых дарог,
Сядзіць у цяньку пад ігрушаю.

А сын – праваруч ад яго,
А злева – як дух святы – жонка…

Вось вам і рай з пірагом… –
Без думы сусветнай Зуёнка…

x x x

Дарога наша, пакута,
Крывавая і крывая.
І келіх праводзін – з атрутай,
І камень шляхоў – караваем.

І на спатканне са шчасцем,
І на сустрэчу з доляй –
Асенніх дажджоў прычасце,
Малітва вятроў у полі.

Таму й не спыняемся марна,
А ўсё ідзём і шукаем
Краіну пад небам бясхмарным
І верым – што ёсць такая…

x x x

Узлесак ветрыкам весніцца.
Лісцінак гайданне…
Расінкі ўніз, як па лесвіцы,
З лісцінак – маімі гадамі…

Зліваюцца дзён аблíччы…
Было-не-збылося…
Спадаюць… Лічы-не-палічыш…
А больш не папросіш…

І абяцанне,
Па кропельцы, –
Зязюлі куванне –
Усё невыразнейшым робіцца,
Як у тумане…

ЗРОК

*Міколу Ермаловічу*

У гісторыі свой закон:
Той ніколі не жаў, хто сеяў.
Заставаўся нашчадкам плён –
“Іліяды” і “Адысеі”.

Нарадзіўся сейбіт і ў нас, –
Ноч вяла з сявенькай у поле:
Рана зрок ягоны пагас,
Ахінула цямрэчаю доля.

Ды не стаў уладарнікам змрок:
Не зламаў, не схіліў, неараструшчыў.

Быў за ўрокам урок – кожны крок:
Светлай памяццю быў відушчы.

Над стагоддзямі крылаў узмах
Адкрываў яму далягляды.
Беларускай гісторыі шлях
Ён абраў не дзеля парадаў.

Праз адчай і завалы маны
Ён навобмацак прабіраўся.
Чуў, як звоняць продкаў званы,
Каб у цемры народ не губляўся.

Лёс на радасці быў скупы,
Але ж ён і не даў лізасловіць:
Страціў зрок, ды не быў сляпы
Беларускі Гамер – Ермаловіч.

Верыў: праўдай трымаецца свет, –
Летапісец не мусіць быць хлусам.
З тым і жыў – як жывы запавет:
Зрок вярнуць сляпым беларусам…

ПРЫЗНАННЕ “ЛЯНОТНІКА”

Такая нялёгкая праца мая –
Штодзённы занятак лянівы:
Гадзінамі ў полі магу прастаяць
І слухаць, як шэпчуцца нівы…

У дуба пытацца, аб чым ён маўчыць,
Сабраўшы стагоддзі пад дахам,
І жаўранкаў рэдкіх у небе лічыць, –
Звяла хімізацыя птахаў…

Карціць мне дазнацца, куды саграшыць
Зладзействам спяшае сарока,
Прыгледзець, калонай куды мурашы
Ідуць шасціногім крокам…

Здзівіцца, адкуль гэта ўзнаў васілёк,
Што я ў іх імя пазычыў,
Пабачыць, што камень падобны здалёк
На Мао Цзэдуна аблíччам…

І ведаць, што ўвысях, дзе месца грамам, –
І хата, і ў хаце багацце… –
Бо ўсё я раблю для душы, задарма,
За што ні капейкі не плацяць…

x x x

*Не шукай ты шчасця, долі*

*На чужым, далёкім полі…*
*Янка Купала*

Уцякалі з вёскі маладыя:
Хлопцы – і дзяўчаты наўздагон…
Горад быў на ўздыме, калі ў дыме
Ўсім салодкі абяцаў палон…

А цяпер і ён дыхнуў прагоркла,
Стаў айчымам горад для дзяцей.
На “развал сістэмы” адгаворка
Ў горада, – ну што ж , куды прасцей…

Дзе там – у сенаце ці ў палаце –
Правяць “вертыкальныя мужы”:
Праца ёсць – ды па-жабрацку плацяць,
Жонка? – ёсць, ды толькі недзе жыць…

І старэе вёска і радзее.
Ды й асфальт падобны на іржу:
Раз’ядае моладзь безнадзейна –
З горада ўцякаюць за мяжу.

Дужыя, прыгожыя, у цвеце,
Рукі ёсць і клёк у галаве, –
Што ж ты рассыпаеш іх па свеце,
Беларусь, як росы па траве –

На чужых, няхай і ўкосных, пожнях,
Дзе ўжо дыяменты не збярэш…
Будучыню ўласную бязбожна
На чужы спажытак аддаеш…

Заблукаўся ў бродах лёс народа…
Дзе шукаць зламыснікаў сляды? –
Скажуць / запытайцеся / нягоды,
Што з радзімы гоняць маладых…

## БРЫГАДЗІР

*Пасляваенная сцэнка*

А бабы маладыя:
Па трыццаць – трыццаць пяць.
А спяць, нібы святыя,
І ложкі не рыпяць.

У плоці і пры целе –
А ноч, як небыццё:
Удовыя пасцелі,
Бязмужняе жыццё.

А днём, як прыйдзе ў поле

Калгасны брыгадзір,
Глядзяць – бы вочы коле
Адзін на ўсіх кумір.

Няхай сабе бязногі, –
Нібы дакор яму:
Чаму ж адной во богам
Аддадзен ён – чаму?..

Аддадзен, як украдзен
У іх ва ўсіх, лічы…
І ў кожнай у паглядзе
Для бунту сто прычын.

То тое ёй не гэтак,
То гэта ёй не так…
“Ах, бедныя кабеты,
Ах, бабы, самы смак… –

І ён не судзіць строга,
Хоць норавам і крут, –
Прабачыцца: –Вас многа,
А я… адзін…вось тут…

Хоць разумею слаба,
Хоць дзела не маё, –
Пасеяць бы вам, бабы,
З гектар які… х…м…мужчын…”

## ВАРОНА

Рэдкая птушка варона:
Па сотні варон – што ні крона…–

Пладзіцеся!..

Мудрая птушка варона:
На вароне – ведаў карона…–

Вучыцеся!..

Магутная птушка варона –
Сама сябе хваліць натхнёна:

Ляціць варона –
І свет ляціць,
Сядзіць варона –
І свет сядзіць!..

## МЁДНЫ ДЗЕД

Вулляў адраджэнне –

Раёвы бас.
Дымара кажджэнне –
Мядовы Спас.

Дзьмухне, як з кадзіла, –
Сам, як дым,
Дзед сівы, – на дзіва,
Малады.

Дзьмухне – і ўсміхнецца:
“Ша ў мяне!..”
Пчолка страпянецца,
Ды не джгне.

Можа, трошкі й чмыхне –
Ды бягом…
Знае: мёд не ўсіхні,
А яго.

Бо глядзеў і песціў
Пчол як след, –
От і ў пчэльнай чэсці
Мёдны дзед!..

x x x

Злая воля
Паклікала ў поле
Завірухай,
Снежны вецер
Прыход мой пакмеціў
Белай скрухай.

Сто буянаў –
Братоў буланых –
На абрыве
Шлях мой кралі
І ў небе гайдалі
Сонца прывід.

Толькі рукі,
Зялёныя рукі
Весніў з кронаў –
На расстанне
Ці на ўратаванне –
Бор зялёны…

x x x

Адзіноцтва, як прароцтва:
Хочацца сказаць, ды некаму…
А бамонд партыйнага балотца

Што сцвярджае, тут жа і аднеквае.

Самаграі мітынговай сцэны,
Гуртам ап’янёныя хімерамі,
Свету ўладна назначаюць цэны
І да кошту ўласнага прымерваюць.

Ну а свет – ён застаецца светам, –
Што яму тых партпатуг падстрэшша! –
Духам непадступнасці сагрэты, –
Тым і неабвержны і мудрэйшы.

## САЛЁНЫ ШЛЯХ

Палітыкі
Не з’яўляюцца
Проста так, ніадкуль,
Не растуць, як нясеенае пустазелле.
З’есці ў гэтым застоллі
Солі куль –
Лічыце, што вы нічога не з’елі.

Трэба тут з’есці
З дзесятак добры сяброў
І недругаў –
Дзе з соллю, а дзе і прэсна.
Уладных
З дзесятак прыдворкаў прайсці і двароў,
Каб ва ўласным двары
Ўласнае ўтроніць крэсла.

Раскаштаваць і крыві
Падабае
Салёны смак –
Не толькі поту і слёз
Хаўтурнай прэсы.
Іначай – які палітык з цябе?
Як слімак,
Так на задворках улады і загнешся н*е*саль.

## x x x

Праўдзівы жыццём, а смерцю ілжывы
Наш век чалавечы на гэтай зямлі.
У вечнасці толькі мы старажылы:
Туды адыходзім, адкуль і прыйшлі.

Няма ні апірашча там, ні цвердзі,
Але затое няма й кайданоў.
Мы волю набудзем, вось толькі б памерці.
Вось толькі б… Вось толькі б – жыццё тое зноў…

## АСТРА

Я зорка бяскрылая,
Крылатага космасу
Крывінка застылая,
Суродзічка ўскосная.

Празрыстая, лёгкая,
Як ранішні іней, –
Сузор’е далёкае
І позірк не кіне.

Названая зоркаю,
Хрышчоная астраю,
Каб дні вашы горкія
Бывалі нячастыя.

Адводжу па восені
Самоту нязрушную.
Гляджу – хоць не просіце –
Ў свет вашымі душамі.

Вясну не лічылі каб
Сусветнаю стратаю,
Каб восень вучылася
Рабіць вас крылатымі…

## ЖЫТНЁВАЯ ПАМЯЦЬ

Я думаў – жыта за гарою,
За цёмным лесам, за зімой, –
А выйшла: во яно, са мною,
Хоць каласкі пагладзь рукой.
Звяжы бярэмца з васількамі, –
Хай поле снегам замяло,
А жыта дзень і ноч гукае
Даспелай сцежкай за сяло.

Плыве, хвалюецца, шапоча, –
Ад Бога, з Богам – збожжа раць:
Зярняты спелыя, як вочы –
У вочы сонечна глядзяць.

Хай вецер вольніцай завейнай
Гудзіць-гуляе па жніўі –
Нішто той песні не заменіць,
Што перапёлкаю звініць.

Адно, прызн*а*юся, сярпамі
Снапоў не жнуць і на таках
Іх не малоцяць, – гэта памяць
Мая, жытнёвая, – мой шлях…

ЗАБУДЗЬ, ШТО ЗМРОК…

Мяцеліца пергаментныя звіткі
Разгортвае ў заснежаных палях,
І елкі, як манашкі-кармеліткі –
На цёмных строях белыя накідкі –
Ідуць чытаць наканаваны шлях.

І мне б у іх спытаць, якія знакі
Пергамент той накрэсліў для мяне,
Зямных арбіт якія задыякі
Мой шлях вартуюць з мэтаю дваякай:
Няўдачу й поспех зблытаць у цане.

Пытаюся…Насупіўшы галіны,
Маўчаць… А хор паслушніцаў-бяроз
Мне прашаптаў: “Натое і яліны,
Каб утаіць: шчаслівыя правіны –
Святлейшы дар, што лёс зямны прынёс…

А што далей? І мы таго не знаем,
Куды бязмежнасць вечнасці цячэ.
Але пракляцце змрочнае знімаем:
Прыходзь вясной – мы твой прыход ум*а*ім,
Забудзь, што змрок наперадзе яшчэ…”

ЗЯРНЯТКА

Трымаю зярнятка на цёплай далоні,
Прашу прабачэння, шапчу блаславенне:
“Навечна з табой развітаемся сёння…” –
Яно ж як не чуе: ні кроплі здзіўлення,
Ні слёз на збаўленне, – як быццам не знае,
Што ў глебу кладзецца яно й памірае.
І свеціцца толькі цікаўнае вочка:
З такімі ж спаткацца – смяротнымі – хоча…
Такое ў іх боскае наканаванне:
Не знікнуць зярняты – не быць ураджаю.
Я сейбіт – я з вечнасцю сею спатканне:
І веру жыццю я – і смерць паважаю…

х х х

Знаю: заўтра настане заўтра,
А што сёння ёсць сёння – няўпэўнены,
І нібыта ў гульні азартнай,
Дзень мінулы змываецца пенаю.

Ты прабач мне, шаноўнае ўчора, –
Ты прайшло – і з табою мы квіты.
Сёння – дзень з работаю чорнай:

Каб назаўтра праслыць знакамітым.

Толькі заўтра, што прыйдзе заўтра,
Будзе з той жа чорнаю метай…
І плыву, і плыву арганаўтам –
Дзень за днём – у тузе кругасветнай.

Залатое руно шукаю,
Што прысніў чалавецтва геній, –
Цягне ў бездань вечнасці камень,
А да сонца – ветразь імгнення…

### ЯК У МІЖЗОР'І…

Як у міжзор'і – засынаю
І страху божага не знаю,
Як і мяне не знае страх, –
Спакой люляе ноч зямная –
А можа, неба ўжо стаўляе
Знак вечны на маіх дзвярах…

### КАЛІ НАРАЧ…

*З зімовай вандроўкі на возера*

Калі Нарач вітае
Маё гасцяванне –
Гэта Нача пытае:
Ці хутка вяртанне.

Калі Нарач пад снегам
Уздыхне, сінявокая, –
Гэта Нача з начлегу
Мяне кліча далёкага.

Калі Нарач пабачыць
Сонца слёз ледзяное –
Гэта Нача мной плача,
Што яна не са мною…

### х х х

Хто ты, мой народ? Ці ты ёсць? – альбо не?
Хто я, мой народ, калі я цябе страціў?
Вякамі нязбытнасць дратуе і гне,
І чыняць свой баль чужакі ў нашай хаце…

Суседзі: хто ўдарыць, а хто штурхане, –
Ці мала ўсялякіх наўкол супастатаў…
А ты ўсё трываеш – жывы – у труне, –
Я – крыж над табою з душою распятай.

Стаю /так засведчыў Гарэцкі Радзім
Разлікам вучоным/ у цэнтры Еўропы,
Крычу і гукаю: няўжо, ты зблудзіў
І ў цэнтры Еўропы брыдзеш чарнатропам…

Няўжо, ты не бачыш дарогі людской,
Ці вочы твае хтосьці прывідна засціў:
То блісне планіда, як стронга луской,
То зноў у вірах захлынаецца шчасце…

У вочы твае я гляджу не здаля –
І ўсё, як пазначана лёсам, прымаю…
Хто ты, мой народ, – людзі скажуць пасля.
Хто я? – Без цябе проста сэнсу не маю…

x x x

Жыццё аднойчы, але ўсім даецца.
Ды гэты космас вычарпаць да дна –
Апошняму – камусьці давядзецца,
Бо ўсё смяртнае,
І толькі смерць адна
Навечна бессмяротнай застаецца.

x x x

Усе рачулкі, ручаі і рэкі
З маленькіх пачынаюцца крынічак,
З тых кропелек-слязін – гаючых лекаў
Для ўсіх, каго жыццё да сонца кліча.

З-пад гор крутых, з глыбіняў патаемных
Струмкі бруяцца светла і нячутна.
А хтосьці ж ім сказаў, што недарэмна
Зліваюцца яны ў паток магутны.

А хто сказаў – я знаю. Я падслухаў.
Аб гэтым прашаптаў чарот надрэчны
Праныру-ветрыку на саменькае вуха:
Чые раку падтрымліваюць плечы.

І страказа на сподачку лілеі,
Нібы на сцэне, крыльцамі трымцела,
І сом згаджаўся з ёю: “Не змялее
Наш вір, – скачы і весяліся смела!..”

І маладзік у ладкі пляскаў хваляй,
І зоркі ў неба на сябе глядзелі –
Сабою захаплення не хавалі:
“Мільярды год – а як памаладзелі!..”

Луг з мурагом і поле з каласамі

Азіміны і ярыцы-пшаніцы
Ўзіраліся, ці хутка над лясамі
Ўсплыве крыніца з дажджавой вадзіцай…

Пад коранем бярозавым – каменьчык ,
І з-пад яго – пакуль без берагоў –
Сто рэчак прабіваецца… Укленчыў
Я да струмка – свяцілішча свайго…

Заўжды – вялікае з малога вырастала,
Як песня з кроплі – салаўю напіцца.
Ды і сама зямля аб тым сказала:
Жыве яна, пакуль жывуць крыніцы.

x x x

А над лесам усход ружавее…
Ноч не вечная – цемра міне…
І нясуць, і нясуць снегавеі
Над краінай нязбытнай мяне…

І наўздоўжкі, і ўпоперак ходзіць
За сцяною завейная ноч.
Гул – як плач аб заснуўшым народзе,
Непрабудным, ад шчасця наўзбоч…

КАЛІ ПРАЗ ВЯКІ…

Калі праз вякі – будзе час –
А ён будзе! –
Аднойчы спытаюць:
–А што, ад Халопеніч вашых
Застаўся ў сусвеце
Які-небудзь знак?
Ці ён быў, ды згубіўся?.. –
Спытаюць –
Аднак,
Зразумела, тады ўжо не ў нас,
То адказ,
Каб космас не расцерусіў,
Зараз дам:
–Гэта тая
Зямля, на якой нарадзіўся
Адам, –
Няхай не біблейскі зусім –
Багдановіч, –
А сын у яго –
Пакланіцеся гэтаму краю:

МАКСІМ.

КАГО З КАГО?..

Хоць ліпні з пытаннем смалою,
Хоць бісяаб дол галавою,
Хоць тлей, хоць гары з карою, –

Ды так і не ўцяміш парою:
Ці дурня робяць з героя,
Ці з дурня робяць героя…

# 2002

x x x

Вучуся ў нівы мудрасці,
Цярплівасці, адданасці,
Нябеснай непадсуднасці,
Зямной неразгаданасці.

Адным, – адным палоніўся:
Ні ўзнагарод, ні гонару –
А толькі зерне ў коласе
І хлеб – жыццём агораны.

У КАЛЯДНУЮ НОЧ

Ногі да падлогі,
Зэдлікам – парог.
З твару – казларогі,
А сядзіць, як бог.

Зыркае на покуць,
Дзе вісіць абраз:
Звабная высокасць!.. –
Гэх! – туды б якраз…

Толькі ад парога
Не падняць хваста:
Хата вокам строгім
Праменіцца з кута.

Там святы Мікола –
Хат сялянскіх бог, –
Д’ябал там ніколі
Панаваць не мог…

А мароз не лёкай,
Каб чарцям служыць:

Шчэміць – хоць галёкай,
Хоць у свет бяжы…

Дык зрэдчас Міколаў
Дапускаў пагляд
Адагрэцца ў холад
Дробных чарцянят.

І нікшні, басота,
Прышчамі хвасты:
Тут вам не балота,
Не чарот густы!..

Плішчацца малыя,
А між іх – стары:
Пэўна ж, косці ныюць –
Зябка на двары…

Тут не пахітрууеш –
Хоць бы на парог…
А ў вачах вiруюць
Зайздрасць і спалох…

Ды цішком адводзіць
Вочы ўбок святы:
“Ладна ўжо, адроддзе,
Адагрэйся й ты…”

РАЗВІТАННЕ З МІНУЛЫМ

Малыя акторы Тэатра Вялікага, –
Хто будзе пытаць на вас “лішні білецік”?
Якія вас чорныя зоркі паклікалі,
Што цэлую вечнасць, пагаслыя, свецяць?..

Стамлёныя людзі, зямныя няўдачнікі, –
Сам бог-рэжысёр ужо ў поспех не верыць.
Якія нябесныя сілы растрачаны –
А выйшлі на сцэну нямыя хімеры.

І я ў гэтай п’есе абдзелены роляю –
Ці ў лепшым выпадку лічуся статыстам,
І марна чакаю, пакуль, разняволены,
Мой дух прыляціць на зямлю не турыстам…

Вось толькі каго ўжо тады я праведаю?..
А сёння й мяне ад знямогі хістае…
…Згасае жыццё – чалавецтва трагедыя.
Заслона апушчана. Зала пустая…

ЁСЦЬ НА СВЕЦЕ…

Ёсць на свеце казкі бедных
Пра багатую краіну.
Я багаты тым, што следу
Ў той краіне не пакінуў.

Хоць там сонца не заходзіць,
Хоць малочныя там рэкі,
Хоць і чорт не верхаводзіць
Там над бедным чалавекам…–

Не хадзіў туды ніколі –
Не настолькі ж я наіўны!..
Толькі сэрца ные болем,
Што такая ёсць краіна…

## ПЭЎНА…

Якія дні, – пакутна маўчаць,
Якія ночы, – плывуць успамінамі:
Вачэй не прымружыш – пачне залачаць,
І ў думках не выпіта горыч палынная…

Якія пранізлівыя вятры,
Якія нябёсы свінцова-сінія, –
Пэўна, сонца ў грудзях ледзянее знутры,
Пэўна, вечнасць дыхнула сіверам…

## ВЫРАЙ

Нібы кур*ы*цца купа на балоце, –
Хмар шызы дым сцірае ў свет сляды.
“Куды? Куды?..” – жураўка малады
Курлыкаў важаку на пералёце.
І штосьці светлае назад яго вяртала
І т*у*га шлях зямной тугой вязала…

Ды блаславёны зрок не заімглёны:
Хоць сонца не відно, ляцеў важак,
А зман святла тлумачыў сыну так:
“Пажоўкла крона –
Клёнава карона…”

## ПРОСЬБА

Не абмані мяне, душа,
Не абміні мяне, надзея, –
Хай зоркі шлях тым завяршаць,
З чым у калыску паглядзелі.

Не разгадай мяне, жыццё,
Як крыжаванку на дурніцу,
Не спагадай мне: “Каб знаццё…”, –

Хай застаецца таямніца.

Не спакушай мяне здаля,
Міраж, каб небу стаць раўнёю,
Не пакідай мяне, зямля, –
Ратуй дабром і цеплынёю.

Свяціся, памяць, у акне,
Што ўсмешкай мамінай свяціла,
Не адвярніся ад мяне,
Крыж над бацькоўскаю магілай…

x x x

Кажуць: убачыў грака –
Мудрасць такая даўняя, –
То і вясну сустракай
Вітальнымі песнямі-дайнамі.

А як, калі не сакрэт,
Быць з сённяшняю акрасаю:
“Гракі прыляцелі” – сюжэт
Нязменны – з карціны Саўрасава.

Ці збіўся ў зямлі разварот,
Ці сонца іначай схіляецца:
Гракі-мінчукі круглы год
У горадзе аціраюцца.

Бясснежжа – а ім самы раз
Няўладзіца гэта сезонная:
Без просьбы птушыных мас
Уладу трымаюць над зонаю.

Дубінкамі дзюбаў трасуць,
Пабліскваюць чорнымі робамі, –
Па сметніках гонар нясуць
Шыхты прызначэння асобага…

І масленка, як з-пад ярма,
На свет выязджае з подзівам:
Нібыта й вясны няма,
Бо і зіма не прыходзіла…

x x x

Дождж ідзе, а студзень на двары, –
Спіць зямля затоена і глуха.
Цьмяна гарадскія снегіры –
Ліхтары – маю гайдаюць скруху.

Дождж ідзе, – як плач аб тым лісці,

Хто б лавіў і піў жывыя кроплі…
Сон свой безнадзейна адпусціў
Я люляць людзей па ўсёй Еўропе…

Дождж ідзе, – аж за Палярны круг,
Пэўна, збег мароз пад парасонам.
Людзі, хай вам лёгкім будзе пух, –
Спіце на мяжы майго бяссоння…

Дождж ідзе, –нібы шуміць трава,
Дзе яшчэ мяне не пахавалі…
Нават сноў – і тых ужо няма,
Што ад адзіноты ратавалі…

x x x

Калі адбяруць радзіму
І скажуць:
–Цяпер ты вольны,
Цяпер ідзі, куды хочаш,
Цяпер жыві, як жадаеш,
Цяпер ты абраннік адзіны –
І раю і пеклу супольны,
Цяпер ты нікуды не збочыш,
Бо ты радзімы не маеш…

Твой шлях будзе просты: ні сцежак,
Ні ростаняў, ні першапуткаў,
Хоць будзеш усюды не дома,
Ды клікаць не будуць прыблудам,
І, як пупавіну, адрэжа
Памяць ад дзён пакутных,
І мецьмеш кірунак вядомы,
Бо шлях не вядзе нікуды…

Тады і спытаю я ў Бога –
А больш не скажу нікому:
"Няўжо ж ты не меў ніколі
Радзімы пры гэткім прысудзе?
Навошта ж мне тая дарога,
Калі не вядзе дадому,
Навошта такая мне воля,
Калі радзімы не будзе?.."

x x x

Што знае далёкі нашчадак,
Абудзіцца весткаю весняй,
Што моўлена Богам,
Таго са скрыжаляў нікому не сцерці,
Як нельга былымі шляхамі
Наступных шляхоў перакрэсліць,

Як нельга сябе перажыць
У вякоў крутаверці…

Няўжо, Беларусь,
Ты павінна яшчэ раз памерці,
Каб зноў уваскрэснуць?..

х х х

А што ты ўсё пра смерць, пра смерць
Рыфмуеш словы, –
Як быццам там шукаеш цвердзь,
Жыцця аснову…

Не варажбіт і не шаман –
Асцеражыся:
А раптам твой самаабман –
Залом у жыцці?..

Ты знаеш моц магічных слоў
І прадказанне,–
Глядзі, каб гэта не ўзрасло
Ў наканаванне…

Сваю стамлёную душу
Не стаў на карту…
Маўчы аб тым… – сябе прашу,
Каб не накаркаць…

х х х

Калі гудзіць набатная пустэча
Ў зямной душы, і спіць па-рабску дух
Пад нашым шэрым небам чалавечым,
І першароднасці агонь даўно патух;

Калі глядзіць у сёння безнадзейна
Нам будучыня спарахнелым тлом;
Калі палёт – бяскрылае падзенне,
І пнецца быць анёлам кожны гном…

Калі ўсё так… – адкрый нам вочы, Божа:
Ці гэта – мы? Ці гэта – праз жуду –
Сусветаў, нам далёкіх і варожых,
Мы бачым спапяляльную хаду?..

х х х

Натое і восень прыходзіць,
Прыродаю мудрай даецца,
Каб мог ты аднойчы даўмецца
З палёгкаю выдыхнуць: “Годзе…”

Было – і вясны, і любосцяў,
І лета мядовага ўдосталь.
Навошта ж гукаць тую ростань?
Хіба ты забыўся там штосьці?..

Нічога не дасць гуканне,
А восень тастамент накрэсліць:
Застанься навечна з песняй,
Разбіўшы ўспамінаў камень…

x x x

Такі спрадвечны нораў у вясны:
Насмешліва з зімой перагукнуцца,
Спытаць, якія мрояцца ёй сны,–
І ў квецень, быццам у сумёт, кульнуцца.

Чаромхай засмяяцца з сівізны,
Надрэчны яр заснежыць белым веццем,
Каб чорны грак спытаўся з баразны:
Ці ўжо вясна, ці то зіма на свеце?..

І я сачу ўзаемнасці сляды,–
Хто тут каго смяротна выбірае:
Чаромха зацвітае ў халады
Ці халады ў квітненні паміраюць?..

x x x

Свет бясконцы, бязмерны –
І ў веліч, і ў маль.
Я прыйшоў і паверыў:
Я тут крэўны амаль.

Я часцінка і космас –
Я загадкай іду.
Я прамы, а не ўскосны
Шлях да боскіх задум.

А таму й невядомы
Перш за ўсё сам сабе,–
І спажыўца, і донар
У касмічнай сяўбе.

Невялічкае зерне –
Сэнс сусветны нясу,
Знаю зорныя церні
І зямную расу.

Ды пакутна не знаю:
А жыццё – для чаго?

Калі маю, дык маю,
А калі б – без яго?..

Калі б я не з’явіўся,
Дзе б я быў, дзе б я жыў?
Дзе б на неба дзівіўся
І з зямлёю тужыў?..

Пэўна, лёс незвычайны
Ў нас – нябесна-зямных,
Што пакінуў нам тайну
Бог – удосталь для ўсіх…

## СЭНС У ТЫМ…

Жабракі, як жарабкі,
У прыпрэжку з песняю
Абганяюць цягнікі,–
Гэткая прафесія.

Бізнес даўні, ды шкада,
Што жыццё ў нас беднае:
Песня ёсць, а нечым даць
Плату адпаведную.

Як няма дык і няма –
Ні рубля, ні долара –
То і едзеш задарма
З песняй неадоранай.

Электрычка – не кірмаш:
Дрэмлюць, спрацаваныя,
У вагонны экіпаж
Людзі спрасаваныя.

Той абняўся з рукзаком,
Гэтая – з букецікам…
Бабка, стоячы, маўчком
З месца гоніць шкецікa…

Тая смокча ледзянцы,
Гэты семкі лускае… –
Тут і ўрэзалі хлапцы
Нашу, беларускую!

Трое іх – аж з-за дзвярэй
Раптам як галёкнулі,–
У грудзях вагон шырэй
Стаў – аж сэрца ёкнула.

–Гэй ты, братка-беларус!–
Словы песні існыя:

Ці душой ты заскаруз,
Ці бяда прыціснула?..

Дык жа не! Ажыў вагон,
Шастае кішэнямі,
Бабка хлопцам наўздагон
Сыпле вішні жменяю.

Не даццё, а ўвагі знак,–
І артысты ж, ведама:
На баян збяруць, ці так
Будзе да стыпендыі…

Ай ды песня! Галасы
Сонечна праменяцца…
Хоць не лёгкія часы,
Трэба раскашэліцца…

Хто з дастаткам не крутым,
Хто з нікчэмнай пенсіяй,–
Сэнс не ў гэтым, сэнс у тым,
Што народ жыў песняю!..

x x x

Гад*ы*: у вечнасць – чоўнамі…
Гадзіны незлічоныя,
Паўдзённыя, паўночныя
Сутокі бела-чорныя,–
Узмахі крыл сарочыных,–
Ляцяць, ляцяць – не збочваюць…

Сарокі стракатлівыя,
Сутокі мігатлівыя:
Дзень–ноч, дзень–ноч,– адлічваюць…
Перад сцяной маўкліваю –
Бясконцасцю касмічнаю –
Згараюць тайны знічкамі…

Сарокі белабокія…
Ужо зусім далёкія
І так смяротна блізкія…
Адна разгадка лёгкая:
І песня над калыскаю,
І смерць касою бліскае…

То з радасцю, то з бедамі
Жывём – як і не ведаем:
Той, хто плыве, прычаліць –
У гавань адпаведную,
У сонечнасць сусветную,
Дзе летнімі начамі

І ў поўнач залачае…

х х х

Як дойдзе да супакаення
Мая вярста –
Я перад смерцю на калені
Гатовы стаць.

Не з крыўдай: позна ці зарана
Яна прыйшла,
А з тым, што мне наканавана
Жыццём была.

З яе прысутнасцю заўсёднай
Не божы гнеў,
А чуцца на зямлі свабодным
Я шчасце меў.

І хто я тут – не дыктавала:
Свой ці чужы,
А непазбежнасцю давала
Мне права жыць.

Хай падступалася ліхая
Дзён крутаверць –
Я знаў адно: жыццё бывае
Раней, чым смерць.

ГОРНАЯ ІМПРЭСІЯ

Горы, – як гора зямлі,
Высокае, паднябеснае,–
Расколіны і гарбылі,
І войстрыя пікі бязлесныя.

Скала, – як пакручаны лёс,
Над пласкагор’яў патэльнямі.
Звініць ледзяны вадаплёс,–
Як ланцугі Праметэевы…

Ды я не міфічны герой –
Мяне прыкаваць тут не выпадзе…
Стаю перад змрочнай гарой –
І неба ні кроплі не выгледзеў…

Сябе – пад прымусам – дзіўлю
Руінамі бунту хаоснага…
Я горы таму й не люблю,
Што ёсць сенажаці росныя,
Што жаўранка боскі званок
Як вечнасці голас над ніваю,

І небам глядзіць васілёк
І грэе душу сіратлівую…

## ФІЛФАКАЎКА

Пёрка, паяднанае з “чарнілкаю”, –
За радком радок. Аб чым?–сакрэт…
Можа быць, карпенне над памылкамі,
Бо – філалагічны факультэт…

А магчыма, вестка аднакласніку:
Першы курс усё ж – і точыць сум…
І паспачуваў сусед дзяўчыне: “Ясненька…
Я палову гора паднясу…”

За шчаку, як школьніца, схапілася, –
Пальчыкі ў чарнільнай сіняве…
…Год за годам, – многае забылася,
А вось тое ў памяці жыве…

Пасівеў, аблысілася макаўка,
Перына жар-птушкі – у руцэ,
А ўваччу – усё яна, філфакаўка
З фіялетаваю плямкай на шчацэ…

## х х х

Ад Якімаўкі да Ямайкі,
Калі б толькі не акіян,
Па асфальце б даехаў амаль што.
А вось тут – толькі “пыл ды туман…” –

Як спяваецца ў песні той даўняй:
“Эх, дарогі…” – Хто і калі
Век мачулінскі разгайдае,
Каб і ў нас бальшакі загулі…

А пакуль жа ўсё міма і міма, –
Перспектыўная цішыня…
Толькі гусі шлях, як да Рыма,
Пракладаюць да Начы штодня.

Ад Мачулішча – да Узнацка,
Да Якімаўкі і Шчаўроў, –
То ў гумовіках восенню пляцкай
Ды адольвай за ровам роў;

То зімою штурмуй сумёты,
Патрапляючы ў зайцаў след;
Ці, бусла асядлаўшы, лётам
Над разводдзем вяснуй у свет…

Толькі ж помні адно: вяртайся, –
Сам жа знаеш: тут летам – рай.
Між палеткаў сцяжынкі па-райску
Прывядуць у бацькоўскі край…

Павандруй, пабадзяйся, каб потым
Знаць: эпоха “пад нуль” стрыжэ…
А Мачулішча – выспай балотнай, –
Можа, гэтак Бог беражэ?..

x x x

А дзесьці ж яны ёсць, – зусім чужыя:
І мне яны, і я, напэўна, ім, –
Вясёлай рыфмай зорку закружылі,
Яшчэ зямлёй не знаную зусім.

Чакаюць вершы і жывуць на волі,
Якія я яшчэ не напісаў
І, можа быць, не напішу ніколі, –
Там не маёй удачы паласа…

Няма між іх ні злыдняў, ні хімераў.
І хоць мы ў светы розныя ляцім –
Не знаю, хто напіша іх, – а веру:
Ён будзе мой па духу пабрацім…

x x x

Калі чалавека тварыў,
Зусім, пэўна, Бог не хітрыў,
А проста па мудрасці боскай
Рашыў, што ўсё ж гэтак проста,
І што яшчэ тут тлумачыць, –
Хіба можа быць іначай?!
Стварыў – значыць, гэтак трэба, –
На радасць зямлі і небу…
Пладзіся і размнажайся,
І меней аб сэнсах пытайся.
Ды мудрасцю з Богам цягацца
Не змог чалавек – і пытацца
З хвіліны тае не стамляецца:
Навошта на свет ён з’яўляецца?..
О бедны клёк чалавечы!
Яшчэ адзін клопат на плечы
Тварцу… Бо не меў падазрэння,
Што розум яго тварэння
Патрапіць у гэтакі венцер:
“Пытанне жыцця і смерці”…

x x x

Ёсць у бясконцым сусвеце
Галактыка чорная. Ёсць
Хаосу бяззорнага вецер,
Дзе нават сам Бог – рэдкі госць.

Бяздушша даіснага вочы
Глядзяць адтуль у журбе…
Я там пабываў аднойчы,
Калі не стала цябе.

Ды ты павярнулася светла
І мой пераксціла пагляд
Рукою душы сусветнай…
Сказала: “Вяртайся назад…”

## СУПАКАЕННЕ

У лугах блукае чэрвень.
Вечарэе.
Змрок ружовым хмаркам чэрніць
Падчарэўе…

Не жахайцеся, што з неба
Сонца ўпала
Альбо намі дзень пагрэбваў –
Ноч настала.

Гэта мудры час агледзін
У прыродзе.
Гэта значыць: сонца недзе –
Узыходзіць!

## КАЖУЦЬ…

Я не помню сябе ў пялёнках, –
Кажуць, дужа іх не любіў,
Распавіты, кажуць, спрасонку
Ледзь жыццё сваё не загубіў.

Раз сястрычкі – мая апека –
Адвярнуліся са двара,
Дык умомант і я раскумекаў,
Што і мне пагуляць пара.

Страпянуўся нагамі й рукамі –
І збылося ўсё, як хацеў…
Не зваліўся на дол, нібы камень, –
Кажуць, лёгенька паляцеў.

Быў палёт не па ўзросце стромкі,
Ды падлога мяккай была, –
Кажуць, Бог падаслаў саломкі,

А магчыма, зваў да крыла…

Адшукалі мяне пад лавай, –
Кажуць, нават не ўздумаў крычаць…
З той пары і займеў я права
Сам шляхі сабе вызначаць.

З той пары і характар не ломкі,
І выкручвацца не мастак…
Кажуць, Бог падсцілае саломкі, –
Што ж, я згодны, – няхай сабе й так.

Згодны: маю прычасце на шчасце,
І на ўдачу талан такі,
І закон: на калені не ўпасці,
І – пляваць на ўсе гузакі!..

## ДРЭВА

Дрэва сонцам жыве,
Дрэвам жыве агонь.
Над магілай зямлі крыжавець –
Дрэву – наказ багоў…

## х х х

Сасна шаптала баравая,
І не аспрэчваў мох балотны:
"Шляхоў зваротных не бывае
Для тых, хто ў свет прыйшоў смяротным…"

А я не верыў, я ўсё думаў –
Ды і цяпер надзею грэю
Няўжо, свет сам сабе паглумак,
Што ў незваротнасці старэе?..

Няўжо, ён сам сябе прымусіць
Хоць раз сюды не азірнуцца?
Няўжо, адмовіць Беларусі
Хоць раз са мной перагукнуцца?..

Ды і якія ў свеце светы,
Якія сілы – хто ўтрымае? –
Калі пачуецца адгэтуль
Аднойчы голас мне: "Чакаю…"

## ПА ЖЫЦЦІ…

Ножка, ножка – па нажу,
Ножка – па ножыку…
Не спяшайся!
Па лязу:

Асцярожненька…

А калі
Пырсне кроў –
Не палохайся:
Не было ў рай з зямлі
Іншых пропускаў.

І не траць драбязу
Слоў
На войканне, –
Толькі пальцам па лязу:
Яшчэ войстрае?!.

Лёзы, лёзы…
Па жыцці,
Як па нітачцы…
Ці ідзі, ці ляці:
Лёсам
Лічыцца…

Ножка,
Ножка жыцця
Прытачкам ступае…
Боскай нітачкі краса:
Не лязо,
Дык каса
Возьме тупая…

x x x

Пазнаю цябе, Божа:
Як твой свет ні вялікі,
Ты адзіны, хоць кожны
Люд свайго толькі клікаў –

І свайго толькі бачыў,
І па-свойму маліўся…
Ты адзіны, – іначай
Свет бы ўміг разваліўся.

Свет даўно б расцягнулі,
Як набытак калгасны, –
У хаосным загуле
І душою б не шаснуў…

Пазнаю тваю сутнасць
У любой іпастасі:
Ты адзіны, магутны –
І ў прасторы, і ў часе.

Як цябе б ні назвалі –

Буда, Зеўс ці Ягова, –
Ты адзіны – скрыжаляў
Запаветнае слова:

Ні спытаць, ні аспрэчыць,
Ні рашыць, ні праверыць, –
Ва ўсявышнюю вечнасць
Можна толькі паверыць.

## ПА-НАСКУ…

А прыкладаў груды
Ў Пандорынай скрынцы:
Душылі прыблуды,
Душылі чужынцы.

Вякамі, гадамі –
Пажары, разбоі…
Але выпадае
На долю й такое:

Няма большай ласкі,
Чым з ласкі імперства,
Дзе душаць па-наску:
Пятлёю братэрства…

## х х х

І чэрвень ужо залецiны
Справіў маёй вясне,
І птушанят на агледзіны
Неба заве – без мяне;

І дзьмухавец з парасоніка
Раздзьмухаўся ў пухавік,
І на прыпёку сонечным
Выскачыў каласавік;

І жук-каларадчык шыкуе
На бульбе ў маёй баразне,
І крот наваселле святкуе
На градках, – лацвей без мяне!..

А хутка за стол траецкі
Пакліча вясёлы кірмаш,
Ды почат вяскова-свецкі
Сплыве без мяне, – як міраж…

І над хлебадайным полем
Хмурынку гром тармазне,
І дождж ападзе напоем… –
І ўсё без мяне, без мяне…

Усе сваё маюць – і квіты, –
На радасць і ўдосталь… А мне –
Бальнічны кавалак блакіту
Ў казённа-стэрыльным акне…

Як глянеш – якія палаты,
Якія ўжо тут дактары?!.
Лячу – праз бальнічныя краты
Па лекі ў палі і бары…

x x x

О век, о час на долю нашу выпаў:
І мова – як злачыннасці таўро, –
Маўчы – і перад паліцэйскім тыпам
Дзеля бяспекі не лічы да трох.

Бо толькі рот раскрыеш на хвілінку:
"За што, – спытацца, – вырак нам такі?" –
Адказ пачуеш між вушэй дубінкай,
І на руках зазвоняць кайданкі…

Усё сышло б: на хіндзі, на іўрыце, –
А тут – адразу пойдзеш у піке:
Дадолу нос – з "парадай": "Говорите
На человеческом, нормальном языке!..»

О век! – у роднай хаце з родным словам
Так абыходзіцца бадзягі вучаць нас…
А мы – маўчым, унурыўшы галовы,
Пакорліва маўчым… О век, о час… –
І іх дастойныя: пытанне і адказ…

ТРЫНАЦЦАЦЬ СЛОЎ…

Трынаццаць слоў калісьці Павел І
Забараніў, – як пасадзіў за краты:
Каб не трапляліся ні ў рапартах, ні ў вершах,
Ды і на свецкіх зборышчах – non grata.

А паміж слоў асуджаных: "Айчына" –
Народу ў сэрца выракам цаляе…
І сёння ў нас чыноўнік гэткім чынам
На ўсё айчыннае цяжкі замок чапляе.

Не на трынаццаць слоў з указам царскім –
На мову родную абрынута пагарда.
І толькі іншы раз чыны – калі пад чаркай –
"На мове" не супроць паслухаць барда…

Яшчэ "пісьменнік" скажуць як "піцьменнік",

Яшчэ пітво “гарэлкай” абзавецца…
А палічыць – дык з моўнага здранцвення
Трынаццаць слоў, магчыма, й набярэцца…

Трынаццаць слоў – пад царскай забаронай.
Трынаццаць слоў – за царскім баляваннем.
Ды там на мове – царская карона.
А тут – бязмоўя рабскае іржанне…

x x x

Птушачка ў ружовенькай спаднічцы –
Гарыхвостка на плячы куста
Ўспыхвае і гасне дробнай znічкай
З трапяткімі ўзмахамі хваста.

Бы сігналіць па вясновым садзе,
Што даўно мінуў зімовы пост,
І цікуе: дзе ж ён? – як шатландзец
У спаднічцы ж гэткай – гарыхвост?..

## КАЛАРАДСКІЯ ЯМБЫ

Штат Каларада выцесніў Гранаду,
Зрабіўся ў гамане людской цвіком:
Гранада – песняй брала, як блакадай,
А Каларада славіцца жуком.

Калі да нас амерыканскі клубень
Прыехаў, каб славутай бульбай стаць –
І харчам, і ласункам нашым любым, –
Ніхто не мог той наступ расхістаць.

Ні рэдзькай горкай, ні салодкай рэпай –
Не засціць каралеву з каралеў:
І ў плённы год і ў недарод – найлепей
Абранніцай мець бульбу на стале.

Аб тым жа, што яна амерыканка,
Ніхто й не пнецца памяць варушыць, –
Па волі лёсу вечную каханку
Займелі беларусы-бульбашы.

О бульба беларуская! – найменне
Ад нас ужо шыбуе за мяжу,
Каб славу мець сусветную – не меней!..
І тут – з’явіўся каларадскі жук…

Амерыка нібы працёрла вочы
І стала дыктаваць правы свае:
“Пакольки бульбу вам дала аднойчы,
Дык і жука бярыце да яе!..”

Калі і як ён, шкоднік паласаты,
Бульбоўны кат, адолеў акіян, –
Не знаю, ды адно засведчу: катам
У нас зрабіўся ён і для сялян…

Няма ні паратунку, ані ўправы:
Збірай, хіміч – зцямна і дацямна, –
Штолета ў нас за бульбяныя стравы
Вядзецца беларуская вайна…

Змагаюцца – пенсіянер і школьнік, –
Я ўжо пра люд працоўны не кажу:
Хоць бульба беларуская, а шкоднік –
Амерыканец: каларадскі жук…

Не паваюеш з ім – не будзе ў місках
Ні варанай, ні паранай на стол,
Ні бабкі, ні запечанай у прыску,
Ні дранікаў з каўбаскаю пластом…

За бульбу беларускую – удзячнасць
Табе, амерыканскі кантынент.
Хай чуецца ў застоллі: “Есці смачна!..”
А вось з жуком як расцаніць прэзент?

Пражэрлівасцю прагнай каларадчык
Бульбоўную душу праеў наскрозь, –
Хоць аб’яўляйся свету як растратчык
Ды бульбу зноў за акіян вывозь…

## ЁСЦЬ ВУЛІЦЫ…

*Анатолю Вялюгіну*

З хацінамі, што мрояцца дамамі,
Знябесненая сінімі дымамі;
Сагрэтая дыханнем і каханнем,
Шторання ў вокнах, быццам на экране,
Глядзелася: суседу ад суседа
Хаваць не собіла ні радасці, ні беды;
Выходзіла, як мацяркі-равесніцы,
Начную змену сустракаць ля веснічак;
То ў мураве, а то ў пясчаных выспачках –
Без грукату: і днём давала выспацца;
Каб месцічы не чуліся сяльчанамі,
У ходнікі абутая дашчаныя,
Зімой рыпела саннымі падрэзамі,
Вясной кіпела палісадам бэзавым;
Свавольна, па-вясковаму, не стрункая,
Дакладны адрас мела: “За чыгункаю”, –
Як у казённую дарогу позвамі,
Трывожыла гудкамі паравознымі;

Не гналася за векам наўздагонку,
Але й вачмі не лыпала спрасонку… –
Дык вось – я меў ні мала і ні многа:
Я жыў тады на вуліцы Талстога.
Быў катушок мой богам беражоны,
Як водзіцца ў сям'і маладажонаў.
У цеснаце не ў крыўдзе, – гэткім чынам
Я быў шчаслівы – жонкаю і сынам…
І меў яшчэ – як кватарант – заслугу:
Тут жыў калісьці Анатоль Вялюгін.
Паэзіі службовец знакаміты,
Сам, як санет, з радкоў тугіх адліты, –
Быў галубятнік: вышынёй глыбіннаю
Ён з небам гаварыў па-галубінаму –
Выносіста, крылата і натхнёна,
У слова, як у неба, улюбёны…
На вуліцы Талстога я, няйначай,
Тады нашчадкаў галубоў тых бачыў.
Пярынка з галубінага крыла
Мне рыфмаю Вялюгінскай была…
Я ўдзячны майстру: як настаўнік строгі
Маю сцяжыну з вуліцы Талстога
Аднойчы ён прыкмеціў і прывеціў…
Бываюць жа – вось гэткія – на свеце,
Ёсць вуліцы: з наканаваннем Бога…

x x x

Аддзяліў святло ад цемры
Бог у першы дзень тварэння, –
Як не ведаў, колькі церняў
Свет на тым шляху сустрэне…

Ведаў Бог. І блаславенне
Чалавеку на пакуты
Даў, каб светлыя памкненні
Чорнай сталіся атрутай.

Каб за чорнаю заслонай
Не пабачыў ён нічога,
Апроч тайны, акрылёнай
Неразгаданасцю Бога.

Аддзяліць святло ад цемры
Каб не ўздумаў ненарокам,
Зблытаў Бог яму адценні
Цемрашалаў і прарокаў…

ПЕРМАНЕНТНАЕ “НЕ ЗНАЮ”…

Знаю, што прыйдзе вясна,
Нікуды яна не дзенецца.

Травінка ў зімовых снах
Чакае вясну – абнядзеліцца.

Чакаю вясну і я,
Бо знаю: вясна не знікае.
Ды толькі нядзеля мая
Маўчыць, як магільны камень.

Надзеі ў нядзелі няма,
Што вечнай яна застанецца.
Знаю: вясну не срымаць.
Не знаю: мне з ёй ці сустрэцца?..

## МАТЫЎ БІБЛЕЙСКАГА ЁВА ПА-БЕЛАРУСКУ

Калі Бог любіць чалавека
Ці толькі палюбіць намераны –
Не ўсцешыць ласкай і апекай,
А ўсцешыцца тваёю вераю.

Пашле мільён выпрабаванняў –
Пакуты цела, золь духоўную, –
Каб ты не знаў, што ты абраннік,
Што ўзыдзе зернейка ахоўнае.

Прайдзі праз беды і спакусы –
Чакае поле, узаранае
З пакутнай верай беларуса
Свайму ўсявышняму, забранаму.

Раскрыжаваны, праз нягоды
Нясі святло святое ў сэрцы,
І без зямой узнагароды
Не бэсці неба ў паняверцы.

Не праклінай сваю планіду
З расчараванасцю паспешнаю.
Свіння не з’есць, як Бог не выдасць,–
Шапчы адно: “Даруй мне, грэшнаму…”

Хай толькі не ўпадае ніцма,
Не кленчыць дух перад хімерамі.
Глытком вады з жывой крыніцы
Хай прычасціцца слова: “Верую!..”

x x x

*Гумавыя боты і нашчадкі чуняў –*
*глыбокія галёшы,– ледзь не фірмо-*
*вы абутак сённяшняга вяскоўца,*
*наўзамен колішнім лапцям…*

*З этнаграфічных назіранняў*

Між зор у гумавым галёшы
Нашчадкам шудры /ці раджы?/
Плыву, – хлюпоча і палошча:
Ідуць касмічныя дажджы.

І веру, як даводзіў Рэрых,
Мастак, філосаф і паэт,
Што Індыя – зямны наш бераг,
Адкуль мы рушылі ў сусвет.

Ды разышліся накірункі, –
І як сабраць дзяцей зямлі,
Каб не варожасці варункі
Арыенцірамі былі?..

Куды нясём, якую вестку,
Каго парадаваць і чым?.. –
Ад Гімалаяў і да Грэска
Бог даў не вынік, а зачын…

Плывём… Хто так, а хто за грошы –
Шыкуе ў чэраве ракет…
А я – наіўна – у галёшы:
Якраз на сонечны загнет!

І не смылю, і не згараю,
Адно ўвушшу зрэдзьчас трашчыць,
Калі касмічны гнеў шпурляе
Каменне зыркае з прашчы…

Хачу вярнуцца – ды не знаю
Назад ні сцежак, ні дарог
І толькі за ратунак маю
Санскрыт, што ў памяці збярог.

Карэнных слоў карэнны высеў,
Што ў мовы крэўныя прарос,
Што над мычаннем нас узвысіў
І сцвердзіў мой крывіцкі лёс.

Як дух святла: *агонь* і *агні,*
*Жыццё* і *жыва* – боскі ўрок,
Як *васантас – вясна* над Гангам,
Як *веды* – мудрасці выток.

Адкрыты будучыні дзверы,
З мінулага мой шлях імкне:
Я, пэўна, космасу паверыў
Тады, як ён паверыў мне.

І, пэўна ж, ён надзею песціў,

Што буду свету я наўздзіў
Ягоны дух і вобраз несці…–
А хто ў галёшу пасадзіў?..

## ЗГАДКА НА ЎЗЛЁТНАЙ ПАЛАСЕ

Было: як Адысей – з Адэсы
Вяртаўся я ў свой стольны Мінск:
Загаварыла сцюардэса –
Загаварыў, здалося, сфінкс.

Загаварыла і здзівіла,
Бо ўсім інструкцыям на зло
З ёй слова роднае на крылах
У звонкай вышыні плыло.

На мове роднай і адзінай
Дзяржаўна павітала ўсіх
Высакалётная дзяўчына
З вачмі, як неба раскалых,–

З усмешкаю, па-беларуску,–
О як жа слодыч абняла
Душу, калі ад перагрузкі
Яшчэ й цукерку мне дала…

Я не спытаўся: ці з Палесся,
Ці з краю, што не знаў балот,
Была яна, але, як песня,
Са мной застаўся той палёт…

Так і жыву тым успамінам
З аэрафлотаўскіх вышынь,
Бо з той пары – не плюс, а мінус
У вышыні – куды не кінь…

А мне карціць: а як жа з плюсам?..
Зноў самалёт бярэ разгон…
Шукаю з плюсам беларуса,
Бо, кажуць, ёсць усё-ткі ён!..

x x x

Жыцця такая магістраль:
Мы сталі рускімі амаль.

Нібы на бойню, *шлях* і *путь*
Па магістралі той вядуць.

Прастуем – быдла і натоўп,–
Мычым: чаму не поўны коўб?..

Слоў родных здрадзіўшы красе,
Трасянку моўную трасем.

Сваёй пазбыўшыся душы,
П’ём за чужую барышы.

І з нафтаю падносіць гляк
Нам першы сібірак Ярмак.

Славуты пахадзень ён быў –
Пітво Расеі раздабыў.

З той “чашы кругавой” і нам
Трапляе ў дар па колькі грам…

Глыні – ды бульбінай заеш,
Гуляй – без хаты і без меж!..

І сэнс адзін у той гульбе:
Труба… трубою… у трубе…

І мы – ужо амаль не мы,–
Трубі ў трубу, народ нямы…

Акрутны баль, атрутны баль, –
Пульсуе крута магістраль.

І па трубе паўзе да нас
Блакітным акупантам газ…

x x x

Дух выбілі з гаспадара,
Агмень патух.
Начальства ёсць – з плячэй гара,
А мы ў катух.

На ўсё загад, на ўсё расклад –
Ні жні, ні сей.
І ў сэрцы выветраным хат
Заснуў Майсей.

Трывай – і клопату не май.
Хістае воз.
І сніцца, быццам каравай,
Шчаслівы лёс.

Што нехта клікне да стала,
Чакае пуп.
Ані двара, ані кала,
І сам – як слуп…

І звычка: рабскае цаны
Прасіць пасад…
Звіняць пакутныя званы…
А дзе набат?!.

БУЛЬБА

Над палямі дымы паплылі:
Саладжава гарыць бульбоўнік –
І ніхто нам зараз не роўня:
Курганамі – бурты на зямлі.

Дачакацца б цяпер зімы,
Бо за ёю – вясна наступае,
І здавён беларусы знаюць:
Будзе бульба – будзем і мы!..

ЧЫРВОНАЕ БРЫВО…

На ўсю акругу тата быў стралок,
Не варашылаўскі – куды ранейшы: царскі.
І сведчыў тое срэбны ланцужок
І прыз – гадзіннік імянны, швейцарскі.

Ды тата напаказ не выстаўляў
Здабытую стральбой узнагароду
І – як контррэвалюцыю – хаваў
Яе і ад дзяцей, і ад народа.

Ну а пільней яшчэ свой прыз бярог
Ён ад вачэй даносчыка-суседа…
Ды па-ранейшаму страляць па цэлі мог –
Былы салдат суперніцтва не ведаў.

Бывала, паляўнічых сустракаў
І тут жа паспаборнічаць падначваў,–
І ўзводзіў палец цішыню курка,
І з цішыні той – гром ляцеў над Начай.

Ды толькі ў паляўнічыя не лез:
Ні на зайцоў не паляваў у полі,
Ні на ваўкоў не забіраўся ў лес, –
І стрэльбы ў хаце не трымаў ніколі.

І ўсё-ткі швагер, мыслівец Якім,
Падгаварыў яго схадзіць аднойчы
На такавішча, дзе цецерукі
На рулю самі пруць, закрыўшы вочы.

Пайшоў на золку, а дамоў ні з чым
Вярнуўся з дзіваваннем: “Ну і гулі!..” –
І больш у таты не было прычын,

Каб апраўдацца, – толькі і пачулі:

“Страляць не падымаецца рука
Ў чырвонае брыво цецерука…”

## ПАСТАЯНСТВА

Хоць забыліся даўно мы,
Як народ дзяліўся:
І паны даўно – фантомы,
І мужык змяніўся, –

Ды жыве перасцярогі
Мудрай пастаянства:
Не дай, божа, свінні рогі,
А мужыку панства…

## У ХАЦЕ ТРОХКУТНАЙ…

У хаце трохкутнай спрадвеку жыву.
Не верыце гэткаму цуду?
А я прызвычаіўся. І ў галаву
Турботаў не браў і не буду.

Такія мне доля карункі пляце.
Яшчэ ж і суседзі шчырэюць:
Адзін з іх сядзіць на чырвоным куце,
Другі – прэ да печы з чарэнню.

А я – у куточку, дзе сівер з дзвярэй,
Тулюся, – у самым парозе.
Ну што ж, і дармо – я затое мудрэй
Тырчу: нібы шворан у возе.

Цялежкі сыходзяцца і панарад
На мне – без мяне не паехаць.
І той як сваяк мне, і гэты як брат.
Кручуся між іх, хоць і нехаць…

Ступаць трэба кожнаму цераз мяне:
Парога ніхто не абыдзе…
Спытаеце, спраўная хата ці не?
Спытайце – не буду я ў крыўдзе.

Я так адкажу: не мая ў тым віна,
Хоць хто без мяне мне паможа?
А ўбачыць трохкутную лёгка: яна
Віднеецца на раздарожжы.

Яна не з трысценам, не вокнамі ў свет,
І ўвесну глядзіць, як надозім…
Прыходзь – ці далёкі, ці блізкі сусед, –

Прыходзь, пасядзім на парозе…

ЗОРНЫ МАТЫЎ

Нябесны Вадалей, вадаправод багоў,
Касмічную перапаўняе флягу.
Блукаю я між зорных берагоў –
І хоць бы кропля мне: спатоліць смагу.

Як мараплаўцы, што згубілі шлях
І дапілі апошнюю надзею,
Малілі позіркам азораны прасцяг
І выгледзелі ў небе Вадалея, –

Гляджу і я, хоць не гняце сухмень, –
Вады пакуль што на зямлі хапае:
Мне Вадалей святла свайго прамень
Шкадуе, пэўна, – хоць і абяцае.

Пацвельвае сусед яго Пегас
З майго несамавітага блукання:
“Хіба ж, нябога, разгадаеш нас
Ты на балконе, быццам на Балкане?

Залазь на неба!..” – “Дзякуй,– гавару,–
Я з гэтым, пэўна, трохі пачакаю:
Да сэнсу ўсё яно, калі ў пару…”
І зноў качу да зор Сізіфаў камень…

У неба, раўнадушнае, як смерць,
Цягну штоноч свае зямныя думы.
А Вадалей? Не спіць – рыпіць асвер –
Лье маракам ваду сухую ў трумы…

х х х

Калі ў сябры таемны вораг лезе,
Не засмучайся – гэта добры знак:
Ён самы чуйны з чуйных ваўкарэзін –
З табой гатоў распіць удачы гляк.

Адно, глядзі, не напівайся здуру:
Якраз калі ў абдымкі ён зграбе,
Ты помні пра “сяброўскую” натуру:
На дне атрута будзе для цябе.

х х х

Бадзяга нябесны, зорны пешаход –
Як быццам цесна на зямлі цёплай –
Канал марсіянскі пераходжу ўброд,
Туды, дзе салавей касмічны зацёхкаў.

Блакітнаю зоркай сядзіць на прамяні,
Ад песні прамень гайдаецца галінкай, –
Нявер'ем не крані, душой не праміні:
Такое Бог ці дасць з апошнім супачынкам?

Калі душа пакіне зямныя рубяжы,
Ці высніць салаўя ў той велічы астральнай?..
А што ён быў, што ён калісьці жыў,
Смерць – доказ неабвержны, геніяльны.

У ІХ КАРНЕГІ, А Ў НАС КАРНЕЙ…

У іх Карнегі, а ў нас Карней:
Карнегі складваў азы паводзін,
Карней калгасных вучыў свіней
Дбаць аб народзе і ўзнагародзе.

Карнегі дзень і ноч гібеў
Над душалоўкамі мудраслоўя,
Карней у корань глядзеў глыбей:
Надзор свіному ўвёў пагалоўю.

Карнегі компас дзялкам даваў –
Паказваў, як з выгодай круціцца.
Карней зацвердзіў як двойчы два:
Свінням ідэйна б не заблудзіцца…

Карнегі плёў падказку-бізун,
Каб бізнесмены ў шапку не спалі.
Карней не мешанкі цёр бузу –
"Газеты" свінні ў яго "чыталі".

Карнегі лозунг: "прадаў—купіў" –
Напой буржуйшчыны незасохлай…
Карней апошні фураж прапіў –
І "чытачоў" пагалоўе здохла…

_____________-

*Дзве заклёпкі пасля кропкі: 1/ Карнегі – амерыканскі даследчык чалавечых узаемаадносін у свеце бізнесу; 2/ Карней – чалавек таксама вядомы: у такіх, як ён, калгасная жывёла трымалася звычайна на галодным пайку, стаяла пры пустых кармушках, і тады пра яе казалі: "чытае газеты"…

x x x

Вершы з празаічнаю начынкай,
Тлум будзённы на лірычны лад,
Рыфмы заклапочаны пагляд,–
Ні адхлання ёй, ні супачынку…

Ці старэю, ці мудрэю з часам,

Ці на пафас пыхі не стае?..
Дні незацугляныя мае
Польняцца з Пегасам самапасам.

Іншы раз дзіўлюся сам з усмешкай:
Ад бястэм'я Бог перасцярог,–
От ідзеш – і выпырхне з-пад ног
Верш, нібыта жаўранак на ўзмежку…

### ДОЖДЖ ПРАЙШОЎ…

Дождж прайшоў, прашумеў, адліўся,
Ручаінамі збег у нізіны,
Сяміграйнай вясёлкай абвіўся
І на вуліцы гулкай пакінуў:

Дарослым – разважлівую асцярожнасць:
Абыходзіць лужы здалёку,
Малым – вясёлае басаножжа:
Бесклапотна па лужах галёкаць.

### ВУДА

Змайстравана вуда хвацка
І найлепшым чынам:
Гнецца, слушнае, па-брацку
Вудаўё з ляшчыны.

Рыбаку адна пацеха,
Клопату – ні кроплі, –
За сто вёрст не трэба ехаць
І мачыць пантоплі.

Закідае па-маскоўску:
Седзячы на троне, –
Паплавок наш магілёўскі
І ў віры не тоне.

А грузіла – з войскам база,
А спецсувязь – жылкай…
"Будзем разам –
будзеш з газам", –
На кручку нажыўка…

### ПОЗІРК

Пабіты лёсам-таўкачом на друцу,
Сам, як таўкач, паміж людзей таўчэцца,
Гатовы і лізнуць, і агрызнуцца, –
То з гладкай, то з нахіжанаю шчэццю.

Куток апошні і рубель прапіты, –

Адзін цяпер прытулак – падваротня…
І вочы адплылі з жывой арбіты
Ў свет, што дыханнем і за смерць смяротней.

Нібы душа, разлучаная з целам, –
У зрэнках не ўспамін, а цень знямелы,
Азлоблены, самотны… і – ніякі, –
Як позірк у бяздомнага сабакі…

ПЕРАДЗІМ’Е

Двор пахруствае крохкім лядком,
Трызніць полазам чарнатроп.
Сонца нехаць, нібы сілком,
Грэе хаце шыферны лоб.

Дзень тужлівай красой снегіроў
Плоціць лету рахунак нямы,
І ў высокіх дымах камінoў –
Прадчуванне марознай зімы.

НАВАГОДНЯЕ

Як мала іх, тых вёснаў, на вяку,
Але ж, здаецца, што не больш і зімаў…
Адыдзе год – і не падасць руку
Табе, свайму зямному пабраціму.

І ўжо ніколі не сустрэцца вам…
За годам год на вечнае расстанне
Спяшаюцца – і ўжо ні тут, ні там
Ты не пабачыш іх, як на экране.

Яны ўжо не твае, і ты для іх –
Як сцёрты знак у вечнасці панылай…
Не верыцца аднак: няўжо хоць міг
Не вернецца з бясконцай той магілы?..

Няўжо ўсё так: чужыя чужакі
Вы будзеце ад сёння назаўсёды…
І не пытайся: хто ты ёсць такі, –
Маўчаць, знікаюць дзесьці – год за годам…

ПРАДЧУВАННЕ

Яшчэ і сівер не зусім што студзіць,
І кожны дзень “Здароў!” крычыць сусед, –
Здаецца, як было ўсё, так і будзе…
А што ж тады турбуе неўпрыкмет?..

Бушуюць будні клопатным замесам –
Жыццё вядзе свой нескончоны рэй, –

А ўжо рыпяць іржавыя завесы,
І холадам дыхнула з-за дзвярэй…

x x x

Колькі золкіх дзён вясну чакаеш,
Колькі ночаў выстылых не спіш,–
Як з прашчы, няйначай, прашчур камень
Кінуў, – з ім і ты: ляціш, ляціш…

А зіма прыходзіць нечакана
І касуе сэнс календара:
Вечар знаўся летам, а ўжо ранак
Выстудзіў на носе снегіра.

З чорнай ночы – белая раскрыла
Крылы – узляцець насустрач дню,
І ўжо сонца набірае ў жылы
Ледзянога, звонкага агню…

ПАЎСТАНАК

Усё ў руцэ казённых духаў:
Перон, дзяжурны пры сцяжку,
Бітончык з адламаным вухам
І конаўка на ланцужку.

Рамонтны водар таннай фарбы,
Здаецца, сто гадоў жыве,
І колер – быццам тут пажар быў:
Рудою вохраю плыве.

І ў гэтым ачужэлым свеце,
Дзе лёс зняверана прыціх, –
Яны: бяды ці шчасця дзеці –
З адным расстаннем на дваіх…

Дыхнуць гарачай хваляй колы –
Жыццё разрэжуць папалам, –
Што не сустрэцца ім ніколі,
Яшчэ і Бог не знае сам.

Ударыць звон расстайнай меддзю –
Нібы аб’явіць ім прысуд…
Паўстанак… – паўжыцця паедзе,
А паўжыцця пакіне тут…

НЯХАЙ БЫ…

Часцінка Бога, чалавек смяротны,
Зямным зачараваны хараством,
Успамінае гліну неахвотна

І хто й нашто рабіў з яе раствор…
Хоць плача: тут ён самы найгаротны –
Ды гоніць з дум, як можа, дзень зваротны…

І я такі ж – часцінка чалавецтва,
І да зямнога сэрцам я прырос.
Прабач мне, Божа, але мне здаецца,
Ты паспяшыў зламаць Адаму лёс, –
Няхай бы нам сказаў, як там жывецца,
І ў рай гукнуў: душою адагрэцца…

x x x

Знаю: там і пралескі цвітуць,
І на вербах вяснуюцца коцікі,
І дажджы шэры змрок не плятуць,
І асеннія дні не маркоцяцца,
І завея ў паўночнай гульбе
Не аплаквае радасці светлыя, –
А ўсё клічу і клічу цябе
Я адтуль – у гэту золь несусветную…

## СНЕГ НА ЖАЎТАЛІСЦЕ

Хоць зіма прыйсці хітрыцца
Невідзімкаю,
Сёння раніцай сініца
Ў шыбу дзынкнула:

–У бярозавых прысадах
Цуд чакаецца:
Лістапад са снегападам
Сустракаюцца…

Каб сабрацца, я не зломак, –
Сэрца ёкнула:
За вястункай, як малому,
Бегчы лёгка мне.

Ды між небам і зямлёю
Стаць быў змушаны,
Гэтай белай цішынёю
Як аглушаны…

Ветрабоем жоўты колер
Не растрэсены,
Белізною і спакоем
Быў падкрэслены.

І свяціўся ў даль бязмежную,
Зрок палонячы,
Шлях бярозавы, аснежаны

Лісцем сонечным…

x x x

Між народаў адзначаны
Той, хто будзіць свой дзень, –
Ноч даецца, каб бачылі ,
Хто з паходняй ідзе.

Скрыжаванні гісторыі –
Не пакутных крыжы:
Шлях не горам агораны,
Шлях не знае мяжы.

Стаць аднойчы наўколенцы –
Смерці роўны прысуд.
І ніхто не памоліцца
За цябе, родны кут…

Бога мэты вялікія
Пралятаюць, як цень…
Мой народ – непаклiканы –
Ноч праспаў, спіць і ў дзень…

x x x

Што ў старарэччы высахла вада,
Што кнігаўкі без паплавоў звяліся, –
Яшчэ не сама горшая бяда,
І для душы не сама горкі высеў.

Яшчэ душа збягае ва ўспамін,
Знаходзячы прытулак паратоўны…
А што за тым, чаго не ўбачыў сын,
Пабачыць праўнук мой адзінакроўны?

І што раскажа ўнуку ён свайму,
Што прыгадае, мовячы: “Калісьці…” ?
І чым я грэх з душы сваёй здыму,
Што даў ім шлях, ды не пакінуў выйсце?..

Якія сны наступству прынясе
Зямля, што стыне мёртваю аблогай?
Аб стратах боль суцiхне пакрысе,
Але – як жыць, калі няма былога?..

АСЕННІ…

Няўстойлівы, настойлівы,
Даймае давідна –
Той песняю застольнаю,
Што выпіта да дна:

То, як спрасонку, цэдзіцца,
То сціхне, каб з каўша
Вялікая Мядзведзіца
Магла падліць “ярша”…

Такой калючай сумессю
Праймае да касцей…
Куды ж ты, неба, сунешся
З нудою на хвасце?..

Зямля ў разоры бежанскім:
Як – “Жыць альбо не жыць?..” –
Пытаннем перадснежаньскім
Асенні дождж імжыць…

ЧАС ЗІМНЯГА СОНЦАВАРОТУ

Спыніўся дзень, і ноч спынілася,
Глядзяць аснежана палі, –
Здзівіўся я, і ты здзівілася:
Няўжо было ўсё – і калі?..

Дзе тыя вёсны, тыя леты –
Якія змылі іх віры?..
І ўжо апошнім першацветам
Гараць на снезе снегіры…

Якія дні, якія ночы –
Ніхто не знае, апроч нас,
Былі – хоць зрэдку, хоць аднойчы, –
Каб іх згадаць у сцюжны час…

Ляцяць сняжынкі, як стракозы,
Над хваляй, спыненай ільдом.
Ружовы іней на бярозах –
Як першы ліст на першы гром.

За годам год – гусцей змярканне:
Ці будзе за жнівом сяўба?..
Сонцаварот, сонцастаянне:
Вясне – спадзеў, зіме – гульба…

Стаяць, нібыта незнаёмцы:
Хто пераважыць – дзень ці ноч?
Глядзяць абое ў вочы сонцу:
Прывеціць ці зірне наўзбоч?..

І мы глядзім, як завіруха
Скупое прадзіва прадзе,
І верым: хоць прамень – на скруху
Апошнім часам ды ўпадзе…

*21.12.2002.*
*Мінскае мора, “Юнацтва”.*

## 2003

### КРЭКС-КРЭКС…

*Драч /лац.: Crex crex/, такі шматлікі ў*
*недалёкім мінулым насельнік беларускіх*
*балот і лугоў-сенажацяў, знаходзіцца сёння*
*пад пагрозай глабальнага знікнення...*
*З экалагічных назіранняў.*

“Crex crex” – вучоная латынь
Драчу з балота нашага
Імя выкрэквала – і тым
Вучонасць назапашвала.

І кожны, хто чытаў ці чуў
Пра тую сістэматыку,
Зайздросціў нашаму драчу,
Славутасцю багатаму.

Шт*о* перапёлка з салаўём! –
Нуль у начным канцэрце,
Калі, надзьмуўшыся валлём,
Драч стане песню дзерці.

“Крэкс-крэкс” – задзірыста скрыпіць
Мелодыя бляшаная.
Прачнецца нават чорт, што спіць
Пад купінай імшанаю…

Ды навалілася бяда –
Як гнёт: меліярацыя…
Сышла вада, а па слядах
Збег драч у эміграцыю…

Парваўся голас на шматы,
Развеяўся да каліўца, –
І нават гучная латынь
Драча не дагукаецца…

Вярнуцца, кажуць, абяцаў…
Ды сцежка незваротная, –
І ні пачатку, ні канца,
Як ні лугоў з балотамі…

–Крэкс-крэкс?..
–Crex-crex…

## СВЕТЛАЙ НОЧЧУ КАЛЯДНАЮ…

Куст п’янее яленцавы
Ў завірушнай гульбе, –
Даў Хрыстос індульгенцыю
За мяне і цябе.

Што грашылі і што яшчэ
Награшым на зямлі, –
Перад Богам, не таячы,
Мы Хрысту аддалі.

Хай прагнозы не радуюць,
Стылы свет знелюбеў –
Сонца сны вінаградныя
Грэх бяруць на сябе.

Так Хрыстос запавет даваў
Райскай гроне святой:
Хто спакусы не ведае,
Не пакаецца той…

Спакушаемся зорнаю
Чысцінёю нябёс,
А што ноч нагаворвае –
Хай даруе Хрыстос…

Хай абноваю светлаю
Сёння снежыцца дол.
Свет на радасць сусветную
Запрашаем за стол!

Пэўна ж, тым не абкрадваем
Сёння святасць душы:
Светлай ноччу каляднаю –
Саграшым? Саграшым!..

## СЯБРАВЕЙ

Аблятаюць, адлятаюць, абрываюцца,–
Нават тыя, хто жывыя, не ўжываюцца…
З аблыселаю стаім сяброўскай кронай –
Адшумеў сусвет лістотаю зялёнай…

Той сусвет, якім сябрына мацавалася:
Пасля чаркі зорка з зоркай цалавалася,
Хоць не бачылі той зорнасці ўзаемна, –
І паглумна, і бяздумна – і дарэмна…

Разлятаюцца сябры – як ліст за лістам:
Той – пакрыўджаны, а гэты – ганарысты,
Той – з аздобленым чалом амальштогенія,
Гэты – вызнаўшы несумяшчальнасць генную…

Не трымаю вас, сябры, і не ўтрымаю, –
Кожны крыўду на мяне, напэўна, мае.
Я таксама на сябе – ох, як крыўдую…
А сяброў – сяброў растрачаных шкадую…

## ВОЗЕРА СВЕЧАННЕ

Возера Свечанне, – свеціцца
Свіцязі кропляй малой,
Ціха стагоддзі сакрэцяцца
Ў тонях бурштыннай смалой.

Возера Свечанне, – вечнае
Веча вячыстых бароў.
Возера Свечанне, – стрэчанне
Звонкіх крыніц і віроў.

Возера Свечанне – свечкаю
Ў лесавіка на стале,–
Водбліскі светла трапечуцца
На ветравейным крыле.

Возера Свечанне – сведчанне,
Подых сусвету жывы,–
Ціха планета аспрэчвае
На першародства правы.

Зоры з глыбіняў вылечваюць
Чыйсьці зняверaны лёс.
Возера Свечанне, – вечарам
Песня сыходзіць з нябёс…

## "СІМПОСІЙ"

"Выпіўка заключная" – сімпосій –
Старажытных грэкаў рытуал…
Здорава ж у Грэцыі пілося –
Аж да нашых дзён дайшоў абвал.

Ён у нас "сімпозіум" завецца –
Выдае ад ісціны ключы.
Дзе бяседа мужыкоў збярэцца,
Там ужо й "сімпозіум", лічы…

Праўда, і жанчыны ў нас прыходзяць –
Парушаюць Грэцыі закон.

Толькі гэта ісціне не шкодзіць –
П’юць і праўду рэжуць наўздагон…

А праспяцца – зноў рабы рабамі, –
Ты прабач ім, Грэцыя, прабач:
Грукаюць дапытліва ілбамі
Ў дзверы, за якімі смех і плач…

Смех і плач…Вязьмо жыцця зямнога…
Хай гудуць вучонасці чмялі,
А “сімпосій” – толькі засцярога,
Каб на неба лезці не ўсчалі…

x x x

Пустым паглядам грэючы бязмежжа,
Праходзіла ў самнамбулічным сне.
А я быў побач, я табе належыў, –
Няўжо не заўважала ты мяне?

Падбітыя халоднымі вятрамі,
Шляхі ляжалі панаўзбоч хады.
Блюзнерыла жыццё ў штодзённай драме,
І мроіліся райскія сады…

Так Бог наканаваў: не размінуцца.
Па-боску ўсё, ды ў д’ябальскай цане…
Прайшла – і ўжо ніколі не вярнуцца
Да той сустрэчы ні табе, ні мне…

x x x

Мне слова *свабода* аднойчы
Шапнула: “Ты вольны, як неба…”
А неба спахмурыла вочы:
“Ты раб без надзённага хлеба…”

Мне слова *свабода* адкрыла
Зямлі з таямніц таямніцу:
“Ты з хлебам, але ты бяскрылы, –
Пластайся нікчэмнасцю ніцай…”

Я слухаў гісторыі гулы –
І вызнаў: з агульнае згоды
Само ўжо сябе не чула
Злачыннае слова *свабода* …

x x x

І хто намаліўся, і хто награшыў –
Рахунак аднолькавы мае:
Загадку жыцця ніхто не рашыў,

І часу ніхто не стрымае.
За часам не вернешся наўздагон, –
Час – ён двайнік наш сустрэчны.
Час – гэта я, гэта ты, гэта ён,
А ўсё, што без нас, – гэта вечнасць…

## АПОШНІ ПЕРАДЗЕЛ

Тым і жылі народы,
Што нешта дзялілі заўсёды, –
За тое Ўсявышні не судзіць:
–Натое яны і людзі…

Дзялілі ваду і сушу,
Дзялілі багоў і душы,
Дзялілі шляхі і дарогі,
Парады і перамогі,
Дзялілі святых і д’яблаў,
Дзялілі разладу яблык,
Дзялілі мужчыны жанчын,
Дзялілі жанчыны мужчын…

Ад звады людской і сваркі,
Здаецца, стаміліся й Паркі
І ўжо дапрадаюць кудзелю…

А мы – усё дзелім і дзелім…
Дзяльбе – не чакай дарма! –
Здаецца, й канца няма…

Нарэшце, у спрэчцы татальнай
Падзел наступіў віртуальны.
Падзел, як Патоп, – сусветны:
Апошні, няўпрошны, бязмэтны…

І што ж мы на гэты раз
Дзелім?
–Прастору і час…

Агонія сэнсу зямнога:
Нікога – нікому – нічога…

## ВЫРВІДУШКА

Ах ты полька-вырвідушка –
Сэрца захлынаецца…
Вусны – макам,
Бровы – дужкай, –
Ногі не стамляюцца!..

Полька ўлева,
Полька ўправа,

Полька з пераборамі…
Халадаечка-забава
З ціхімі ўгаворамі…

То маўчала,
То спявала
Шчабятухай-птушкаю, –
Не тачка – жыцця замала
З гэтай вырвідушкаю…

Дзе той бубен, дзе гармонік,
Дзе абцасы гулкія?..
З сівізной гады гамоняць,
Спіць падушка мулкая…

І падлога, як падушка,
Спіць – не прачынаецца…
Ці душа, ці вырвідушка –
З цела вырываецца?..

Адгуляла, адгудзела
Полька завірухаю:
Вырвідушка адляцела –
Толькі рэха слухаю…

x x x

Хочацца музыкі светлай,
А мне забіваюць вушы
Вэрхалам з апраметнай
“Гомікі” і клікушы…

Хочацца шчырага слова,
А “гномікі духу” мелюць
Душам асцё ды палову –
Трактуюць, каб хлеб з іх мелі…

Хочацца летуценна
Ляцець да зорных вышыняў,
Ды часу турэмныя сцены
Цяжэй, чым ярмо на шыі…

Хочацца, каб жылося
Па-людску і нашаму люду,
Ды лёс не пракокаў прыносіць
На нашу зямлю, а прыблудаў…

ГЕРАСТРАТ

Пад родную страху, нібыта галавешку,
Нясу інтэграцыйны свой запал.
Гараць дарогі, і дымяцца сцежкі,

І ў будучыні спаленай – прагал…

І я: на папялішчы Беларусі –
Праз федэрацыю ці нейкі там саюз –
Са славай Герастрата застаюся,
Апошні і нікчэмны беларус…

СТАДЫЁН

Там, дзе фанаты і фанаткі
Малілі правую нагу
Любімца-форварда ў "дзевятку"
Гол замастачыць набягу;

Дзе заклікала фізкультура
Даць бойку старасці й гадам
І гартаваць мускулатуру,
Дух умацоўваючы, –
там

Багоў інакшых сёння цэняць
І моляць масы стадыён:
Каму – ўратаваць кішэню,
Каму – урваць круты мільён…

Гандляр з гандляркай там спажытак –
Баул, правобраз модных крам,
Нясуць, як скінію левіты –
Святыню, пераносны храм…

ДАКОР

Спрэчка даўняя, не новая:
На вякоў паверцы
Лепш сталёвыя, крамнёвыя
Ці жывыя сэрцы?

Папікаем: "Камуністыя…" –
А гучыць з аглядкай,
Што такія студзяністыя
Выйшлі мы ў нашчадкі…

Хай на вас падчас плююцца і
Ярлыкі хай множаць, –
Вы зрабілі рэвалюцыю,
А вось мы – не можам…

СНЕЖНЫ КОЛЕР САКАВІКА…

Зіму зграбаюць дворнікі лапатамі,
А сакавік – як лютага дублёр –

На неба ўзлез, ці не да самых зор,
І вытрасае з хмар снягі бухматыя.

Няўжо ён зблытаў вехі каляндарныя?
Ці ў найміты падаўся да зімы?
А там ужо й да здрады шлях прамы, –
І зноў да лета халады ўладарныя?..

Ды кропляў звон – цэзураю Гамераўскай,
Дзе ледзяшоў красуецца дэкор,
І снежным колерам – касуецца дакор, –
Лілова-сінім, як пралескі з верасам…

## СВІТАЛЬНАЙ МУЗЕ –

*чытаючы Мандэльштама*

Між днём і ноччу, як на грані брытвы,
Цыркачкай лёгкай балансуе вечнасць.
Давай памолімся, хоць вершы не малітвы,
А Мандэльштам не поп з трыкір'ем свечным.

І не ўратуе мудрасць іудзея,
На кніжным тле замешаная хітра, –
Памолімся аднак, бо ўжо надзелі
І мы світальна-сонечную мітру…

x x x

Марозны дзень, як пахавальны звон.
Як на амбон, зляцеліся на клён
Гракі ў сутанах чорных: надышоў
Час па зіме памінкі адспяваць, –
І перакуленыя свечкі ледзяшоў
Гарэць на сонцы – кроплі ў снег ляцяць…

## КРЭЎНАСЦЬ

Не варта пытаць Усходу:
Нас там няма і не будзе, –
Адтуль мы выходзім у людзі
З Усходам "единым народом"…

Загадка вечная – Захад:
Глядзіць – наглядзецца не можа…
Сардэчны пагляд, не варожы, –
Стаіш, як без апранахі…

Чакаеш: а як ацэняць?..
Ды ў гэтым крэўным братанні
Маленькае ёсць пытанне,
Нязначнае ёсць адценне:

Чаму і якім працягам
Гісторыя так вырашала:
Гарнула ў “крэсы” Варшава
І ратавала Прага?..

ЯЧМЕННАЕ ПОЛЕ

То шнуры баразён акучаных,
То ў царах – кукурузны кіях, –
А таго вусача калючага
Ўсё радзей сустракаю ў палях…

З кожным днём мудрэе селекцыя:
Кажуць, ёсць ужо й без асця –
Ёсць бязвусы ячмень, – як праекцыя
На спрадвек тэлерантны наш сцяг.

А ў дадатак не зерне на крупы –
Словы, словы… – чым не харчы?! –
Нам таўкуць дзяржаўныя ступы
І дзяржаўныя таўкачы…

Буьбянее душа беларуская,
Зарываецца ў глебу глыбей…
О ячменю палоска вузкая,
Ты не зводзься і не гібей…

Пашырайся, ніва шапоткая, –
Вус угору, зерне ў наліў.
Радасць будзе ў нас не кароткая, –
Бога куфлем ніхто не ўгнявіў.

Нораў твой ды ў наш бы характар:
Каб і зерне і добры задзёр, –
Знаюць хай на сусветных трактах:
Белавус – і васцёр, і мудзёр!..

Беларусь, ячменнае поле, –
А на полі і мы ўзрасцём:
Нам у горле твой колас не коле, –
Папярхнецца хай вораг асцём.

Хай шумяць ячмяні вусатыя –
Плён такі даспадобы жыццю:
Нам – на піва, на кашу з затаўкай,
Можна й ворагу – на куццю.

СКАЖЫЦЕ…

Блукаю, заблытаны ўшчэнт вандроўнік,
Па нетрах бясконцай вечнасці,

Каб вызнаць пачаткаў тайну, –
А розум, глабальна сцяўшы надброўе,
Прыводзіць нязменна, як да недарэчнасці,
Да вельмі просценькага пытання:

Скажыце, царкоўныя аўтарытэты,
І вас крыху патрывожу я,
Вучонай эліты куміры:
А што – да стварэння свету
Не існавала табліца множання?
І двойчы два не было чатыры?..

### ІДЗІ…

Ідзі ў той край: там смага не душыць, –
Там не хочацца піць…

Ідзі ў тое неба: там ні крылаў, ні птушак, –
Сам сусвет да цябе ляціць…

Ідзі ў тое поле: там поўна хлеба, –
Ні табе сеяць, ні малаціць…

Ідзі ў той бой: там адвагі не трэба, –
Там вораг, знядужаны, спіць…

Толькі ведай, дзе яно, ТОЕ,
І – ці мёртвае, ці жывое?..

x x x

Лесвіцы зямной на неба ўзлезці
Бог не даў табе не дзеля здзеку,
А каб жыў і спадзяванне песціў,
Што з жыцця ты пойдзеш чалавекам.

Жыў і помніў, што згарэць умомант
Вартасці з даляравага смецця;
Помніў: не спатрэбяцца харомы
І зямная слава ў іншым свеце…

x x x

Белы снег – шляхам белых буслоў:
Быццам студзень – вясны абраннік.
На радзіме маёй Звеставанне
Завірухай шляхі занясло.

Быццам боскае наканаванне
Патрасае зямлю да асноў…
І чакае радзіма буслоў,
І не верыць свайму чаканню…

## ТРЫ ЗНАЁМЫЯ

Адна мая знаёмая, дарога,
У рай вяла, ды ўсё далей ад Бога.

Другая, з ласкай боскаю, жанчына,
Мяне ў свае анёлы залічыла.

А трэцяя знаёмая, асіна,
У Бога даравання мне прасіла…

## СКУПАЯ…

Смерць – гэта вечнасць. Ды яшчэ й скупая:
Ці ты Зуёнак, ці ты шах персідскі, –
Хоць час нямераны як мела, так і мае,
Але свайго – хвілінкі не ўступае, –
От, паспрабуй схітрыць ці адпрасіцца…

## ВЯСНОВЫ ТОСТ

Звініць нябёсаў келіх жаўруковы, –
Як абярог, як з вечнасцю зліццё…
Хто там у дзверы грукае сурова?
Смерць? Пачакае! – вып'ем за жыццё!..

## АДНА…

Цень без сонца,
        без вясны квітненне,
Мёд без вуснаў,
        чарка без віна,
Лес без рэха,
        песня без натхнення,
Без палёту неба…
        Адна…
Адна…
Адна…

## ВЕРНІСАЖ

*Мастаку Уладзіміру Вішнеўскаму*

У Шагала людзі ляцяць,
А Ў Вішнеўскага хтосьці нясе іх.
Гэты рух мастаку не расцяць:
Гэтак Бог нашы лёсы пасеяў.

Іудзеі над светам душу
Растрасаюць сваю аблачынна,
Хоць праз вэрхал сусветны і шум
Чуюць, дзе ў іх і дах, і айчына.

Ёсць і ў нас запаветны край –
Гэта майстра Вішнеўскі знае, –
Толькі нас як быццам не ў рай –
Быццам хтосьці ў пекла штурхае…

## НЯЗБЫТНАСЦЬ

Усё былое – дзень наступны наш,
Ды толькі да нязбытнасці прыкуты:
І неба – мроя, і зямля – міраж,
І на дваіх – адзін вялікі смутак…

## КАГО НІ ЎСПОМНІ…

Ну каго ні ўспомні: ад Нерона
Да былых сакратароў ЦК, –
Кожны задам прырастаў да трона,
Скіпетрам рабілася рука.

Праз агонь прайсці, ваду і трубы
З медным услаўленнем перамог, –
Хто, скажыце, без душэўнай згубы,
З д’яблам не дамовіўшыся, змог?

Хто не абвяшчаў, што ён абраннік –
Ну калі не боскі, то людскі?..
На Талмудзе, Бібліі, Каране –
Цараваць кляліся на вякі…

Гэтакаму й служым кругагляду,
Ён ажно да неба дастае,
Кажа: “Хто аднойчы ўзяў уладу,
Той за так яе не аддае…”

Час ідзе – эпоха за эпохай, –
Мелюць жорны чалавечы лёс.
Толькі шлях не зарастае мохам,
Тронны шлях да фюрарскіх нябёс…

Зноў і зноў гісторыя вяртае
Нам агонь, ваду і трубаў медзь.
А прырода? А яна ўсё тая:
Чалавек уладу прагне мець…

x x x

Іду ў зямлю і зліваюся з сонцам,
Раблюся часцінкаю Бога.
Пачынаецца шлях – бясконцасць:
Усё – і нічога…

ПАДЗЯКА

Галіна і гліна:
З адной пачынаўся лес,
З другой – чалавецтва.
Сам Бог
Здзівіўся,
Як мудра ён змог
Аздобіць зямлю,
І Адама зляпіць,
І з рабрыны
Сяброўку змастачыць,
Каб мела жыццё інтарэс.

А Ева налева
Наіўнаму Богу наўздзіў
Пагляд скіравала,
І дар
Падсунуў ёй д’ябал-ліхвяр –
Плод райскага дрэва.
О, дзякуем, Ева,
Што яблык спакусны
З пажаднай галіны
Мы й сёння,
Нашчадкі “Адама з гліны”,
Ядзім
І ніяк не з’ядзім…

х х х

“Азялілі вы маю галовачку…”
/Можна: “Азяліла…”, “Азяліў…”/ , –
Пацягні за гэтую вяровачку –
Слова, нібы сонечны наліў:

Зеллем ап’янёнае і кветкамі –
З вуснаў мінчука й палешука…
Моў на свеце шмат, а слоўца гэткае
Толькі ў нашай можна адшукаць.

“Азяліць” – чароўнымі напоямі
Галаву схіліць ці ўзвесяліць,
Зёлкамі, заваранымі ў полымі,
Гнеў суняць ці здраду спапяліць,

“Азяліць” – купальскай моцы травамі
Сцежкі зашаптаць і закружыць,
Каб не знаў, ці левая, ці правая,
І ці ў пекла, а ці ў рай бяжыць…

КВЕТКАЕДЫ

Квітнення лёс: і плойма кветкаедаў,
І кожны не абедаў і не снедаў,
І кожны спадзяецца на вячэру.
На кветку кожную – дзесяткі ненажэраў.
І кожны да нектарнае крыніцы
Сваім патомствам прагне пасяліцца:
Яечка ўджаліць каля сэрца ў кветкі, –
Расціце, кветкаедавыя дзеткі!..
І стол салодкі тут вам і калыска…
З галінак асыпаюцца агрызкі,
Уежна нераскрытыя пялёсткі
Хрумсцяць, як на зубах у выжлаў косткі.
У вусцішы стаіць нямая крона, –
Ні пчол і ні мядовага іх звону…
І толькі пруцца плоймай кветкаеды, –
Здаецца, загрызе сусед суседа.
І кожны пнецца першым да стала,
Каб яблыня мая не расцвіла…

ТУТ…

Тут мой шлях і мой першапутак,
Тут зямля мая і мой лёс, –
А адкуль жа сюды я смутак
Па нязбытнаму небу прынёс?

Дзе яно, я не знаў і не знаю,
І не ўзнаю, а ў сэрцы тугу
Не адолее сіла зямная,
Ды і я суняць не магу…

Хто зямныя крылы развяжа? –
Разгарну, узмахну, палячу!..
Можа, вызнаў хто і падкажа?..
Толькі я таго ці захачу…

Толькі мне ці памогуць крылы
Волю ўзяць, каб пазбыцца акоў
Ад бяроз, дзе крыжы ды магілы
І былых, і наступных вякоў…

О душа мая, хто ты і дзе ты, –
Над зямлёй зор загадкі гарацы:
Я прышэлец з далёкай планеты,
А народжаны тут паміраць…

х х х

Грамадзяне сусвету:
Ёсць і ўсё, і нічога, –
Без радзімы планета,
Без прыпынку дарога.

Ні надземнага раю,
Ні падземнага пекла…
Не збярэш ураджаю
Там, дзе градам пасекла…

Ні пазычыць, ні ўкрасці, –
Як з бадзяжае долі…
Толькі мінімум шчасця,
Толькі максімум волі…

x x x

Вясна, разлітая ў далоні ручаёў,
Выплёскваецца лотаццю насустрач,
Гульня ікранак і малачаёў
Б’е ў нерасце хвастом рачное люстра.

Іду няспешна, дзе калісьці бег
З рыбацкім шалам – восці наўзгатовак, –
Цяпер бы гэта за вялікі грэх
Лічылася па мерках рыбаховы.

Тады ж – і гэткай службы не было,
І знаць не знаў ніхто пра браканьераў, –
Тады б ганаравала ўсё сяло
За шчупака, што з рыбака памерам…

Сплыла дзяцінства ўдача ў акіян…
І толькі гул прыліваў і адліваў
Вяртаецца з уловам – як падман,
Што нарадзіўшыся, ужо ты ёсць шчаслівы…

Але чаму, чаму – і часу плынь,
І гэты бераг, дзе ўспамін блукае,
І сонечнае лотаці цяплынь
Так неадступна да жыцця гукаюць?..

x x x

Бяроза на фоне аблокаў,
Нябесная госця амаль, –
Я нізка, а ты высока –
Імкнёмся ў бязмежную даль.

У тую далёкую далеч,
У далячынь з журбой,
Якую не разгадалі
Ні людзі, ні мы з табой…

І кемнасць маем , і крылы, –
Вось толькі ўзмахнуць бы як след!..

Дык што? – не хапае сілы?
Ды не! – ёсць маленькі сакрэт:

А хто ці што нам заменіць
Зямлю, на якой стаім?..
Гадаем – і ўсё разумеем:
Нікуды мы не паляцім…

x x x

Было: карпеў – але чаму
Мой верш гаркотная няўдача
Падсцерагала, і яму
Я спачуваў знямелым плачам?..

Цяпер даўмеўся: ён не мой –
Ён быў чужы, ён быў прыёмны,
Ён жыў чужою галавой
І ў дамаганнях быў нястомны.

То партыя, то правадыр
Яго зацята дыктавалі,
І на зубах рыпеў, як жвір,
Харэй, а ямбам запівалі…

Мой верш, цябе я праклінаў, –
І ўсё ж чагосьці – а дамогся:
Душу сваю не распранаў,
Не прадаваў, маўчаў у злосці.

Ну што ж, няхай не перамог
Нікога ў гэтай паняверцы –
Але душу сваю збярог
І не аддаў на згубу сэрца…

x x x

З абваламі, з парогамі,
З аблавамі, з аблогамі –
Ці доўбень ты, ці геній, –
Для кожнага – і ўвогуле:
Жыццё такое доўгае,
А смерць – адно імгненне…

КАРТА

Гляджу на карту беларускую,
На месца местаў – і бянтэжыць:
Чаму ад іх палоска вузкая
Да гэтак званага замежжа?

Як быццам хто задумаў недзе:

Бярэсце, Віцебск, Гродня, Гомель…–
Далёка Менск, а да суседзяў –
Як ёсць ступіць адной нагою…

Няўжо гародзенцы ці віцьбічы
Сяліліся так аднабока?
Няўжо князі жылі на выдмішчы,
У ворага навідавоку?..

Ці для таго стальцы стаўляліся,
Хадзілі ваяры пагоняю,
Каб жартам мы цяпер пыталіся:
"А нашы людзі е за Гомелем?.."

Ёсць!.. За Бярэсцем і за Гродняю,
За Віцебскам і Магілёвам…
Гісторыя суседскай зводняю
Звяла зямель ад нас палову...

І гарады, калісьці стольныя,
Значком, як зоркаю ці месяцам,
На карце нашай – неадольныя –
Па саменькім краёчку месцяцца.

Нібыта пояс – па перыметру,
Нібыта маякі сігнальныя
Аб тым, што памяць час не выветрыў,
Што і яны былі – цэнтральныя…

x x x

Смерць апошнія дні адлічвае,
І жыццё ні ў душы ўжо, ні ў целе
Не жыхар…А да ложка бальнічнага
Суцяшальнікі пнуцца арцеллю.
Нахіляюцца, усміхаюцца:
"Ну, мы, брат, яшчэ й чарку возьмем!.."
Як ад мух, ён ад слоў адхіляецца –
Адмахнуцца рука не ўзнімаецца, –
Ён ужо ў недасяжнай дарозе.

І на ўсё толькі й стала трываласці –
Не сказаць – моўчкі ў іх запытацца:
"Ці з жывым развітацца сабраліся,
Ці ўжо з мёртвым прыйшлі павітацца?.."

x x x

Гэта вечнасць. Не шоў на экране,
Што дзіджэі разрахавалі.
Таямніцу свайго памірання
Нават звер, нават птушка хаваюць…

І якут, і мансі, і чукча
У тайгу адыходзяць да продкаў,
Голас мудрай прыроды пачуўшы,
Што ўжо век на зямлі ў іх кароткі…

Мне б таксама такая планіда
І такія стасункі са светам,
Каб не быць нікому абрыдлым
І нікога не ўсцешыць пры гэтым…

Ды няма такога адхлання –
Мы саборнасць за правіла лічым
І публічнае паміранне
Ў нашым жорсткім свеце публічным…

Я не знаю, як давядзецца,
Дзе й калі мне з жыццём развітацца, –
Толькі б крэўнаю ласкай сагрэцца –
Без напышлівых лемантацый…

Ад вачэй тых схавай мяне, Божа,
Што ў жыцці тайным злом праціналі,
Захіні, – можа, гэта паможа:
Хай пазнаюць, якая цана ім…

Дай мне, Божа, не адзіноту,
Дай спакой на спатканне з тым часам,
Звольні ўсіх ад цяжкай работы,
Хто пры смерці стаць хоча акрасай…

## НЕДЗЕ Ў ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ…

Недзе ў цэнтры Еўропы,
Ля балотаў маіх асушаных,
Чорны смерч эфіопам
Выпівае апошнюю лужыну.

Сіпне глоткай сасмяглай –
Што яму тая кропелька!..
Над канавамі-л*а*гамі –
Вясёлкі сухімі кроквамі…

Гэткі зруб збудавалі
На балоце, каб хатай багатаю
Стаўся ён… Ды віхуры на гале
Красавання жытоў не сасваталі…

Палавеюць на выдмішчах
Пяскі афрыканскай Сахарай,
І пытае ў мяне: “Ты не сыт яшчэ?..” –
Еўропа з абпаленым тварам…

ІОСІФ БРОДСКІ

Было мне думна
З Іосіфам Бродскім,
Было мне сумна
З Іосіфам Бродскім…

Іосіф Бродскі
Мяне тараніў,
Іосіф Бродскі
Мяне тыраніў…
Цыганіў музай
На слова цяжкай,
З радком абвіслым,
Што ў тоўстых джынсы:
Спадаюць з пуза
Не на падцяжках…

Гняце чытанне,
Карціць пытанне
/Набор курсівам –
Як знак сакрэту/:
*Якая сіла*
*Ў тыранстве гэтым?*
Іду, –
Нібыта на аброці,
Мяне вядзе
Іосіф Бродскі.

А я ўжо рады
І сам старацца
Ісці за краты
Асацыяцый…

Без абармоцкіх
Скажу іроній:
Іосіф Бродскі
Мяне палоніў…

x x x

Хто мне цвёрда адкажа,
Хто запэўніць мяне,
Што ўжо лёс нехлямяжы
Заўтра нас абміне.

Што народ акрыяе
І паверыць сабе,
Што не будзе раздраяў
У сыноў на сяўбе.

Што пад мудрай аховай
Наша памяць спачне,
Што спрадвечная мова
Гаспадыніць пачне.

Што лягчэйшы, чым гэты,
Будзе новы рэжым
І што апалагеты
Пабягуць на крыжы…

ПРОСЦЕНЬКАЯ ГІСТОРЫЯ

У бацькоў – тры сыны,
А дачка – адна.
Усе тры – за паўцаны,
А ў дачкі – цана!

У сыноў – дудачкі:
Душы весяліць,
У дачкі –
ву-
дач-
кі:
Жаніхоў лавіць…

Паігралі сыны
Дый пабраліся.
А ў дачкі
Ўсе кручкі
Пазрываліся…

х х х

“Аз есьм” – і ў вялікім, і ў самым малым, –
Мой час пры мне, як і я пры ім.
Ніколі мне не зрабіцца былым:
Я застаюся ў часе сваім.

Я застаюся ў часе сваім, –
Тым самым я сучаснік усім,
Не падуладны ні добрым, ні злым, –
Як свет, як горад Ерусалім.

“Я ёсць” – і на гэтым мы з часам стаім,
Мой час – усім вякам пабрацім.

Былому шляхоў сваіх не здадзім, –
Мы не спыняемся – мы ляцім.

х х х

Можна здзяцінець, ды нельга прайсці

Ад старасці шлях да дзяцінства, –
Жыццё адно нам Бог адпусціў
З дзяцінствам – боскім гасцінцам…

Не дадзена й двойчы кахаць у жыцці
І гэтак жа – быць каханым, –
Усё астатняе можа ўзрасці
Толькі ўспамінам ці самаабманам…

х х х

Хоць вабілі тлумна вакзалы,
Ды свет вандроўны агорк:
Варшава не закілзала,
Не ўзяў у палон Нью-Ёрк…

Не быў дамаседам запечным,
Але адусюль шляхі
Да гэтай сялібы надрэчнай
Вярталі замольваць грахі.

Цяпер ні дарог, ні палётаў –
Застаўся апошні маршрут…
Сустрэўшы сваю адзіноту,
Малюся: “Мой родны кут…”

Цяпер і ты адзінокі,
Мой спаконвечны храм…
Ляцяць сіратліва аблокі,
Як душы, крэўныя нам…

А з імі і я адлятаю
За восеньскі небакрай…
Сказаць, ці вярнуся? Не знаю…
Не знаю, не знаю… Бывай!..

х х х

Мы – у цэнтры, не на ваколіцы, –
Гэта нас і сагнула, відаць:
За Украйнай – казацкая вольніца,
Нам жа трэба ўсіх прывітаць.

Тут шляхі з Усходу і Захаду,
Поўнач з Поўднем сустрэліся тут…

Свайму сввяту пад нашымі дахамі
Замаўляюць чужынцы салют.

Мы жаданых – частуем чаркай.

Набрыдзь – лезе сама штодня…
І няма ў нас крыві янычарскай, –
Першародная чысціня…

А таму і адбіцца не можам, –
І з паклонам, з паклонам усё,
Як Пясняр гаварыў, на свет божы
Сваю вечную крыўду нясём.

І нікому не замінаем,
І сваё гатовы ўступіць, –
Тэлерантнасць…
І дзе, не знаем,
Тэлерантнасць тую ўтапіць…

КАЛАПС

Калапс – гэта калі
Зорка сама
святло сваё пажырае;
Гэта чалавек, які на зямлі
Ўсё грабе
пад сябе
Дзеля ўласнага раю
Зямнога…

Чарнаты не бывае замнога…

Чорныя дзіркі
І душы чорныя, –
Жывуць за чорным парогам,
Чарнатою сваёй асвячоныя.

Ці там касмічны вецер ці
Стынь ледзяная –
Цемры ў іх не бывае –
Чарната пракаветная:
Яны не свецяцца, –
Тым і прыкметныя…

х х х

Ібрагім – той жа самы Абрам,
Толькі іх багі развялі…

Засталося штосьці і нам, –
Васілі…
Ды зрэдку Адам…

Шмат імёнаў, – ды я не аб тым.
Не імёны правяць намаз
Ці святкуюць ш*а*бас, –

Браты,
Як і ў нас,
Там не гук пусты..

І Каран, і Стары Запавет, –
Як блізняты…
Ды брат для брата –
Вораг,
Злейшы, чым злы сусед,
Калі дзеляць
Бога і хату…

х х х

Пытаешся ў жыцця: дзе ў вечнасць дзверы…–
"Не знаю,– кажа,– разам крыж нясём…"
Нікому Бог той тайны не даверыў,–
Спытайся ў смерці: гэта знае ўсё…

х х х

*Купальская згадка – Валі да 6 ліпеня*

Песня з цішыні
Выплывае ў жыце:
Хай купальскі цвет
Дорыць дзесяць жыццяў.

Хай і ў вышыні
Кветка расцвітае –
Неба да зямлі
Зоркаю злятае.

Хай гараць агні,
Ззяюць іскры ў росах,
Хай плывуць вянкі
І злучаюць лёсы.

Хай гуляюць дні,
Хай хвіліны скачуць, –
Як не будзе нас,
Хай стагоддзі плачуць…

х х х

Адыходзяць сябры, адыходзяць,
І нікому гэта не шкодзіць,
Застаюцца зласліўцы жывыя,
Нібы вечнасці вартавыя.

Застаюцца, хаваюць з ахвотай,–
Пахавальная ў іх работа
І пахвальная: цела на вынас!..—
Ды схаваць, каб назад не вылез.

Ды хутчэй! – не цвяліў каб уладу,
Каб уладзе не псуў фасаду.
Каб з салютам і маршам – па-ўзводна!—
А галоўнае – не прынародна.

Так, як Пушкіна: па этапе,
Пры жандарскім і конскім храпе…
Каб ва ўсім быў строгі парадак:
Колькі слоў, колькі слёз – па раскладу.

Каб, крый божа, не перахвалілі
І падзякваць каму – не забылі…
Каб захлёбваліся ў замілаванні:
–Ах, якое было пахаванне!..

х х х

Спакой ці безвыходнасць без адчаю –
Якая розніца! – размеркавана ўсё,
Агледжана, разважана…Маўчанне –
Галоўны бог. Не рвуць вятры крыссё…

Няма тых развітальных адчуванняў,
Абвостраных, як вечнасці каса,
І Спасам яблычным пануе адпяванне,
Дзе пахавана квецені краса.

Спакой асенні… Павуцінка лета
На промні сонечным, самотная, дрыжыць…
Яшчэ не час развітацца са светам
У чалавека. Значыць – будзе жыць.

КУДЫ?..

Ірвачы і прыблуды
Ва ўсе глоткі гудуць,
Ніадкуль у нікуды
Нас натхнёна вядуць.

Стогне люд пад’ярэмны, –
І такое бяды!..
Д’ябал з тым ужо: “дзе мы”, –
Хоць дазнацца б: “куды?!.”

х х х

За грэбнем елак завостраным,
Я знаю, – за сіняй смугой,
Паляна сонечным вострававам
Чакае прыходу майго.

У квецені святаянніку
/Ён жа і зверабой/
Сонца, прачнуўшыся раненька,
Заварвае зелле-напой.

Усім: і святому, і грэшнаму
Замоўлены тут абярог.
А мне спрыянне найпершае
Нашэптвае траўны бог.

Прымаю святло непагаснае,
Каб вабіў родны абшар, –
І Зверабоя паганскага
І Яна святога дар.

У вырай птушкі збіраюцца
За тысячны небакрай,
А я спяшаю шторанiцы
Сцяжынкай у блізкі рай.

Малюся, што Усявышні
Мне выдзеліў шчасця драбок,
Што на зямлі я не лішні,
Маючы гэты куток…

Перад зімовымі стратамі
У райскім леце стаю.
І птушкі – крыжы крылатыя –
Малітву ўзносяць маю…

## ПРА ЎДАЧУ

Грыбы шукаць, як і вершы складаць:
Не знаеш, дзе ўдача прыхіліцца…
І ўсё ж удача з удач, відаць,
Чакае, калі гукальшчыкаў раць
Не дыхае ў твар і ў патыліцу…

## СВЕЧКА Ў КОСМАСЕ

Знячэўку школьнае мне
Падкінуў унук пытанне:
Ці можа свечка ці не
Гарэць у бязважкім стане.

У космасе, у караблі
/Што ў сне толькі можа прысніцца/
Ці змог бы, як на зямлі,
Пры свечцы я памаліцца…

Падручніка хітры клёк
Я пахваліў, а між намі,

Пакінем адказ, Васілёк,
За мудрымі святарамі.

Харалы і свечак агні
Як водгук ахвярных спаленняў
Прыйшоў у нашыя дні
Праз тысячы пакаленняў.

Маленькая свечка трымціць
З надзеяй, што боская ласка
Сагрэе нас пры жыцці:
Агеньчык той – Богу падказка.

Але ці патрэбны яму
Той напамін бядачы?
Дык і ў сусвеце таму
Свечка агнём не заплача.

Мы той агонь здабылі,
Не Бога і грэць ён будзе.
Свечкі гараць на зямлі,
Свечку прыдумалі людзі…

## ДНІ

Быццам вечна мне вечнасць
Будзе сыпаць іх жменяй…
А зірні па-старэчы:
З кожным днём дзён тых меней…

Як нявыкрутка ў прыпар –
Ні спыніцца, ні збочыць.
Быццам гоніцца з хрыпам –
Хто? – не бачылі б вочы!..

І куды гэтак тлумна
Час з папрокам спяшае?
Што ж я гэтак бяздумна
Дні свае абганяю?..

x x x

У бярозы крона неўспадзеў
Пасмы апусціла жаўталіста.
Да жанчын ці пераспелых дзеў
Гэтак сівізна ідзе імгліста.

Трапяткі і горасны спалох
На душу асенне ападае…
А бярозу, знаць, ратуе бог:
Тых трывог яна зусім не знае.

Бачыць яна новую вясну,
А таму й глядзіцца так прыгожа,
Што сваю – пры людзях – жаўцізну
Не хавае… Ці схаваць не можа?..

## ХУТКА БУДЗЕ!..

Не разумею – ці мы слабакі,
Ці ўжо такія абжоры:
Па два на кожнага “сілавікі”
І плюс па два кантралёры.

Якіх устаноў на маю галаву
Не панапрыдумана толькі!
Колькі чыноў на карку нашу,
І следам цягнуцца колькі…

Тану, як у моры без берагоў,
У гэтым чыноўным блудзе.
Вы бачылі шыльду “Прамыўка мазгоў” ?
Не бачылі? Хутка будзе!..

## ЗІМЫ ПРАРАЗАЮЦЦА ГУЛЫ...

Узвіжанне гоніць вужак
У мох і ў лаўжы на сховы,
Апошні качар-крыжак
Пакінуў свой куст альховы.

Азіміну для зайцоў
Салодзіць марозік лёгкі.
Крумкач – мудрэц з мдрацоў –
Аб лёсе нагадвае крохкім…

Чарнеюць прадонні віроў,
Вясёлку імжа разагнула,
І ў шуме трывожным вятроў
Зімы праразаюцца гулы…

## АПТЫМІСТ

На цёплы поўдзень прыдбалі квіткі
Суседзі – і шпак, і ластаўка,
А вераб’ю ляцець не з рукі:
Пар*а* ў яго самая ласая.

Капейка ў кішэні, а з’еў на рубель –
Жыццё па-асенняму лёгкае, –
І на таку аптыміст-верабей
Вось-вось салаўём зацёхкае.

## НА ВОСЕНЬ…

Ідзе паціху раніца,
І вёска не галёкае, –
Як быццаам азіраюцца
На лета недалёкае.

А лета – як схавалася:
Цікуе з ночы-ракаўкі,
Лісцём паабсыпалася
Ад ног да самай макаўкі.

Чарнее мякка зябліва,
Пасевы сніць вясеннія.
Туман каханкам зваблівым
Муку на чмур прасейвае.

Праз поле, як па компасе,
Вядуць сляды ласіныя
Туды, дзе над стаўком асеў
П'янкі настой асінавы…

## І ТАДЫ ЎРАТАВАННЕ АДНО…

Каб трываласці мець запас,
Век улады народ не песцілі.
Так ужо і вядзецца ў нас:
Праўду рэжа той, хто на пенсіі.

Ёсць капейчына на харчы –
Хоць жабрацкая, ды незалежная.
А таму яны й зухі вучыць
Гэтак жыць, як жылі пры Брэжневе.

І агонь у крыві не патух –
Палыхае ўсё, аб чым марылі,–
Ібаруры Далорэс дух,
Той, іспанскай, пасіянарыі.

Ды не чуюць іх – ні ірвачы,
Ні запечнікі,– як закленіла:
Хто зацята маўчыць, хто крычыць,
Каб маліліся ім маўклівыя .

Словатворныя гмахі ўстаюць,
Славатворныя ідалы высяцца,–
Новы дзень з малатка прадаюць, –
А былыя ідэі лысяцца.

І праз бурбалкі слоў не відно
Дно чыноў прадажна-таварнае…
І тады ўратаванне адно –
Пенсіянеры пасіянарныя.

x x x

“Храни меня, мой талисман”…
Якім ён быў, ахоўнік тайны?
Каго маліў паэт апальны
Адпрэчваць здраду і абман?

Хто струны вешчыя кранаў:
Ці знак які, ці рэч-драбніца –
Пярсцёнак? Дзевы завушніца?..
Хто знае!.. Пушкін толькі знаў…

І мне ён шэпча: праз вякі
Паэта дух праносіць тайну,
Наспех – разгадкаю звычайнай –
Не адамкнуць яе замкі…

І талісман – нібы сусвет,
Скалапсаваны ў кропку тую,
Вам грэшную, а мне святую, –
І ў тым, бадай, увесь сакрэт.

Ці ўсмешка сонца праз туман,
Ці першы снег на чорнай глебе,
Ці хвалі спеў, ці зорка ў небе?..–
“Храни меня, мой талисман”…

ДОЛЯ

Бяроза ў лесе, васілёк у полі
Хрышчоныя аднолькаваю доляй:
Завуць то пустазеллем іх, то смеццем,
А любяць, як любіць магчыма ў свеце.

СКРЫП*А*ЧКА

Нотныя сшыткі – потныя сшыткі,
І кропелькі слёз – piano.
На пальчыках з левай – гукаў адбіткі,
У правай – смычок тыранам.

Коды засечка, вечная спрэчка
З лёсам: Сальеры ці Моцарт?..
Хвосцік над ноткай – як полымя свечкі, –
Божачка-божа, дай моцы…

Ад славы далёкай, ад воклічаў “брава”
Гамы – як тэлеграмы…
А хлопчык чакае за весняю брамай…
А скрыпка – як строгая мама…

x x x

Калі халодная імжа
Нябёсы долу распластала;
Калі ўядаецца іржа
Ў блакіт, дзе сонца панавала;

Калі імклівая рака
На перакатах бег трыножыць;
Калі крылом цецерука
Змярканне ў полі цемру множыць;

Калі ўначы апошні ліст,
Нікім не бачны, ападае…–
Тады, як Ян-евангеліст,
Куды вядуць цябе, згадаеш;

Тады й памолішся, каб змог
І ты з жыццём так развітацца:
Знаць, што назад няма дарог –
І адыходу не баяцца…

“КАРАМБОЛЬ”

Глядзіш: вялік зямны абшар,
Вузей – Еўропы кавал скарбны,
А ў цэнтры – Беларусь, як шар,
Ды не звычайны, а більярдны.

Стаяць навокала гульцы,
І кожны сэнс тлумачыць кіем:
Пацэліць – і гульні канцы,
А як жа йнакш: мы – сваякі ім.

А гэта й значыць: “свой свайго”
/”Народ един” і “wschodne kresy”/
Да ўласных цягне берагоў,
Гвалт называючы прагрэсам.

Більярдны стол ажно трашчыць,
Зялёны покрыў чырванее…
А ў беларуса пот цурчыць:
Ён не гулец – ён жыта сее…

І пільна сочыць: хто які
Сваяк, з якім ідзе саюзам, –
І разумее: гэхне кій –
Ляці ў саюз, як шар у лузу.

Не, не ахвоч ён ад бартоў
Качацца з бітымі бакамі,
Хоць “карамболь” гульцоў-братоў

Вісіць над ім, лічы, вякамі…

Але ж у кія два канцы, –
Не забывайцеся, гульцы!..

x x x

Уваходжу ў верш, як у раку,
Аддаюся вершу, як каханню,
Як наканаванню на вяку:
Выйду кім і што са мною стане?..

Вырак пэўны: буду ўжо не тым.
Штосьці прыляціць з нязнаным словам,
Што калісьці Бог замкнуў на сховы, –
Вырвецца з касмічнай нематы…

Штосьці назаўсёды й страчу я
І душы часцінкай незваротнай
Адлячу. І повяззю смяротнай
З ёй душа пароднііцца чыя?

Гэты вырак – мой ён ці ўсявышні:
Іншым быць?.. Ды з радасцю, як з болем,
За сябе, душа, ці пастаіш ты,
Каб застаўся я самім сабою?..

x x x

Абышоў Туркі, Баркі
Й Чортавы Навінкі,
Але ўзяў на вузялкі
Дзве палавінкі.

Вузялок адзін – табе:
Хай мацней трымае,
А другі – схаваў сабе:
Мала што бывае…

Завязаліся ў адно
Два жыцці як трэба:
Не пайшлі, даў бог, на дно,
Не тлумілі й неба.

Хоць бывала на зямлі
Не заўсёды гладка,
А жылі, як ёсць, – жылі –
Не цары, не каралі…
Ах бы ўсё спачатку!..

x x x

І не ляцяць у вырай птушкі,
І зелянее лістапад,
І сны вяртаюцца назад
Да неастылае падушкі…

Ці то спынілася жыццё,
Ці гэта я ў жыцці спыніўся,
Ці час няўмольны прытаміўся
Ламаць наўхруст гадоў трысцё?..

Ці Паркі так прадуць кудзелю,
Што да вясны рукой падаць?..
Ці гэта Бог дае надзею
Тваю загадку разгадаць?..

ГОЛАС

Жнейкі маладыя,
снапы залатыя, –
Дзе ты, полейка, дзе ты?
Толькі ў памяці
жніўная песня
заные, –
Нібы з іншай планеты…

Ці сярпы пагублялі,
ці натомлена абначавалі? –
Адгукніцеся, жнеі…
–Развялі песню з полем,
як з Начаю хвалю,
Эпох сухавеі…

x x x

У самым зеніце лета,
А мне ўжо крылом
Махае вырай – сусвету
Майго крыгалом.

Цвітуць успамінаў кветкі
На лузе маім.
Быў водгалас госцем рэдкім,
Ды знік назусім, –

Як вырак: “Былых не збярэш ты
Дарог і слядоў…”
Зязюля адлічвае рэшту
З пражытых гадоў…

СНЯГІР

Так-так, зусім не маладосць –

Зіма, мой дружа, надыходзіць, –
То ўспомнім: дараванне
ёсць
Закон няпісаны ў прыродзе.

Таму – за тое, што было,
Даруй, прашу цябе, мой дружа,
Даруй, што вабіў у сіло
Цябе зярняткам злым у сцюжу.

Даруй, што ў час той хлапчуку
З лавецкім намыслам у сэрцы
Ты не садзіўся на руку,
Каб з’есці што і адагрэцца.

Цяпер успамінаю я,
Як хітравалі мы абодва,
І ў кожнага была свая
Надзея з крыўдаю нязводнай.

Я за табою цікаваў,
Нібы за райскаю жар-птушкай,
А ты мой “дар” не смакаваў
І голад на галінцы гушкаў.

Цяпер прашу цябе: даруй,
Хоць знаю – ты не той, ты іншы.
Прашу: са мною не хітруй –
Цяпер я ў ловах не зачыншчык…

Я сам у пастках быў не раз.
Жыццё засільвала знянацку…
Ну што ж, напэўна, самы раз
Паразумецца нам па-брацку.

Даруй – навек і наштодзень, –
І сам даверам падзяліся.
І на плячо, як на пляцень,
Ты смела да мяне садзіся

x x x

Зацятае стыне маўчанне,
Але – не лічы да трох.
І што гэта ўсё азначае,
Напэўна, не скажа й сам Бог.

Ты ёсць і няма. А будзеш –
І я зласкавею стакроць.
Не лёдам, як кжуць людзі,
А ладам у сэрца заходзь.

Адсутнасць пакінь на парозе
І гнеў за парогам разуй…
За слова? за ўсмешку? за позірк?..—
Не знаю за што – а даруй.

x x x

Страшна мне іншы раз бывае
З той сустрэцца, з даўняй, табой, –
Страшна: л*ю*бая стала люб*а*я,
Слёз не просіць забыты боль.

Знічкай выблісне ў памяці крэска –
І ўпадзе на палын-траву.
І цябе – нечакана і рэзка –
Іншым іменем назаву…

Незнаёмае, дзіўнае рэха,
Лёс, апрануты ў часу рыззё,
Адгукнецца д’ябальскім смехам,
Кіне ў твар пагарды гразёй…

Мне туды не прыйсці ніколі,
Не вярнуцца на той парог,
Бо згарэла ўсё ў прывіднай волі
І агню я ў душы не збярог…

## САМОМУ САБЕ:
## АДКАЗ ПЫТАННЕМ НА ПЫТАННЕ

Дзе вясна наша з маем? – наіўнае ў небе пытанне,
Нібы клін жураўліны,
смуткуе паглядам тваім.
Што табе адказаць на дарозе расстайнай,
Мой хаўруснік адзіны,
З кім сіротамі мы ў гэтым свеце самотна стаім?..

Асыпаецца лісце, аголена сад сірацее –
Нібы вырак сутоння,
што ўсё адшумела і ўсё адцвіло.
І няўжо – аж не верыш –
як сад, наша вечнасць пусцее,
І няўжо, наша ўчора не сёння,
а ўчора было?!.

## ІДЗЕ ПРАГРЭС…

Ідзе прагрэс углыб і ўшыркі:
Каханнем вёсны адцвілі –
І нараджаюцца ў прабірках
Нашчадкі нашы на зямлі.

Ды пляскаць не гатоў у ладкі
Пакуль што я – адзін з жывых, –

Хачу спытацца для пачатку:
А што за людзі выйдуць з іх?

Кім свет заселіцца, нарэшце,
Па тых народзінах шкляных,
Як адамрэ той спосаб грэшны,
Што самы райскі між зямных?..

Уваж наіўнае пытанне,
Камп'ютар мудры, – адкажы:
Якое будзе ў іх каханне
І з чым у сэрцах будуць жыць?..

## СІНЕЦ

Кошка мужу выбадзяла:
Ані рыбы, ані сала,
Ні смятаны не хачу, –
Птушкі скачуць уваччу!..
Не сарокі, не вароны
І не верабей будзённы, –
Мне б на полудзень мясца
З маладзенькага сінца…

З той злашчаснае пары
Кот пяклуецца ў двары,
Выцікоўвае і лічыць
Душы ў чарадзе сінічай.

Толькі мае кот загадку:
Трэба выведаць спярша –
Дзе жаночая ў тым статку,
Дзе мужчынская душа?..

Мітусяцца птушкі дробныя –
І такія ўсе падобныя!
Не зміргнуць – такія спрытныя!..
І такія апетытныя…

Ах ты, доля, доля злая:
Кошка ў хату не пускае,
Нават выгнала з сянец.
На марозе кот гадае:
Дзе сініца, дзе сінец?..
Замярзае, замярзае…

Тут і песеньцы канец…

## ТЫЦЫЯН ТАБІДЗЕ

*Малітва не-грузіна*

Такое гісторыі міражы
Не змыюць – навечна паўсталі
Двух геніяў Грузіі два крыжы
Ў двубоі: Табідзе і Сталін.

Адзін – паэт, другі – яго кат.
Малітва мая – пра другога:
Няўжо, грузін грузіну не брат?!. –
Малю перад Грузіяй Бога:

–Я літасць тваю з разуменнем прыму,
Але, як Суд Страшны прыйдзе,
Усім даруй – не даруй яму:
За смерць Тыцыяна Табідзе.

У ССЫЛКУ!..

Гналі ў ссылку паэтаў
На Чорнае мора:
З Рыма – Авідзія,
З Санкт-Пецербурга – Пушкіна.
Гэта было
Ў тысячагодне-стагоднім
Учора...
Век наш –
Вольных паэтаў
На хвалях эўксінскіх пагушкваў.

Пёрлі самавыгнаннікі –
З целам уласным і жончыным:
Хто ў Піцунду, а хто ў Кактэбель,
А хто ў Гагру, –
Хто з інфляцыяй духу,
Хто з раманам нясконченым,
Хто гаіць рэцыдыў паэтычнай падагры…

Сёння быль чаранморскіх этапаў сонечных
Сніцца казкай
З пытаннем –
Каму б падказаць:
Ад жабрацкай нястачы паэтаў баронячы,
Ці не варта было б
Зноў у ссылку
На поўдзень,
Да мора,
Ссылаць?!.

ПОБАЧ ВЕЧНА …

Побач вечна: вясна – голас клятвы святой,
І зіма – як здрады дыханне.
І шчаслівых не шмат на дарозе той:
Для расстанняў даецца каханне.

І вяртацца туды лёсам суджана ў снах –
Толькі сны паўтараюцца зноўку,
Застаюцца каханыя там, як вясна,
Для жыцця – прыходзяць сяброўкі.

ПОМНІ…

Пі радасць вясны,
Пі вусны каханай,
Пі сонечны дар – віно,
Пі водар лясны…
Пі – ды помні і п’яны,
Што ў кожным кубку
Ёсць дно.

х х х

А над горадам чад і смурод,
Горад п’яны з жыцця пацяшаецца.
Аслабеў, абяскрылеў народ
І душой спусташаецца.

Горад тупа шукае брод
У рацэ, што ў бутэльку зліваецца.
А за горадам вёска спяшаецца.
Мізарнее сялянскі род.

П’юць мужчыны, і жонкі співаюцца,
Бруднай лаянкай крывячы рот.
Прыбывае магіл штогод,
І ўсё меней дзяцей нараджаецца.

Калыханкі ідуць на звод.
І крыжы ля нябесных варот
На зямлю ўтрапёна ўзіраюцца, –
Пэўна, Богу сказаць збіраюцца:

–Хутка ж там не то што араць –
Будзе некаму паміраць…

х х х

Кажуць, краіна адна
Засталася з народам без мовы.
/Мова была, ды чужая яна,
А свайго – ані слова/.

Бог абурыўся: такім
І памог бы – не пажадалі.
Не захацелі, каб праз вякі
Іх душу па мове пазналі…

Бязлікі люд, як пясок рачны…
Ні наступстваў і ні пачаткаў…
Толькі, кажуць, адзін папугай ручны
Колькі слоў захаваў для нашчадкаў…
Кажуць, мала запомніў, а перадаў
Ён яшчэ менш… Ды надзею пакінуў…

Як мне народа таго шкада,
Як мне шкада той краіны…

## МОВА

Нібы рана нажавая
Каля сэрца блізка:
“Аджывае, аджывае…” –
Цвердзяць ад калыскі…

І няўжо ў труну з тым лягу?..
Божа, дай мне сілы,
Каб адолець гэту звягу
І адтуль – з магілы.

## ШЧАЎРОЎСКАЯ ЭЛЕГІЯ

Добра помню: дзе і калі
/Бегаў сам – быў хлапец не сідзень/
Светлым гулам званы гулі –
Так гуліць мог толькі Вялікдзень.

Гэта ў нас – над пагоркам тым –
Сонца таньчыла і гуляла,
З нецярпеннем нашым святым
З намі яек чырвоных чакала…

Забалотная вёска Шчаўры
З той царквой, што мяне хрысціла,
Гэтым днём не Хрыстовы дары
Несла нам, а ратунку прасіла.

Падгалоскаў здушылі гул,
Ды апошні – галоўны – клікаў
Супыніць бязбожжа разгул:
Не Вялікдзень – ды дзень быў Вялікі.

Нібы ўсю ратаваць Беларусь –
Цераз ляды, балотным разлогам,
Нацянькі шыбаваў мой татусь –

Бацька хросны, гарант перад Богам.

Дзядзька Змітра, а з ім мужыкі –
Пры жаночай нязломнай сіле –
Адстаялі ад злой рукі
І на злом царкву не пусцілі…

Колькі год яшчэ ў святы яна
Люд гукала нясмелым гулам,
Покуль звон у цішы не сканаў
І навечна застаўся ў мінулым…

Зберaглі бацькі, а сыны –
У мазгах з камунізмам хрушчоўскім, –
Як балоты, як стэп цаліны, –
Веру кінулі на раскарчоўку.

Расхлябталі ідэю да дна,
Безнадзейнасць душу прышчаміла.
Засталася вера адна –
З самагонкаю ды "чарнілам"…

Рэдкі госць тут, на ўзмежку стаю,
Варушу сваёй памяці прысак,
З-за балота маўчанне лаўлю
І не бачу знаёмых абрысаў.

А без іх – як зніжэў далягляд!..
Як Шчаўры аселі бяскрыла…–
Дзе гадоў паўтараста назад
Марцінкевіча муза натхніла.

На шчаўроўскіх дажынках паэт –
Той, з прыдомкам радзінным – Дунін,
Акрыляў нашу песню ў свет…
Тут цяпер я адчай свой гадую…

Праз былое Мачыла, Вірок
Пацягнула канава скразная, –
Як пытанні – за крокам крок:
Можа хто ў Шчаўрах ды пазнае?..

Бо навошта ж тады звон у сне
Зваў сюды, дзе, звяснёныя чаркай,
Над купеллю трымалі мяне
Дзядзька Змітра з матусяю Варкай?..

Што ж пабачыў? І хто сустрэў? –
Не пытайцеся лепш. Не трэба…
Пні даўно адшумелых дрэў…
І без крыжа пустое неба…

Знаць не знаюць мяне Шчаўры.
Разбягаюцца з цвінтара куры…
Храм разнеслі сыны-чмуры,
А ў бур'яне – для ўнукаў: падмурак…

x x x

О не дай гэта, Божа, і нам:
Храм у генах, дзе ўсё збылося,
І “хаос іудзейскі” – у лёсе, –
Як сказаў паэт Мандэльштам…

## 2004

x x x

Акіяны, землі і народы…
І эпохі – як адзіны міг…
Смутак мой дзвюхтысячнага года
На сцяжынцы палявой прыціх.

На тысячагоддзяў перавале
Ён стаяў – не знаў, куды ісці:
Вечна жыць, дзе з ім мы смуткавалі,
Ці са мной бадзяцца па жыцці?..

І пытаўся ў неба аб прысудзе, –
Толькі вочы засцілаў туман:
Неба не было, як і не будзе, –
Гэта ўсё аптычны наш абман…

З ім і я стаяў, але не ведаў,
Што сказаць… А можа, на зямлі
Радасцю здадуцца нашы беды,
Што трагічна нас перажылі?..

І душа, стамлёная, чакала
Не вясновых райскіх салаўёў, –
Песня жаўрукова прарастала
Кволымі сцяблінкамі палёў…

x x x

Не верне часу былога
Ніхто, – напэўна, й сам Бог.
Ды я не турбую Бога, –
Ён даў тады больш, чым мог…

Трагічны лёс чалавечы
Ў асуджанасці сваёй.
Усё паглынае вечнасць, –
І хто я – ці што? – перад ёй?..

Глядзіць маладзік на поўню,
Як птушка глядзіць на змяю…
Я помню цябе, я помню –
І вечнасці не аддаю…

ГОЛАС АДТУЛЬ…

Навошта, нібы мы не перад Богам,
Званы зямныя вашы б’юць і б’юць,
Бязлітасна нам блытаюць дарогу
І вечнага спакою не даюць?..

ПЕРАДКАЛЯДНАЕ

Гэтым прысвяткам посным
Пракляну ў цяжкай скрусе
Выпадковыя вёсны
І зіме памалюся.

Дай такія сумёты,
Як дарыла ў дзяцінстве,
Дзе з-пад неба я лётаў
З гор у санках – са свістам.

Замятай снегавеем
Палявое раздолле, –
Хай душа не гавее,
Хай іржышча не коле!..

Хай садзяцца на ўзлессі
Беласнежныя гусі, –
Як забытая песня…–
Гэтак я памалюся.

Гэтак мроя знікае
Ў безвыходнасць начную,
Гэтак сэрца гукае, –
Але хто ці пачуе?

Залачоныя вежы
Храм у неба ўзвышае.
Смехам чорным, бясснежным
Каляда пацяшае…

х х х

Усё, што любіў у жыцці я,

Што ў сэрцы і ў мроях насіў, –
Няўжо, зарасце павуціннем,
Калі адыду назусім?

Калі ўжо ніхто і не ўспомніць:
Ты быў ці не быў, – няўжо,
Мая не адклікнецца споведзь
Між сумных зямных крыжоў?

Не будзе мяне…– і ніколі
Мой цень, па расе, басанож,
У сон ваш світальны – ні болем,
Ні ўцехай – не прыйдзе, – і ўсё ж…

І ўсё ж – якія б арбіты
Не раз'ядналі з зямлёй, –
На ўсім застанецца адбітак
Пакутнай любові маёй.

х х х

Загадка: прастора і час.
Разгадка? Нямое пытанне…
А што калі нас не стане? –
Якая прастора без нас?

А ў вечнасці – час які,
Калі: ні канца, ні пачатку?..

Стаяць шкалярамі перад загадкай
Бясконцасць і вёрсты, дні і вякі…

### ВЫБАР

На шалях жыцця – асалода з атрутаю.
Бог шчодры. А д'ябал зларадна прыціх.
Бог з верай. А д'ябал з душою адсутнаю.
І выбар адзін між крыжоў межавых:
Ніхто за чужыя грахі не пакутуе –
У кожнага ўдосталь хапае сваіх.

### ВІШНЯ

У садзе – як вясны абраз –
Успыхнула за домам, –
І хто здзівіўся першы з нас,
І хто каго ўсвядоміў?!
Пчаліны звон на сто кален, –
Гляджу: ці гэта вішня,
Ці гэта я і мой рэнтген,
Прасветлены ўсявышнім?

x x x

З лесу рэчка Селязнея,
Як з бяссоннай ночы ў дзень,
Выцякае. І слязнее
Дуб над ёю – жалудзень.

Слёзы ядрана ўрадзілі –
Сойкі лічаць ураджай:
Жалуды – усім на дзіва,
Кожны – сонцава скрыжаль.

Прамяні занатавалі
Ў кожным гены на вякі,
Перуны загартавалі, –
Вырастайце, дубнякі!..

Дуб слязнее, ды не плача.
Селязнея ўдаль сплыла.
Селязенька – ён жа качар –
Мне ўзмахнуў слязой з крыла.

БАЛІЦЬ…

Жыццё – як мудры настаўнік –
Вучыць слёзы не ліць:
Будзе і ў нашым стане
Свята… А ўсё ж – баліць…

Баліць – бязмоўе народа,
Баліць – “вертыкальны” вэрхал,
І шклянка хаўтурная з верхам, –
Як рабская ўзнагарода.

І Гамлет: “Піць ці не піць?..” –
Пытаннем над вухам сіпіць…

КАМЕНЬ

У каменя каменныя сківіцы,
У каменя каменныя зубы.
Ды камень кусацца не кінецца:
Камень – заложнік рахубы.

У каменя – век у запасе, –
Зацята цікуе камень:
Каму б галаву расквасіць,
Але – чужымі рукамі.

У каменя хлеб – чаканне.
Спяшацца не любіць камень.

## ВОЛЯ

Жыві – як сляза, як усмешка,
А хочаш – як сонца, як гром, –
Хай вечнасць паблытае сцежкі,
І воля водзіць пяром.

Жыві загадкай патайнай –
З душою не на паказ:
У кожным радку – пытанне,
І ў кожным пытанні – адказ.

## ДАРОГА ДА НЯБЁС…

Нарэшце, здаўся студзень:
Пачуў ён гнеў, відаць, –
Смяецца: "Больш не будзеш
Бясснежжам папікаць?!.
А то й яшчэ падкіну:
У лютага ўварву…"

Сумёты – вышай тыну,
А мне – па галаву.
Ніяк не разбяруся:
Тут лётаць ці хадзіць?..
І я ў адказ – смяюся,
Каб студзеню ўгадзіць:

–О, дзякуй і на гэтым,
І так праз берагі!..

На край зямлі і свету –
Снягі, снягі, снягі…

І санная дарога:
Дзве палазні – як лёс, –
Няхай і не да Бога,
Ды, пэўна, да нябёс…

## МАГНАТЫ ПУШЧАНСКІХ З*А*МКАЎ…

Магнаты пушчанскіх з*а*мкаў,
Магніты блуканняў маіх,
Гукальных, шукальных ранкаў
Па нетрах, дзе неруш прыціх…

Згінаюцца спіны, як дугі:
Да вас з паклонам любы, –
Мы вашы лясныя слугі,
Мы вашы рабы, грыбы!..

Мы вас на руках носім –

Каму яшчэ гонар такі?!–
Сядайце ў кошыкі –
Просім! –
Магнаты-баравікі!..

х х х

На пляцоўках інтэрнатных
З парапетнымі бар'ерамі
Мы жыццю давалі клятвы
І ў сваю сусветнасць верылі.

Мы сяброўкам прысягалі,
У нязбытнасць закаханыя…

Замяло гадоў снягамі
Ўсё, вясною адспяванае…

І з жыццём рахункі ў мінусах,
І сусветнасць абмінула,
І нязбытнасць прытамілася,
Ціха ў памяці заснула…

ПЛАЧ

Плача бясслёзна, плача жанчына,
Горка ў вачах хаваючы плач.
Хто я такі, каб спытацца прычыны? –
Не суцяшальнік, і не глядач,
І не віноўнік – ні яўны, ні ўскосны,
А на душы – сусветная золь.
І каб разгадаць вачэй гэтых космас,
Трэба самому зрабіцца слязой…

ХВАРОБА

Як толькі набірае моцы лес,
Як толькі дрэвы развінаюць плечы,
Адкуль яна навальваецца – спрэс –
На кожную дзялянку – злая нечысць.

Свідруе, точыць мякаць караед –
На радасць дзятлу, спажыўцу-суседу,
Спраўляе смертаносны свой банкет, –
І вусачы – за караедам следам.

А дзе ўжо дрывасекі-вусачы,
Абавязкова наліпаюць плоймай
Дзялкі з далярам хіжым – фірмачы,–
Вусата-фірмачоўская абойма…

Пілуюць лес – шурфуюць ды тралююць,

Бо як жа – хворы змогамі ляснымі...

А хто звяроў і птушак хто прытуліць?
І хто мой боль зашэпча і суніме?

Вывозяць лес, – як быццам на лячэнне.
А лекі – зелень сквапная даляраў,
Што набівае фірмачам кішэні
Пад шлягеры сякер і цыркулярак…

Як гэта – лесарубы? душагубы? –
Вас называць? Адно мне толькі ясна:
Быў у мяне дружбак зеленачубы –
Застаўся лысых пнёў сенат сучасны.

Дратуюць цегачы – за лядам ляда,
Хварэе лес? Ці нам капаюць *я*му?..
І кроны елак на экране далягляда –
Нібыта вострыя зубцы кардыяграмы…

Якія мы, такія і лясы ў нас:
Праймаюць да нутра і гніль, і гнусь…
Ідзе кругляк з дзялянак перасыльных, –
Хварэе лес, хварэе –
Беларусь…

СТРЫПТЫЗ

У арліцы пярынак – сем тысяч,
А ўсяго пяцьсот грамаў вагой.
А таму – і ўзлятае ўвысі,
Як не чуючы цела свайго.

Горы ёсць, ёсць зямля, ды арліца
Мае крылы, каб неба мець…

…Распранаюцца маладзіцы:
Дужа хочацца – узляцець!..

НАВАСЕЛЛЕ

Купіў лесавік / і танна! /
У чэрвеня новы дом –
Без сцен, без вакон: паляна –
Дыхае цёплым святлом.

х х х

Свет без в*ы*сілкаў спее:
Хто абуў, той разуе.
Калі будзе Пампея,
Дык узнікне й Везувій.

Калі выладзіць людства
Храм ці дбайную хату –
Тут жа шле славалюбства
З агнём Герастрата.

А скажы ты мне, божа,
Што б страслося са светам,
Каб крыху патрывожыць
“Дыялектыку” гэту?

Ці зямля згорне крылы,
Ці абрынецца неба,
Калі ўняць злыя сілы, –
Каб без іх бы як-небудзь?..

Ні табе вывяржэння,
Ні табе Герастрата…
Што – тупік? Тармажэнне?
Не вялікая страта!..

І нічога не стане,
І твой трон не хіснецца, –
Дай сусвету адхланне…

…Бог глядзіць і смяецца…

ЯК САМ КУПАЛА РАІЎ...

Галодны, босы – а трывай,
Згінь – а за лішні шкалік
Сваю душу не прадавай
Уладнай вертыкалі.

Верш на патрэбу не сабач
За звонкую манету.
Скажы рашучае: “Прабач…” –
Казённаму санету.

Скажы: “Я не для вас, паны…” –
Як сам Купала раіў…–
Вы мне не знаеце цаны –
Затое я вам знаю!..

ЗНОЙДЗЕШ СЛОВА…

Знойдзеш слова – кінеш каменьчыкам,
Як на першы звонкі лядок, –
І заскача вясёла: цок-цок!
І ўсміхнецца ямб пакамечаны –
І табе, і вершу сустрэчнаму, –
Нібы зробіш да радасці крок

На адзін – хай і горкі – радок.

АН*І*…

Ан*і* слова не сказала –
Толькі думала ў журбе:
“Не было б тады вакзала,
Не пакінула б цябе.

Не паехала б – і кропка.
Хоць гані і хоць кляні.
Бо каханне – не падробка.
Ты не цар над ім – ан*і*!..”

ІНТЭРНАТ

***Настальгічная ода***

*Інтэрнат – студэнту брат.*
*Бо: у інтэрнаце*
*Не лацвей, не акурат,*
*Ды сям\я наводзіць лад,*
*Як у роднай хаце.*

І ў мяне цвярдзейшая з пазіцый:
Той, хто ў інтэрхаце не пажыў,
Дык студэнтам – лопні ад амбіцый! –
Хоць лічыцца мог, але не быў.

Інтэрнат – не з*а*кут дамаседаў,
А навукі мараплаўцаў раць.
Інтэрнат студэнцкі – студня ведаў,
Ну, калодзезь, каб цяплей сказаць,
Ці, па-навуковаму, – крыніца.
Гуртажытак, гурт цікаўных:
тут
Пажыццёва нельга ўкараніцца,
А на час вучобы маеш кут.

Інтэрнат – і Вавілон, і Сп*а*рта,
І настаўнік ён, і скамарох,
Зух на жарты, і на спрэчку ўпарты, –
Знае: двойчы два – не меней трох.

І ў мяне была такая хата,
Мудрая, як Ньютана біном,
Тут паверх другі быў інтэрнатам,
А на першым тоўкся гастраном.

Шыкавалі дружна два паверхі,
Робячы сустрэчныя кругі:
Беглі ўніз стыпендыі паперкі,

Лез тавар вясёлы – на другі.

Бралі і вучобай – ды і снамі:
Не ўступаў тут чорнаму бландзін, –
І галовы клаліся снапамі
На Нямізе, дом 21.

Інтэрнат – студэнцкая камуна,
“Інтэр…” – гэта заклік у саюз,
Гэта юных душаў накірунак,
Што спаганіў звышпартыйны хлус.

Камунізм – не лёс у голым полі, –
Абзывай: утопія, міраж,
Але слоў *братэрства, роўнасць, воля*
З памяці не спішаш у тыраж.

Вось таму і слаўлю інтэрнацкі
Дух, што не схіляўся халуём, –
Юны свет, дзе мы жылі па-брацку
І, дасць бог, да скону пражывём!..

x x x

Праходзіць эра рэвалюцый,
Заслона падае гастрольная, –
І як шкада, што ўжо вярнуцца
Ім больш не дадзена гісторыяй.

І свет эва-люцы-янерам
Маўчыць, як правініўся чымсьці, –
І думае: якім манерам
Душу ад нечысці пачысціць?..

## ПРЫЛЁТНЫ ЗНАК

Яшчэ зіма пытлюе снег
І дні вясновыя не лічыць,
Ды ўжо разведчыкам прабег
Усцяж палёў прамень грамнічны.

З узгоркаў талая вада
Таемна сочыцца ў нізіны,
Там-сям з-пад снегу ўжо відаць
Прымяты, жоўклы клін азімы.

Яшчэ ён зябка спіць, аднак
Вось-вось засвеціцца зялёна –
Як жаўрукам прылётны знак, –
Сам гнездаваннем акрылёны.

x x x

Ва ўсім загадка, тайнапіс прыроды.
Няма сумоўя, хоць душа адна.
Аб чым яны? – з якім таемным кодам:
Травінкі шэпт, маўчанне валуна?..

І зорак іерогліфы, што хочуць
Нам штосьці запаветнае сказаць,
А мы глядзім штоночы ім у вочы –
І знакаў тых не можам прачытаць…

## ЗАМЯТАЕ…

Падсед і старадрэвіны
Гайдаюць каламуць, –
Як быццам на сугрэвіны,
Азяблыя, ідуць.

А ўсцяж жніўя памежнага,
Па зыбкай цаліне,
Замётаў дугі снежныя
На выдмах вецер гне…

## ГРАЧНЁВЫ МЁД

Ружова-бела разлілося поле:
Квітнее грэчка і пчаліны звон
Люляе ў цёплым сонечным прыполе, –
Аж ад здзіўлення жмурыць вочы лён.

Магчыма, і зайздросціць па-суседску?..
А я ўяўляю: ільняны абрус,
На ім дыміцца міса з кашай грэцкай, –
Ніякіх спрэчак – згода і хаўрус!

Нібы на полі: лён блакітнавокі
З бялявай грэчкай – люба паглядзець! –
Спраўляюць свята за сталом высокім –
І свеціцца грачнёвы мёд, як медзь.

І пеніцца мядзвяна медавуха,
І недзе ў полі снежным за сялом
Вяселіцца і таньчыць завіруха
Пад звон пчаліны чарак за сталом.

## ТРЫВАННЕ

Народ узыходзіць са слова.
Так: слова было напачатку.
Слова – народа аснова,
Падмурак, у глебу зярнятка.

Слова – душа народа,
З’яднаная з роднай зямлёю.
Слова – сказанне свабоды,
Напісанае крывёю.

Слова – імгненне і вечнасць,
Вырваныя з маўчання.
Слова ратуе і лечыць
Ад роспачы і адчаю.

Слова – шляхоў і сцежак
Наканаванні няпростыя,
Зла і дабра межы,
І чалавек на ростанях.

Слова – боскі апостал
І д’ябальская загадка.
Слова – гісторыі поступ
І запавет нашчадкам.

Будучыні зарука,
Памяць народа жывая,
Слова – стагоддзяў навука, –
Словам народ трывае.

## ВАЎКІ

Ваўкі дрэсіроўцы не паддаюцца,
Ваўкі з нутром і скурай здаюцца,
І чалавеку тое ўспадобіцу,
Што ваўкі сабакамі робяцца.

## ЗАМОВА

“Пояс, пояс! Галавешка!..” –
Заклiналі мы вужаку,
А яна – нібы з насмешкай,
А яна змяінай сцежкай, –
Ані следу, ані знаку:

Уцякала…

Як сцякала
Ручаінкай чорнай цела.
Лезла ў схоў галоўка з джалам, –
Ці пачуць нас не хацела,
Ці замова не лякала?..

Пруцянець не думаў пояс,
Галавешка не дыміла.
Нематы з пагардай повязь –
Адпаўзала, – і наш голас

Зацінала злою сілай.

Не зважала на замову,
Не спынялася вужака.
І маўчала пра выснову,
Што дыктуюцца нам словы
Не ўладарнасцю, а жахам…

x x x

Божа мой, Божа высокі,
Як жа цябе пабачыць:
Усясветны і ўсеадзінокі, –
А я – і пылінкі не значу…

Калі ў прасторы – бязмежжа
І вечная ў часе пустэча, –
Каму яно ўсё належыць –
Без нашай з Табою сустрэчы?

Не здольны бязмерныя меркі
Я досведам кволым адолець.
Блукае зямной паняверкай
Мой дух і ўвысях і доле…

Адно адчуваю душою,
Адно спасцігаю верай:
Ты ёсць, Ты заўсёды са мною –
Усяісны, як свет, і ўсямерны.

Таму і смуткуе доле
Надзея: Цябе пабачыць…
О Божа, на ўсё твая воля, –
Я знаю, што гэта значыць…

x x x

Глядзеў, як сонейка весніцца,
Як сэрцы ў людзей адтайваюць, –
І словы на радасць песеньцы
Ляцелі, як птушкі світальныя…

Гляджу: грыбнікамі па сметніцах
Людзі штораніцы шастаюць –
І ные душа-беспрасветніца…

Якая ўжо тут паэзія!..

ПЯРЫНКА

Отта Ліліенталь,
Інжынер паэтычны ці паэт інжынерны,

Быў у небе птушкай амаль –
На планёрах вышыні мерыў.

І абрысы крыла разлічыў,
І лунання размах і замінку…

Смерці ж выдаў прычыну з прычын:
На адну памыліўся пярынку…

x x x

Паказваў дальнязоркі аб'ектыў
/Ці нейкі там прыбор яшчэ мудрэйшы/,
Які драпежны нораў і круты
Пануе ў зорных галактычных дрэйфах.

Галактыку суседнюю калапс –
Такія называюць "чорнай дзіркай":
Ні пашчы не відно, ні хіжых лап, –
Засмоктвае і робіць невідзімкай…

Гляджу на зоры ў незямной тузе:
Ці гэта лад, ці хітрая падробка,
Што скібу галактычную грызе
І па кавалках калапсуе ў кропку.

І што за ёю: небыццё? хаос? –
Не дакучай пытаннем недарэчным,
Не наракай на немінучы лёс, –
Адно разваж: і Млечны Шлях – не вечны…

ПАПРАЎКА

Не ўсё мяняецца ў жыцці
І ставіцца на карту.
Аднак жа – што ў жыцці спасціг,
Зрэдчас паправіць варта.

Гадоў з гадамі глухне медзь,
Шырэюць сэнсу дзверы:
Людзей вучуся разумець,
А Богу – верыць.

ЧЫСТЫ ЧАЦВЕР

Вагаецца ў небе
Вясёлкі асвер
Па пільнай патрэбе:
Чысты чацвер.

Сем бодняў гайдае
І вочапаў сем.

А вясна маладая
Сем вёдзер нясе.

Начэрпае ўповень
У пойме вады,
Каб вымыцца полю
Ад зімняй нуды.

Каб чыстаю хатай
У чыстым двары
Прывецілі свята
Гаспадары.

Каб чысты не выстыў
Чацвер у красе,
Сем колераў чыстых
Вясёлка нясе.

Азёрам і рэкам
На хваляў сувой –
Нябеснае рэха:
Блакіт з сінявой.

Вірам у цямноты –
Круты фіялет.
А жоўты – на лотаць
І на першацвет.

Зялёны – на кроны
І на сенажаць.
Вялічку – чырвоны –
Дары фарбаваць:

Заранaчкі-яйкі,
Румяны пірог –
Як сонечны зайка –
На кожны парог.

Вялікадню свеціць –
Заўжды і цяпер –
У душах і ў свеце
Чысты чацвер!

## АБ ГЕНІЯХ

Графаман графаману рэляцыю
Разграфляе, нібы па графіку,
Што ўсіх геніяў – як папуляцыю –
Час спісаць з парнаскай парафіі!

Бо ўсе геніі чымсьці плюгавыя:
То кароценькія істэрыкі,

То на ўсе чатыры кульгавыя,
То салодзенькія цукерыкі.

То з натхнёным вячэраю чэравам,
Дзе з Пегасамі ходзяць папасамі,
То з прыкусам сабачым ашчэраным,
На кавалкі славутасці ласыя.

То з інтымнаю эксплуатацыяй:
Каля кожнай нясушкі – пеўнікам,
То з няпэўнаю арыентацыяй
І з паэзіяй, значыць, няпэўнаю…

Кампенсуючы хібы фізічныя,
Рэшту духам вяртае прырода ім:
Дзе натурай хтосьці аблічаны,
Геній служыць узнагародаю.

Вось у гэтым, бадай, і тайна ўся, –
І шукаючы лінію генную,
Я цяпер у сябе пытаюся:
Ці хацелася б мне быць геніем?..

## ХРОСНАЯ

Дзядзька Ціт жонку ўзяў аж з-пад Лукам'я –
Як бліжэй і дзяўчат не было! –
Колькі вёрстаў ногі адгрукалі,
Колькі хваляў пад чоўнам сплыло!..

Прыляцела яна аблачынкаю –
Гэта ж трэба так сігануць! –
Як з-за свету, у нас лічылася:
Трэба пяць азёр абмінуць,

Ды яшчэ два балоты, ды пушчу,
Ды і іншых завадаў стае…
Гэта ж трэба быць гэткім відушчым
Дзядзьку Ціту – угледзець яе!..

Прыляцела яна пярчынкаю
Для дзяўчат узборскіх і баб,
І асцінкаю воку мужчынскаму,
І гарчынкаю: "каб ды каб…"

Пэўна, з гэтай прычыны і з'ехалі
Шчасця-долі ў свеце шукаць,
Каб спакой пад узборскімі стрэхамі
І сямейны лад захаваць…

Адплыла аблачынка хмаркай,
Толькі цень з-пад свайго крыла

Мне пакінула: дзядзіна Варка
Маці хроснаю мне была.

На вялікдзень усе да матусяў
Беглі з весткай: “Хрыстос уваскрос!”,
І дарунак – так звычай мусіў –
Кожны яйка чырвонае нёс.

Весяліліся дзеці ўсе чысценька,
А ў мяне як паўсвята хто ўкраў:
Не было маёй паручыцелькі
Перад Богам, – так Бог мне даў…

Хоць было адчаго маркоціцца,
Ды застаўся мне з Вербніцы дар –
Успамін пра вярбовыя коцікі
І матусін усмешлівы твар:

–Наравы, наравы!
Ідзіце на равы,
На лясныя паляны,
Каб быў хрэснік слухмяны!..–

Тое лёгкае вербнае шлёганне
З прыгаворкаю маці хроснае,
Нібы сон, – за шляхамі-дарогамі,
За смугою на часу ростанях.

Ні аблічча матусі не помню я,
Ні абрысаў стану жывога…
А ўваччу – толькі ўсмешка поўняю:
Як успышка, – і больш нічога…

х х х

Як “грэць” ад кораня “гарэць”,
Так “смерць” карэніцца з “прысмерклым”.
Змярканне – нежаданне грэць:
Шчадруе змрок смяротнай меркай.

Гары, згарай, мая душа:
А можа, покуль змрок агорне,–
Няхай не з зорнага каўша
Святло пальецца,– хай спярша
Камусьці ў беспрасветнай зборні
На кропельку – а стане зорней…

## НАСТАЛЬГІЧНЫ МАТЫЎ

*Валі*

“Купіце фіялкі!
Купіце фіялкі!” –

Спяваў патэфон.
Вяртае мне памяць,
Вяртае мне памяць
Той голас, як сон.

Заела пласцінку,
Заела пласцінку, –
Збіваецца круг.
А голас – націнкай,
А голас – націнкай:
Амаль што заглух…

“Купіце фіялкі…
Купіце фіялкі…” –
Маўчыць патэфон…
А ў нас каля ганка
Цюльпаны адранку
Спяваюць у тон.

Бо сонечным ззяннем –
Як выклік паданням –
На Лысай гары
З-пад рук тваіх дбайных
Зляцела з гайданнем
Сто кропель зары.

Як неба прыветнік,
Размаіўся кветнік:
Цюльпаны цвітуць!
Праз вёсны і леты
З пласцінкі тандэтнай
Зноў голас нясуць.

“Купіце фіялкі!..”
А сонечны ранак
Ідзе нагадаць:
Не ўсё адспявана –
Квітнеюць цюльпаны, –
Навошта купляць!..

## УЛАДКАВАННЕ

Станеш абсалютнай цішынёй,
І з жытлом усё даволі проста:
Вышыню заменяць даўжынёй,
Статус-кво ацэняць глыбінёй –
Вечнаю прапіскаю пагостаў…

## FINITA…

Пустаслоўных прамоў генератары,
Папяровых баёў гладыятары, –

Натварыліся плодна і ўдосталь,
Нібы клешч гістарычнай каросты:
Точыць сверб, і давесці так рупіцца,
Што зямля вакол вас усё круціцца.
Ды чаўрэюць славесныя "ізмы",
Як аргазмы пустых арганізмаў…

## ПАЛЯВАННЕ

Ён бег, як ляцеў,
І на снезе гарачым глытаў
Напоўніцу след.
І крыві падступная смаката
Збівала прыцэл,
І свінцова маўчаў дуплет.

На мушку схапіць
Гэты бег не трапляла рука –
Такі быў разгон!..

Ды чаканне курка –
Не спіць,
І патрон
Гарантуе скон.

Не пытае – каму:
Знае – сцвердзіцца ўрэшце прыцэл.
Вось той міг –
Трыумфуе свінец:
Воўк ахвяру насціг,
Супыніўся –
І грымнуў стрэл!..

І асеў ганец,
І аціх…

Ну а быў шчаслівейшы за ўсіх
Шэры зайка-ўцякач:
За гарой засмяяўся праз плач:
"От як крыўдзіць, ваўчына, малых!.."

## ПЕРАМОГА

Расцягнуўся плакат цераз вуліцу –
Гэты кліч называюць расцяжкаю:
Шчыльным строем літары туляцца,
Перамогу ўслаўляючы цяжкую.

Толькі слова абыдзена тое,
Прыхавана іншым – дастойным.
Што ж: *вялікая* – слова святое,
Ды закута маўчаннем стоеным.

Можа й згадвае, ды не расказвае,
Чым шляхі ў тую веліч масціліся,
Як у брацкую хату ўлазіны
Перакрыжным агнём хрысціліся…

Многа вартых, ды мала пакліканых, –
Ты прабач мне – за ўсіх, – перамога:
Велічаць не цяжка вялікае –
Цяжка ўспомніць пра веліч малога.

А яно – штодня, штохвіліны –
І з табой, перамога, у крэўнасці:
Хтосьці ўзняўся з душэўных руінаў,
Хтосьці глотку здушыў сваёй рэўнасці…

Ты ва ўсім, перамога, жаданая
І вялікая ў кожным здзяйсненні, –
Ніва, коласам разгайданая,
Сцежка, поначы разгаданая,
І акрыленае летуценне…

Ці ў нябёсах вырай курлыкае
І жыццё падступае з разлікамі,
Ці дзіця першы крок ступае, –

Перамога заўсёды вялікая,
Перамог малых не бывае.

## ПРЫХАДЖАНЕ

Ні шчырасці, ні святасці
Не ўважыў лёс-ліхвяр:
З нажом на брата брат ісці
Гатовы за даляр.

Ды ў ноч перад Вялікаднем
Ідуць абодва ў храм
З таемнымі адлікамі
Грахоў – чужым багам.

Ідуць – свайго не маючы:
Прададзены даўно, –
Скарб барышоў хаваючы
На саменькае дно.

Каб адстаяць іх, збочваюць
Сюды: “Пабачце нас!” –
На споведзь усяночную
Ідуць, як на папас.

Са свечкай камуфляжнаю

У кіпцюрах даўгіх
Паклонамі адважваюць –
Як сплачваюць – даўгі.

Хоць сёння з той эстрадаю –
Жывых! – у рай вазьмі..
І кроплі воску падаюць
Застылымі слязьмі…

## ПАЙШЛІ…

З усіх блуканняў, з расстайных дарог,
Як роднага брата,
Заўсёды сустрэне родны парог
Матчынай хаты.

Я пакідаў іх – аднюткіх-адных –
І хату, і маці.
Пайшоў – ад родных, яшчэ жывых,
Пайшоў – як страціў…

Чакала хата, пакуль на знос
Пайсці давялося.
Чакала мама – гукала свой лёс
У сынавым лёсе…

Не прыгукала – пайшла сама
Спытацца ў Бога…
Даўно парога ў мяне няма –
Адны дарогі…

## КОЛЕРЫ

Таемныя службы заўсёды любілі
Крылаты колер нябесных вышынь,
І выгляд носячы галубіны,
Тварылі груганныя справы ў цішы.

Адно – не заўсёды маглі красавацца,
Парадныя мусілі строі хаваць
За фарбы абманлівых дэкарацый:
Ці ён сувязіст, ці пілот – не пазнаць!..

Часцей жа цывільны гальштук пры чыне,
І знаюць адзінкі – не болей за трох, –
Якое ў гэтым мундзіры начынне,
Якое дно і якое нутро.

З мундзірамі разам даносы шылі:
Сабе – мундзір, а на сябра – данос.
Вышыні службы віселі на шыі
Пятлёю, каму яны спраўдзілі лёс…

Заўсёды ў страі – да молі, да дзірак.
І нават па смерці ў запас не ідуць.
Якія кашмары вам сняцца, мундзіры, –
У ложку і там, куды ў трунах нясуць?..

Усё ў наяўнасці і па форме –
Плывуць на падушачках арданы, –
І хто старонку іх тайны адгорне:
Якога кшталту яны і цаны?..

Маўчыць магіла – апошні начальнік –
З апошнім загадам на вечны спачын.
Маўчаць даносы архіўным маўчаннем:
Ніхто не турбуе, ніхто не крычыць…

Але – як бы ў бога вы ні прасілі –
Не дапамогуць ні меч, ні шчыт
Пагон з прасветам злавесна-сінім
Перафарбаваць у нябесны блакіт…

x x x

*“Калі брусніца краснабока,*
*Наспіць і парабак вока”, –*
*Старонка мамінага календара*
*Гаварыла: лета сыходзіць з двара.*
*Цяжэе крылом нябесная просінь,*
*А гэта значыць: “Восень на носе”…*

Ні парабкаў і ні брусніц няма,
Даўно ў энцыклапедыі тамах
Яны на кансервацыі…
Аднак
Мне падаюць брусніцы тайны знак,
Бо я яшчэ пакуль што парабкую
І прысвяткі бруснічныя святкую.
Малюся я свайму парабкаванню:
З нябёсаў слова клічу на спатканне.
І знаю: як на золку мне не спіцца,
То значыць – даспяваць пайшлі брусніцы
І моцы набіраюцца грамы, –
Красаць энцыклапедыі тамы,
І каб чырвонай сцежкай бліскавіца
Мяне гукнула ў бор – шукаць брусніцы!..

x x x

Коласам зязюля папярхнулася –
На паўслове – шорсткай кропляй – “ку…”
І чарніц шматкроп’е сыпанулася:
Лета летапіс ужо ў чарнавіку.

Засталося, што не дагаворана,
Што не даспявана ў час было,
За шматкроп'ем…Чорнаю разораю
Гром заводзіць чорнае крыло.

Наступаюць ночы навальнічныя –
Аж да вераб'інай, напрасткі.
Дзень цяпер мой кожны – як пазычаны, –
У вякоў і, пэўна, на вякі.

Бо аддаць не маю чым… А трапіцца
Лішняя хвіліна, – Божа мой,
Падзяліся – вечнасць не растраціцца! –
Ты са мной хвілінай той зямной…

x x x

Вершы складаць – ніколі работай
Гэты занятак не называў.
На вечарынцы і лапці, і боты
Скачуць, як працы прыпар не даў.

Папрацаваць: паараць, ды пасеяць,
Ды пакасіць, ды пастагаваць…
А жыць па фантазіях адысеі –
Як і гаціць у аблоках гаць…
Ці прадаваць на базары плёткі:
Купяць-не-купяць – абы пагудзець.
Вершатварэння корань салодкі –
То і грызі, як рэпу мядзведзь.

І перад светам не выстаўляйся:
"Ах, як я здорава папрацаваў!.."
Маеш фантазіі – пазабаўляйся:
Бог дзеля радасці слова даваў!..

x x x

З нябёсаў
Упала дзіця…

Казка зямная…

Хаця…

БЕЛАРУСУ

Навошта мне замілаванне,
Што ты ў рахманасці жывеш
І ў сне спрадвечным на кургане
Чаканне рабскае жуеш.

Паўстань, мой браце, з летаргіі,
З душы тло рабскае страсі, –
У паняверцы воля гіне, –
Шляхоў да волі не прасі.

Шлях здабываецца ў змаганні –
Не траць жа ў марнаце гадоў.
А сон? Хай сніцца на кургане
Святою памяццю дзядоў…

### САЛЮТ

Фініш свята – начны феерверк
У хаўрусе з салютам грымотным, –
І да ўлады любоў уверх
Па тарыфе ўзлятае ільготным.
І няма захапленню мяжы,
І няма ніжэй пакланення, –
Знак для ўлады, што будзе жыць
Рабскі дух і ў дзесятым калене.

### x x x

Дзякуй, слова, табе,
Што аднойчы прыйшло ты – і ў сэрца,
Як у шыбу начную, пагрукала мне.
Без цябе і дагэтуль я
Марнаваў бы жыццё ў паняверцы,
І трывожны агеньчык
У маім не ўзгарэўся б акне…

І які б у душы – як бяздонне –
Правал заставаўся:
І глухі, і нямы –
Ні вузельчыка з рэхам звязаць.
Даў жа Бог: хоць і позна – з табою спаткаўся,
І што мусіў сказаць – меў высокае шчасце сказаць.

Гэта ж трэба:
Такое ты мне нашаптала,
Пра якое й не марыў я
З беднай жменькай зярнят на сяўбе.
Хоць не ўсё я спасціг,
Што ты з кнігі нябеснай чытала, –
Дзякуй, слова, табе…

### x x x

Чаму быць, таго не абмінуць, –
Вырак той ніхто не перасудзіць.
Так, – ды ў невядомасць зазірнуць

Хочацца: а як яно там будзе?

І які адкрыецца прастор
У замежжы з іменем бязмежжа,
З чым душа сустрэнецца між зор –
За сцяной, што ўзводзіць непазбежнасць?..

## Б'ЮЦЬ…

Б'юць акадэмікаў па галаве, –
Разумныя дужа.
Цэляць паэтам, дзе сэрца жыве, –
З воляю дружаць.

Б'юць, – патаемных аблогаў спяцы,
Вылюдкі-здані, –
І выканаўцаў маюць чальцы,
І апраўданне.

Вывучка часу: народ сталініць
Сталінскім чмурам…
З маскай на твары эпоха стаіць
І ў бронескуры…

## x x x

Зямлі і неба валадар –
Такі мне боскі выпаў дар.
Ды памыліўся, пэўна, Бог:
Я зберагчы той дар не змог, –
Згубіў. А засталося мне –
Па сходнай для зямлі цане –
Адно: вязанка крэўных слоў –
Не свет узрушыць да асноў,
А на нябёсы зазірнуць:
Знайсці – і Богу дар вярнуць.

## У ЦЯПЕРАШНІМ СВЕЦЕ…

Дзе набрацца нахабства і подласці
І якія ўскруціць віражы,
Каб забрацца на д'ябальскі подыум
І ў цяперашнім свеце жыць?..

## x x x

"Я последний поэт деревни…" –
Кіну костку сябрам-аднадворцам –
Не паэт – а вол-пад'ярэмнік,
Што панура брыдзе між творцаў, –

І двухжыльна пастромкі цягне,

І вядзе баразну без прынукі,
Не бузуе ў трыбуннай багне,
У кішэні хаваючы кукіш.

Бо за кукіш кабылку купіш,
А яна ў баразёнцы здохне, –
Лепш самому ў плуг, хоць і скупа
Ўродзіць цяжкі падзол, – шэпча бог мне…

Што ж, я дзякуй кажу і за гэта.
Я не жлоб – не зайздрошчу нікому
Па сялянскай душы: і ў паэтаў
Хлеб з чужога стала – ён комам…

Я вітаю аратых асфальта,
Вам віват, салаўі-местачкоўцы
І тварцы, што сягнулі да Мальты,
Музу выдаўшы за бізнесоўца…

Толькі ша! – зразумейце, хлопцы:
Я не контра, а ваш пасошнік, –
Спынім жарты на гэтай кропцы:
Хоць "последний" – ды не ў апошніх!..

## РЫЖЫКІ

Рыжыкі, рыжыкі:
І без чаркі – дрыжыкі!
А калі за чаркаю –
Чарка лёгкай хмаркаю
Летуценна сцелецца
Над бяседнай спеліцай.

Рыжыкі салёныя,
Лесам блаславёныя,
Каб каляднай поўняю
Пра яго мы ўспомнілі.

Помнім! Прычашчаемся,
З дабаўкай не спрачаемся.

Не марнеў ніколі
Рыжык у застоллі:
З чаркай ці без чаркі ён –
Частаванне царскае.
Роўніцы не знае
Смаката лясная.

Рыжык рыжачубы,
Рыжык ганаровы,
Рыжык – туз бубновы
Царства грыбнога:

Рыжык ломіць зубы,
Рыжык зводзіць бровы!..–
Ах!.. –
Лес мой, дружа любы,
Будзь жа здаровы!

ЯДЛОВЕЦ

Я абыходзіў лугавінай, нізам,
Пустэльны той, пясчаны той пагорак,
Адкуль вітаў мяне ядловец шызы –
Палёў выгнаннік і прадвесце бору.

Глядзеў мне ўслед ядловец вінавата:
Няма ў яго ні мурагу, ні кветак,
І толькі дол з каменнем васпаватым
Маўчаў, нібы пасланне з іншых светаў.

Яго ты прачытаў, мудрэц калючы:
Той свет – зямны, і ты – яго абраннік.
Таму і корань твой такі жывучы,
Што ты ў жыцця на самай вострай грані.

Ты як разведчык у яго: на пустках
Зацята ставіш першародства вехі.
Як пра цябе меў думку Заратустра:
Надзею беражы не для пацехі.

Жывеш-трываеш разам з сухацветам –
Бяссмертнікам – жвір абжываеш прагна,
І ўзнагарода ад жыцця за гэта –
Прагорклая смалою жменька ягад…

Ні бляску, ні шыкоўнасці не знаеш, –
Затое ёсць характар, ёсць дастойнасць:
Жывеш не тым, што іншых выжываеш, –
Сам выжываеш, каб жыццё адстойваць.

х х х

Ганг ударыў у вечнасці гонг –
Чалавецтва на веча склікае:
“Што ж, па-вашаму, Бог – эпігон:
З п’есай даўняю “Авель і Каін”?

Паўтарацца тварэц не прывык –
Гэта мы паўтараем сюжэты…”–
Ганг!.. – як стогн, першародства крык,
Як уздых праз тоўшчу планеты, –

Я пачуў тваю думку, Ганг,
Я адчуў цябе, Ганг, імгненна:

Нас раскідаў вякоў ураган,
Ды нятленныя памяці гены.

Мы пайшлі з тваіх берагоў –
Дзесьці ў Індыі наша калыска…
Бог стварыў нас, а мы багоў
Натварылі з мясцовай прапіскай.

І паўсталі на брата брат –
Хто з драўлянай даўбнёй, хто з нейтроннай –
Сцвердзіць бога свайго загад:
Скінуць бога чужога з трона…

Ганг, ці знаў ты, што ў свет выпраўляў
Нас за рабскія далягляды
І што станецца пеклам зямля
З абяцанага райскага сада?..

Кожны братняму рады ярму,
Кожны богам сваім блаславёны:
Даспадобы, кажуць, яму
На ахвярным агмені мільёны…

Ды вяртаецца бумеранг…
То склікай жа зямное веча,
Уратуй чалавецтва, Ганг,
Ад натуры бесчалавечнай!..

x x x

Аб чым шуміш, асенні лістапад, –
Пад ногі залацістая завея?
Лепш памаўчым – няхай і неўпапад.
Не трэба слоў – я іх не разумею.

Як на спатканні першым, памаўчым,
Хоць лёс яму трактуе стаць апошнім.
Маўчанне – дум нязведаных зачын, –
Іх у сусвет пашлём маўчання поштай.

Не – я не пра духоўны інтэрнет,
Дзе без’языка калектыўны розум
Мяняе плоць на сеціва шкілет
З ілюзіяй сусветнага псіхозу.

Я не за той палон глуханямы, –
Ды не прымаю і стрыптыз базарны,
Дзе “я” прыватнае жыве ў публічным “мы”
І прарастае велічна бяздарнасць.

Ніхто без нас не зразумее нас.
Але найперш – хай цішыня выносіць

Адтуль, дзе плошчаў калектыўны прас
Раўняе душы ўладным шматгалоссем.

Давай жа, лістапад, адхілім здзек
І асалоду д'ябальскай атруты
І сцвердзім запавет, што чалавек
Не калектыўны раб і не камп'ютар.

БО…

Кажуць, хто ўкраў парасё,
Таму і ў вушах вішчыць.
Ляжаш на дно карасём,
А зверху ходзяць ляшчы, –

Пытаюцца, што ды як:
У схованцы ты ці ў аблозе…
То лепш не крадзі. Аднак,
Украўшы, не стой пры астрозе.
Бо раптам адкрыецца ўсё:
Бо завішчыць парасё!..

х х х

Памры, пакуль цябе шкадуюць,
Цяплом не мецяць абысці
І дамавіну не рыхтуюць
І адпяванне пры жыцці…

Але не кожнаму ўдаецца
Займець такі зямны талан.
Часцей бывае: сэрца б'ецца,
Ужо калі жыццё – абман…

х х х

Былыя сябры, – як маўклівыя ночы.
І хто так няўмольна разводзіць нас?..
Камусьці гадзіннікам пясочным
Магіла зямны адлічыла час…

А хтосьці – жывы – абраў адзіноту,
Думы самотна закратаваў,
Ці, у шынку дабіраючы квоту,
Восьмы дзесятак адкаркаваў…

Свет нахіляецца Шляхам Млечным,
Мядзведзіцы зорны пытальнік маўчыць.
Зямля на плечы цяжар чалавечы
Ўзяла, ды не можа грахі падлічыць…

Імглістa і вусцішна залачае.

Ці гэта сон мой ці сам я знік?..
І над магілай часу – маўчанне
Гучыць, нібы развітальны крык…

x x x

Асенні дзень, – гняце, як успаміны,
Як сумныя вяртанні дзён былых,
Даўно памерлых, але ўсё жывых,
Як свечка над самотнай дамавінай.

На сонца хмары сунуцца, як здані, –
Не адвядзеш смяротнаю рукой.
Мінулае ўстае сцяной такой
І перад будучым шукае апраўданне.

x x x

Божа, у гэтым свеце пакутным,
У гэтым хаосе сусветнай ілжы
Перад табою не дай быць адсутным, –
Божа, паверыць дапамажы…

8 ЛІСТАПАДА – 2004

Лістотай жоўтай сцежкі замяло,
І толькі вербы светла зелянеюць.
Аб чым ты шэпчаш, вечнасці крыло,
Грудкам пясчаным – сельскім маўзалеям?

Адзін між іх, магчыма б, і адкрыў
Мне хоць здалёк краёчак таямніцы.
Але маўчыць… Не можаш без пары
Ты перайсці бацькоўскія граніцы…

І час – маўчком адлічвае гады:
Паўвека раздзяляе нас маўчанне.
І як яно ўсё збудзецца тады –
Я ў гэты дзень асенні прыкмячаю.

Без ветразя, без плыткага вясла
Сплывае аблачынка ў шлях сусветны.
Як вестку ад цябе – мне Бог паслаў, –
Як тайны знак: дзень сонечны і светлы…

АМАЛЬ ПА-МАЯКОЎСКАМУ…

Каб жыццём на зямлі зацяжарыцца,
Нават неба шукае глебу…
Калі мафія нараджаецца,
Значыць, гэта камусьці трэба?.

x x x

*Тры вышыні, тры сілы знаю ў лесе…*
*З даўняга верша*

Сам Уладзімір Караткевіч
Хвалу ў крэдыт узносіў мне,
А я смяяўся: “Гэта веліч,
Хутчэй, цябе не абміне”.

Яго мой верш пра лес расчуліў.
А я – як у ваду глядзеў:
Пра Караткевіча пачулі
І ў нашай хаце, і ў людзей.

І дзіўнага няма нічога –
Я слова ў слова разгадаў:
Мне верш яго на мову Бога
Натхнёна лес перакладаў.

Галінка кожная ў нябёсах,
Карэньчык у глыбі зямлі
Мне прамаўляў ягоным лёсам
І днямі, што з вякоў прыйшлі.

І я – на тым лясным уліку,
Бо разумею і люблю
Я гоман лесу без’языкі,
Як мову родную сваю.

x x x

Зоркі новыя і нават звышновыя,
Як новы запавет, астрафізікі
Адкрываюць. І ўжо розум наіўна высноўвае,
Што да Бога – як рукою падаць: блізенька.

І блытаем зорныя меркі з уласнымі,
Бо тыя новыя – забытае светам відовішча.
І нам з мінулага свецяць зоркі даўно пагаслыя,
А святло ад новых – да нас не дайшло яшчэ…

x x x

Вы чуеце толькі сабачы брэх.
А вы бачылі – слёзы сабачыя?
Брэх – калі ўводзяць сабаку ў грэх.
А ўсё зразумеўшы – сабака плача.

Яны – не зоркамі, як паэт засведчыў, –
Слёзы зоркамі – дужа прыгожа.
Слёзы – калі сабака плача па-чалавечы,
А чалавек па-сабачы не можа…

x x x

Не гукай, не пытайся: “Дзе вы?” –
У грахах, як у багне, стаім.
Уратуй, Прачыстая Дзева,
Ахіні Пакровам сваім.

Літасцівае сэрца маці
Даў табе Усявышні для нас:
Мамай роднай у роднай хаце
Вобраз твой з намі ў чорны час.

ЗМАГАНЕЦ

Дах мой – доля бадзяжая,
Сцены – дошкі ў труне…
Ды не ў час вы наважылі
Смерцю ўстрашыць мяне.

Час, калі абылганыя
Мой народ і мой Бог,
Мне й жыццё будзе ранаю
І зямны мой парог.

І ўявіць вы не можаце,
Як і вашы штыкі:
Смерцю не пераможаце –
Вольны я праз вякі.

Бо душа – як прарочыца –
Небу прагне служыць:
Мне памерці так хочацца,
Як вам хочацца жыць.

x x x

Зямля мая, ці нам упершыню,
Радзіма, – ці нам гэта ў дзень астатні:
Выходзіць са злашчаснага агню,
Дзе ўсё згарае пад наглядам братнім.

Такую спадчыну нам лёс наканаваў:
Ніяк не можам разабрацца, хто мы,
Бо з царскім ачмурэннем галава
Ў братоў. А брат – у нас заўжды, як дома.

І, лічыць, быццам нас як бы й няма,
І рэй ля вогнішча вядзе па-гаспадарску,
Крычыць: згарае царская турма,
А сам – насустрач: у кароне царскай.

Згараюць душы, і зямля гарыць,
Каб на шляхах вякоў зноў уваскрэснуць.
Браты мае, ну колькі ж гаварыць,
Што ні ўтаіць нас нельга, ні закрэсліць.

Вам фенікс трэба? Вось ён: беларус! –
З крыла агонь змахне – і акрыяе.
Хоць мае ад любові братняй гуз,
А прывітаць гатовы з караваем…

ЗБУДЗІШЧА

“Збудзецца-не-збудзецца…” – цыганкаю
Ноч на небе карты адкрывае,
Аж пакуль апошняю цыгаркаю
Ранішняя зорка не згасае.

А якое выйдзе тое “збудзішча” –
Збудзецца праз год альбо праз месяц?
Будзе святкаваць са мной, ці буднічаць,
Ці тугу сусветную замесіць?..

Знаю толькі: стрэчы не адбудзецца
Ў збудзішча з мінулым: незваротнае
Паімкненне часу, – тым і судзіцца
Іх яднанне сувяззю смяротнаю.

Збудзішча мінулым не стрымаецца:
Рассячэ, не развязаць вузлы дзе.
Збудзішча мінулым здабываецца,
Калі ты ў мінулым быў не злыдзень.

х х х

А ці гэта прыснілася мне,
Як я лётаў у сонечным сне?

Не, – было яно ўсё, было:
Гэта помніць начное сяло,
Гэта помняць крылы мае…

Як мне іх цяпер нестае…
Паламаліся. І даўно
Тое скончылася кіно.
Скасаваны сеансы разавыя –
Больш ніхто тых сноў не паказвае…

х х х

*Мне бить китов*
*У кромки льдов,*
*Рыбьим жиром детей обеспечивать…*
*Старая песенька-шлягер*

Адышла ў забыццё арава
Кітабойнай флатыліі “Слава”,
Што зняслаўлена смерцю кітоў,
Нашых велічна-меншых братоў.

І ўжо песенька забываецца,
Як кітовы тлушч здабываецца.
Толькі помніць сівы акіян
Бітвы той генеральны план…

Не звініць на тросе гарпун,
Ды шукае вокам тайфун:
Дзе кіты, дзе кітайчыкі іхнія,
У якіх глыбінях прыціхлі?..

І чаму – нярэдка здараецца:
Паміраць на бераг кідаюцца?
Каб вось так: на людскія вочы, –
Што яны сказаць гэтым хочуць?

Можа, гэта людзям пасланне?
І якое наканаванне
Зняць праклён акіянскі магло б?
Можа, новы сусветны патоп?..

х х х

А кахаем, бо шчасця шукаем, –
Іншай жыць не бывае прычыны.
На зямлі робіць пекла раем,
Робіць святам жыццё жанчына.

А бывае хвіліна ліхая,
Калі згублена ўсё. І гуллівая
Скажа ўсмешка: “Шчаслівых кахаюць, –
А таму яны і шчаслівыя”.

ДАКОР

За цябе ў невымоўным страсе:
Словам згубленым сэрца плача, –
Як і жыў, так і вечны застаўся
Пры табе – з душою дзіцячай.

Не пачула, як свет ён пакінуў
Нераскрытаю кнігай сусвету.
Ты прыспала, радзіма, сына,
Ты праспала, радзіма, паэта…

х х х

Вы з якіх такіх асноў, –

Іпуць, Убарць з Начаю?..
Колькі ёсць на свеце моў –
А якая страчана!..

Ды гавораць між сабой
Словы тымі словамі, –
Хоць няўцям для нас з табой
Мова адмысловая.

Толькі гук, як хвалі ўсплёск,
Як чароту шастанне, –
І гарыць у зрэнках воск
У савы вушастае.

Навайстрыла птушка слых:
“Іпуць!..– Убарць!..” – чуецца, –
Разумее Нача іх
Недзе ля Мачулішча…

НАВАГОДНЯЕ БЯССНЕЖЖА

Новы ідзе – дзве тысячы пяты, –
Чорны чорных навін паштальён:
Чорны дым над чорнаю хатай
І чорнае карканне чорных варон…

ЗВЕДАЎШЫ...

Пчолкаю назваў жанчыну,
Зведаўшы дагмат:
Гэтых вуснаў мёд пчаліны
І пчаліны яд…

# 2005

БАЗАР

*Прылавак першы*

Базарным стаў наш старажытны Віцебск,
І торг бушуе і кіпіць усмак!..
“Хоць за бясцэнак, хоць за грош – вазьміце”,–
З народнай песняй туліцца спявак...

Вялікі гандаль дзеецца з размахам.
Не ўсё ў былым – дзеля таго і шум:
Купляецца тут шапка Манамаха

За памяць нашу, мову і душу...

Эстрады зорка і спяе, і станьчыць –
Глядзі, славянскі брат-электарат:
“Што ваш Забэйда, што, нарэшце, Данчык, –
Тут мой аншлаг, тут мой піяр-парад!..”

А навакол, нібыта каля мёду,
Асвой таўчэцца дробная папса,–
І гэта ўсё, маўляў, дзеля народа:
Каб у штодзённай нэндзе не скісаў…

А клопат наш трагічна велізарны,
Што не співаць, а хочацца завыць…
А Міша Фінберг весела базарыць –
І свет славянскі хітра весяліць…

*Прылавак другі*

Нямее публіка парнаская,
Мялее песні плынь глыбінная,
І вытрасае душы наскія
“Базар” папсоваю дубінаю.

Што прадаецца тут, што цэніцца?
Скубе Пегас вянок лаўровы,
І ў *ка*се ні мычыць, ні целіцца
З “фанеры” дойная карова.

Які ўжо год марнуе ялаўкай…
І як тут, зрэшты, не адчаяцца?!
Ідуць з духоўнай абіралаўкай,
Хто да “базара” прызвычаіўся…

Ну што ж, такім нішто не новае –
Шлях выгінаецца кружэлкаю,
І рыфмы на сады вясновыя
Ляцяць стракатa пладажэркамі.

На ўбой паэзію парадную
Верлібры гоняць раскілзаныя,
І муза рэбусы разгадвае
“Ад шыфравальшчыка Разанава”…

x x x

Вам, музыкі, і вам, мастакі,
Зайздрошчу: сусвету дарадчыкі –
Вы ў д*у*шы заходзіце напрасткі –
Без талмачоў-перакладчыкаў.

Вам, музыкі, і вам, мастакі,

Спачуваю, што вы бясслоўныя,
Што вы надзелены лёсам такім:
Прыродзе – не Богу роўныя.

І корань трывалы, і стрыжань не ўсох,
І крона дыхае лісцямі:
Народ – ад Бога, а слова ёсць Бог, –
Не намі сцверджана ісціна.

У тым і сутнасць, і шчасце ў тым,
Што словам гэтым зняволены,
Жыву ці пamру – з народам сваім, –
Не быць паасобку ніколі нам.

## СЛІМАК

Збіўся з дарогі слімак.
Колькі прайшоў
І як
Прайсці астатак дарогі,
Не знае, –
Стапталіся ногі.
А таму не ідзе, а паўзе
На пузе – паўзучай назе.

Суседзі спагадна яму
Падказваюць, дзе і чаму
Ён збіўся з *лю*дскага тропу,
А ён на лісціну-еўропу –
Рожкі тырчком – пазірае,
Цвярдзіць, што прастуе да раю,
Што шлях ягоны такі
І ўсе так ідуць слімакі…

Хто як слімаку памагаюць:
Кавёлы шашаль стругае,
Кірунак нашэптвае вецер,
Святляк ліхтарыкам свеціць,
І прыляцеў матылёк –
Бяскрыламу выправіць клёк…–

Клопату ўсе набылі:
На беларускай зямлі –
Між несусвеціц многіх –
Збіўся слімак з дарогі…

## СЛЯДЫ

Я помню зіму, калі з фінскай вайны
Марозныя пісьмы ішлі, як ільдзінкі,
І дрэвы ў садах не зазналі вясны:
Як з роты штрафной, ацалелі адзінкі.

Хоць безліч навалаў за стромай гадоў –
Час накручвае сёмы дзесятак, –
Памяняліся тры пакаленні садоў,
Тры разы абнаўляліся хаты,

Але памяць жыве – і ў людзей, і ў зямлі.
І калі за трыццаць па Цэльсію
Маразы сціскаюць іртуць, і калі
Зоркі з неба, як снайперы, цэляцца, –

Па абочынах Млечнага Шляху сляды
Бачу я ад Суомі з Карэліяй, –
То ідуць вяскоўцы праверыць: сады
Пасля сцюжы той ці адагрэліся…

## У ГЛУХІМ БАРЫ

Глухамань глуханямая
Вісне на галлі.
Толькі мы з глушцом трымаем
Сувязь на зямлі.

Матыльком тайком лячу я –
Мякка спяць імхі.
Сцеражэ глушцову чуйнасць
Маналіт глухі.

Толькі спыніць такаванне –
Я замру, як цень:
Слых глушцоў, як брытва, стане,
Зрок – нібы прамень.

Такавішча між балотаў
Раз на год звініць,
І каму з глушцоў ахвота
За глухога слыць?!

Ну а мне карціць – падгледзець
Гэты баль вясны, –
То й ступаю не мядзведзем,
А як дух лясны.

І карэньчык абмінаю,
І сучок сухі:
Не глушэц глухі, я знаю, –
Гэта бор глухі.

## АБ ЧЫМ ЯНЫ?..

Між пералескаў жыта палавее,
Пад ветрыкам шапочуць каласы…

Гамонку чую, ды не разумею, –
Забыўся мову?.. жытняй вёскі сын…

Аб чым яны? – ніхто мне не адкажа,
Апроч мяне, апроч маёй душы:
І гэты васілёк, што неба ўважыў –
Не кінуў сіняву пад лемяшы;

І гэты чмель у летуценні мёдным,
Што хатку пад узмежкам збудаваў;
І з плачкаю нязводнай і бязроднай
Зязюля – спаконвечная ўдава;

І гэта сцежка; і амаль музейны
Жаўрук над ёй?..–

Аб чым яны ў той міг?..

А можа, не майго ўсёразумення,
А просяць, каб душой пачуў я іх?..

x x x

Мінулага няма. Куды яно –
Без развітання – адплыло ці адляцела,
З кім засталося? Ці даўным-даўно
На міжсусветных могілках збуцвела?

Як зразумець: “было”, “была”, “былі”?..
А “ёсць” і “быў”?.. – усё жыццё дваяка
Асуджаны глядзець: ты на зямлі
Пакінуты мінулае аплакаць…

x x x

Ці мне крыўдаваць на зямлю,
Якую я сам не аднойчы
Пакрыўдзіў?
Якую люблю, –
О зямля, зямелька, –
Малю, –
Не шапчы мне: “Даруй, Васілёчак,
Што схавала маміны вочы…”

Не шапчы – не твая віна.
О зямля, зямелька, зямліца,
Паяднала вас з мамай труна, –
Ты адна, і мама адна –
І не дадзена вам паўтарыцца…

Не адолець долю – і збыцца
Ўсё павінна, што змушана быць…

Я дарую табе, зямліца…
Я гатовы табе пакланіцца, –
Толькі ты абяцай мне адкрыцца:
Як там маме з табою жыць?
І чаму гэтак сэрца баліць?..

x x x

Шчаслівы, хто зямлю зямлёю называе,
А неба небам, – іншых слоў не знае,
Хто, як дзіця, наіўна перад светам
Стаіць, – не нарадзіўшыся паэтам…

x x x

*…Пора узнать, что в мирозданьи,*
*Куда ни обратись, – вопрос, а не ответ…*
*А.Фет*

Я тыдзень з Фетам размаўляў:
Перад сталом аперацыйным
І зноў – вярнуўшыся здаля,
Ў палаце рэанімацыйнай.

Лірычнай кладачкай паэт
Правёў мяне над той ракою,
Дзе і жыццё і цэлы свет
Адной трымаюцца рукою.

Яна ўсявышняя, і ёй
Я аддаваў сваё імгненне
Зямное – перад той сцяной,
Якую й твой не зрушыў геній.

З пытаннем нада мной стаяў –
Нябачны – побач з урачамі:
Натхнёная душа твая
Мяне надзеяй выручала…

То дзякуй Богу, дзякуй вам,
Хірургі, скальпеля паэты,
А пахвалю – сябе я сам,
Што ўзяў на ўлекі томік Фета.

x x x

Радню паэзію з прозай,
Лірыку з эпасам.
Жыву, як шпак на бярозе.
А песня? З жыцця і лепіцца.

Прынёс у гняздо пярынку –
Пад бок ці пад грудкі шпачысе,

Прысеў, гайдануў галінку –
Душа ад радасці й свісне.

У дзюбачку, як у дудачку,
Песеньку выцінаю…
Сказаў бы, што заўтра адбудзецца, –
Ды гэтага я не знаю…

x x x

Варона на ліпе рупіцца:
Галінкі сухія ламае.
Няўжо, каб агеньчык у грубачцы
Зацепліць, дроўцы збірае?

А што – і пагрэцца не шкодзіць,
А то і “спачыеш у бозе”…
Ды не! – зіма адыходзіць,
І ўжо вясна на парозе!

І хоць зябкавата на золаку –
Зусім не мароз вінаваты:
Сушняк, як бярвенне волакам,
Варона тралюе на хату.

## ХАНДРА ЗІМОВЫМ ДАЖДЖЛІВЫМ ДНЁМ

Пры Моцарце заўсёды ёсць Сальеры, –
Іначай нельга: абавязан быць!..
Душы замеры, помыслаў намеры, –
Як разгадаць, што ў тых вірах вірыць?

Падхопліва, з ахвотай уяўленне
Малюе – міражы ці муляжы? –
Цяпельца боскага звініць вясёлы геній,
Віюцца ў комін зыркія вужы…

Пасланне Зніча па складах чытаю
Ці Перуноў тастамент-запавет?
Старонкі пламяністыя гартаю –
А можа й свой пабачу раптам след?

Бо не настолькі ж чалавек я шэры,
Як гэты дождж – і летам, і зімой…
Калі я Моцарт, хто ж ён, мой Сальеры?
Калі – Сальеры, хто ж ён, Моцарт мой?

А можа я і ёсць – і ў тым, і ў гэтым?..
Іскрынка ў вусны джгае, як аса…
Маўчу, маўчу… Валодай, Моцарт, светам!
Віват, Сальеры!..
Я… як-небудзь сам…

x x x

Забыліся вёсны, як вырай гукаць,
Забыліся сосны, як зрубы стаўляць,
Забыліся скрыпкі, як злюб велічаць,
Забыліся зыбкі, як дзетак люляць,
Забыліся печы, як хлеб выпякаць,
Забыліся плечы, як крылы ўздымаць…

Забыліся…
Колькі ж ланцуг той нізаць?

І некаму,
Некаму –
Успамінаць…

x x x

Я сёння склаў не гімн – адзін радок:
Я песеньку шпачыную прыдумаў.
Хоць слоў няма – ды весні галасок
Птушыны мой гудзе зялёным шумам.

З бярозы сустракаю сонца ўсход
Не дзюбачкай шпачынаю, а лікам.

–Вясна ідзе! Ці бачыш ты, народ?!

Шпаку відно!
Як добра быць вялікім!..

x x x

Быццам быў за ўсіх мудрэй –
З пёркам панаваў.
Гульні ў ямб альбо харэй
Лёсам называў…

Браў жыццё, як напавер, –
З рук усё сплыло.
Пасля дожджыка ў чацвер
Весела было…

Пазубрылася каса,
З’ела плуг іржа…
І не ўдачы паласа,
А ў быллі мяжа…

Час прыйшоў – а чым аддаць?
Цягнецца рука:
Спадзяецца зноў, відаць,

Каб нашармака…

Літасцівыя ж якраз
Знойдуцца – бо ёсць.
Люб ім з рыфмай напаказ
Пажыццёвы госць…

Не крыжуйце ж мне душу,
Не пладзіце сноў:
Напавер, я вас прашу,
Не давайце зноў!..

x x x

Равеснікі, якіх даўно не бачыў,
Не сустракаў амаль што цэлы век,
Як на сябе, гляджу на вас – і плачу:
О страшны час! Які ты чыніш здзек!..

Не знаў, не ведаў іншых вас, чым тыя,
Што зберагалі ў памяці гады:
Якія ўсе былі вы маладыя,
Які і я быў з вамі малады!..

І раптам – як абрыў, як катастрофа:
Разбілася люстэрка на друзкі…
Аўтапартрэта падбіраю крохі –
Нібы магіл разгортваю пяскі…

## ВЫДАТНЫ-НЕ-ВЫДАТНЫ…

Паэт – эпохі злітак,
Ваду ў радкі не ліў, –
“Выдатны творца!” – крытык
Аднойчы пахваліў.

Вось толькі выйсці з кніжкай
Фінансаў нестае.
Таўсцее том пакрышку,
Пыліцца на стале…

Да кніжкі, як да неба,
А выдавец-шакал
Цвярдзіць: “Прадай што-небудзь
Ці спонсара шукай…”

Шукаць ? Яно б і можна,
Ды гэта ці паможа…

Паэзіі аматары
Бядней, чым літаратары,
А той, хто грошы мае,

Той вершаў не чытае…

Прадаць?
Паэт рашыўся:
Фазэнду з малатка!
Спытаеце: разжыўся?
Як з торбы жабрака!..

А выдавец цікуе:
Управіцца ці не?
Ах, рыфму растакую!..
А рыфма не ў цане…

Прадаў касцюм астатні,
Кажух і паліто…
Выдатны-не-выдатны:
Не выдае ніхто…

x x x

Гарлачык, белая лілея,
На шкле рачнога рукава,
Які ганчар, з якога глею
Тваю красу адштукаваў?

Агледзеў свет увесь падводны,
Трывожачы русалак сны,
Каб матар'ял займець прыгодны –
Такой чысцюткай белізны.

Круціўся вір ганчарным кругам
І з пракаветнай глыбіні,
З прадоння, што чарней за вугаль,
Выводзіў зорныя агні.

З-пад пальцаў белыя пялёсткі
Ўзляталі светла ў ганчара,
Звінелі хваляў адгалоскам,
Нібы акорды ў гусляра.

І ў міг, як музыка застыла
І плёс люстэркам зазіхцеў,
Ганчар сабраў у кветак крылы
І ў неба воблачкам зляцеў…

ПРЫСВЯЧЭННЕ

Як лёсу знак ёсць на зямлі трохкутнік:
Мачулішча – Халопенічы – Крупкі, –
Зняможанаму – ля дарог трыпутнік,
Зняверанаму – Нача-адналюбка.

Рачная хваля, што з маім дзяцінствам
Даўно сплыла ў сусвету акіяны,
Пакінула мне крэўнае адзінства
З табою, край мой, Богам абяцаны.

Як Нача, нораў твой, крынічна-ціхі,
Жыццё не напаказ загартавала:
Няхай няма ў ім пышнасці і пыхі,
Затое ёсць надзейная трываласць.

Зямля мая, з табою, дзе б ні быў я,
І ў чорны дзень на сэрцы залачае, –
Лягчэй адольваць цяжкасці любыя,
Калі вы поплеч, землякі-крупчане!

У хаце лад – багацце над багаццем,
Сябрына, а не грошы выручаюць.
І не з людзьмі, а за людзей змагацца
Мяне вучылі мудрыя крупчане.

Зямля дала мне для палёту крылы
І ўпэўненасць, што маю дзе прычаліць;
Зямля дае мне для работы сілы –
Ніколі ў лежнях не былі крупчане!

Зямля шануе запавет герояў:
Ні роспачы не ведаць, ні адчаю,
Не гнуцца ў крук перад ліхой бядою, –
Не пазычалі мужнасці крупчане!

Ігрушка, Клён, Альшанікі, Лазоўка,
Бярозаўка, Асінаўка, Дуброўка,
Ігрышча, Шынкі, Дудары, Скакоўка,
Бабёр, Сялява, Выдрыца, Яршоўка,
Лісічына, Стральцы і Барсукі… –
Сусвет мой Крупскі, слоўнік гаманкі!..

З усіх шляхоў – галоўны да Радзімы,
А з песень – што Радзіме прысвячаю.
І шчасце ў тым, што лёс у нас адзіны,
Зямля мая і землякі-крупчане.

х х х

Каму спяваю і заву каго,
Перад чыёй схіляюся планідай, –
Глухі, не чуе голасу майго
І не пачуе на бяздушных выдмах.

З усіх шляхоў крыжуюцца вятры
Гісторыі – віхура за віхурай.
Жыццё – як вырак: з памяці сатры,

Што ты народ, – і памірай панура.

Стаю, як перад хатай нежылой,
Пакінутай у зоне адсялення:
Чарнобыль нематы – як аналой –
І перад ім дух рабскі на каленях…

Бязмоўе і бяспамяцце, – хіба
Такі народ народзіцца нанова?
І ўсё ж, і ўсё ж – гукаю я раба, –
Ёсць шанс: апошнім памірае слова.

x x x

Усё жыццё стараўся я
Загадку разгадаць сусвету:
І ў блізкіх і ў чужых краях
Пытаў пра небыцця сакрэты.

І ні адзін мудрэц не знаў,
Што там, за той мяжой, чакае,
Ніхто наіўна не сказаў:
"Памрэш, тады і ўсё спазнаеш…"

x x x

Калі душа заснула і натхнення
Кліч-не-даклічашся, не бэсці свет:
Не чуеш слоў, не бачыш дзіўных сненняў –
Нябёс сакрэт.

І зорны след
Не падуладны марнаму карпенню
Над аркушам.
Каб радасным свячэннем
Успыхнуў верш, забудзь, што ты паэт.

x x x

*Я табун сцерагу,*
*А ўсе людзі спяць…*
*О-о-ой!..*
*Народная песня*

Конь маленства начлежным іржаннем
Уварваўся ў мой дзень гарадскі,
Як няздзейсненасць на скрыжаванні,
Як народзіны зноў – праз вякі.

Ты з якой гэта далечы, косю,
Абазваўся, навошта прынёс
Напамін, што было-не-збылося,

Што мой лёс на дарогах растрос?..

Зноў павеяла духам мурожным,
Заклубіўся надрэчны туман, –
Я гады расхінуў асцярожна,
Каб не спудзіць раптоўны абман…

Людзі спяць; мой касцёр дагарае;
Ноч вялікая, як сусвет;
Ветах: быццам хлеба акраец
Мне прыслаў касмічны сусед.

Я адзін на зямлі. І коні
Знаюць гэта, вушамі стрыгуць…
Чуйна слухаюць – і пасёння
Ад напасцяў мяне берагуць.

Косю-косю, назад не прыехаць,
Не вярнуцца, – як знічка, ляцім…
Як трывожна начлежнае рэха
Ўскалыхнулася ў сэрцы маім!..

А была то ўсяго толькі песня –
Нібы плач: “Я табун сцерагу…”
Як мне стала ў самім сабе цесна!
І пазнаць – сам сябе – не магу…

## ВАРЫЯНТЫ

Хтосьці прагне зблізіць варыянты:
На ілбе ў гісторыі, як гуз, –
Мова без народа – эсперанта,
І народ без мовы…– беларус?..

## ТОЛЬКІ ТУТ…

Дзякуй, Божа: шляхі не звялі
Да заморскіх жабрацкіх палацаў, –
Толькі тут, на гэтай зямлі,
Жыць магу і жывым заставацца.

І памерці – магу толькі тут.
Прэч, бадзяжніцкі посах!..
Мне радзіма мая – як прысуд,
Вырак, дадзены лёсам.

## х х х

Май, не пакінуўшы слядоў,
Адкрыў у чэрвень дзверы,
А я і ў замеці гадоў
Вясне наіўна веру.

Вясна-красна! Вясна-красна
І ў сем і ў сем дзесяткаў.
Непадуладная яна
Асенніх сноў парадкам.

Я тут чужы, я тут не свой:
Хоць час гняце палонам,
Хлапчук з сівою галавой,
Гляджу на свет здзіўлёна.

З тым хлапчуком удвух нясём
І радасці, і гора
І благаслаўляем сёння ўсё
З прадаўнішняга ўчора.

Мільгнула – як і не было,
Як знічкай адгарэла.
Шкада? Ну, пэўна ж… А крыло
Над намі зачарнела…

Я дзён у Бога не прасіў
/А дзён у Бога многа!/ –
Як быццам і не жыў зусім…
Адкуль жа ты, трывога?

Адкуль шчымлівы халадок?..
Бушуе дзень раскошай:
Сувой і ўток, – за крокам крок,
І кожны – як апошні…

## БЫЎ ЧАС БЯСЕДНЫ…

Быў час бяседны,
Дзе сусед суседу
З увагаю павагай слугаваў.
Кілішак /як напарстак/
Службу ведаў:
Каб заўтра не канала галава.

Пачціва прыгубляўся па калейцы
Напарстак – салавейка грамады, –
Маленькі, а трымаў піткоў на лейцах:
Глыні, каб не лілося з барады.

З наступнікам дзяліўся папярэднік:
Ніхто нагбом той келіх не куляў.
Стол, каб плявузгаў п’янае бяседнік,
Не бачыў ні навокал, ні каля…

Была ў шане не чарка, а гамонка,
Была бяседа – душ людскіх сугрэў…

Куды сцяжынцы той супраць бетонкі,
Дзе люд у гонцы чаднай ачмурэў!..

П’юць рабацягі і пенсіянеры,
Падлеткі п’юць, каму расці й цвісці,
Жанчыны п’юць, не ведаючы меры, –
Ды і якая мера ў тым піцці?!.

Не п’е – а прычашчаецца “эліта”.
А “новых” рацьнa ўвесь духоўны рост
Пластаецца духоўна ля карыта,
Прымаючы мамоны тлусты хрост.

Шукае безгалосая тусоўка
Ў грымотах ап’янелых галасы, –
Наладзіў дэцыбельную лупцоўку
Нячысцік душам пад таўром папсы…

О Божанька, ты сам сабе аксціся, –
Няўжо не бачыш: гіне люд зямны…
А мне за ўсё страшней, што д’яблаў высеў
На Беларусі ўжо страшней вайны.

Калі і дзе згубіўся той напарстак? –
Дапамажы народу адшукаць.
А знойдзецца – як за каня паўцарства, –
Было б – і царства я гатоў аддаць.

ДЗЕСЯЦЬ РАДАСЦЯЎ

Я спытаўся сёння ў дрэўца:
“А ці помніш, мой дубочку,
Як на сонечнай сугрэўцы
Ты быў простым жалудочкам?

Як спяліўся, як зваліўся
І злякаўся адзінока,
Як карэніста ўхапіўся
За зямлю, – ды так глыбока!

Помніш, дзіву я даваўся:
Сам маленькі, а стрыжнёвы
Корань твой у дол хаваўся,
Пэўна, з вырастам сажнёвым.

Ты пясок пранізваў сыпкі
І памог мне здагадацца,
Што спярша расцеш углыбкі,
Каб увысь пасля падацца.

Каб магутна развінуцца

І ствалом і пышнай кронай
І ў вяках не пахіснуцца
З той глыбіннай абаронай.

Помніш, як я выбачаўся,
Засмучоны быў дарэшты,
Што адсек – не дакапаўся
Глыбіні, якой жывеш ты.

Не падумаў, што твой вырай,
Можа, большай быў віною,
Што цябе я з лесу вырваў,
Не спытаў, якой цаною…

Помніш, як маім суседам
Ты пакутна прыжываўся, –
З парасткаў тваіх тым летам
У жывых адзін застаўся

Тры лісцінкі – як надзея,
А праз год – ужо дзесятак, –
Так з унукам мы глядзелі
Праз вякі з табой ад хаты.

Ты з лісцінкай кожнай радасць –
Дзесяць радасцяў! – прынёс нам,
І стагоддзяў далягляды,
І – як лёс – нашчадкаў вёсны.

x x x

Ні дня ў Сусвеце, ні ночы,
Ні чалавечага роздуму:
А раптам наступіць аднойчы
Сон вечнага розуму?..

А сон – як і вечнасць: бясконцы, –
Інакш не бывае ў вечнасці…

Я – супраць, я не абаронца
Сусветнай такой недарэчнасці.

І толькі карціць сумненне:
А можа мы ў сне і пакутуем, –
Чаму ж бо тады збавенне
Гняцём варажнечай лютаю?..

x x x

*Сябрам – віртуальнае SOS*

Амор Султанаў, Кодру Анатол,
Матс Траат і Туманбай Малдагаліеў…

Як з дрэва абламаныя галіны
На зруйнаванай звышдзяржавы дол…

Сябры мае з маёй былой краіны,
Я пл*а*чу не па ёй, але чаму
Плач*у* – так безнадзейна – і каму?! –
За страту нашай колішняй сябрыны?

Мне не шкада імперыі – але,
Калі ні песняй, ні радком не дагукацца,
Якіх яшчэ баяцца акупацый
З імперскаю навалай начале?!.

Шчыміць душа: без еднасці паэтаў
Вялікае, святое штосьці гіне.
Шлю вам – як прывітанне – настальгію.
А чым вы мне адкажаце на гэта?

x x x

Няўжо, можна ісці,
Калі няма дарогі?

І я падумаў пра зоркі.

ДА СОНЦА!..

Пах бяросты
На далані.
Лес чадзее.
Чую гул з-пад зямлі:
Карані
Загулі.
Карані
Здабылі
Надзею!

Чую:
Ранак яшчэ тупаціць
Марозлівым
Крокам.
Ды вясна
Бярозай
Трымціць,
Набрыняла
Да сонца ляціць
З-пад зямлі –
Па камлі,
Па галінах высокіх, –
Бярозавым
Сокам!

## ІСЛАМСКІ МАТЫЎ

Вучоныя мусульмане
Кажуць, што той угодны
Алаху, хто ў мудрым Каране
Шукае сэнс першародны;
І той у Алаха не лішні,
Хто моліцца аб дараванні;
А трэці, каго Усявышні
Слухае з замілаваннем:
Трэці – пявун галасісты –
Певень. Нябесны, канешне, –
Нашых, зямных, вакалістаў
Бацька духоўны, бязгрэшны.

Бялейшы за снег той певень,
Пярынкаю кожнай ззяе,
І песні яго з утрапеннем
Туруе капэла зямная.

Калі ж ён аднойчы змоўкне –
Гэтак Алах пажадае –
То зробіцца ў голасе смолка –
І нашы не заспяваюць.

Знямее ўсё, і для свету
Дзень той апошнім будзе…
Шмат у ісламa сакрэтаў.
Слухайце пеўняў, людзі!..

## ПАКІНУТАЯ

Ні ціхай гамонкі, ні смеху:
Як быццам і ёсць – і няма, –
Жанчыны пакінутай рэха, –
Куды ж адляцела сама?..

Забыліся словы закляцця.
Каб вечны агмень не патух,
Без ценю па сценах у хаце
Блукае пустэльнасці дух…

## ДЗВЕ ДУШЫ

Сваіх імёнаў мы знаць не будзем,
Забудземся, кім былі,
Растануць душы ў сусветным гудзе
Ў далёкай далечы ад зямлі.

Ды і ў бяспамяцці рэінкарнацый
Як яны ўчуюцца, як забаляць!.. –
Інакш навошта было нараджацца,

Навошта было на зямлі сустракацца,
Навошта было кахаць…

## МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА

Самотны Пімен Емяльянавіч…
З былой кватэры ў камяніцы
Збярог шматок сцяны цаглянае…–
А дзе ж іначай прыхіліцца?..

x x x

Што імклівы палёт сусветаў
Перад гэтым зярняткам малым! –
І ў каго больш загадак-сакрэтаў
У нябесным быцці і ў зямным?

Хай – як Бог – неспасціжнасць галактык
Будзе вечна душу ахінаць,
Але веліч малога зярнятка
Толькі смерцю можна пазнаць.

Знакаў роўнасці не шукаю,
Ды зярнятка сягае далей
За сусвет, бо калі памірае –
Колькі жыццяў яно дае?!.

x x x

У пажоўклай траве званочак звініць –
Такі адзінокі і гэтакі рэдкі:
Ці неба зляцела – луг падсініць.
Ці вясна завітала ў адведкі?..

А краскі засохла глядзяць са стагоў,
Нібы з пірамід егіпецкіх вочы
З застылаю памяццю ласкі багоў:
“Адкуль ты ўзяўся, званочак?!.”

А ён і сам не знае, адкуль, –
Расцвіў – і няма пытанняў!
Трэба ж цвісці камусьці,
Пакуль
Вясна абяцае вяртанне.

Не за гарамі даўкі мароз.
Пакутна даўжэюць ночы…
Дзякуй, што кроплю надзеі прынёс, –
Звіні, звіні, мой званочак!..

x x x

Матэрыя – Маці Сусвету
/Вы чуеце корань сугучча?!/,
Дух – Бацька, ахоўнік светлы, –
І хто нас з імі разлучыць?

Мы іх часцінка жывая.
Час будучы і ўчарашні
Шлях космасу скрыжавалі
І несмяротнасць нашу.

x x x

Як апошні лісток, гэты крык развітальны,
Як “бывай!” – жураўлінае гэта “курлы”
На душу ападае з дарогі астральнай…
Ах, было б у мяне, як у іх, два крылы…

Стаўшы ў клін, падзяліў бы шчымлівы іх смутак.
Толькі ў небе асеннім не знаюць яны пра мяне.
І не ўзнаюць ніколі… Застаюся адзін, не пачуты, –
Ды й ці трэба ім знаць аб бяскрылай маёй віне…

Без мяне на зямлі ноч чарнее, як сажа,
Ім насустрач, і зорныя ў небе трымцяць астравы.
Адлятаюць, – і хто так балюча раскажа
Пра растанне, як самі яны, журавы?..

x x x

Неба асенняе сцелецца
Нізка над мокрым жніўём…
Вып’ем па кроплі гарэліцы,
Чорным груздом зажуём.

Хай толькі памяць па-чорнаму
Не назаляе, – няхай
Дням, што імглою ачолены,
Светлы прымроіцца май!

x x x

Сніцца зямлі маёй сон:
Зляцеў ад яе азон –
Надзейны шчыт, абаронца
Ад промняў шчодрага сонца.

А я тое бачу наяве:
Гэта баль злы наш геній правіць,
Гэта эра тэхнічнай веры
Так зрашэчвае боскія сферы.
Гэта сверб непамыснасці нашай
Дзюркі ў небе точыць, як шашаль,

Прагрызае сляпым караедам
Чорны ход для касмічных бедаў,
Хоць удосталь было б і тых,
Што ўжо маем, – сваіх, зямных…

Такая Маці-Зямля,
Доля твая і мая:
Знізу – Чарнобыля зона,
Зверху – дзіркі ў пакровах азона…

Адкажы мне, Зямля-Зямліца,
Што нам заўтра з табою прысніцца?..

x x x

Каўказ вялікі, Каўказ высокі,
Каўказ нязломны і вальналюбы, –
Я чую горных вяршыняў крокі,
Патокаў стромых – як лёсу – трубы.

Каўказ гранітны, Каўказ крылаты, –
Зямныя горы і дух нябесны,
Дзе моў, як зорак над горнай хатай:
І шматгалосна – але не цесна.

Ды ў гэтым хоры тысячагоддзяў
Нязломнай велічнасці акордам
Гучыць набатна і слых лагодзіць
Краіна словам – вечным і гордым.

Яна мне сведчыць: народ, як броняй,
Перад навалай і генацыдам
Сваёю мовай сябе бароніць –
Яна на згубу душу не выдасць.

Тут зрок мой зорку даўно сасватаў –
Вышэй Каўказа – там, за Эльбрусам:
Армяне, іменем Арарата,
Дапамажыце нам, беларусам!..

## СВІТАЛЬНАЕ

Сонца за пушчанскім даляглядам
Свой начны заканчвае абход.
У світальным мроіве Плеяды
Невідзімяць зорны карагод.

Млечны Шлях з касмічных перавалаў
Згортвае запылены сувой,
І сусвету цёмныя прагалы
Праступаюць кволай сінявой.

Аблачынкі ў небе ружавеюць
Весткаю пра нараджэнне дня.
Раніца шчадруе поўнай жменяй
Глыбіню з калодзезя падняць.

Без слядоў блукае голас босы
Перапёлкі ранняй у аўсе.
Горача навойстраныя косы
Аж сіпяць у стынiстай расе.

## ПАХАВАНЫЯ ЎСЕ…

*Над магілаю Арсеня Конанавіча Храмчанкі, апошняга аберагальніка агменю на бацькоўскай сядзібе ў Мачулішчы…*

Пахаваныя ўсе, пахаваныя, –
Ад мяне, ад свету, ад болю.
І дарога, наканаваная
Мне – не будзе маёю болей.

Больш няма да каго сюды ехаць,
І няма да каго прыхінуцца.
Апусцелая хата, – як рэха
Галасоў, якім не вярнуцца.

Я ўжо тут – як вада дзесятая
На чужым кісялі, на скрушным…
Толькі цені, крыжамі распятыя,
Толькі сцежкі, дзе ходзяць душы.

Толькі вы засталіся, бярозкі,
У жывых, – як жывых надзея.
Вось і ўсё. Пахаваная вёска.
І трава на грудках маладзее…

x x x

Паехаў я ў той час
З Мачулішча,
Як Нача ў нас
Ракою чулася,
Калі жылі
Пры лямпе газавай,
І п’яніцы яшчэ слылі
Страшней, чым хворыя праказаю.

А сёння – як на грудзі
Камень, –
Гняце:
Што будзе
З землякамі?!.

Зімой і летам,
Вясной і восенню, –
За ўсю планету
“Кульнуць” запросіны.

І пры электрыцы,
І пры “тэліку”
Дыхтоўна “лечацца”–
“У сцельку”.

Ці будзень чорны,
Ці Ушэсце –
Баль нескончоны:
П’яных шэсце.

Па лужах чунямі
Валёнкі хлюпаюць…
“Галё, мачулінцы,
Прывезлі, *лю*буую!..”

Па снезе тапачкі
Трымцяць марозліва…
“А сёння, бабачкі,
Вярм*у*т у розліве!..”

Ідзе Мачулішча,
За плот
Трымаецца, –
Народ
Карчуецца,
Народ
Співаецца…

З ЛЁГКІМ СНЕГАМ!..

На палк*у* дубовы венік
Шчыраваў –
Ад грудзей і да каленяў
Цалаваў!

Дух у каменцы – звер зверам, –
Якатаў,
Вырываў з завесаў дзверы,
Дол хістаў.

І агнём каранаваны –
Бегма зух
Нёс ушчэнт зацалаваных
Маладух.

А насустрач – ахалонаць,

Сцерці медзь –
Сам сумёт іх браў на ўлонне,
Як мядзведзь.

Маладзік брывом юначым
Бліскацеў,
Як пабачыў шал гарачы
Гнуткіх цел.

А пакінуў на прыкмеце
Стан адной:
Як русалку ў срэбнай сеці
Снегавой.

Зноў парыльшчыцы нырнулі
Ў цеплыню,
А яна ў падскокі-гулі –
Ажно іскры сыпанулі, –
Як з агню!

Смешкі коцяцца на сцежку, –
Ды не схопіш: не купіў!
Стан бялее, а ў прамежку –
Быццам хтосьці чорнай снежкай
Уляпіў!..

СПАРТЫЎНАЯ ЭЛЕГІЯ

Стадыёна гіганцкае вуха,
Я табою эпоху слухаў,
Я цябе скіроўваў у неба… –

Мы свой матч не парйгралі ганебна.

Мы былі тады маладыя,
І каму пафарціць удача,
Не гадалі:
Надзея – як мячык, –
Круглы ён: выйгрыш дасць ці адыме?..

Мы не пнуліся ў касталомы,
Спадцішка не стаўлялі падножкі.
А на трапны ўдар, як вядома,
Не хапае спрыяння трошкі…

Мы згулялі – няхай па нулях, –
Перамогам пазначыўшы шлях.

Сёння крута шуміць стадыён –
Гандляром абярнуўся ён
І не ў неба наставіў вуха:
Для яго там і пуста, і глуха.

Бо другое ў яго захапленне:
Не прафукаць бізнес-імгненне.

Не паказвае сёння табло,
Колькі лічбаў хавае трыбло.

Сёння спрынтэры тут і стаеры –
Учарашнія уркі і фраеры, –
Пераможцы, бізнесу гранды…

Толькі гэта не з нашай каманды.

x x x

Затухае, мялее крыніца,
І нельга не пагадзіцца
/Не аспрэчаць ні меч, ні веча/:
Штодзень, то бліжэй да Бога,
А ў Бога адна дарога –
Вечнасць.

ПЯСОЧНЫ ГАДЗІННІК

Гадзіннік пясочны –
Станік жаночы,
Перахоплены, як нітачкай, –

Па-жаночы
Час адлічвае.

За хвілінаю хвілінка –
У пясок,
За пясчынкаю пясчынка –
У гадок.

Праз націнку
Час бруіцца,
Прасыпаецца, –
Як з дзяўчынкі
Маладзіца
Прачынаецца.

А праз пяць хвілін –
Праз пяць! –
Перавернецца
І малінкаю з малін,
Як у сорак пяць –
Не хвілінак,
А гадоў, –
Баба ягадка ізноў!

Зноў дзяўчынка
З маладзіцай –
Зноў! –
Спрачаюцца:
Дзе той мусіць час
Спыніцца,
Дзе ён пачынаецца?!.

Долю высочвае
Стварэнне пясочнае…

ЛЫЖНЯ

Лыжня ілжывая
З лясной нажываю:
Бяжы, бяжы –
У міражы.
Бяжы па следзе –
У маладосць.
За лесам недзе
Шчасце ёсць.

Вядзе, заве –
Не знае жалю,
Бо не мяне:
Лыжня –
Чужая.

Імчыць
Лыжня –
Як успамін.
Маўчыць
Лыжня –
У сэрца клін.

# 2006

х х х

На таполі шпак бадзёра свіснуў.
Першацвет на ўзвалках медуніць.
Злёт качыны аб'яўляе Свіслач –
На гняздоўі берагі дзяліць.

Страказа на гнуткай асачынцы
З ветрыкам разважваюць вясну:
Коцікам вярбовым – па хвілінцы,
Сто гадоў – чароту-шаптуну.

Як гірляндаў ланцужкі, стракатa
На парэнчы свіслацкіх мастоў, –
Вы з якіх віроў сюды, дзяўчаты,
Юныя русалкі без хвастоў?!.

x x x

Прастора – маё жыццё
Ў часе маім кароткім.
Хацелі б, ды больш не дасцё
Вы мне, – ні нашчадкі, ні продкі.

Бясконцасць – яна для ўсіх,
А кожнаму паасобку
Вечнасць – як ускалых
Дыхання ў хадзе таропкай.

Глядзіш на чужыя гады
І думаеш: “Як гэта многа!..”
Свае нажывеш – тады
Ўздыхнеш: “Дык няма ж нічога!..”

Што ж, часу адмерыў Бог,
А ты – шукай абярогі..
У адзіноце – залог
Адзінай святой дарогі.

Каб лёс – як біблейскі Хама –
Нявер’ем дарогу не засціў,
Знай: шчасця без шчасця няма,
Шчаслівых няма ў няшчасці…

x x x

Як прадчуванне
Катастроф
Сваё маўчанне
Нам весціць Бог.

А мы ў бязвер’і –
Хто ўлёт, хто ніц –
Шукаем дзверы
Да таямніц.

І ўжо здаецца,
Што мы ад іх
Трымаем лейцы
Ў руках сваіх.

Вось-вось настане
Трыумф – але

Адно пытанне
Сто новых шле…

Вачыма Бога
Ў Сусвет глядзім…
Пытанняў многа,
Адказ адзін…

### УСПАМІНАЮЧЫ…

Мемуарыст не шыты лыкам –
Ён вырас курсам удвая:
Былі ўспаміны: “Я і Быкаў”,
А засталося ўрэшце: “Я…”

x x x

Чалавек, разумная малпа…
Столькі год з навуковых гармат
Па тварэнню боскаму залпам
Дарвін б’е – і ўсё неўпапад.

Недалёты ды пералёты,
А па Богу – ніяк не ўцэліцца!..
Што было да хаосу? – а потым
Будзе што? Зноў хаос узмяцеліцца?!.

Пазнавальны, але да бясконцасці, –
Недаступнасцю свет лякае.
Скажа хто: эвалюцыя коціцца, –
А куды? і па ліку якая?!.

Чалавецтва прыроды аковы
Разбурае – і з д’ябальскай пробаю
/Быццам Бог даў шлях тупіковы…/
З чалавека стварае робата.

Чалавецтва мяняе матрыцы, –
Пот – цурком з геніяльных лысін…
Пасміхаецца малпа ў Афрыцы:
Чалавецтва, не памыліся!..

x x x

Штосьці ў царстве зімы не дароблена:
Хоць вясна на календары –
Выбіраюць зярняткі дробныя
Ў бадыллі зімакі-снегіры.

Штосьці чуюць яны, ды не ведаюць,
Хто вясну засланяе ад іх,
І з якімі наступствамі-бедамі

Чалавек перад імі прыціх.

Гэта я… У снезе пашэрхлым
Зябну сам, хоць ідзі ў снегіры, –
Толькі вы ці даруеце вэрхал,
Што ўчыніў я ў сусветным двары…

Гэта я, снегіры, падтасоўваю,
Нібы карты – па-шулерску, дні.
Гэта мой прагрэс перасоўвае:
Сквар – на поўнач, на поўдзень – лядні…

Гэта я… Я зіму затрымаў тут,
Хоць трымаць мне яе не з рукі,
Я злачыншчык, зачыншчык гвалту
Над прыродай – а выйгрыш такі:

Сакавік грымне ў ноч навагоднюю.
Снежань выпадзе ў сакавіку…–
Гэта я – геніяльным шкоднікам
Дрэва будучыні сяку…

На ўзбярэжжы вясны, гнездавання
Ходзіць гульбішча псеўдазімы –
З гэтым холадам, цалкам рэальным,
Дзе грамы ў лёхах сцюжнай турмы…

Гэта я – б’ю “па банку” бяздумна, –
Гэта выйгрыш мой, снегіры:
Ваш сняданак з посвістам сумным
І зіма – на вясновай зары…

x x x

*O Litwo, ojczizna moja…*
*Адам Міцкевіч*

Літва, –
Ці літанне,
Ці латаў звон:
За волю змаганне
Ці рабства праклён?..

Адно і другое
Зазналі спаўна:
Літва і Пагоня –
Планіда адна.

Ні зняць, ні адрынуць
Пакуты вянца, –
Такую краіну
Нам Бог абяцаў…

То раны загоім,

То зноўку на бой, –
У вечнай Пагоні
І з вечнай Літвой!..

### ПАКАРАНАЯ

Мне ў тайну – такой адзінокай,
Такой безнадзейна самотнай –
Не даў зазірнуць Усявышні…
Ці я ад святыні далёка
Сышоў па дарозе смяротнай?
Ці я ў свеце тайны той – лішні?..

І ўсё ж – без адказу – пытаю:
За што табе лёс прызначыў
Такое наканаванне,
За што і хто так карае:
Быць кветкай, што ў леце гарачым,
Не расквітнелая, вяне?..

Якія ні ёсць прычыны –
У кожнай змяінае джала, –
І хто ты ў жыцця крутаверці?
І што можа знаць жанчына,
Якая не нараджала,
Пра смерць і бяссмерце?..

### БЕЗ ЧАРГІ

О, каму слова мовіць пахвальнае,
Што змыкаюцца ўпраўна кругі:
У раддом і ў бюро пахавальнае
Не бывае чаргі.

### x x x

Маліўся дзень і ноч: “Спатоль
Мой смутак, Божа літасцівы…”
А дзень і ноч слата і золь
Мой шлях зямны ўсясветна ксцілі.

Тады хацеў я адшукаць
Спагадную ўвышынях сцежку,
Але – чыю, не мог пазнаць, –
Пабачыў ледзяную ўсмешку…

### x x x

Было: турбот зямных драсён
І з небам раўнапраўе, –
Здаецца, шмат, калі не ўсё,
Сам пра сябе пазнаў я.

Я свет нязведаны тварыў
І руйнаваў пры гэтым.
Ды толькі так і не адкрыў
Сакрэта між сакрэтаў:

Чаму і па чыёй віне
Самотна так жылося,
І закаханым у мяне
Я шчасця не прыносіў?..

х х х

Не прасіце нічога ў каханых:
Яны ўсё аддалі, што маглі, –
Зразумееце – позна ці рана:
Рэштку іншым яны берaглі.

Збераглі? Хай пацешыцца хтосьці –
Не зайздросце, хто ў гэты дзень
Будзе кветкі збіраць на пагосце,
Бачыць зоркі патухлай прамень…

КАМП'ЮТАР

Паэзія ў бязмежжы небыцця, –
Я сам не разумею, што твару:
Які пачатак і які працяг,
Якому дар нясу гаспадару?

Скажы, камп'ютар, цэрбер мой нямы,
Ці чуеш словы, дзе маёй душой
Ты набрынялы, на яе правы
Закляў, здаецца, небам і зямлёй.

Прабач, хаўруснік, тэхніка твая
Шт*о* ёсць супраць адной маёй слязы?
Ты віртуальнасць небыцця – а я? –
Няўжо драбней касмічнай драбязы?..

О не – я гэткай згоды не даю
Быць віртуальным, покуль я жывы.
Няхай на грані небыцця стаю,
Мой шлях – рэальны, шлях мой – крыжавы!..

х х х

А ўсе надрэччы белыя
І паручэўі ўсе:
Чаромха, расквітнелая,
Уброд вясну нясе.

А тут – над песняў песняю –
Ды салаўіны спеў!.. –

Ці гэтак я развеснены?
Ці свет асалавеў?

### ПАЛІТЫКА

Хата як хата, ды нельга зайсці:
Дзверы маюцца, ды без клямкі.
І грунт – нібыта ў балотным трысці:
Дарог няма – толькі напрамкі…

### АНШЛАГ

А мы шпака падкармліваем:
Шпачаняты ў яго – будзь здароў! –
Не застануцца карлікамі –
Харчацца з нашых дароў.

Вырасце й песня крылатая:
Налета бярозавы збор
Будзе над нашаю хатаю –
Цэлы шпачыны хор! –

І аншлаг!..

### х х х

А вясна яшчэ ў тонкую столку:
Дзве праталінкі. На адной,
На каменьчыку, як на пяколку,
Сеў жаўрук да сонца спіной.
На другой – яго песенька грэецца.
Свет увесь у чаканні прыціх:
Хутка жаўранак з песняй сустрэнецца, –
Хутка неба з’яднае іх.

### х х х

Разляцеліся думы чужымі галактыкамі –
Хоць бы зорка мне, хоць бы прамень.
Не сышліся з сусветам зямным характарамі,–
Мне вяртаюць не памяць, а памяці цень.

То не рэха вясны, а няздзейсненасць водгульная…
Пэўна, выпіта ўсё з крыніц…
Наступаюць грымоты вогненныя
Змрочных жнівеньскіх навальніц…

### ЯШЧЭ І ЯШЧЭ РАЗ – ГРЫБНОЕ

Калі дажджы, нібы шаўкі,
Зашэпчуць, навясныя,
Схоў пакідаюць масліякі,
Разведчыкі лясныя.
Выходзяць, прыглядаюцца,
Па ўзгорках пракрадаюцца…

А ўслед за імі – штрафнікі,
Казлы ахвяры, казлякі.
Хоць на прарыў кідаюцца,
Ды ўжо ў адсутных маюцца…
А грыб рагаты, грыб “баран”
Ім б’е натхняльна ў барабан…

А там – за ротай рота –
Грыбная йдзе пяхота:
І падасінавік, і грузд,
І з рыжыкам зрыжэлым
Валуй, нібы на лобе гуз,
На ўзлобку затравелым,
І падбярозавікаў строй,
І махавік плячысты,
І гурт лісічак – хто сястрой,
Хто баявой радысткай…

Калі ж адбухаюць грамы,
Развеецца курадым,
Тут самы час – “А от і мы!”–
Дзяліць узнагароды:
Тылавікі-баравікі,
Паголеныя, сытыя,
І мухаморы-штабнікі,
Нікчэмна-знакамітыя…
Выходзяць моўчкі з бліндажоў,
Каму за прадзеда Яжоў,
Каб выставіць адзнаку,
Хто як трымаў атаку:
Ці пад агонь ірваўся,
Ці бег і азіраўся…
Службіст! Ды стан ягоны
Не выдаюць пагоны:
То ён казляк, то шампіньён,
То выйдзе за апеньку ён…
Але салдат вучоны:
Пазнае й без пагонаў!..

Ды гэта потым. А пакуль
Вунь і адгэтуль і адтуль
Ідзе, ідзе грыбная раць, –
Камусьці ж трэба паміраць…

Стаю на беразе вайны,

І ў тым няма маёй віны,
Што армію ўсю тую
Нічым я не ўратую…

## ТАК БОГ СКІРАВАЎ…

Так Бог скіраваў жыцця паром:
Не выдаў яму планіду байцоў.
Ды шлях каб не стаўся марным,
Сказаў: як не будзе ён змагаром –
Хай стане мудрэйшым паміж мудрацоў,–
І ў гэтым яго змагарнасць.

## х х х

У пыл пераціраюцца шляхі.
А кожны з іх – адным жыццём не змерыць.
Глядзіць жыццё: “Грахі мае, грахі…”
Чакае смерць: хутчэй бы іх праверыць…

А паміж імі – вечны чалавек:
Як я, як ты, – жывы, але смяротны.
І кожны грэх – як неўміручы здзек,
І кожны грэх – спакусна-незваротны…

## ПСІХАЛОГІЯ

Забойцу нішто не павінна палохаць,–
Інакш ён забойцам не стане.
На зайздрасць фарцоўшчыкам, фраерам, лохам
Забойца не знае хістанняў.
Інакшператворыцца сам, ёсць пагроза,
У гэткіх і ён недарэкаў.
Ды й горш таго: будзе, на розум цвярозы,
Звычайным зямным чалавекам…

## З ЧАГО Ж БО?..

Спазнаўшы гаспадарскі дрын,
Барбос штодня мудрэе:
“П’е бос з бутэлькі азвярын,–
З чаго ж бо так звярэе?..”

## ПАКУТЫ ІНТЭЛЕКТА

Асёл, аматар рэбусаў
І віктарын сур’ёзных,
Глядзіць на людства грэбліва
І думае цвяроза:
Лепш мазгаваць з напругаю,
Чым воз цягнуць упарта.
Хай б’е кіроўца пугаю–

А разгадаць жа варта!..

ПАТРЭБА

Якія б ні былі эпохі,
Патрэбны людзям скамарохі:
Схавацца хочацца за смех,
Калі ў душу ўпаўзае грэх…

х х х

Чаму не спіцца ў старасці? Чаму
Бяссонніца адольвае штоночы
І любіш ноч, як арыштант турму:
Хацеў бы абмінуць, але не збочыш…

Напэўна, да пякельнейшых асноў
Тым часам дабіраешся, нарэшце,–
У старасці няма вясёлых сноў:
Такое стрызніцца – шчаслівы, што прачнешся…

ПЕСЕНЬКА

Песенька раз-пораз
Ходзіць над ракой.
Не пытай: чый голас,–
Гэта голас мой.

А каго гукае? –
Пэўна ж, не цябе.
Песенька такая:
Для самой сябе.

Песенька не ў стане
Знаць: ці так, ці не,–
Бо ў маё каханне
Верыць без мяне.

х х х

Беднасцю прыстойнай блаславёная,
Дзе нішчымнасць завіхалася кухаркай,
Страва называлася *бялёная:*
Тры вады – і малако ў прыварку.

Забялёная? – малочная з пытальнікам:
Толькі колерам пад малако фарбуецца,–
На стале малочная пратталінка
Як у пост сама сабой любуецца.

Ці зацірка, ці булён які з картопелькі –
Хоць сівенькія, ды выгляд чапурны!

А гарачыя ж! – у місу поту кропелькі
Аж бруяцца ў тры верацяны…

З той абманнай радасцю застольнаю –
Ад калыскі да грудка апошняга –
Вы са мной: і памяццю супольнаю,
І наяўнай яваю няпрошанай.

Цот у цот… І я не надта збочваю:
Цуд кулінарыі нагадаў
Міф, што рэкі ў нас цякуць малочныя,
А прыгледзішся – сівенькая вада…

ЗОЛКІМ РАННЕМ…

Як жа так: за што мне гэткі вырак?
Жаўталіст з дажджом зашапацеў, –
Як жа так: у свой заморскі вырай
Шпак, не развітаўшыся, зляцеў…

Першы раз – у сёлетнюю восень –
Не пакінуў мне суцешны спеў,
Каб зімой крыху цяплей жылося,
На душы вяснуючы спадзеў…

Як жа так: не мне , дык хоць шпакоўні
Хай бы перад вылетам сказаў:
“Не турбуйся і чакай спакойна:
Я дамоў шляхі не завязаў,–

Я вярнуся…” –
То і я пачуў бы –
Быццам ад вясны ключы здабыў,
І мароз тады завейначубы
Мне б амаль запанібрата быў…

Так я выбадзяў… І спадзяванні
На сустрэчу ўжо згубіў зусім…

Толькі цуд адбыўся золкім раннем:
Свіснуў шпак – нібы гукнуў: “Васіль!..”

Аб’явіўся! На бярозе стылай
Быццам зноўку май зазелянеў!..
Ах свавольнік! Дзе ж цябе насіла?
Гэта ж кожным пёркам азалеў…

То было *чацвёртага* –
адзначым
Дзень *кастрычніцкі* дакладна, –
зазіраў
Ты ў шпакоўню родную, – няйначай,

Памяць генную яшчэ раз вывяраў.

І хітаў пры гэтым галавою –
Дзякаваў ці ўрок які цвярдзіў?
А магчыма, за спазненне тое
Прабачэння і ў мяне прасіў?..

Як, чаму? – хоць позна, але ўважыў, –
Клопатаў жа шмат перад зімой:
Сходы, трэніроўкі, інструктажы?.. –
Што пытацца!.. Дзякуй, браце мой!..

## АСЕННІ СВЯТАСЛОЎ

У дзён – дажынкі,
У ночак – даўжынкі,
У песень – слязнінкі,
У дум – памінкі…

x x x

Жыцця недарэчнасць –
Блукаю ў завеі.
Сагнутыя плечы –
Гадоў маўзалеем.

Жыцця неаспрэчнасць –
Спіць горад у норах.
І рэдкі сустрэчны –
Ці сябра? ці вораг?..

x x x

З табой, з табой адной жыццё маё
Пазнала рай у каламуці пекла.
Шлях паднябесны надвае рассекла
Бяздушнае зямное насланнё.

І неба не аспрэчыла сваё
Святое крэда абагрэць надзею.
І я сябе – сябе! – не разумею:
Як на душы ўзбуяла палыннё?..

Няма грахоў на свеце неадмольных,
Ды на малітву я не маю права –
Зарубцаванай памяці нявольнік.

Няма дарог зваротных і вакольных:
Не ўквеціць луг асенняя атава,–
Прысуд вясны, як лёс наш,– неадольны…

## ЕГІПЕЦКІ МАТЫЎ

Апроч тайны пірамідаў
Ёсць яшчэ адна загадка:
Бог Асірыс і Ісіда,
Паяднанне ўсіх пачаткаў.

Супярэчнасць – як найменей –
Забаронам нашым стройным:
Ва ўзаемнасці сямейнай
Муж і жонка – брат з сястрою.

Ён – прыроды зберагальнік,
Гадавых кругоў ахова,
І пры смерці ўтаймавальнік
Тагасветнай установы.

А яна пры ім багіня
Лекавання і ўраджаяў,
Моцных шлюбаў берагіня,–
Толькі б дзетак нараджалі!..

Быў адзін тварэц – Бог-бацька
І ў Адама з Евай, – пэўна,
Вышук лішні, адшукаць каб
Найбліжэйшую іх крэўнасць…

Міф ёсць міф. Але здзівіцца
Маем знак не легендарны –
Кветку нашу: брат-сястрыца,
Ці інакш: Іван-ды-Мар’я.

Роднасць крэўную з каханнем
Хто з’яднаў? Якая сіла?
Адказаць сам Бог не ў стане.
А жыццё – ускаласіла.

x x x

Мне кожны дзень амаль як родны брат.
Што ні даю – усё бярэ з ахвотай.
А наўзамен, нібы чуллівы кат,
Ён зычыць мне вяроўку з пазалотай.

Ён пакідае мне на ўсё правы:
Сам разбірайся і лічы правіны,
І сам сябе судзі, пакуль жывы…
Жыву: злачынца з катам – сам-адзіны…

Штоночы тайны чорнае крыло
Над допытамі сны мае гайдае…
Я знаю ўсё: што будзе, што было,
А вось што ёсць, ніяк не разгадаю.

САНЕТ “РАЗБУРЭННЯ ФОРМЫ”

Ашчадзячы паперу, як даўней
Ашчадзілі пергамент летапісцы,
Я “разбіраю” вершы, каб паўней
Было, нібыта ў кубку, ў гэтай кніжцы.

Усё ў падбор: шчыльней, не наўскасяк!—
Рандо, верлібры, хоку і санеты…
Бядняк здавён на выдумку вастрак,–
А я належу да кагорты гэтай.

Ды веру: не на век “ноў хаў” узнік,–
Дасць Бог, яшчэ разбагацеем, людцы,
І гэта не ў труну апошні цвік.

Я першы, каб да формы зноў вярнуцца.
А як радкі і строфы брацьна ўлік,
Падкажа слоў сугучных пераклік.

x x x

Прыходжу да свяцілішча ляснога,
Нібы пад усявышнія пакровы,–
Шукаць паразуменне і падмогу,
Апірышча, спагаду і ахову.

Як час раўнуе ўзлёты і падзенні,
Так лес руйнуе першабытным гудам
З сусветам і жыццём несупадзенні,–
Сябры сышлі, а ворагаў – забуду…

x x x

Калі маўчаць дрэвы –
Гэта не цішыня:
Гэта іх антыспевы
На адыходзе дня.

А мне напамін, тым часам,
Зямны скасаваць настрой:
Застацца з сабою сам-насам –
І ў антысвет з галавой…

Ад гэтай лухты несусветнай,
Ад несусветнай маны,
Ад велічы гэтай ракетнай
І ад “чыноўнай” шпаны…

Ад крымінальных мільёншчыкаў,
Ад кар’ерысцкіх свярбін,

Ад барабаннага пошчаку
Ўладаахоўных дубін…

Вось толькі зашчэпка ў сакрэце:
А што антысвет за цуд –
Ці ён сапраўды ў антысвеце,
Ці ён, выбачайце, – тут?..

Закладнік жыцця зямнога,
У вечнасці дзён не малю,
Хоць іх, як заўжды, не замнога,–
О лес мой, вяртай на зямлю…

Не збегчы ад боскага гневу,
Нікога прысуд не міне…

Я чую, я чую вас, дрэвы!
Ці чуеце вы мяне?..

ЗМЕСТ

***РЭЧЫШЧА-1***

**1993**



**1994**

**1995**

**1996**

**1997**

**1998**

**1999**

**2000**

***РЭЧЫШЧА - 2***

**2001**

**2002**

**2004**

**2005**

**2006**